*Памяці*

***Адама Мальдзіса***

(7.08.1932 г., в. Расолы Ашмянскага павета Віленскага ваяводства – 3.01.2022 г., Мінск)

**і**

***Аляксандра Барычэўскага***

(2.11.1930 г., в. Бандары, Ваўкавыскага павету Беластоцкага ваяводства – 27.03.2022 г., Варшава)

# ЗМЕСТ

# Замест прадмовы

Асноўная частка VIII тома *Даследаванняў і матэрыялаў* прысвечаная знаным беларускім драматургічным творам – *Камедыі*, аўтарам якой лічыцца Каятан Марашэўскі, і *Пінскай шляхце* Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, ранейшую атрыбуцыю якое асобныя навукоўцы ў XXI стагоддзі палічылі за беспадстаўную.

Рэвізія пісьмовае спадчыны – працэс непазбежны. Асабліва ўлічваючы тое, што дзесяцігоддзямі гісторыка-літаратурныя даследаванні ў Беларусі вяліся недастаткова актыўна (апублікаваныя працы – выключэнне, якое пацвярджае, як вядома, правіла). Найлепшая ілюстрацыя сказанаму – вывучэнне навукоўцамі ці не самага значнага твора беларускае літаратуры XVIII стагоддзя – *Камедыі* (1787): нягледзячы на тое, што твор няраз быў аб'ектам аналізу, застаецца шмат чаго нявысветленага, няпэўнага і нават загадкавага.

Па-сутнасці, пытанне атрыбуцыі *Камедыі* не ставілася гісторыкамі літаратуры. К. Марашэўскі, без усялякае аргументацыі прапанаваны Уладзімірам Перетцам і Яўхімам Карскім у якасці аўтара твора, да сённяшняга дня так і лічыцца ім. Фактычна ў XX стагоддзі не рабілася значных спробаў вывучыць эпоху, калі ўзнікла *Камедыя*, гісторыю ейнага напісання, біяграфію аўтараў і складальнікаў зборніка.

Нашае расчытанне рукапісу дазволіла сцвердзіць, што зборнік узнік у кляштарным скрыпторыі як копія матэрыялаў К. Марашэўскага і М. Цяцерскага дзеля заняткаў з навучэнцамі курса паэтыкі і рыторыкі ў Забельскіх школах законных (studium formalne). Тэкст *Камедыі* перапісалі два клерыкі ці манахі (?) з рознымі моўнымі беларусазнаўчымі кампетэнцыямі.

Пытанне датычнасці К. Марашэўскага да напісання *Камедыі* ў XXI стагоддзі застаецца адкрытым: пэўна, толькі новыя архіўныя даследаванні змогуць вырашыць праблему. Як, дарэчы, і пытанне аўтарства трагедыі *Вольнасць у няволі*. Гэты твор – арыгінал і пераклад на беларускую мову – упершыню ўводзіцца ў навуковы ўжытак.

На нашую думку, вывучэнне гісторыі Забельскага дамініканскага кляштара і школаў, якія існавалі пры ім, можа паспрыяць атрыбуцыі *Камедыі*, а таксама дасць магчымасць пазнаць асаблівасці адукацыйных працэсаў на беларускіх землях у другой палове XVIII стагоддзя. З гэтаю мэтаю мы публікуем і аналізуем шэраг дакументаў, якія датычаць аднаго з самых значных культурных цэнтраў даўняе Беларусі.

*Пінская шляхта* Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча не толькі шматразова інтэрпрэтавалася літаратуразнаўцамі, але дачакалася і гісторыка-тэксталагічнага аналізу. Праўда, шэраг момантаў усё яшчэ застаюцца нявысветленымі: як у расчытанні і тлумачэнні асобных выразаў, так і ў апісанні акалічнасцяў узнікнення, а таксама функцыянавання тэксту цягам паўстагоддзя (1866–1918). Спадзяёмся, што нам удалося запоўніць асобныя з тых белых плямаў.

У *Дадатку*, абапіраючыся на дакументы, мы закранаем асобныя факты біяграфій Ігнацы Брадоўскага, Ялегі Пранціша Вуля, Юльяна Ляскоўскага, а таксама выпраўляем некаторыя памылкі, дапушчаныя намі ў папярэдніх тамах *Даследаванняў і матэрыялаў*.

Дадзены том паўстаў дзякуючы дапамозе шэрагу беларускіх і замежных навукоўцаў. У першую чаргу прагнем падзякаваць гісторыку і мовазнаўцу Вячаславу Мартысюку, гісторыку Зміцеру Крымоўскаму, спецыялісту ў галіне камп'ютэрных тэхналогій і гісторыку літаратуры Антону Францішку Брылю, філалагіням-літаратуразнаўцам Анхеле Эспіноса-Руіс і Катажыне Дрозд, віцебскаму мастаку і краязнаўцу Аляксандру Аніськовічу.

## Прынцыпы перадачы рукапісных тэкстаў

Вертыкальнаю рыскаю адасабляецца напісанае ў арыгінале злітна.

Пачатак кожнае старонкі рукапісу мы перадаём дзвюма прамымі рыскамі з устаўленым паміж імі нумарам аркуша ў ніжнім рэгістры: |**1r**| – правая старонка аркуша (ад лац. rectus – проста); |**1v**| – левая старонка аркуша (ад лац. verso – адваротная старонка).

Перакрэсленыя ў рукапісе словы і сказы падаём адпаведна – ~~Biedny~~; напісанае зверху, між радкамі – у верхнім рэгістры – Uiszow.

Дзеля кампактнасці тэксту элементы кутняга штампу (назва ўстановы, дата, выходны нумар і інш.) падаюцца ў верхнім радку дакумента.

Той тэкст рукапісу, які не ўдалося расчытаць, сігналізуецца кутнімі дужкамі са словам "нечытэльна" – <*нечыт.*>.

У квадратных дужках [ ] узнаўляюцца скарачэнні ў рукапісе, а таксама (па магчымасці) словы і часткі слоў у канцы (звычайна) радка, дзе папера аказалася пашкоджанаю.

# Праблемы тэксталогіі ды атрыбуцыі зборніка

## Пад шыфрам: LMAVB, f. 18, b. 201

Пасля скасавання ў 1858 г. расейскаю адміністрацыяй Забельскага кляштара тамтэйшыя кніжніца ды архіў трапілі спачатку да полацкіх дамініканцаў[1], а ў 1867 г. сталіся набыткам Віленскае публічнае бібліятэкі. У 1903 г. з матэрыяламі забельскіх дамініканцаў (прынамсі, з рукапісным зборнікам, у якім знаходзіўся шэраг літаратурных твораў) пазнаёміўся прафесар Кіеўскага ўніверсітета Уладзімір Перагц (1870–1935)[2]. А вось у друку інфармацыя пра зборнік упершыню з'явілася ў пятым выпуску *Описанія рукописнаго отдѣленія Виленской публичной библиотеки*:

> 201. Сборникъ заключающій въ себѣ драматическія произведенія, стихи, рѣчи, подъ заглавіемъ: *Continuatio operis scholasticae patris Cajetani Moraszewski, professoris rhetorices et poëseos in gimnasiis Zabialensis Anno 1787*. На стр. 30 второе заглавіе: *Collectanea Rhetorum et poëtarum in unum collecta per me fratrem Michaelem Ciecierski, profes. rhetor. in conventu Zabialensi, Ord. Praed. A. 1787*. Въ этомъ сборникѣ, находятся, между прочимъ, четыре драмат. произведенія. 1. *Tragedya Wolność i Newola* (о Велизаріи). 2. *Komedya* безъ заглавія, на бѣлорусскомъ языкѣ но польскими литерами. Дѣйствующія лица: Chłop, Żyd, Diabeł, Niewiniątko, Trzy bracia i pokutujący. 3. *Sapor, tragedya w pięciu aktach*. 4. *Doktor przymuszony, kemedya w pięciu aktach*[3].

Крыху пазней згадала пра яго Антаніна Сычэўская[4] ва "учено-педагогическомъ журналѣ" "Русскій филологический вѣстникъ". Праўда, згадка А. Сычэўскае адно інфарматыўная:

---

[1] "Кнігі рана закрытага забельскага канвента дасталіся полацкім дамініканам, а ўжо калі закрылі і іх, тады рукапіс паехаў у Вільню. Захаваўся опіс кніг па закрыцці полацкага канвента, і гэты том (працяг працаў айца Каятана Марашэўскага) там ёсць, прычым цікава, што ўжо там ён адзінокі – працяг ёсць, а пачатку няма". (Інфармацыя Антона Францішка Брыля).

[2] *Отчетъ о Виленской публичной библиотекѣ и музее за 1903 годъ*, Вильна 1904, с. 28.

[3] *Описаніе рукописнаго отдѣленія Виленской публичной библиотеки*, выпуск пятый, Вильна 1906, с. 31–32.

[4] Пра А. Сычэўскую звестак амаль не захавалася. Апрача артыкула, надрукаванага ў варшаўскім часопісе "Русскій филологическій вѣстникъ", яна з'яўляецца аўтаркаю публікацыі *Памва Берында и его вирши на Рождество Христово и др. дни*, якая складаецца з уступу (с. 49–63) і твораў Памвы Берынды (с. 65–96)], змешчанай у XXIII томе зборніка *Чтенія въ историческомъ обществѣ*

> Хранится она [п’еса *Doktór przymuszony*. – *М. Х.*] въ рукописномъ сборникѣ Виленской публичной библіотеки въ листъ № 201. Составленъ этотъ сборникъ ксендзомъ Морашевскимъ – профессоромъ піитики и ксендзомъ Цецерскимъ – профессоромъ реторики[1].

Яўхім Карскі (1861–1931), у той час рэктар Варшаўскага ўніверсітэта (1905–1910), магчыма, з часопіса, які сам рэдагаваў, даведаўся пра існаванне “польско-бѣлорусской обработки кс. Цецерскаго”, пазнаёміўся і вывучыў зборнік № 201 ды падрыхтаваў публікацыю *Камедыі*[2]. Але У. Перадц апярэдзіў яго: славуты беларускі твор быў надрукаваны ў 1911 г.[3]. Навуковец коратка апісаў і ахарактарызаваў зборнік, звярнуў увагу, што гэта “остатки литературы на бѣлорусскомъ языкѣ, сохранившіеся кое-гдѣ по старымъ школьнымъ тетрадямъ іезуитскихъ школъ”[4]. Пазней Я. Карскі і беларускія даследнікі ўнеслі шэраг істотных правак у расчытаны У.Ператцам тэкст *Камедыі*. Але, на нашую думку, сёння патрэбна як новае апісанне зборніка, так і новае расчытанне *Камедыі* ды *Доктара па прымусу*.

Рукапісны зборнік, які можна назваць зборнікам Каятана Марашэўскага і Міхала Цяцерскага, сёння захоўваецца ў Бібліятэцы акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, LMAVB), фонд 18, адз. зах. 201[5]. Як асобная

---

*Нестора летописца* (Отдѣлъ III: *Матеріалы*, Кіевъ 1912), выдадзенага ў Кіеве ў 1912 г. Асобны адбітак: А.И. Сычевская, *Памва Берында и его вирши на Рождество Христово и др. дни*, Киев: тип. Мейнандера, 1912, 50 с.

[1] А. Сычевская, *Къ вопросу о Мольерѣ въ польской драматической литературѣ XVIII ст.*, “Русскій филологическій вѣстникъ” 1909, № 3 і 4 (т. LXII), с. 77.

[2] Адразу пасля выхаду ў свет публікацыі У. Перадца Я. Карскі напісаў: “Была (*Камедыя*. – М. Х.) прыгатаваная да выдання і мною, але я спазніўся надрукаваць яе. Зробім толькі асобныя праўкі да выдання У.М. Перадца. Не будзем кранаць арфаграфічных недакладнасцяў, якія ёсць у самім рукапісе; мы дадзім папраўкі пераважна тых мясцінаў, на якія звярнуў увагу і выдавец. Спасылкі на старонкі «Извѣстій»”. 279: caluhenki = calutenki, 281: skulsa = skulla (чирьи), 282: prababać чит. prabawać, 286: z ... p. = z za p. = из-за ширмъ, 228: kałutki = kalotku (см. слѣд. строку), 290: i łby = iłby (лбы съ приставочнымъ ***i***), тамъ же: tupy = łupy (губы), тамъ же: druhi raz nie zautra mienie padmanuć (никогда меня не надуютъ), 302: nie dazdanio = nie daždanio *ругат.* подохнуть бы тебѣ!, 303: skulle = skulla, 305: ubłatausia = ublutausia (запутался), 308: a ha u moszczą = aha a moża, 310: ci *исправленію не подлежитъ* = развѣ, 315: tat ciapier = tut ciapier, тамъ же: pazłozci = pa złości, 316: pierokzitca = pierakcicca (перекститься)”. Гл.: Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. 2: *Языкъ бѣлорусскаго племени*, кн. 3: *Очерки синтаксиса бѣлорусскаго наречія. Дополненія и поправки*, Варшава 1912, с. 314.

[3] Гл.: В. Перетцъ, *Къ исторіи польскаго и русскаго народнаго театра. XVIII–XIX*, “Известія Отделенія русскаго языка и словесности Императорской Академіи наук” 1911, т. XVI, кн. 3, с. 248–319.

[4] *Ibidem*, s. 274.

[5] Былы 18 фонд (Залъ Б, шкафъ 4) рукапіснага аддзелу Віленскае публічнае бібліятэкі.

адзінка ён узнік у XIX стагоддзі, магчыма, у Забелах, хоць не выключаем, што быў пераплецены ў адной з віленскіх майстэрняў ці друкарняў. Сведчыць пра гэта той факт, што шэра-зялёная папера, якая выкарыстоўвалася дзеля форзацу і нахзацу, мае філіграні, на якіх выразна чытаецца “1809 годъ”. Вокладка зборніка картонная, абцягнутая карычневаю скураю; праўда, не суцэльнаю, а склеенаю з двух частак (верхняя – 28 см, ніжняя – 5 см), крыху пашкоджаная г. зв. кніжнымі чарвячкамі ў некалькіх месцах. Памеры вокладкі: шырыня – 206 мм, вышыня –330 мм. Карэнчык – 25 мм з рэшткамі “залатога” ціснення[1].

Папера самога рукапісу – светла-шэрая, магчыма, колісь белая, з філігранямі “1785 Ф9” і “1785 ТІ”[2]. Памеры: шырыня – 200 мм, вышыня 326 мм. Відавочна, выкарыстоўвалася прадукцыя расейскіх папяровых млыноў; фармат паперы – “десть” [10 вяршкоў (≈44 см) даўжыня і 8 вяршкоў (≈35 см) шырыня]. Перапісвальнікі складалі аркуш папалам, а пасля складвалі некалькі аркушаў адзін у адзін і сшывалі. Атрымліваліся сшыткі фармату “полдесть” (22x35). Пазней пры пераплёце старонкі абрэзваліся: цяпер яны мелі памер 200 мм у шырыню і 326 мм у вышыню. Прычым, сям-там пад абрэзку трапілі і асобныя фрагменты ніжніх радкоў тэксту.

“Раздзел К. Марашэўскага” складаецца з 29 аркушаў. 28 з іх у складзе г. зв. сшытачкаў з рознаю колькасцю старонак, а апошні, відавочна, – гэта левая частка аркуша фармату “десть”, а правая – проста абрэзаная пераплётнікамі і ўклееная ў дадзены раздзел[3].

У “раздзеле К. Марашэўскага” злева і справа кожнае старонкі адведзеныя нейкім прадметам (стыло?) палі (20–27 мм). На левым полі перапісвальнікі занатоўвалі імёны дзейных асобаў і стараліся не выходзіць за “мяжу”. Дзеля гэтага ім даводзілася часта скарачаць імёны[4].

---

[1] Гэтак жа сама пераплецены рукапісны зборнік Міхала Цяцерскага (раздзел *Exercitationes Scholasticae M: M: D: D. Rhetorum et Poetarum, Collectie Per me Frem Michaelem Ciecierski Rhetoriaj Professorem in Cntu Fr. Zabialensi Fratrum Ordinis Praedicatorum. Anno 1789*) і Ігнацы Юрэвіча (раздзел *Exercitationes Sholastica M: M: D: D: Rhetorum et Poetarum In unum Collectie per me Frem Ignatium Jurewicz Earundem Scholarum Praffessorem Anno 1789 Zabialis*). Ён мае памеры: шырыня – 220 мм, вышыня – 340 мм. Шэра-зялёная папера, якая выкарыстоўвалася дзеля форзацу і нахзацу, мае філіграні, на якіх таксама чытаецца “1809 годъ”. А вось на паперы асноўнага блоку філіграні іншыя: “1786 ГОДЪ”і “Ф9”, а таксама нейкі герб пад каронаю.

[2] Філіграні не вельмі выразныя. Апрача літараў грамадзянскага пісьма і лічбаў маюцца знакі, якія не ўдалося расчытаць. Перапісвальнікі не звярталі ўвагу на водныя знакі: старонкі размяшчаюцца адвольна – “правільна” ці “дагары нагамі”.

[3] Падобнае яшчэ некалькі разоў будзе сустракацца ў гэтым зборніку.

[4] “Раздзел М. Цяцерскага” таксама складаецца з сшытачкаў, сшытых з паперы, якая мае такія ж самыя філіграні, што і папярэдні. Тут таксама маюцца адведзеныя алоўкам альбо чарнілам палі, але зусім інакш – пераважна не толькі злева і справа, але яшчэ і зверху ды знізу. Асобныя тэксты маюць палі толькі з левага боку аркуша.

Напачатку мы пералічым усе тэксты, якія ўвайшлі ў склад зборніка.

| Стар. | Тытул |
|---|---|
| 1 | **Continuatio operis Scholastici Patris Caietani Moraszewski Professoris Rhetorices et Poeseos In Gimnasijs Zabialiensis Anno D–ni 1787, Dec. 24** |
| 1v–13 | Tragedya *Wolność w Niewoli* |
| 13v–29 | *Komedya* |
| 30 | **Collectanea. M: M: D: D:[1]. Rhetarum et Poetarum in unum collecta per me Fratrem Michaelem Ciecierski Professorem Rhetorices in Con[ven]tu Zabialiensi Ordinis Praedicatorum. A. 1787** |
| 31–31v | *Mowa J: W: J: Xdza Margrafa Achety ArcyBiskupa Chalcedonskiego, Nuncyusza stolicy Apostolskiejy przy Krolu y Rzeczy Pospolitey Polskiey rezydującego miana w Charakterze Posła od Tey że stolicy u Dworu Petersburskiego na D. 15 Julii N: S. 1783. Roku z Francuskiego na Ruskie, z Ruskiego na Polskie tłomaczona a dla pamiątki tu wpisana* |
| 31v | *Odpowiedź Nayiasnieyszey Katarzyny drugiey Imperatorowey Rossyskiey* etc etc etc. |
| 32 | *Oracya Winszująca Prefekta Rożancowego miana w Dzien Niepokalanego Poczęcia N: P: Maryi*[2] |
| 32v | *Oda* z Tey że samey Materyi |
| 33 | *Oratio Gratulatoria A. R. P. S. T. Mgro Casimiro Wieszczycki Priori Conventus Zabialensis in Die Nominalium dieta* |
| 33–35 | *Oratio In Laudem Divi Thome Agrunatis* |
| 35–42 | *Poręka Przyiacielska czyli Sprawa Sądowa w Dzien S° Tomasza z Aquinu Z: K: w Roku 1788 marca 7 D.*[3] |
| 42v | *Concordia res parve crescund, discordia et maximie dilabuntur* |
| 43 | *Mowa. Nauczyciel do Uczniow mowi odwodząc ich odwzaiemney między sobą nienawiści* |
| 43v | *Mowa Do Judasza, który Pana Chrystusa na smierć Żydom wydał* |
| 44v | *Oratio Gratulatoria Nominalium RP Jacobi Wyszowaty Proffessoris Gramatices et syntaxeas in Cntis Zabialensi OP* |
| 45–49v | *Elegia de Passione Christi continens Misteria Rosarij: Modlitwa Jezusa w Ogroycu. Biczowanie Jezusa. Koronowanie Jezusa. Krzyża niesienie na Górę Kalwaryską. Krzyżowanie* |
| 50–74v | *Sapor*: Tragedya w piąciu aktach |
| 75–96 | *Doktor Przymuszony*: Komedya w piąciu aktach |

[1] У. Ператц прачытаў як M. M. N. D. Расшыфраваць абрэвіятуру не ўдалося. Магчыма, гэта нейкая звыклая ў той час пабожная формула (накшталт – D. O. M. – *лац.* Deo Optimo Maximo – Богу Найлепшаму, Найвялікшаму) ці, напрыклад, бібліятэчная сігнатура калекцыі.

[2] Каталіцкі Касцёл Дзень Беззаганнага Зачацця Прачыстае Дзевы Марыі адзначае 8 снежня.

[3] Каталіцкі Касцёл адзначае дзень памяці Тамаша Аквінскага, патрона дамініканцаў, 7 сакавіка.

Знаёмства з тэкстамі, уключанымі ў *Зборнік*, дазваляе мецьпэўнае меркаванне пра час ягонага ўзнікнення. Як сведчыць тытульная старонка першае яго часткі, 24 снежня 1787 г. першы перапісвальнік распачаў працу[1]. Цягам некалькіх наступных дзён два перапісвальнікі занатавалі ў зборнік драматургічныя творы, аўтарам якіх лічыцца К. Марашэўскі. Потым перапісвальнік № 1 пачаў другую частку (на тытульнай старонцы пазначаны 1787 г.), праца над якою працягвалася даволі доўга. Калі, напрыклад, прамовы нунцыя Джавані Архэці (1731–1805) і Кацярыны II (1729–1796), датаваныя 1783 г., маглі быць перапісаныя яшчэ ў тым жа 1787 ці пачатку 1788 г., дык шэраг "рытарычных практыкаванняў", занатаваных на старонках 32–49, з'явіліся тут значна пазней: школьны дыялог *Poręka Przyiacielska czyli Sprawa Sądowa w Dzien S° Tomasza z Aquinu*, падрыхтаваны (напісаны ці – усё ж – перапісаны з даўнейшых езуіцкіх, напрыклад, рукапісаў?) студэнтамі Мікалаем Косавым, Стафанам Шчаткоўскім, Юзафам Кішкаю, Матэвушам Ліпскім, Феліцыянам Даўловічам, Каролем Косавым, узнік блізу 1 сакавіка 1788 г., а *Oratio Gratulatoria* ў гонар новага прыёра Забельскага кляштара Казіміра Вяшчынскага/Вяшчыцкага і *Oratio Gratulatoria Nominalium* у гонар прафесара граматыкі і сінтаксісу Якуба Вышаватага маглі быць напісаныя (?) (першая – студэнтам Мікалаем Косавым), хіба, у верасні 1788 г., калі пасля чарговае капітулы новыя асобы занялі пасады ў канвенце. Выходзіць, трагедыя *Сапар* і камедыя *Доктар па прымусу*, "сабраныя" ці напісаныя М. Цяцерскім "з'явіліся" ў *Зборніку* яшчэ пазней.

Далей у полі нашага зроку будзе толькі першая частка *Зборніка*, г. зн. два драматургічныя творы, напісаныя – як лічыць большасць даследнікаў – К. Марашэўскім. Вельмі сумнеўна, аднак, што мы маем справу з аўтарскім аўтографам. Як ужо гаварылася, над першаю часткаю зборніка працавалі трое: нехта, можа, больш дасканалы ў каліграфіі, аформіў тытульную лацінамоўную старонку, літары якое маюць пабарочнаму квяцістае аздабленне. Тэксты ж твораў перапісвалі двое: большую частку працы выканаў перапісвальнік № 2 (старонкі 1v –23v) – 45 старонак з 56. Перапісвальнік № 3, пачаў з 16 (апошняе) сцэны II акту і занатаваў цалкам III акт – усяго 11 старонак (старонкі 23v – 29). Перапісвальнікамі, магчыма, былі студэнты "studium" (клерыкі) ці браты з кляштару. Абодва перапісвальнікі не вылучаліся дасканаласцю пры запісе як польскага, так і беларускага тэкстаў. Выявілася гэта ў:

а) злітным напісанні слоў з прыназоўнікамі, злучнікамі, часціцамі і інш.

б) адвольным напісанні дыякрытычных знакаў (***s*** замест ***ś***, ***z*** замест ***ż***, ***c*** замест ***ć***, а таксама ***l*** замест ***ł*** і інш.).

в) адвольным напісанні вялікае і малое літары.

---

[1] Існуе і іншае меркаванне: "а затым ідзе час напісання ці, верагодна, заканчэння твора, бо значыцца не толькі год – 1787, але і больш дакладная дата – 24 снежня". Гл.: Я. Усікаў, *Беларуская камедыя: Ля вытокаў жанру*, Мінск 1964, с. 130.

г) адвольнаю пастаноўкаю знакаў прыпынку; невылучэнне сказаў, што часта ператварае тэкст у складаны для разумення перыяд; адсутнасцю парцэляцыі тэксту.

Дадзеныя, на нашую думку, "недахопы", тлумачацца тым, што перапісвальнікі працавалі паспешліва і пад дыктоўку. Апошняе можна яскрава праілюстраваць, параўноўваючы запісы першага і другога перапісвальнікаў беларускага тэксту *Камедыі*. Гэта заўважыў яшчэ У. Перацц:

> Пьеса написана двумя почерками (второй – съ 16 сц. II д.) и въ зависимости отъ этого въ рѣчи Мужика (Chłopa) наблюдаются колебанія: въ 1-мъ – ***sie, nie, Djabeł, ciepier, już, Paniczenko*** и т. д., во 2-мъ – ***sia, nia, Djabał, ciapier, juz, Paniczańku*** (vocat.) и т. д.[1].

"Колебаній", ці то дыялектных адрозненняў быць не магло, каб перапісвальнікі мелі перад вачыма, скажам, аўтограф ці аўтарскую копію. Відаць, успрымаючы тэкст на слых, яны на пісьме адлюстроўвалі асаблівасці беларускае гаворкі таго рэгіёну, адкуль самі паходзілі. Як варыянт: чытальнікі маглі "папраўляць" аўтарскае напісанне – зноў жа – у адпаведнасці з беларускім вымаўленнем свайго рэгіёну.

Мы не ведаем, як было насамрэч. Але ў выніку "забельскіх маніпуляцый" атрымалі *Камедыю*, беларускія часткі якое (сс. 13v –23v і 23v –29) маюць розныя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці. Такога быць не магло, калі б перапісванне "кантраляваў" сам аўтар. Відавочна аўтар не ўдзельнічаў у гэтым працэсе: пацвярджэннем сказанаму можа быць і адсутнасць у трагедыі *Wolność w Niewoli* – пры захаванні чыстага месца – перад III актам *Intermedium 3* (с. 10). Прычым, перапісвальнік пакінуў месца прыкладна на тры шасцірадковыя страфы (столькі ж месца займалі інтэрмедыі перад I і II актамі). Як і калі трагедыю павінны былі дапоўніць *Intermedium 3*? І чаму яна не была дапоўненая, калі аўтар знаходзіўся ў кляштары, а *Зборнік* цягам доўгага часу дапісваўся? І ці магла трагедыя ставіцца на сцэне, калі адсутнічала ейная істотная інтэгральная частка?

## Забельскі дамініканскі кляштар

Віцебшчына ўваходзіла ў склад г. зв. Літоўскае правінцыі прапаведнікаў св. Анёла Ахоўніка (Ordo Fratrum Praedicatorum), што была ўтвораная ў 1647 г. на генеральнай капітуле ў Валенсіі[2]. У той час у правінцыі мелася толькі 12 канвентаў / кляштараў. Праз стагоддзе іх было ўжо блізу пяцідзесяці.

Забельскі кляштар, заснаваны ў 1716 г., цягам нейкіх 15–20 гадоў набыў вялікую значнасць у ордэне, дзякуючы сваім фундатарам –

[1] В. Перетцъ, *Къ исторіи польскаго и русскаго народнаго театра...*, с. 278.
[2] Тут і далей выкарыстоўваем звесткі з кнігі: Wołyniak [Jan Marek Giżycki], *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej*, cz. 1, Kraków 1917, s. 1–48, 284–317.

Юрыю і Ганне з Гласкаў Шчытам-Забельскім, якія пасля смерці адзінага сына Аляксандра запісалі ўвесь свой маёнтак дамініканцам, што служылі ў іхняй капліцы ў Забелах, дзеля будаўніцтва касцёла і кляштара ў мястэчку Валынцы. Спачатку была ўзведзеная драўляная святыня, а ў 1750-я гг. – мураваная (архітэктар Ёган Крыштоф Глаўбіц, 1700*–1767).

Валыняк [Jan Marek Giżycki] даволі дэталёва апісаў гісторыю забельскіх дамініканцаў на падставе рукапіснае *Хронікі* канвента. Але цікава, што яшчэ ў XIX ст. па-энцыклапедычнаму лаканічна фактычна тое самае пісаў у *Геаграфічным слоўніку* Адам Красцэнты Лапацінскі (1826 – да 1897)[1] у артыкулах пра Забелы і Валынцы. Магчыма, і ён, абывацель Дзісеншчыны (прынамсі, ягоная маці паходзіла з блізкага ад Валынцаў фальварка Друйка) ды сталы аўтар *Слоўніка*, быў знаёмы з *Хронікаю*, складзенаю забельскімі манахамі. Пададзім абодва гэтыя артыкулы, напісаныя, відаць, на пачатку 1890-х гг.

> Валынцы, м[ястэчка]ка на пр[авым] беразе Дрысы, Дрысенскі пав[ет], вол[асць] Піліпавічы, за 20 в[ёрст] ад Дрысы і за 7 в[ёрст] ад станцыі Свольна дынабургска-віцебскае чыгункі, мае 12 дамоў, 156 жыхароў, парафіяльную царкву, каталіцкі касцёл, жыдоўскі малітоўны дом, школу, гарбарню, цагельню, 3 крамы, кірмашы – 24 чэрвеня і ў першую нядзелю пасля Пакровы П[рачыстае] М[аці] Б[ожае]. Паром праз раку. Маёнтак, які першапачаткова называўся Акацеўшчызна, належаў царкве св. Міколы ў Полацкім замку, потым Стэфан Баторы перадаў яго езуітам, якія памяняліся Акацеўшчызнаю з Туковічамі на Захарэвічы. У той час маёнтак складаўся з 8 валокаў з 6 падданымі. Акацеўшчызна тады стала называцца В[алынцы] ад сялян-валынцаў, якія жылі там. Неўзабаве Туковіч прадаў В[алынцы] Канстанты Шчыту[2]. У 1715 г. ягоны сын Антоні прадае гэты маёнтак Юры і Ганне з Гласкаў Забельскім-Шчытам, войскім полацкім за 100 бітых талераў. Яны будуюць тут у 1716 годзе касцёл св. Юрыя і даручаюць яго дамініканцам, даючы ім у якасці фундушу маёнтак В[алынцы] разам з многімі іншымі. У 1746 г. Аўгуст III дае прывілей на штотыднёвыя кірмашы ў нядзелю і два штогадовыя кірмашы: у дзень св. Дамініка і ў дзень Ружанцовае Прачыстае Маці Божае. У 1756 г. кс[ёндз] Юры Гільзен, біскуп смаленскі, асвячае тутэйшы касцёл. У касцёле знаходзяцца магілы сям'і Шчытаў, а на мясцовых могілках – шмат якіх грамадзянаў гэтае парафіі, такіх як Шчыты, Храпавіцкія, Свалынскія, Хэлхоўскія, Медунецкія і ін[шыя]. Прыёрамі мясцовае кангрэгацыі былі: кс. Людвік Бароўскі; Матэвуш Глухоўскі, пры якім быў дабудаваны драўляны касцёл; Даміян Юркевіч, пры якім у 1731 г. было завершана будаўніцтва кляштара і заснаваны навіцыят; Плацыд Блажэвіч; Алойзы Тракі-

[1] Гл.: *Wielka genealogia Minakowskiego* [online] http://wielcy.pl/wgm/?m=NG&t=PN&n=15.536.259 [дата доступу: 12.07.2021].
[2] Канстанты Шчыт належаў да роду Неміровічаў-Шчытаў гербу Ястрабец.

> нецкі, які пачаў будаўніцтва мураванага касцёла; Караль Закшэўскі; Ануфры Кулеша; Рэмігіюш Ленартовіч; Людвік Рыбіньскі; Дамінік Масальскі; Рэмігіюш Забароўскі, які пачаў будаўніцтва мураванага кляштара; Аўрэлі Любавіцкі; Людвік Грыневіч; Якуб Казакоўскі; Францішак Кахаnoўскі; Аляксандар Шыстоўскі; Вінцэнты Даўнаровіч; Гіяцынт Струміла; Альберт Шалуха; Міхал Казлоўскі; Чэслаў Папроцкі; Казімір Вянчыцкі[1]; Алан Кавецкі; Антоні Клімашэўскі; Мацей Магнушэўскі; Фаўстын Цяцярскі[2]; Юліян Сакульскі; Рэгінальд Шаняўскі; Андрэй Ячкевіч; Тамаш Багенскі; Данат Агейка і Геранім Байкоўскі. *A[dam] K[rescenty] Ł[opaciński]*[3].

Другі артыкул, магчыма, пасля смерці А.К. Лапацінскага папраўляў (?) Аляксандар Ельскі:

> З[абелы], в[ёска] і маёнтак ля Дрысы, Дрысенскі пав[ет], за 18 вёрст ад Дрысы і за 20 вёрст ад Дзісны, маюць параф[іяльны] катал[іцкі] касцёл св. Юрыя[4], пабудаваны коштам Шчытаў. Катал[іцкая] парафія дрыса-себежскага дэканата, 3240 вернікаў. Капліцы: Юстыянава, Грамошча, Княжыцы, Зябкі, Клімаўшчызна, Пальзына і Шазярбінкава. Спадчына сёння ўжо выгаслага роду Шчытоў г[ербу] Радван, першы з якіх Грыгор Сямёнавіч пачаў пісацца Забельскім. Гэты маёнтак межаваў у той час у вярхоўях р[акі] Дрысы на ўсходзе з Боркавічамі, якія належалі бурмістру Фёдару Астаф'евічу, Камёнкаю, сёння Гласкаў, на поўд[ні] з маёнткам Водва Людмілы Грыгоравае Мірскае, на зах[адзе] з Ляшчылавам, які належаў Васілю Пятрашкевічу, на поўн[ачы] за р[акою] Дрыса з Акацеўшчызнай, пазней названаю Валынцы, княжадворскаю царкоўнаю ўласнасцю царквы св. Міколы на замку ў Полацку, і Княжыцамі Тыхны Гласкі, сёння Свалынскіх. У 1585 г. паміж братамі Шчытамі

[1] У дакументах сустракаецца іншае напісанне гэтага прозвішча: *Вяшчынскі*, *Вяшчыцкі*.

[2] Фаўстын Цяцерскі (1761–1832) быў прыёрам Забельскага кляштара два тэрміны: 1804–1807 і 1807–1810. Пра яго гл.: *Pamiętnik xiędza Ciecierskiego przeora Dominikanów wileńskich, zawierających jego i towarzyszów jego przygody, doznane na Syburze w latach 1797–1801,* Lwów 1865, 346 s.; А. Мальдзіс, *Вакол Парнаса Забельскай калегіі* [у:] А. Мальдзіс, *Таямніцы старажытных сховішчаў*, Мінск 1974, с. 155–157; F. Ciecierski, *Znaczniejszych przypadków pewnego z Syberii powrotnego Polaka w 1801 roku*, Wrocław 1998, 419 s.; J. Brodniewicz, *"Byłbym najniespokojniejszym, gdybym ufności nie pokładał w nieprzebranej Najwyższej Opatrzności" – rekonstrukcja biografii Faustyna Ciecierskiego* [w:] *Dominikanie na ziemiach polskich w XVIII i XIX wieku: Zbiór studiów*, red. M. Miławicki, A. Markiewicz, Kraków 2009, s. 519–562; І. Пятшкевіч, *"А з Белай Русі даносяць...": Беларусь у рукапіснай спадчыне віленскага дамініканца Фаўстына Цяцерскага*, "Arche" 2014, № 7–8, с. 1–24; A.F. Bryl, *O dacie urodzenia Faustyna Ciecierskiego*, "Przegląd Tomistyczny" 2019, t. XXV, s. 493–494.

[3] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XIII, Warszawa 1893, s. 935.

[4] Па іншых сведчаннях, у Забелах была ўзведзеная капліца.

адбыўся падзел маёнтка, у выніку чаго Забелы дасталіся Грыгору. У 1618 г. спадчыннік – Аляксандр Забельскі Шчыт, у 1635 г.– уласнасць яго сына Мар'яна, затым яны пераходзяць да сына апошняга – Юры Забельскага Шчыта, войскага полацкага, які разам са сваёй жонкай Ганнай з Гласкаў, запісваюць маёнтак дамініканцам і фундуюць для іх у З[абелах] драўляны касцёл, а калі ён у 1716 г. набывае Валынцы ў Антонія Неміровіча Шчыта і фундуе там касцёл і кляштар, дык касцёл у Забелах быў знесены. Маёнтак З[абелы] як касцельны фундуш перайшоў на скарб[1]. Гэты маёнтак складаўся з наступных вёсак: Бондарава, Чаркасава, Чэрні, Дзехцярова, Дуброўка, Кавалеўшчызна, Канавальшчыны, Лютаўшчызна, Мамонаўшчызна, Невярова, Падліпкі, Падсуддзе, Скарода, Сакалоўшчызна, Снойкі, Самуйленкі, Шлыка, Трыпукі, Выдрын, Забелы, Жоўтаў, Забярбеча, Забярбеча (sic!), Забердава, Забярэсткі, Забярэззе, Заберазінскі, Забярэжжа, Забярвецкі, Забярвецкае Балота, Забяствіна, Забела, Забелы, мястэчка Валынцы і двор Забелы. Увогуле фундуш, запісаны дамініканцам, складаўся з 433 хат, 1427 рэвіс[кіх] душ, а таксама 77 застаўных хат, 215 душ. *A[leksander] Jel[ski]; A[dam] K[rescenty] Ł[opaciński]*[2].

Варта яшчэ дадаць колькі інфармацый пра Забельскі кляштар тае эпохі, калі ў ім жыў і працаваў К. Марашэўскі. Перш-наперш пра назву кляштара. На нашую думку, даволі пераканаўча гэта зрабіў Валыняк:

> Будаваць касцёл і кляштар пачалі ў Валынцах, бо яны былі ўласнасцю дамініканцаў ужо з першага запісу, і там сапраўды паўстала святыня і канвент, але з тае прычыны, што першы касцёл (ці капліца) быў у Забелах, дык гэтая назва стала так агульнапрызнанаю і агульнапрынятаю, што яе перанеслі і на пазнейшую сядзібу законнікаў у Валынцах, хоць, праўду кажучы, адно ад другога вельмі блізка, а неўзабаве і Валынцы, і Забелы належалі дамініканцам ды сталіся адным цэлым[3].

Дададзім яшчэ толькі: фундатарамі былі Забельскія, а г. зн., што кляштар насіў імя не толькі геаграфічнае назвы фальварка (двара), але адначасна і ягоных заснавальнікаў-ахвярадаўцаў[4].

У часы прыёрства айца Аўрэлі Любавіцкага (1759–1761) пры кляштары пачала працаваць аптэка, жыў тут лекар-немец, а пазней – хірург; лекі (у тым ліку – каву) прывозілі пераважна з Рыгі. Пад 1764 годам

---

[1] Адбылося гэта, відавочна, у 1858 г., калі ўлады скасавалі дамініканскі кляштар у Забелах.

[2] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XIV, Warszawa 1895, s. 179–180.

[3] Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej…*, s. 293.

[4] Вядома, што нашчадкі Вінцэнта, роднага брата Юрыя, а таксама сваякі Ганны Гласкі шматразова дамагаліся аспрэчыць і ў судзе, і з дапамогаю наездаў запісаны дамініканцам маёнтак. Называючы кляштар "Забельскім", манахі ўшаноўвалі волю фундатараў і пацвярджалі свае права на валоданне.

упершыню ў *Хроніцы* ідзе гаворка пра “бакаляра”[1], які выкладаў у школцы, што існавала, хіба, і раней; таксама згадваецца “kurs retoryki zakonnej”, які выкладае а. Чэслаў Фільніс.

З канца 1760-х гг. у кляштары стала неспакойна: расейскія войскі чынілі шмат клопатаў манахам, а калі ў 1772 г. Полаччыну імперыя акупавала (паводле расейскае імперскае думкі: “Ѿтóрженнаѧ возврати́хъ”), дык узніклі праблемы з камунікаваннем паміж канвентамі Літоўскае правінцыі дамініканцаў: на тэрыторыі іншай дзяржавы апынулася сем кляштараў (Рушона, Посін, Аглона, Полацк, Орша, Княжыцы, Забелы). З гэтай прычыны, пэўна, неўзабаве і ўзнікла Беларуская правінцыя дамініканцаў (існавала да часу поўнае акупацыі беларускіх зямель).

На жаль, палітычныя перамены адбіліся і на характары запісаў у *Хроніцы*: Валыняк адно называе прыёраў: Аляксандар Шыстоўскі (1769–1773), Канты Багінскі (1773–1774), Вінцэнты Даўнаровіч (1774–1775), Яцак Струміла (1775–1776), Альберт Шалуха (1776–1783)[2], Міхал Казлоўскі (1783–1786), Чэслаў Папроцкі (1786–1788), Казімір Вяшчынскі (1788–1791).

Маем надзею, што пошукі ў дамініканскіх архівах дадуць магчымасць адказаць на пытанне: ці існаваў пры Забельскім дамініканскім кляштары калегіум – навучальная ўстанова для дзяцей заможнае шляхты, накшталт Полацкага езуіцкага калегіума, які знаходзіўся ў сарака вёрстах ад Валынцаў?

## Калегіум і тэатр у Валынцах

Як мы ўжо згадвалі, пра навучальныя ўстановы ў Валынцах у 1780-я гг. пэўных інфармацый пакуль не выяўлена. Дарэчы, установ такіх павінна было быць некалькі: апрача школкі для дробнашляхецкіх, мяшчанскіх і сялянскіх дзяцей, дзе працаваў “бакаляр”, яшчэ да адкрыцця навіцыяту ў Забельскім кляштары ў 1738 г. быў створаны “studium filozoficzny”[3], а г. зн., што на гэты курс маглі запісацца асобы,

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 13: “БАКАЛЯ́РЪ, а, с. м. <…> 2. Школьный учитель. *Бакаляру треба отдаць хлопца*”.

[2] Гаворка, відаць, ідзе пра Вайцэха (лацінскі адпаведнік імя – Adalbertus) Шалуху (1722 – блізу 1884), правінцыяла Беларускае правінцыі дамініканцаў, аўтара кнігі *Sposob do godnego y skutecznego missyi odprawowania albo raczey godnych pokuty czynienia owocow y upor konwikuiący y zachodzące w tym dziele trudności ułatwiaiący*, Wilno 1766, 306 s. (Гл.: *Polski Słownik Biograficzny*, Kraków 2013, t. 48, z. 4, s. 199). Прозвішча даволі рэдкае, дык маем смеласць згадаць “старинное стихотвореніе на Бѣлорусскомъ языкѣ псевданима «Шелухи»: *Одной матки ўси мы дзѣтки, // Ўси родзились отъ Адама*”. (Гл.: Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы…*, с. 675). Ці не быў ён аўтарам гэтага верша? І ці не пры ягоным прыёрстве пачаў сваю службу ў Валынцах К. Марашэўскі?

[3] Jan Fibek, OFMCap, *Zabiały (Валынцы) – p. w. Św. Jerzego* [online] https://www.radzima.org/be/object_comm/7409.html [дата доступу: 13.07.2021]. Прафесарам філасофіі быў у той час а. Караль Закрэўскі. Гл.: Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej…*, s. 298.

якія ўжо закончылі "ніжэйшыя" курсы – відавочна, у езуіцкіх калегіумах – "граматыкі", "сінтаксісу", "паэтыкі" і "рыторыкі". Неўзабаве ў Валынцах з'явіўся і "studium teologiczny"[1], што дазволіла казаць пра "studium formalne" ў кляштары[2]. Валыняк згадвае, што ў 1764 г. забельскія студэнты мелі і курс рыторыкі. У 1769 г. упершыню ў кляштары адбылася ардынацыя *pro sacrim ordinibus* – шэраг клерыкаў атрымаў пасвячэнні. Гэта сведчыць, што да першага падзелу Рэчы Паспалітае ў Валынцах паспяхова працавала навучальная ўстанова. Праўда, як гэта было прынятае ў манаскіх ордэнах, называлася яна адно "studium"[3].

Адзначым яшчэ, што ў 1772 г. у кляштары жыло 57 манахаў (18 святароў, 22 клерыкі-семінарысты, 11 братоў, 6 навіцыяў-паслушнікаў). Але канвікту (інтэрнату пры школе), здаецца, не было. Прынамсі, Валыняк не згадвае пра гэта, хоць падобнае з прычыны значных фінансавых выдаткаў павінна было адлюстравацца ў *Хроніцы*. Азначае гэта, што ў 1772 г. у кляштары навучаліся толькі клерыкі і навіцыі, колькасць якіх ніколі не перавышала дваццаці–трыццаці[4].

Як паўплывала новая палітычная сітуацыя пасля 1772 г. на працэс навучання ў Валынцах і на колькасць навучэнцаў-студэнтаў, – мы не ведаем. Аднак пэўна тое, што ў сярэдзіне 1780-х гг. у тутэйшай навучальнай установе існаваў – як мінімум – "курс паэтыкі" і "курс рыторыкі". Пра гэта сведчыць рукапісны зборнік, у якім пазначана, што ў 1787 г. у кляштары жыў і працаваў прафесар рыторыкі і паэтыкі К. Марашэўскі і прафесар рыторыкі М. Цяцерскі.

Варта больш уважліва прыгледзецца тым запісам. Зборнік адкрываецца тытульнаю старонкаю раздзела К. Марашэўскага:

> Continuatio | operis | Scholastici | Patris Caietani | Moraszewski | Professoris | Rhetorices et Poeseos | In Gimnasijs Zabialiensis | Anno D–ni 1787, Dec. 24|.

У перакладзе:

---

[1] У *Хроніцы* паведамлялася, што на "studium teologicznym" з прычыны фінансавых цяжкасцяў у 1753–1755 гг. навучанне было прыпыненае. Гл.: Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej*..., s. 301.

[2] Курс адпавядаў універсітэцка-акадэмічнаму ўзроўню адукацыі, але без права надання ступеняў. Дамініканцы Літоўскае правінцыі маглі атрымаць ступень на "studium generale" ў Гарадзенскім кляштары. Гл.: Р. Зянюк, *Навучальныя ўстановы пры Забельскім дамініканскім кляштары (1716–1857 гг.)* [у:] *Віцебскія старажытнасці: Матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю са дня нараджэння Л.В. Аляксеева. Віцебск, 28–29 кастрычніка 2010 г.*, Мінск 2012, с. 352.

[3] Марэк Мілавіцкі сцвярджае, што дамініканцы вялікую ролю надавалі адукацыі законнікаў. Навучанне праходзіла ў тры этапы: спачатку studia materialne (лаціна, геаметрыя, літургія), пасля studia formalne і studia generalne. Гл.: M. Miławicki, *Dominikanie na kresach wschodnich Rzeczypospolitej Obojga Narodów (teren dzisiejszej Białorusi)*, „Folia Historice Cracoviensia" 2014, t. 20, s. 116.

[4] "Studium formalne" ў Забельскім дамініканскім кляштары існаваў да канца 1830-х гг.

> Працяг рытарычных практыкаванняў айца Каятана Марашэўскага, прафесара рыторыкі і паэтыкі ў Забельскай гімназіі. У год Гасподні 1787, 24 снежня[1].

На тытульнай старонцы раздзела М. Цяцерскі, чытаем:

> Collecta|nea. | M: M: D: D: | Rhetarum et Poeta|rum in unum collecta per me Fratrem Michaelem Ciecier|ski Professorem Rhe|torices in Con[ven]tu Zabialiensi Ordinis Praedicatorum. A. 1787.

У перакладзе:

> Калекцыя. M: M: D: D: Рытарычныя і паэтычныя практыкаванні сабраныя мною, братам Міхалам Цяцерскім, прафесарам рыторыкі ў Забельскім канвенце Ордэна прапаведнікаў. 1787 год.

Абодва гэтыя тытулы выканала адна асоба, але ў адным выпадку навучальная ўстанова названая "гімназія", а ў другім гаворка ідзе пра прафесара канвенту[2]. Характэрна, што ў першым выпадку ўжываецца не лацінскае "kolegium" (школа з бурсаю), а грэцка-лацінскае "gimnasium" (школа практыкаванняў).

Усё гэта можа быць сведчаннем, што, па-першае, у Забельскім дамініканскім кляштары існаванне навучальнае ўстановы дыктавалася неабходнасцю падрыхтоўкі святароў. Нагадаем: асноўная мэта ордэну дамініканцаў – прапаведніцтва і місіянерская дзейнасць. Вось чаму столькі ўвагі надавалася курсу рыторыкі (у невялікім кляштары працавалі адначасна два прафесары!). Па-другое, у дамініканскай вучэльні адукацыю набывала невялікая колькасць студэнтаў.

У сувязі з гэтым варта задаць пытанне: а ці існаваў пры Забельскім дамініканскім кляштары тэатр? Беларускія даследнікі адназначна казалі, што п'есы, прынамсі, *Камедыя* з рукапіснага зборніка была "напісаная і пастаўленая ў Забельскай калегіі ў 1787 годзе"[3]. Гэта значыць, што ў мястэчку Валынцы пры Забельскім дамініканскім кляштары была калегія / калегіум, у якой ладзіліся пастаноўкі, г. зн. працаваў тэатр. Аднак ці ёсць якія пісьмовыя крыніцы, якія сведчаць пра існаванне калегіума і тэатра? На жаль, такія крыніцы пакуль не выяўленыя. Можна меркаваць, што калегіум і тэатр "узніклі" на пачатку XX стагоддзя па аналогіі з навучальнай і тэатральнай дзейнасцю езуітаў.

Так, з аднаго боку мы бачым створаныя па ўсіх правілах драматургічнага майстэрства п'есы, якія паходзяць з Забельскага кляштара, але з другога – не маем аніякіх пацвярджэнняў, што гэтыя творы ставіліся ў Забельскім дамініканскім кляштары. Цікава, аднак, тое, што ўсе

[1] Існуюць іншыя варыянты перакладу тытула раздзела. Пра гэта гл. ніжэй.
[2] Дапускаем, што перапісвальнік дакладна перадаваў зыходны рукапіс.
[3] А. Мальдзіс, *Вакол Парнаса Забельскай калегіі*..., с. 152.

тэксты ў зборніку падаюцца як “рытарычныя практыкаванні”. Ці не азначае гэта, што яны прызначаліся проста дзеля чытання, дзеля заняткаў?[1]

Не можам мы не звярнуць увагі і на тое, што дамініканцы Літоўскай і Беларускай правінцый не ладзілі, здаецца, публічных тэатральных пастановак. Прынамсі, адзін з першых даследнікаў тэатральнага руху на Літве і Беларусі Юліян Ціціус (1820–1898) не называе братоў-прапаведнікаў сярод тых (езуітаў, базыльянаў, піяраў), хто выкарыстоўваў дзеля сваіх мэтаў падобнае[2]. А ён вельмі добра ведаў полацка-дрысенскі рэгіён. Чаго варта, напрыклад, ягонае апісанне тэатра Алаіза Буйніцкага ў мястэчку Забор’е (на тракце з Глыбокага ў Дзісну)[3].

Ю. Ціціус, дарэчы, шмат увагі прысвяціў г. зн. школьным дыялогам – тэатральным пастаноўкам езуітаў. Няўжо пра дзейнасць тэатра ў Валынцах ён проста нічога не ведаў?

Вядома, нашае дапушчэнне, што пры Забельскім дамініканскім кляштары не было калегіума і тэатра, небясспрэчнае. Але ці павінны сёння адваротныя аксіяматычныя сцверджанні лічыцца верагоднымі? Так, даследніца рэлігійнага жыцця ў Беларусі XVIII–XIX стст. Раіса Зянюк піша:

> Пры школе працаваў тэатр, дзе ажыццяўляліся пастаноўкі, аўтарамі якіх былі выкладчыкі калегіўма. Тэатральныя пастаноўкі выкарыстоўваліся як форма і метад навучання[4].

І не спасылаецца, на жаль, на крыніцы. Тут, пэўна, паўплывалі на навукоўца шматлікія публікацыі даволі аўтарытэтных гісторыкаў літаратуры. На нашую думку, самым важкім аргументам на карысць

---

[1] У *Забельскім рукапісным зборніку* мы звярнулі ўвагу на падрыхтаваны студэнтамі дыялог *Poręka Przyiacielska czyli Sprawa Sądowa w Dzien S^o Tomasza z Aquinu Z: K: w Roku 1788 marca 7 D*, у прадмоўцы да якога выразна бачна, што ён прызначаўся дзеля школьнае сцэны: “Хоць наш дзіцячы век не дазваляе нам судзіць справы, якія здараюцца ў грамадстве, мы жадаем, аднак, вучыцца гэтаму мастацтву, якое дазваляе нам даведацца, што мы павінны Богу, сабе і чалавечаму грамадству. У справе, дзе мы будзем абвінаваўцамі і абаронцамі, якая хоць ніколі не існавала, але можна меркаваць, што магла быць, мы спадзяваемся на вашую ласку, што вы даруеце нам, маладым, тое, чаго часам і старэйшыя не змогуць. Ад нас цяпер залежыць, шаноўныя калегі, і разгляд таго, што будзе гаварыцца, і які будзе вырак. Давайце зараз прыступім да працы, хай генерал раскажа нам пра справу”. Відавочна, дыялог выконваўся ў школьнай аўдыторыі. Вось толькі дзе? У Валынцах ці, напрыклад, у блізкім Полацкім езуіцкім калегіуме? На жаль, мы не знайшлі дакументаў, якія б сведчылі, дзе навучалася “młodzież szlachetna” з вышэйшага грамадства (чаго вартыя прозвішчы – Косаў, Кішка, Ліпскі, Шчаткоўскі), што напісала гэты дыялог.

[2] Dr. Titius, *Rys historyczny przedstawień teatralnych, mianowicie w języku polskim, na Litwie*, “Wizerunki i Roztrząsania Naukowe” 1840, t. 16, s. 179–182; t. 17, s. 140–145; t. 18, s. 97–139; 1841, t. 19, s. 85–93; t. 20, s. 85–96; t. 21, s. 110–130.

[3] Гл.: D. Samborska-Kukuć, *Wspomnienia o Zaborzu: Z historii teatrów dworskich na Kresach*, “Pamiętnik Teatralny” 2003, z. 3–4.

[4] Р. Зянюк, *Навучальныя ўстановы пры Забельскім дамініканскім кляштары (1716–1857 гг.)*..., с. 355.

існавання тэатра ў Валынцах было даследаванне Адама Мальдзіса. Апавядаючы пра твор з *Практыкаванняў* (1789–1791) М. Цяцерскага *Апалон-заканадаўца, або Зрэфармаваны Парнас, аперэтка, якая складаецца з дыялогаў і спеваў*, ён пераказвае прадмову. З пераказу вынікае, што аперэтка "напісана <...> для спектакля з поваду заканчэння школьнага года"[1]. Здаецца, усё зразумела: раз сам аўтар называе практычную мэту свае працы, дык аніякіх сумненняў быць не можа: аперэтка прызначалася для спектакля ў Забельскім кляштары[2]. Аднак насцярожвае той факт, што зборнік 1787 г. называўся *Рытарычныя і паэтычныя практыкаванні, сабраныя мною, братам Міхалам Цяцерскім...* Звяртаем увагу на слова "сабраныя". Ці не павінна яно схіліць нас засумнявацца ў аўтарстве М. Цяцерскага тэкстаў, уключаных у гэты зборнік? І дыялогі, і драматургічныя творы могуць паходзіць з розных дамініканскіх ды недамініканскіх асяродкаў былое Рэчы Паспалітае, а таксама Заходняй Еўропы (пераклады – у апошнім выпадку – маглі быць выкананы і ў Забельскім кляштары). Не мае тут значэння і тое, што ў *Камедыі з пяці актаў* А. Мальдзіс заўважыў "лакальны каларыт": падзеі ў ёй адбываюцца "паблізу ад Валынцаў, на берагах Дрысы"[3]. Бо перапісвальнік мог дазволіць сабе ўнесці змены.

Выказваючы меркаванне, што ў Забельскім дамініканскім кляштары магло і не быць тэатра, мы аніяк не змяншаем ягоную ролю як значнага культурна-асветнага цэнтра Паўночнае Беларусі ў XVIII – пачатку XIX стагоддзя. На нашую думку, у Валынцах "дзейнічаў" своеасаблівы асяродак па падрыхтоўцы і перапісванні "практыкаванняў" дзеля навучання студэнтаў як у "слаўных Забелах", так і ў іншых дамініканскіх кляштарах. Пра гэта сведчыць захаваная рукапісная спадчына літоўска-беларускіх дамініканцаў. Уважліва аналізуючы забельскі рукапіс 1787 г., мы прыйшлі да высновы, што ён не можа з'яўляцца ні аўтографам К. Марашэўскага, ні аўтографам М. Цяцерскага. Гэта зборнік, які ўзнік, магчыма, у кляштарным скрыпторыі. Тэксты драматургічных і інш. твораў запісваліся пад дыктоўку. А гэта азначае, што адначасна паўставала некалькі зборнікаў. На шчасце, адзін з іх захаваўся.

### Праблема аўтарства *Камедыі*

У. Перацц, не маючы звестак ні пра самога К. Марашэўскага, ні пра ягоную творчасць, напачатку відаць, сумняваўся, што *Камедыя* належыць пяру прафесара рыторыкі і паэтыкі:

---

[1] А. Мальдзіс, *Вакол Парнаса Забельскай калегіі...*, с. 170.

[2] А Мальдзіс пісаў пра росквіт школьнага тэатра пры "Забельскай калегіі" ў 1787–1891 гг. на падставе рукапісу LMAVB, f. 18, b. 201, хоць там няма аніякіх згадак пра тое, што "на каляды шкаляры паказвалі польскую трагедыю *Свабода ў няволі* К. Марашэўскага і яго ж беларуска-польскую *Камедыю*". Гл.: А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.)*, Мінск 1980, с. 321.

[3] А. Мальдзіс, *Вакол Парнаса Забельскай калегіі...*, с. 168.

> Изъ этого заглавія можно заключить, что передъ нами лишь часть обширнаго собранія драматическихъ произведеній собранныхъ, а можетъ быть – и написанныхъ о. Морашевскимъ (вылучэнне нашае. – *М. Х.*), ибо обычно встарину сочиненіе пьесъ лежало на обязанности преподавателей реторики и піитики, обязанныхъ не только наставлять учениковъ въ теоріи, но и на практикѣ давать имъ образцы, достойные подражанія[1].

Праўда, крыху ніжэй ён нібыта ўжо пазбываецца сваіх сумненняў:

> Знакомясь ближе съ пьесами оо. Морашевскаго и Цецерскаго, убѣждаемся въ томъ, что это – опыты старинной школьной драмы, но со слѣдами вліянія новаго классицизма, при томъ скорѣе итальянскаго, чѣмъ французскаго[2].

Прыкладна такое ж стаўленне да праблемы аўтарства беларуска-польскіх камедый *Зборніка...* і ў Я. Карскага: у адпаведнасці з тытуламі частак ён піша, што рукапіс "складзены" К. Марашэўскім і М. Цяцерскім[3], але пазней гаворыць пра іх, як пра аўтараў: "Бѣлорусская рѣчь у Цецерскаго вышла хуже, нежели у Морашевскаго"[4].

А вось Максім Гарэцкі ў *Хрыстаматыі...*[5], *Выпісах...*[6], а таксама ў чацвёртым выданні *Гісторыі...*[7] ужо адназначна называе К. Марашэўскага аўтарам *Камедыі*, што – трэба сказаць – і замацавала дамініканца ў статусе беларускага літаратара. Праўда, адразу пасля выхаду ў свет *Хрыстаматыі* Адам Саладух (Уладзіслаў Талочка[8], 1887–1942) асцярожна запярэчыў М. Гарэцкаму:

> Дамініканец *Maraszewski* (sic) у Забелах, аўтар беларускай камедыі, хіба, ідэнтычны а. Піліпу Макрэцкаму[9], які там у той час (1787 г.) быў і працаваў (у кніжцы пададзенае сапсаванае[10] прозвішча)[11].

---

[1] В. Перетцъ, *Къ исторіи польскаго и русскаго народнаго театра...*, с. 275.

[2] *Ibidem*, с. 277.

[3] Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 2: *Старая западно-русская письменность*, Петроградъ 1921, с. 228.

[4] *Ibidem*, с. 232.

[5] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 70–73.

[6] М. Гарэцкі, Ул. Дзяржынскі, П. Каравай, *Выпісы з беларускае літаратуры*, ч. I: *1. Вусная народная творчасьць; 2. Старадаўнае пісьменства*, Масква–Ленінград 1926, с. 284–297.

[7] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, выданьне чацьвертае, пераробленае, Менск 1926, с. 98–99.

[8] Гл.: Я. Трацяк, *Уладзіслаў Талочка: Штрыхі да партрэту беларускага рэлігійнага і культурнага дзеяча*, "Гістарычны Альманах" 2004, т. 10, с. 194–200.

[9] У арыгінале: *Filip Mokrzecki*.

[10] У пазнейшых *Выпісах* М. Гарэцкі не адмовіўся ад ранейшае атрыбуцыі *Камедыі*, але прозвішча аўтара падаў як *Марашэўскі*.

[11] A. Sołoduch, *Bibliografia: Maksim Harecki. Chrystamatyja Biełaruskaje Litaratury XI wiek – 1905 hod, Wilenskaje Biełaruskaje Wydawiectwa B. Kleckina*, Wilnia 1922, str. 264 z ilustracjami, "Przegląd Wileński" 1923, nr 7 (15 kwietnia).

Невядома, на падставе чаго А. Саладух прыпісвае *Камедыю* П. Макрэцкаму. Але, магчыма, падчас навучання[1] ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі (1906–1909) ён пазнаёміўся з архівам Забельскага дамініканскага кляштару, бо якраз тады выйшаў у свет пяты выпуск *Описанія Рукописнаго отдѣленія Виленской публичной библіотеки* (1906), дзе ішла гаворка пра рукапісы Забельскае бібліятэкі. Ды, відаць, звярнуў увагу і на *Камедыю*, і на спісы манахаў канвенту. Вось толькі ці не памыліўся А. Саладух, пішучы гадоў праз пятнаццаць водгук на *Хрыстаматыю...*?

Насамрэч у Забельскім кляштары жыў і працаваў дамініканец кс. Піліп Макрэцкі, але было гэта ў 1845–1858 гг., а не ў 1787 г. Цяжка паверыць у тое, што праз 58 гадоў пасля бытнасці ў Валынцах аднаго П. Макрэцкага з’явіўся ягоны аднаіменнік. Хутчэй, А. Саладух проста "атаясаміў" аўтара *Камедыі* з адным з самых славутых дамініканцаў Літоўскае правінцыі XIX стагоддзя[2].

Здавалася б, можна было і не надаваць значэння сказанаму між іншым, фактычна адным словам у водгуку на *Хрыстаматыю...*, аднак у 1980-я гг. інфармацыю А. Саладуха "пацвердзіў" Георгі Колас (1929–1994), які працаваў тады "над разгадкай таямніц *Камедыі* Каятана Марашэўскага":

> Мая гіпотэза нічым не горшая за тую, што ўвайшла (бяздоказна) у навуковы ўжытак пра Каятана Марашэўскага: у штотыднёвіку „Przegląd Wileński" (№ 7, 1923) А. Саладух надрукаваў "здагадку", што *Камедыю* стварыў не К. Марашэўскі, а Піліп Макрэцкі. А. Мальдзіс гэтую "здагадку" Саладуха не абмінуў, і нават адказаў яму, на першы погляд, вельмі слушна: "Прозвішча Марашэўскага выразна абазначана на вокладцы". А Саладух, напэўна, мог бы запярэчыць Мальдзісу, што ён таксама **бачыў** (тут і далей вылучэнні Г. Коласа. – *М. Х.*) тую "вокладку" (ці больш дакладна – першую старонку ў рукапісным сшытку), але Саладух, напэўна недзе **бачыў**, акрамя

[1] У 1914–1915 гг. зборы Публічнае бібліятэкі былі вывезены ў Маскву, а вернутыя ў Вільню ў адпаведнасці з савецка-польскімі пагадненнямі ў сярэдзіне 1920-х гг., прынамсі, пасля напісання водгуку А. Саладухам.

[2] Піліп Макрэцкі (1807–1887) паходзіў у Віцебшчыны, пачатковую адукацыю атрымаў у школцы ў Папорцях (Троцкі павет), дзе ў 1825 г. уступіў у ордэн дамініканцаў. Атрымаўшы выдатную адукацыю ў Вільні (Studium generalne), Пецярбургскім ўніверсітэце (ступень кандыдата ў 1834 г.), Віленскай духоўнай акадэміі (магістар тэалогіі), выкладаў у Studium generalne, а таксама ў Віленскім шляхецкім інстытуце. За смелае казанне ў дамініканскім касцёле пазбаўлены пасады і высланы ў Забельскі кляштар (1845). Пасля скасавання гэтага кляштару (1858) пераведзены ў Кальварыю Жмудскую. Тут за прачытанне з амбону паўстанцкага маніфесту арыштаваны і сасланы на катаргу ў Сібір. У 1882 г. вярнуўся на бацькаўшчыну: жыў у Аглонскім дамініканскім кляштары, а пасля ў фальварку Сар’я Станіслава Лапацінскага. Гл.: J. Godlewska, *Wileński Instytut Szlachecki (1834–1863): pamięci Prof. Stanisława Kościałkowskiego*, "Rozprawy z Dziejów Oświaty" 1985, t. 28, s. 127–130; *Polski Słownik Biograficzny*, Kraków 1976, t. 21, s. 609.

> таго, яшчэ і **тагачасны спіс** настаўнікаў Забельскае калегіі (я сам яго таксама **бачыў**): Каятана Марашэўскага **няма** ў тым спісе, а Піліп Макрэцкі – **ёсць**[1].

А. Саладух нічога не кажа пра "спіс настаўнікаў Забельскае калегіі". А вось пра які "спіс" вядзе гаворку Г. Колас? Пра "спіс" прафесараў "studium formalne" ў кляштары? Дык у Валынцах, дзе на "studium" наведвалася дваццаць ці крыху больш студэнтаў-клерыкаў, і колькасць прафесараў была нязначнаю – на нашую думку, тры–чатыры асобы[2]. Фармат літаратурна-публіцыстычнага выдання не патрабаваў ад даследніка спасылацца на крыніцу інфармацыі, а таму мы не можам спраўдзіць, што гэта за "спіс" бачыў Г. Колас, але запіс у *Liber encyclicarum* адназначна сведчыць, што ў 1788 г. К. Марашэўскі пакінуў Забельскі канвент і накіраваўся ў Аглону[3]. Г. зн. у Валынцах ён дакладна жыў і працаваў.

Больш складана адказаць на пытанне: занатаванае ў раздзеле (с. 1–29) – гэта ўласныя творы К. Марашэўскага ці проста тэксты, якія ён падрыхтаваў (сабраў, склаў, перапрацаваў і інш.) дзеля заняткаў са студэнтамі на лекцыях паэтыкі альбо рыторыкі? Варта яшчэ раз прыгадаць тытульную старонку раздзела:

> Continuatio | operis | Scholastici | Patris Caietani | Moraszewski | Professoris | Rhetorices et Poeseos | In Gimnasijs Zabialiensis | Anno D–ni 1787, Dec. 24|.

Першым з беларускіх даследнікаў варыянт перакладу тытулу прапанаваў, здаецца, на пачатку 1960-х гг. Якуб Усікаў:

> Працяг твораў рытара айца Каэтана Марашэўскага, прафесара рыторыкі і паэзіі Забяльскай гімназіі[4].

Крыху пазней А. Мальдзіс нязначна паправіў пераклад:

> Працяг твораў айца Каятана Марашэўскага, прафесара рыторыкі і паэтыкі Забельскай гімназіі[5].

Самае складанае і найважнейшае для нас у гэтым лацінамоўным тытуле – выраз "operis Scholastici". Ці маем мы права перакладаць яго як

---

[1] Г. Колас, "*Чы гараст, сподару*?" "ЛіМ" 1988, № 1 (1 студзеня).

[2] На жаль, пакуль не выяўленыя звесткі пра асабовы склад Забельскага канвенту 1780-х гг., але мы можам падаць інфармацыю пра Віленскі канвент за 1804 г. У кляштары св. Духа жыло блізу 50 святароў і братоў. Сярод іх – тры прафесары "w Szkole Zakonnej nauk Zakonnych" (так у XIX ст. сталі называць "studium generalne"). Гэтыя прафесары працавалі з 14 студэнтамі чатырохгадовага курсу тэалогіі і 13 студэнтамі курсу філасофіі. Гл.: LMAVB, f. 43, b. 3702: *Duomenys apie dominikonų vienuolynus buvusioje LDK teritorijoje (Звесткі пра дамініканскія кляштары на тэрыторыі былога ВКЛ)*, l. 41–41v.

[3] Гл.: А.Ф. Брыль, *Звесткі пра Каятана Марашэўскага, Міхала Цяцерскага і Ігнацыя Юрэвіча ў дакументах дамініканскага ордэна*, "Роднае слова" 2018, № 4, с. 3.

[4] Я. Усікаў, *Беларуская камедыя...*, с. 130.

[5] А. Мальдзіс, *Вакол Парнаса Забельскай калегіі...*,с. 163.

“творы”? *Вольнасць у няволі* і *Камедыя* сталі творамі для нас у XX стагоддзі. Для К. Марашэўскага ў першую чаргу – гэта працы дзеля школьных рытарычных практыкаванняў, школьных дыспутаў. Гэта – школьныя працы, у якія выяўляецца схаластычная канцэпцыя тагачаснае навукі і адукацыі, спалучэнне тэалагічнае дагматыкі з рацыяналістычнай логікай Арыстоцеля.

Усё тое, што ёсць у гэтым зборніку і што было ў зборніку, які не захаваўся[1], – выкарыстоўвалася К. Марашэўскім, але не ягоная ўласнасць у ягоным разуменні. Бо ж невыпадкова кожны тэкст завяршаецца формулай, якая прыкладна аднолькавая ў ледзь не ва ўсіх тагачасных школьных матэрыялах[2]: *Ad M*[aiorem]*: D*[ei]*: Gl*[oria]*m – Дзеля большае славы Божае*.

На наш погляд, ёсць падставы сумнявацца ў тым, што *Камедыя* належыць пяру К. Марашэўскага. Прынамсі, пакуль не выяўлена дакументаў, якія б пацвярджалі аўтарства прафесара паэтыкі і рыторыкі Забельскага канвенту. Аднак, прааналізаваўшы вытокі і крыніцы *Камедыі* (гл. ніжэй), мы мяркуем, што К. Марашэўскі мог на падставе даступных яму матэрыялаў езуіцкага школьнага тэатра падрыхтаваць тэкст у адпаведнасці з тагачаснымі паэтыкамі[3] і ўзорнымі “школьнымі камедыямі” Францішка Багамольца.

Нейкіх іншых паважных атрыбуцыйных гіпотэзаў адносна *Камедыі* мы пакуль не маем.

## Пра Каятана Марашэўскага

Цягам ста гадоў гісторыкі літаратуры ведалі пра Каятана Марашэўскага толькі тое, што было пазначанае ў рукапісе[4], выяўленым у Віленскай публічнай бібліятэцы на пачатку XX стагоддзя Уладзімірам Перацам[5], Антанінай Сычэўскай[6] і Яўхімам Карскім[7]: у сярэдзіне 1780-х гг. беларускі драматург з’яўляўся прафесарам рыторыкі і паэтыкі “Забельскага дамініканскага калегіума”[8].

---

[1] Маем на ўвазе сшытак, у якім былі іншыя “operis Scholastici” К. Марашэўскага.

[2] “...заканчивается обычнымъ славословіемъ, принятымъ въ учебникахъ и другихъ произведеніяхъ католическихъ школьныхъ авторовъ”. Гл.: В. Перетц, *Къ исторіи польскаго и русскаго народнаго театра...*, с. 276.

[3] Гл.: I. Kadulska, *Koncepcja komedii w poetykach szkół jezuickich*, “Pamiętnik Literacki” 1989, t. 80/2, s. 171–214.

[4] Гл.: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka (LMAVB), f. 18, b. 201, l. 1–96r.

[5] Гл.: В. Перетцъ, *Къ исторіи польскаго и русскаго народнаго театра...*, с. 248–319.

[6] Гл.: А. Сычевская, *Къ вопросу о Мольерѣ въ польской драматической литературѣ XVIII ст....*, с. 75–109.

[7] Е. Карскій, *Белорусы*, т. 2: *Язык белорусского племени*, кн. 3: *Очерки синтаксиса белорусского наречия. Дополнения и поправки*, Варшава 1912, с. 314.

[8] А. Мальдзіс, *Забельскі дамініканскі калегіум* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 тамах*, т. 3, Мінск 1996, с. 390–391.

І толькі ў апошні час Антон Францішак Брыль выявіў шэраг дакументаў, якія дазваляюць дадаць некалькі істотных штрыхоў у біяграфію К. Марашэўскага[1]. Па-першае, перад пачаткам 1788/1789 навучальнага года (г. зн. у жніўні 1788 г.) яго, відавочна, перавялі з Валынцаў у дамініканскі кляштар у Аглоне на пасаду выкладчыка (прафесара) у тамтэйшым "studium formalne"[2]. Па-другое, паводле спісу манахаў у 1810 г. яму прыкладна 55 гадоў[3] і ён прыёр[4] дамініканскага кляштара ў Шумску[5]. Па-трэцяе, у 1811 г. К. Марашэўскі памёр[6].

Г. зн., цяпер мы ведаем гады ягонага жыцця: К. Марашэўскі нарадзіўся прыкладна ў 1755 г., а памёр у 1811 г. І што ён амаль усё жыццё служыў дамініканскаму ордэну, стаўшы на схіле дзён нават прыёрам невялічкага кляштара. А вось звестак пра тое, адкуль паходзіў беларускі драматург пакуль не выяўлена.

Увогуле, прозвішча "Марашэўскі/Moraszewski" даволі рэдкае: адзінкавыя носьбіты яго сёння сустракаюцца ў Польшчы і на Украіне (рэсурс https://nazwiska-polskie.pl/Moraszewski фіксуе толькі шэсць асобаў з такім прозвішчам: 5 у мястэчку ***Przedecz*** Куяўска-Паморскага ваяводства і адну асобу ў мястэчку ***Złotów*** Вялікапольскага ваяводства). Цікава, што *Wielka genealogia Minakowskiego* падае 6 асобаў з прозвішчам "Марашэўскі", якія жылі ў XVIII–XIX стст. Амаль усе яны, здаецца, прадстаўнікі аднаго роду ды звязаныя з мястэчкам ***Chodecz*** Куяўска-Паморскага ваяводства. І толькі Emilia Moraszewska (пач. XIX ст. – ?) была звязаная з Віленшчынай і паўночна-заходняй Віцебшчынай[7]. [Прынамсі, у гэтым рэгіёне жылі ейныя крэўныя]. Цікава, што менавіта ў гэтым рэгіёне жыў і працаваў К. Марашэўскага)

Магчыма, варыянт прозвішча беларускага драматурга – "Марачэўскі". А яно больш пашыранае і вядомае. Дастаткова сказаць, што *Wielka genealogia Minakowskiego* фіксуе некалькі сотняў яго носьбітаў[8].

Вельмі верагодна, што К. Марашэўскі з дзяцінства быў звязаны з дамініканскім ордэнам, хоць не выключаем, што ён мог вучыцца ў адным з езуіцкіх калегіумаў.

---

[1] Гл.: А.Ф. Брыль, *Звесткі пра Каятана Марашэўскага ...*, с. 3–4.

[2] *Ibidem*, s. 3. Аўтар спасылаецца на: *Liber encyclicarum* [w:] Vilniaus universiteto biblioteka (VU biblioteka), f. 4, ap. 19123 (A. 386), l. 88v.

[3] Вусная інфармацыя А.Ф. Брыля. Спіс манахаў 1810 г. ім яшчэ неапублікаваны.

[4] *Ibidem*, s. 3. Аўтар спасылаецца на фотакопію згубленага рукапісу, які захоўваўся ў Вільні: Archiwum Dominikanów w Krakowie, PL 9: *Litua Militiae Angelico-Praedicatoriae per Magnum Ducatum Litvaniae*, s. 407 (281).

[5] Вуснае паведамленне А.Ф. Брыля.

[6] А.Ф. Брыль, *Звесткі пра Каятана Марашэўскага...*, с. 3–4. Аўтар спасылаецца на: *PP. & FF. Defuncti. Anno 1811* [w:] *Directorium divini offcii recitandi pro provincia Lithvaniae ordinis Praedicatorum, iuxta rubricas breviarii et missalis eiusdem ordinis diaecesano conformatum pro anno 1812*, Vilnae: Typis Basilianis [1811], b. p.

[7] *Wielka genealogia Minakowskiego* [online] https://wielcy.pl/wgm/?m=NG&t=PN&n=sw.129550 [дата доступу: 12.07.2021].

[8] *Wielka genealogia Minakowskiego* [online] http://wielcy.pl/wgm/i.php?qt=Moraczewski [дата доступу: 12.07.2021].

Як ужо паведамлялася, у 1788 г. К. Марашэўскі быў накіраваны ў Аглонскі дамініканскі кляштар, што знаходзіўся ў Інфлянтах[1], латышскай частцы Полацкага намесніцтва (блізу 100 км на паўночны захад ад Валынцаў), на пасаду прафесара тамтэйшага "studium formalne". Сярод публікацый пра Аглонскі кляштар цікавым падаецца артыкул Дамініка Ходзькі (блізу 1800 – 1863) *Аглона: Касцёл і кляштар аа. дамініканцаў*[2], у якім шмат звестак пра мінулае святыні; аднак постаць К. Марашэўскага, відаць, не была так значнай, каб захавацца ў аналах гісторыі. Не згадвае пра беларускага драматурга ў Аглоне і Валыняк, бо "аглонскіх дамініканцаў мы ведаем толькі ад першае чвэрці XIX стагоддзя з *Elenchusów zakonnych*"[3].

Пра жыццё і працу К. Марашэўскага з восені 1788 г. па 1810 г. звесткі пакуль не выяўленыя. За гэты час адбылося сем капітулаў Беларускае, а пасля "аб'яднанае" Літоўскае правінцый, і на кожнай з іх дамініканец мог атрымаць новае прызначэнне. Г. зн. да 1796 г. ён мог жыць не толькі ў Аглоне, але і ў адным з кляштараў Беларускае правінцыі: Рушоне, Посіне, Полацку, Оршы, Княжыцах і Валынцах. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітае да вышэй згаданых дамініканскіх асяродкаў дадаліся блізу сарака іншых, што ўваходзілі ў склад узноўленае Літоўскае правінцыі. Але "след" К. Марашэўскага, зусім нядаўна адшуканы А.Ф. Брылём, захаваўся толькі ў мястэчку Шумск (сёння: Šumskas, Літва, на самай мяжы з Беларуссю): у 1810 г. ён быў (магчыма, толькі атрымаў прызначэнне) на чале тамтэйшага кляштара. Праўда, у *Directorium…* Літоўскае правінцыі дамініканцаў за 1812 г. пазначана, што прыёр Шумскага кляштара памёр у 1811 г. Аднак, здаецца, не ў Шумску, бо яго няма ў "пахавальных метрыках" Шумскага касцёла св. Міхала Арханёла (інфармацыя А.Ф. Брыля).

У Шумску на пачатку XIX ст. ужо быў мураваны касцёл, а вось кляштар – адно драўляны[4]. Валыняк у сваёй публікацыі пра Шумскі

---

[1] "Аглона, м[ястэч]ка, Дынагургскі пав[ет], за 6 міляў ад Дынабурга, за 4,5 ад Краслаўкі, блізка Рушоны, малое, з касцёлам і дамініканскім кляштарам. У касцёле латэранскі алтар з абразам Прачыстае Маці, што ласкамі славіцца і цалкам падобны на троцкі. Касцёл быў пабудаваны ў піхтавым лесе (палатышску – aglenia), адсюль назву атрымала ўсё мястэчка". Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. I, Warszawa 1880, s. 24.

[2] "У кляштары Аглонскім, як і ў Посіне, адбываліся для духоўнай моладзі тэалагічныя і філасофскія «studia»: была таксама і маленькая школка на ўзор даўнейшых «scholasteryi klasztornych». Каб мястэчка было большае, дык і вучняў, пэўна, было б болей, бо з вёскі цяжка было бедным бацькам пасылаць хлопцаў на навуку, а кляштар таксама не меў магчымасці са свайго боку ўтрымліваць усіх уласным коштам". Гл.: D. Chodźko, *Agłona: Kościół i klasztor oo. dominikanów*, "Pamiętnik Religijno-Moralny" 1856, № 8, s. 163.

[3] Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej…*, s. 56.

[4] "Шумск, спачатку Паляны, м[ястэч]ка, Віленскі пав[ет] <…>. Раней тут быў катал[іцкі] касцёл св. Міхала, узведзены ў 1696 г. Міхалам з Дзяжгова Шумскім, падваяводам і падстоліем віленскім, і ягонай жонкай Гальшкай з роду Ста-

кляштар не згадвае К. Марашэўскага, хоць шмат увагі прысвячае ягонаму наступніку Віктару Лаўрыновічу,

> які ў 1812 г., калі французскае войска наплыло ў Літву і страшныя знішчэнні ды спусташэнні ў вялікім маштабе чыніла, будучы тут прыёрам, і на хвіліну не хацеў Шумска пакінуць, ратаваў, што мог і як удавалася, выцерпеўшы нямала знявагаў, здзекаў і неаднойчы нават фізічнага ўздзеяння. Пасля сканчэння пераходаў непрыяцельскіх войскаў а. Лаўрыновіч стараўся прывесці кляштар да зноснага існавання, для касцёла раздабыў самыя патрэбныя, хоць і сціплыя прадметы; пастараўся пра дапамогу сялянам, здабываючы для іх ежу і самае неабходнае; сякое-такое ўратаванне кляшторных і фальваркавых пабудоваў сталася толькі дзякуючы ягонай нястомнай энергіі ды руплівасці[1].

Звернем яшчэ ўвагу на інфармацыю Валыняка, што ў Шумскім касцёле была калісь памятная дошка, якая сведчыла пра пахаванага тут суддзю Ашмянскага павета Казіміра Барэйку-Ходзьку (1739–1804)[2], крэўнага (брата?) бацькі[3] Яна Ходзькі (1777–1851). А г. зн. Ігнацы Ходзька (1794–1861), пэўна ж, ведаючы гісторыю недалёкага Шумскага кляштара, невыпадкова даў герою *Успамінаў квестара* прозвішча "Лаўрыновіч".

Маем надзею, што некалі мы будзем ведаць значна больш і пра жыццё, і спадзяёмся – пра творчасць К. Марашэўскага.

---

хоўскіх, куды ён запрасіў дамініканцаў, пабудаваўшы для іх у 1705 г. кляштар. Потым дамініканцы ўзвялі мураваны касцёл у 1767 г., а кляштар – у 1833 г. Да катал[іцкай] парафіі належала капліца ў Медніках". Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XII, Warszawa 1892, s. 76.

[1] Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej…*, s. 215–216.

[2] *Ibidem*, s. 214.

[3] Пра Юзафа Ходзьку гл.: *Herbarz Polski Kaspra Niesieckiego, S. J.*, wyd. J.N. Bobrowicza, t. III, Lipsk 1839, s. 67.

# Пра трагедыю *Вольнасць ў няволі*

Тэма гэтага драматургічнага твора грунтуецца на легендарных перыпетыях лёсу знанага палкаводца (грэц. *στρατηγός*, лац. *magister militum*) Усходняе Рымскае імперыі Флафія Велізарыя (грэц. *Φλάβιος Βελισάριος*, лац. *Flavius Belisarius*, 1500? – 1565). Гісторыкі называлі яго адным з найвялікшых вайсковых стратэгаў і тактыкаў візантыйскае гісторыі. Дзякуючы яму, імперыя Юстыніяна I (483–565) значна пашырыла свае межы, да сярэдзіны VI стагоддзя амаль авалодала тэрыторыяй былое Заходняе Рымскае імперыі, якая перастала існаваць у 476 г. Цягам свае вайсковае кар'еры Велізарый нязменна супернічаў з Нарсэсам (478–573), таксама палкаводцам і любімцам Юстыніяна I ды ягонае жонкі Феадоры. Цікава, што сярэднявечныя гісторыкі апісваюць Нарсэса як чалавека справядлівага, бескарыснага і пабожнага. І нават Пракопі Кесарыйскі (490? – пасля 565), сакратар Велізарыя, пісаў, што Нарсэс – "человек острого ума и энергичный более, чем это свойственно евнухам"[1].

Праўда, Велізарый характарызуецца ім (за выключэннем, хіба, кнігі *Тайная гісторыя*[2], грэц. *Ἀνέκδοτα*, лац. *Historia Arcana*) значна больш станоўча:

> Ён быў прыгожы і высокі ростам, пераўзыходзіў усіх высакароднасцю выразам на твары. І з усімі ён быў настолькі мяккі і даступны, што быў падобны да чалавека вельмі беднага і бязроднаму. Любоў да яго як да начальніка з боку воінаў і землябаў была выключная. Справа ў тым, што ў адносінах да воінаў ён больш, чым хто-небудзь іншы, быў шчодрым. Калі хто з ваяроў у сутычках зазнаваў якое-небудзь няшчасце (раненне), то ён перш за ўсё суцішаў ягоныя пакуты, выкліканыя ранай, буйнымі грашовымі падарункамі, а тым, хто найбольш вызначыўся ён дазваляў мець як ганаровыя адзнакі бранзалеты і каралі; калі ж ваяр губляў у бітве або каня, або лук, або іншую якую зброю, то ён зараз жа атрымліваў ад Велізарыя іншае. Землябы любілі яго за тое, што ён настолькі беражліва і клапатліва ставіўся да іх, што пад яго камандаваннем яны не адчувалі аніякага гвалту; насупраць, усе тыя, у краіне якіх ён знаходзіўся са сваім войскам, звычайна багацелі звыш меры, так як усё, што прадавалася імі, ён у іх браў па тым кошце, які яны прасілі. І калі даспяваў хлеб, ён вельмі клапатліва прымаў

[1] Прокопий из Кесарии, *Война з готами*, пер. С. Кондратьева, Москва 1950, с. 205.
[2] Да сённяшняга дня праблема аўтарства гэтае кнігі канчаткова не вырашана.

> меры, каб ягоная конніца не прычыніла каму-небудзь стратаў. Калі на дрэвах віселі ўжо спелыя плады, ён строга забараняў каму б там ні было кранаць іх. Да ўсяго гэтага ён адрозніваўся выдатнай стрыманасцю: не дакранаўся да аніякае іншае жанчыны, апрача свае жонкі[1].

Юстыніян I высока цаніў здольнасці і маральныя якасці Велізарыя. Праўда, не раз палкаводзец трапляў і ў няміласць імператара. Так, на пачатку 560-х гг. выкрытыя змоўшчыкі далі паказанні на Велізарыя. У выніку ён страціў пасаду і свае маёнткі, быў пасаджаны пад хатні арышт. І толькі праз паўгода атрымаў волю і дараванне імператара[2].

З цягам часу народныя апавяданні пра Велізарыя драматызаваліся. У XII стагоддзя гісторык-храніст і багаслоў Іаан Занара (грэц. *Ἰωάννης Ζωναρᾶς*, 1074? – пасля 1159) даводзіў, што Велізарый заставаўся ў зняволенні да канца жыцця, а гісторык, паэт і багаслоў Міхал Глыка (*Μιχαήλ Γλυκάς*, 1125–1204) сцвярджаў (*Τοῦ κύρου Μιχαήλ τοῦ Γλύκα βίβλος χρονική*), што пераможца персаў, вандалаў, готаў і гунаў сядзеў і чакаў, калі кат адсячэ яму галаву. Яшчэ далей пайшоў філолаг, каментатар антычных аўтараў і паэт Іаан Цэца (грэц. *Ἰωάννης Τζέτζης*, 1110? – 1180?), які пісаў, што Велізарый быў асляплены і вымушаны прасіць у помслівага Юстыніяна міласціну.

У XIV–XV ст., яшчэ да заняпаду Рамейскае Імперыі (Візантыяю яе пачалі называць у XIX ст.) узнікла *Аповесць пра выдатнага чалавека, якога звалі Велізарый* (*Διήγησις του θαυμαστού ανδρός του λεγομένου Βελισσαρίου*), у якой ішла гаворка і пра вялікую славу палкаводца, і пра яго трагічны канец – асляпленне і жабрацтва. Твор упершыню быў надрукаваны ў Венецыі ў 1525 г. і стаў асноваю вобраза Велізарыя ў еўрапейскім мастацтве[3].

Адным з першых да постаці Велізарыя звярнуўся нямецкі драматург і паэт, прафесар рыторыкі езуіцкага каледжа ў Мюнхене Якаб Бідэрман (*Jacob Bidermann*, 1578–1639). Трагедыю *De Belisario dvce christiano ab summa Gloriae Felicitate in extrema infortunij ludibria prolapso sub Imperatore Justiniano* ён напісаў і паставіў на сцэне школьнага тэатра ў 1607 г. Магчыма, у хуткім часе яна была і выдадзеная, але сёння даступная толькі ў зборніку *Ludi theatrales sacri sive opera comica posthuma a R. P. Jacobo Bidermanno Soc. Jesu…*. (Monachii 1666, s. 1–77).

У 1625 г. іспанскі драматург Антоніа Міра дэ Амэскуа (1578? – 1636?) напісаў трагедыю *Найвялікшы прыклад няшчасця* (*El ejemplo mayor de la desdicha*), якую выкарыстаў французскі паэт і драматург Жан Ротру (*Jean Rotrou*, 1609–1650) у трагедыі *Belisarius* (1644).

---

[1] Прокопий из Кесарии, *Война з готами*, пер. С. Кондратьева, Москва 1950, с. 261.
[2] Βελισάριος [online] https://el.wikipedia.org/wiki/%CE%92%CE%B5%CE%BB%CE%B9%CF%83%CE%AC%CF%81%CE%B9%CE%BF%CF%82 [доступ: 3.09.2021].
[3] *Ibidem*.

Прыкладна ў гэтым часе італьянскі мастак Сальватор Роза (1615–1673) стварыў карціну *Belisarius*, копія якое захавалася[1]. Гэта, здаецца, першы вобраз Велізарыя ў выяўленчым мастацтве.

На пачатку XVIII стагоддзя лёс візантыйскага палкаводца ўвасобіў у драматургічным творы ангельскі гісторык і паэт Джон Олдміксан (*John Oldmixon*, 1673–1742). Як сведчыць тытул, *Жыццё і гісторыя Велізарыя, які заваяваў Афрыку і Італію, з апісаннем яго ганьбы, няўдзячнасці рымлян і паралеляў паміж ім і сучаснымі героямі* (*The Life and History of Belisarius: Who Conquer'd Africa and Italy, with an Account of His Disgrace, the Ingratitude of the Romans, and a Parallel Between Him and a Modern Heroe*, 1713) – асноваю твора стала легенда, а не гістарычныя працы сучаснікаў Велізарыя.

Падобным шляхам пайшлі таксама ангельскі пісьменнік Уільям Філіпс (трагедыя *Belisarius*, 1724) ды вядомы французскі філосаф і літаратар Жан Франсуа Мармантэль (*Jean-François Marmontel*, 1723–1799). Раман апошняга *Bélisaire* (1767) карыстаўся аграмаднаю папулярнасцю. Лічыцца, што шэраг еўрапейскіх мастакоў натхніліся менавіта ім. Перш за ўсё трэба назваць французскіх мастакоў: Франсуа Андрэ Венсана (*François-André Vincent*, 1746–1816), які ў 1776 г. напісаў карціну *Велізарыя, рымскага палкаводца, які мусіць прасіць міласціну на вуліцы, пазнаў рымскі жаўнер* (*Belisarius, a Roman general reduced to begging on the street, recognized by a Roman soldier*)[2]; Жана Франсуа П'ера Пейрона (*Jean-François Pierre Peyron*, 1744–1814) – *Велізарый прымае гасціннасць селяніна, які калісь служыў у яго* (*Bélisaire recevant l'hospitalité d'un paysan ayant servi sous ses ordres*, 1779)[3]; Жак Луі Давід (*Jacques-Louis David*, 1748–1825) – *Велізарый просіць міласціну* (*Bélisaire demandant l'aumône*, 1780)[4].

Што было вядома з гэтых твораў мастацтва ў 1770-я – 1780-я гг. на беларускіх землях (у складзе Расейскае імперыі)? Вельмі верагодна, што трагедыю Я. Бідэрмана чыталі ў беларускіх езуіцкіх вучэльнях. Гэты аўтар быў адным з самых вядомых у ордэне, а ягоныя рэжысёрскія рашэнні ды майстэрства сцэнізацыі лічыліся ўзорнымі, наследаваліся школьным тэатрам. І нават барочная стылістыка Я. Бідэрмана не можа сведчыць пра адсутнасць уплыву ягонае трагедыі на аўтара *Вольнасці ў няволі*. Наадварот, вобраз Фартуны, створаны ў трагедыі К. Марашэўскага, мог быць запазычаны якраз у Я. Бідэрмана.

---

[1] S. Rosa, *Belisarius* [online] https://artuk.org/discover/artworks/belisarius-145593/search/actor:rosa-salvator-16151673/page/6/view_as/grid [доступ: 3.09.2021].

[2] F.-A. Vincent, *Bélisaire*... [online] https://fr.wikipedia.org/wiki/Fran%C3%A7ois-Andr% C3%A9_Vincent#/media/Fichier:Belisarius_by_Francois-Andre_Vincent.jpg [доступ: 5.09.2021].

[3] J.-F. P. Peyron, *Bélisaire*... [online] https://fr.wikipedia.org/wiki/Pierre_Pey ron#/media/Fichier:Belisarius_by_Peyron.jpg [доступ: 5.09.2021].

[4] J.-L. David, *Bélisaire*... [online] https://fr.wikipedia.org/wiki/Jacques-Louis_David#/media/Fichier:David_-_Belisarius.jpg [доступ: 5.09.2021].

Але найбольшую сувязь забельскае *Вольнасці ў няволі* мы бачым з расейскім перакладам рамана Ж.Ф. Мармантэля, які выйшаў у свет у 1768 г.[1], а пасля шматразова перавыдаваўся. Справа ў тым, што пераклад ажыццявіла, атрымаўшы першавыданне ад аўтара, Кацярына II і ейныя прыдворныя[2], а беларускія езуіты, а магчыма, і прадстаўнікі іншых каталіцкіх ордэнаў пільна прыглядаліся, што дзеялася пры царскім двары і што рэкамендавалася царскім дваром. Дыдактычная скіраванасць рамана французскага пісьменніка, ягонае імкненне прапагандаваць лепшыя якасці чалавека-грамадзяніна як нельга лепш адпавядала мэтам і задачам школьнага выхавання. Гэта было якраз тое, да чаго імкнуліся прафесары езуіцкіх калегіумаў у навучальным працэсе. Апрача таго, у трагедыі *Вольнасць у няволі* мы заўважаем шэраг сюжэтных элементаў, запазычаных з рамана Ж.Ф. Мармантэля. Так, Велізарый Ж.Ф. Мармантэля кажа, што "завистники <…> на меня доносили, что я проискиваю престола, когда не помышлялъ я, какъ о гробѣ" (с. 15). Праўда, галоўным "завистникомъ" у французскага пісьменніка выступае не Нарсэс, а жонка Юстыніяна I Феадора. Гэта менавіта яна раіць: "пусть <…> его отдатутъ имъ, но не въ состояніи повелѣвать ими. <…> народъ увидѣлъ его изъ тюрьмы вышедша съ выколотыми глазами" (с. 41). Феадоры ў забельскай трагедыі няма, бо паводле тагачасных школьных паэтыкаў "белагаловых" не магло быць у драматычным творы. Зрэшты, Нарсэс у Ж.Ф. Мармантэля, хоць і згадваецца даволі рэдка, але ён хутчэй адмоўны, чым станоўчы герой. У вусны Велізарыя аўтар укладвае наступныя словы: "Нарсисъ отправленъ былъ въ Италію, для препятствованія моимъ благополучнымъ успехомъ" (с. 104). Істотна таксама тое, што Велізарый з беларускае трагедыі паўтарае шмат якія маральна-дыдактычныя выказванні свайго французскага папярэдніка. Напрыклад, рытарычнае пытанне героя: "Можноль увѣрять людей мечнымъ удареніемъ?" фактычна паўтараецца ў беларускім творы: "czy rozumiesz że groźbą i bolesnymi razami każdego naprawić można Człowieka?"

І апошняе. На нашую думку, тытул трагедыі беларускага аўтара не зусім адпавядае зместу твора: галоўны герой, пазбаўлены пасады і маёнткаў ды аслеплены, усё ж не пазбаўлены вольнасці. Дык ці не "вольнасць у няволі" заклікаў шукаць драматург грамадзянаў акупаваных беларускіх зямель?

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: LMAVB, f. 18, b. 201, l. 1–13 r.

---

[1] *Велизеръ, сочиненія господина Мармонтеля, члена французской Академіи, переведенъ на Волгѣ*. Печатанъ при Императорскомъ Московскомъ Университетѣ 1768 года.

[2] Г. Ибнеева, *Общественное воспитание в политической практике Екатерины II: к истории перевода романа Ж.Ф. Мармонтеля Велизарий*, "Известия Иркутского государственного университета", 2014, сер. "История", т. 9, с. 24–29.

|1r|

# Continuatio

## operis
## Scholastici
## Patris Caietani
## Moraszewski
## Profeſsoris
## Rhetorices et Poeseos
## In Gimnasijs Zabialiensis
## Anno D–ni Ã787, Dec. 24

|1v|

# Tragedya

# Wolność w|Niewoli

## Treść Rzeczy

Bellizaryuſz[1] Wodz[2] Rzymſkich Woysk będąc oſkarżony o chęć Samowładztwa fałszywym udaniem Podhlebcow Cesarza, a nieprzyjacioł Jego został potępiony na wyłupienie oczu, Które straciwſzy dla prawdy, Którą gromił niekarnych, nie|odstąpił jednak Jey.

## Osoby

Justynian – – Cesarz
Bellizaryusz Wodz Ãwszy
Narses – – wodz 2gi
Athanagoraſ[3] } *Przyjaciele Ceſsarscy*
Philotas }
Biedoponoſki Chłopiec Bellizaryusſa.

Scena odprawuje|się bliſko Pałacu

|2r|

## Fortuna

I

## Intermedyum 1wſze

Nie tak sądzą ~~lud~~ Bogowie jak ludzie mniemają
Ten w ludzkiey estymie, ow w niełasce Boga
Ci do czasu mych darow obſicie doznają
Onych choćby jaka bądź trapiła ich trwoga
Trwają stale przy Cnocie, tych ci chwalić trzeba
Boć ta jeſt przewodniczką i będzie da Nieba.

II

Sławnego Wodza męstwo nie|wysławiać chcemy
Ale pokazać światu Cnotę znamienitą
Zachęcić wſzystkich do niey jedynie dążemy
Dobrą niezbłąkaną, ale pospolitą
Chcemy ukazać Cnotę że zawſze jeſt miła
Kto ją chce odziedziczyć niech odwazy[4] siła.

III

Jednemu na czas sprzyjam, odbiegam drugiego
Temu w oczach podchlebiam, temu zaś odmawiam
Pierwszy|się zdania trzyma niezważnie swojego
Drugi cierpi choć mu też i dobrze domawiam
Tego chwalić powinnam i w|naśladowanie
Podać wſzystkim, którzy chcą mieć ztąd zbudowanie.

---

[1] Тут і далей, як і ў рукапісе, знакам **ſ** (варыянт графемы ***s***) мы перадаём гук [***s***].
[2] У рукапісе даволі часта літара ***o*** з'яўляецца на месцы ***ó***.
[3] У рукапісе імя падаецца таксама як *Athenagoras*.
[4] У рукапісе даволі часта літара ***z*** з'яўляецца на месцы ***ż***.

## AKT Ãwszy.

## Scena Ãwsza

Narses

Cieszyć|się dopioro[1] nam potrzeba z|pożądanego Pokoju, żądaliśmy go dawno, cieszemy|się z|niego, bo cóż może być nad pokoy lepszego? mówiąc pospolicie; cieszemy|się prawda, ale lepiey, gdy powiem, cieszą|się, bo nie|wszyscy, bo Ja sam z|tego pokoju nieukontentowany |2v| jestem, nie|ztąd|się smucę, że pokoy uczyniony, ale ztąd że nie mnie tego pokoju uznają za sprawcę... to to jest, co mnie niespokoynym czyni, to, co mnie w ostatnią wprawuje[2] tęsknotę, to co we mnie krew wzbudrza, bym ostatnich użył sposobow, nayprzod do przytłumienia sławy tego, który Pańſtwo do porządku przywiodł, i któremu tak wielkie pospolſtwo daje pochwały, potym[3] bym i Jego bezkarnego nie|puścił, przez to poznają ludzie, a kiedy nie, to przynaymniey tak rozumieć będą, że winien był, że|się na niegodziwy jaki odważył występek, że godną występkowi swemu odebrał zapłatę. O to|się starać muſzę, tego dokazać, ten jest cel teraznieyszego[4] starania mego. Bo jakże znieść mogę tę obelgę, kiedy luſtrując Woysko podać mi kazał Regiſtra wziętych i rozdanych na żołnierzy pieniędzy? Prawda nie mogłem się w tym sprzeciwić, ale jak to dla mnie trudno było; kRotki termin nie|dawał nawet czasu do spoczynku, myśliłem ale w|myslach[5] moich nie|było porządku, raz myśliłem na czysto przepisane zataiwszy niektóre podać, lecz bojaźń tamę czyniła, gdyby kto oczewiście nie|dowiodł z moich|że samych żołnierzy, y nie|pokazał na oko oczewiſtey mojey zdrady skarbu publicznego. Napisałem wiernie i do Rąk sługi, ale można go było nazwać i Przyjacielem podałem do skalkulowania, ten nie|wiedząc o moich zamysłach, wiernie swojey powinności zadość uczynił, i mnie przez dobroć serca swego przestrzegł pokazując omyłkę, bym ją poprawić starał|się, Ja zaufany w|moim rozumie, mniemając że dość będzie słowka jednego na pokonanie tego to mych zamysłow przeciwnika Bellizary-zaryuſza[6] w|płaz to puściłem, i nie|chciałem nawet słuchać radzącego mi dobrze sługi Jego. Mowiłem sam w|sobie, nic mi|się nie|ſtanie, Łaſka Cezarſka wszystko to zaspokoić potrafi, ona mnie znowu w teraznieyszym utwierdzi ſtanie, ona na ręce moje rząd wiem że poleci woyska, ona ułagodzi[7] i zbije choćby i słuszne Bellizaryuſza doniesienia[8].

---

[1] Перапісвальнік амаль нязменна *dopiero* падаваў як *dopioro*.
[2] У рукапісе даволі часта дзеясловы 1-е асобы адз. л. заканчваюцца не на -***ę***, а на -***e***.
[3] Беларусізм. Трэба: *potem*.
[4] У рукапісе даволі часта літара ***z*** з'яўляецца на месцы ***ź***. Трэба: *teraźnieyszego*.
[5] У рукапісе даволі часта літара ***s*** з'яўляецца на месцы ***ś***.
[6] Перапісвальнік, пераносячы слова, двойчы паўтарыў ягоную частку.
[7] У гэтым слове літара ***g*** папраўленая з літары ***d***.
[8] Кустода: *Scena 2ga*. *Narzeſ Athanagoraſ*.

|3r| **Scena druga.**

Narses – Athenagoras.

Athenagor. Czy nie|był tu Cesarz? nie|wiem gdzie go znaydę.
Narses. Alboż tu Cesarz znaydować|się miał?
Athenagor. Tu poszedł, i nam za sobą iść kazał, lecz nie|wiem gdzieby|się zabawił.
Narses. Musiał|się jeszcze w|Pałacu zatrzymać, a tyś Przyjacielu nie|postrzegł.
Athenagor. Może i to być, bo ja prawda nie|zaraz, ale nie|bawiąc po|nim wyszedłem, i nie|widziałem dokąd|się udał.
Naszes. Mnieysza oto! a w|jakim Pan nasz dopioro humorze?
Athanagor. Poznałem że zmieszany troche, tylko nie|wiem przyczyny.
Narses. Przyczyny niedaleko szukać, Bellizaryusz musi być przyczyną.
Athanagor. Jakby to być mogło?
Narses. Oto tak: Bellizaryusz wiadomo jaki Człowiek (: między nami mówiąc prawdę mówiący:)[1] ten mówię Bellizaryusz musiał jakie niepomyślne Cesarzowi donieść nowiny, a ztąd Cesarz niespokoyny.
Athanagor. Ale jakże niespokoyny, uważałem po twarzy Jego.
Narses. Moy Przyjacielu jeśteśli ty Przyjacelem Cesarskim, albo nie?
Athenagor. Coż te się znaczy pytanie? te mnie w|zadumienie wprawuje; Ja tyle lat przy dworze zostaje Cesarza, a naymnieyszego nie|miałem powątpiwania o|przychilności mojey ku Cesarzowi.
Narses. Otoż kiedy ty życzysz dobrze Cesarzowi, to|się do mojey nakłoń i przychil strony.
Athanagor. Z Wielką ochotą, bo jak ja kocham Cesarza, tak też ządam Go zawsze widzieć w wesołym humorze.
Narses. Patrzay byś był ostróżny na Bellizaryusza zasadzki, skryty to Człowiek, ale ma rozum, tenci mu we wszystkich Jego szczęści zamysłach.
Athan. Cóż Bellizaryusz do nas należy?
Narses. Pytasz|się co Bellizaryusz do nas należy? a któż jest pierwszym nieprzyjacielem naszym? kto tak ścisło kiedy wglądał w|postępki nasze? kto tak uciążliwie wybadywał|się o expensach naszych? Kto (: i czy to słyszano kiedy:)[2] domagał|się od początku rządu naszego Kalkulacyi, zkąd co wzięto, na co co wyexpensowano? zkądże to? czy to słuszne rzecz czy to kiedykolwiek w naszym woysku praktykowano? nie zniosę Ja tey hańby, nie|wytrzymam nie|ścierpię, pomszczę|się krzywdy naszey, ukażę nieprzyjaciela naszego[3].
|3v| Athan:[4] Ale coż? On silnieyszy od nas, nic mu nie|zrobiemy.
Narses. Trzeba wprzod myśleć o ukróceniu tych sił, a potym już o Osobie.

---

[1] Звычайна ў дужках між двукроп’яў (: :) перапісвальнік падаваў аўтарскія рэмаркі, але ў дадзеным выпадку – гэта, відаць, пабочныя словы ў мове героя.
[2] Тое самае.
[3] Кустода: *Athenagoraſ.*
[4] Згодна з тагачаснай традыцыяй скарачэнне слова сігналізавалася двукроп’ем. У дадзеным рукапісе гэтае правіла выкарыстоўвалася непаслядоўна.

Athan: Dobrze myśl, ja Ci pomocą będę. – (: odhodzi:)
Nar. Myśleć, myśleć... cóż?... na tym konkluzya wypadnie zeby go zgubić, ale tylko jak? On mocny w|swym rozumie, on dzielny w|swym Woysku, bo by|się każdy za niego ubić dał, to to jeſt naywiększa przeſzkoda... Trzeba skrycie tę rzecz czynić, trzeba mieć baczność na wszystkie strony, bo kiedy|się on o tym dowie, wszystko za nic poydzie, a|my hańbą nakarmieni będziemy. Ale podobno czy nie Ceſsarz przychodzi. Będę go do naſzego nakłaniał zamysłu.

## Scena trzeycia.

Juſtynian Narses.

Juſtyn: Czym|się dopioro tu zabawiaſz?
Narses. Nayjaśn: Pan zastał mnie właśnie w czasie, w którym dążyłem do ucisnienia stop Waſzey Ceſsarskiey Mci.
Juſtyn: Nie słowa jednają kredyt lecz postemki, wiadome mi są twoje Narsesie dzieła, te ci zupełny u mnie zjednały szacunek.
Narseſ. Nie zasłuzyłem na tak wysokie dla mnie dopioro wyrażone względy; nie|poprzedziła bowiem żadna moja zasługa.
Justyn: Chwalę pokorę twoją, ta tym większy tobie jedna szacunek.
Narses. Obawiam|się... ale raczy mi Nayjaſn: Pan darować, gdy widząc Waſzą Ceſsarską Mć nie co zmieszanego o przyczynę pytać odważam|się.
Justyn: Prawda żem nie co zmieszany, bo zamysły moje skutku wziąć nie mogą.
Nar. Jakie są zamysły waſzey Ceſsarskiey Mci.
Juſtyn. Chciałbym inſzą w Woysku wprowadzić karność, bo widzę, że Woysku mojemu w|czasie potrzeby nie barzo[1] ufać można.
[Narses][2].
Juſtyn: Dla czegoż to? alboż masz związane ręcę?
Nar. Tak jeſt że mam, Bellizaryuſz mi one zamknoł[3].
Juſtyn. Coż to ma|się znaczyć? co mnie mówisz o Człeku tak Rzeczy=Pospolitey potrzebnym? w|czym on tobie przeciwny?
Narses. W Tym, że zjednał sobie afekt u wszystkich żołnierzy przez swoją zmysloną łagodność, przez pozorną szczodrobliwość, i przez podchlebne dogadzenie woli ich.
Juſtyn. Coż to|się znaczy zmyślona łagodność, pozorna szczodrobliwość?
Narseſ. Przez to|się znaczy, że On kiedy przybędzie do któregokolwiek obozu, tam|się zaraz pilnie bada u|każdego żołnierza, czy niema jakiey krzywdy od Officerow i komendanta: Ci wiadomo jako żołnierze niecierpiący naymnieyszego upomnienia, skarżą|się przed nim, udają komendanta za Okrutnika, że ich bezwinnie karze, że im należney nie|wypłaca płaty, y...[4]

---

[1] Перапісвальнік стала піша *barzo*, а не *bardzo*.
[2] Тут, відаць, перапісвальнік прапусціў рэпліку Нарсэса.
[3] У рукапісе зрэдчас літара ***o*** з'яўляецца на месцы ***ą***.
[4] Кустода: *Justyn: Coż on na to? jak on.*

|4r| Juſtyn: Cóż on na to? jak on w|tey mierze postempuje[1]?

Narses. Gromi publicznie przed wszystkiemi komendantow i Officerow, każdemu zaległą płatę wypłacić nakazuje, choć|się ona czym innym nadgrodziła, nie|uważa na Komendantow przyczyny i dowody, ale absolutnie z|nimi postempuje.

Juſtyn: Nic tu nie jest nagannego, bo on chce utrzymać woysko w|swym rygorze.

Narzes. Prawda, ale nie tani jeſt sposób utrzymywania. Cóż będzie po Woyſku, kiedy nie będzie Officyerow?

Juſtyn: Jak to? alboż ich mało jest, gdzież|się oni podzieją?

Narses. Niemal wszyscy chcą dziękować Waſzey Ceſsarskiey Mci za służbę.

Justyn. Dla czego?

Narses. Dla Bellizaryuſza.

Justyn. Cóż to się znaczy?

Nar. Że nie|mogą wytrzymać absolutnego Jego rządu.

Justyn. Niech|się nie|troszczą, niech będą dobrzy, a Bellizaryuſz będzie dla nich lepszy. (: odchodzi:)

## Scena Czwarta.

Narses potem Athenagoras.

Narses. Trwoży mnie fortuna uważając rozmowę Ceſsarza, nie|spodziewałem|się takiego zdania, rozumiałem że na pierwſze moie przystanie doniesienie aż oto omyliłem|się, spodziewałem|się, że posłuchawszy mojego doniesienia, surowy nań zaraz wyda dekret, aż tu dopioro poznaje, że wiele mi jeszcze pracować potrzeba, poki do skutku nie|przyprowadzę zamysłow moich, muszę jednak tego obrzydliwego Dziada z|nog zwalić, muszę Jego moc ukrucić, muſzę za tyle mi choć politycznie~~ch~~ dawanych przymowek zawdzięczyć, ostatnich uymę|się sposobow, kiedy będę widział, ze moje zamysły skutku nie biorą.

Athen. Dobrze że ja tu WPª znayduję, chcę|się spytać, czy był tu Ceſsarz?

Narses. Był i niedawno ztąd odszedł, mniemam że do Pałacu.

Athen. Mam barzo pilny Jnteres, i chciałbym jak nayprędzey Ceſsarza obaczyć.

Nar. Cóż tam za Jnteres nagli cię tak spieſzno do Ceſsarza?

Athen. Chcę oznaymić Ceſsarzowi że wielki rozruch w Woysku dopioro.

Narses. Zkądże ten rozruch?

Athenagor. Nie|wiem, od nikogo nic nie|słyszałem, tylko wszyscy chodzą jak powarzeni, ani słowka dopytyć|się nie|można, jedni mówią że im cięszko, drudzy i tych więcey, że im wcale było dobrze, tylko teraz obawiają|się, aby jeżeli pod inny doſtaną|się rząd, nie było im we trzynasob gorzey.

Narseſ. Nie|uważay Przyjacielu, toć to jest pospolito Żołnierzom nie|nawidzieć Karności żołnierſkiey.

Athen. Ale kiedy i Bellizaryusz sam nie|mogł tego poskromić.

---

[1] У рукапісе часта літары ***em*** з'яўляецца на месцы ***ę***.

Nar. Nie|znasz Przyjacielu Bellizaryuſza, on te rozruchi wszczoł, jakże je ma poskromić[1].

|4v| Athen: Nie|wierzę Ja temu nigdy.

Nar: Wierzyć powinieneś, gdy ci rzecz dowodami stwierdzona ukaże|się; wiesz jaką ma Bellizaryusz w Woysku miłość.

Athen: Poznałem i poznaje dopioro.

Narses. Na cóż się o|przyczynie buntu pytaſz?

Athen: Nie rozumiem by te z niego powſtały bunty.

Narses. Z|Kogoż więcey? On nienawisny nam wszystkim, on żąda byśmy wſzyscy złożywszy swą komędę, prostemi pod nim zostali żołnierzami, on naszych|że samych sołdatow już dobrocią swoją na swą przeciągnoł stronę, czegoż|się mamy spodziewać więcey, tylko abyśmy zebrawſzy swą ruchomość uszli na wieś, ale czyż to honor dla nas? czy to sława?

Athen: Coż za przyczyna takiey desperacyi, wszak Bellizaryuſz nie jest Cesarzem.

Narses. Jest więcey jak Ceſsarzem, bo więcey wazy|się czynić, aniżeli Ceſsarz.

Athen: Co mówiſz? nie|spodziewałem się nigdy tego słyszeć z ust WPª że jest ktoś wyższy nad Ceſsarza.

Narses. Bellizaryusz już jeſt wyższym, gdyż woysko niewprzod Ceſsrskich jak Bellizaryusza usłuchałoby rozkazow.

Athen: Nie|rozumiem tego? ale... kiedy to prawda, trzeba temu zapobiec.

Narses. Nic nie wskurasz mocny w|swym woysku ma miłość u wszystkich.

Athen: Cóż to do tego, WPan maſz swoją komendę, wyrozumiey z|niey co mysli, a potym osnujesz dalsze swe zamysły.

Narses. Dobre są twoje rady, ale jednak obawiam|się.

Athen: Czego się tu obawiać, stojąc przy sprawiedliwości.

Narses. Toż to bo i bieda... Cóż... jakiż szelest... czy nie|przychodzi tu Ceſsarz... ach nie...

## Scena pjąta.

Bellizaryusz, Narses y Athenagoras.

Bellizar: Czym|się tu mili moi Przyjaciele zabawiacie?

Narses. Rozmawialiśmy o|przygodach naszych dawnieyszych, i na przyszłe sposoby podawaliśmy.

Bellizar: Chwalę waszą myśl... a jaki sposob wymyśliliscie na wprowadzenie karności żołnierſkiey do Pułkow waszych?

Narzes. My o|tym myśleć nie|mielismy przyczyny, bo pułki naſze w|dobrym są porządku.

Bellizar: Dziwuję|się że tak mówiſz, bo gdyby kto nieroztropny tak mówił, wybaczyłbym onemu, ale w Osobie twey takie zdanie nie jest ʷcale godne. Lustrowałem sam cały Pułk WPª nie znalazłem i jednego nawet, któryby albo przez niekarność, albo przez narzekanie i paſsyą

[1] Кустода: *Athenagoraſ. Nie|wierzę.*

nie|zasłużył na wyglozowanie[1] go z Regeſtru pułkowego... A wszak WPª był zlecony dawniey urząd wybierania żołnierzy, wszak po tylekroć zlecany[2] |5r| dozor nad całą to dywizyą, wszakże lustrowałeś corocznie wszystkie Pułki, jak|się z regestrow każdego pułku pokazuje, a czemuż nie uśmierzyłeś tylu dopioro dobrze już znanych buntowników? czemu nie|ujołeś sposobu tylu do napoju chęć mających? czemu bez pozwolenia twego po nocy z obozu wychodzących nie|gromiłeś? czemu nie|przypominałeś im często zachowanie praw Boskich i Ceſsarskich? zbytnia ta twoja łaſkawość, patrz by cię nie zgubiła.

Narses. Zda|się że ja nie barzo jestem łaſkawy, bo gdy co doſtrzegę zwłaszcza w|przeciwnym mnie, okrutnie ukarzę.

Bellizar: I To niedobrze pomiarkowanie komendant każdy rządzić|się powinien, ta sama rzecz godna jest gromienia samych|że Oficyerow.

Narses. Niepraktykowana jeszcze w moiey komendzie łajanka, ~~x~~, jeżeliby jaka nastąpiła, to|by zda|mi|się do mojey nayprzod sciągała|się osoby.

Bellizar: Poznajesz skutek, poznać też powinieneś i przyczynę z ktorey pochodzi, kocham ciebie, muſzę ci jawnie co rozumiem wymówić... Jesteś niedbały w|doſtrzeganiu zołnierzy twoich.

Narseſ. O! Nieba, co słyszę? prędzeybym|się smierci spodziewał... Cóż to|się znaczy?

Bellizar: To się znaczy, że zadney w|twych zołnierzach nie maſz Karności; przy|tym z regestrow twoich, poznaie|się cnota twoja, dobrzeż to tyle niegodziwego nakładszy expensu, sprawiedliwey zaniedbać percepty wpisać?

Narses. Nie prawda nie|dokaże mi tego żaden.

Bellizar: Na co? nie trzeba tu nikogo, ręka twoja ciebie potempi.

Narses. Jak to... być to nie może?..

Bellizar: Wraz|bym tobie pokazał, gdyby sługa moy był przy mnie... ale może wraz przyidzie.

Narses. Niech sobie przychodzi ja go czekać nie myslę. (: odchodzi:)

## Scena szósta

Bellizaryusz.

Moy Boże jak różne jeſt ułożenie ludzkie, jedni napomnieni korzą|się, tych chwalić powinniśmy, drudzy korząc się poprawują|się, tych kochać powinnismy, inni na haniebną zasłużywszy zawstydzenie, jeszcze wesełey zazywają myśli. O moy Boże! Jak dziwny jesteś w|sądach twoich! nie|gorszemy|się z|tego, owſzem uwazamy wielkość miłosierdzia twego nad nami, gdyż nam grzeſzącym przebaczaſz, gdyż nas grzeſznych na drogę prawdy naprowadzaſz, gdyż nam pokutującym łaſk i dobrodzieystw miłościwie udzielaſz. Korzę|się przed <*нечыт.*> mocną ręką twoją, mam jednak nadzieję w|nieſkączonym miłosierdziu twoim, widzisz moy Panie, że go na dobrą naprowadzić drogę żądam,

---

[1] Трэба: *wygluzowanie*.
[2] Кустода: *był dozor nad*.

widziſz że mu wſzelkiego dobra życzę, by|się to tylko zgadzało z wolą twoją[1]. |5v| Coż mam czynić, gdy na zło używa dobroci moiey? cóż mam czynić, gdy nie|dba na przestrogi moje, gdy|się nie|obawia sądow twoich.

## Scena siodma

Bellizaryusz i Philotas.

Philotas. Sądze siebie za szczęsliwego, gdy niespodzianie mam honor oddać moją submiſsyą walecznemu Wodzowi naszemu.

Bellizar: Nie wątpie o przychylności twoiey ku mnie, chociaż ja i o|żadnym z|was źle nie trzymam.

Philotaſ. My jesteśmy wszyscy słudzy WPª my|byśmy radzi wſzelkie Jego ochoczo dopełnić rozkazy.

Bellizar: Może być że niektórzy z|tobą tego są zdania, ale nie wszyscy.

Philotas. Nie|rozumiem by kto przeciwney był myśli. Znamy twoją gorliwość, znamy że nas do dobrego prowadzisz.

Bellizar: Nie wszyſtkim takowa przychodzi myśl, inni moje upomnienia na złą tłumaczą stronę.

Philot. Któż by był taki, któryby tak oślep czynić mogł, wszakże każda twoja czynność oczywistym tey prawdy jest dowodem.

Bellizar: Przyjacielu, ludzie nie jednoſtaynego są ułożenia, jednemu|się podoba Cnota dla tego, że jeſt cnotą, drugiemu że ją chwalą wszyscy, i że go miłym w oczach ludzi czyni, dla tego tamten stara|się czynić dobrze, aby był Cnotliwym, ten udaje, że czyni dobrze, aby go tylko ludzie kochali i ſzanowali.

Philot. Poſtempowanie drugiego dalekie jeſt od Cnoty, owſzem samym nazwać|się może wystempkiem.

Bellizar. Nie można jednak mówić, aby się tacy nie|znaydowali.

Philot. Prawda że nie|można mówić, różnego bowiem są ludzie ułożenia, różney edukacyi.

Bellizar. Dobrze mówiſz że różney edukacyi, od tey bowiem wſzelkie Człowieka zawiſło szczęście, będzie który edukowany do zamiłowania Cnoty, do ſtrzeżenia|się wystemku, choćby|się znaydował w|okazyi utracenia Cnoty, wspomni zaraz na pierwiaſtkową swą edukacyą, przypomni nauki o szacunku Cnoty, a przez to obrzydzi takowe towarzystwo, uniknie okazyi, aby cnoty nie|utracił: będzie miał okazyą do popełnia zbrodni, stanie mu zaraz w|oczach obrzydliwość jey dawniey sobie w pamięć wrażona, a zaraz oddali|się od powabow do wystempku wiodących, obrzydzi niesforne towarzystwo, strzec|się będzie okazyi. Toć są skutki dobrey edukacyi; ale cóż kiedy nie wszyscy na to mają baczność? wielu nie na tym dobrą zasadzają edukacyą, ale na zdolności przypodobania|się ludziom, choćby i z krzywdą bliźniego, na zjednaniu sobie szacunku, choć niesłuſznie czyniąc i osławiając bliźniego. Toć to jeſt powszechne panująca choroba.

---

[1] Кустода: *Coż mam|czynić.*

Philot. Moim zdaniem nad wszystko, co tylko jeſt na swiecie Cnotę przekładać potrzeba.

Bellizar. Barzo sprawiedliwie mówiſz, bo te doczesności za czasem zginą a Cnota jedna na wieki przy nas zoſtanie[1].

|6r| Philot. Tak zbawienne nauki WPª utrzymują mię od dłuższego bawienia|się, ale Jntereſa moje nie|dozwalają mi tego, wybaczyſz przeto że pospieſzać muſzę (: odchodzi:)

## Scena Osma.

Bellizaryusz potym Biedoponoſki.

Belliz. Ten Człowiek wſzelką ma skłonność do dobrego, lecz że zawſze między rozwięzłymi|się znayduje, obawiać|się potrzeba, by i Jego nie|zepsuli umysłu. Ach co|się to dopioro dzieje, jak pomyślę na przeszłę lata, zda|się, jakby|się już świat przemienił, tak różnego ułożenia obaczyć można ludzi. (: Biedoponoſki przychodzi:) Gdzieſz ty dotąd byłeś?

Biedopon. Byłem w Obozie, oczekiwałem na WPª lecz nie|doczekawszy|się, umyśliłem szukać WPª abym się dowiedział o rozkazach Jego.

Bellizar. Jakże się tam zachowują w obozie, czy niema tam czego nowego?

Biedopo. Jeszcze dotąd zda|się że nic, tylko w|trwodzę niejakiey wszyscy zoſtają, niewiadomo z jakiey przyczyny.

Bellizar. Może im kto niepomyślne doniosł nowiny, może słyszeli o Woynie.

Biedopo. Nie|wiem o tym... tylko spotkałem dopioro Narseſsa wielce nieukontentowanego, widziałem takoż Athenagora i Philotę do niego idących.

Belliza. Cóż to... zwyczaynie Przyjaciele poszli go odwiedzić.

Biedopo. Tylkoż pomieſzanie z ich twarzy wydawało|się.

Belliza. To zwyczayna jest rzecz młodszych nie być kontentymi z starszych, na to nie trzeba uważać. Podźmy[2] tam, obaczemy co czynią, zadysponujemy żołnierzom czym|się zabawić mają. (: odchodzą:)

## Intermedium drugie.

### Fortuna

I

O jak różne jest zdanie na świecie żyjących,
Jeden|się o mą łaſkę stara, drugi nie|dba
Tego ja Kształtnie stawię wsrzod grona swiecących
Tego moja niełaſka do szczętu zaniedba
Kto mi|się wiernym staje~~x~~ nadgrodę mi dawam
Kto zaś mi|się sprzeciwia przeciwniczką stawam.

II

Nie|znają tego ludzie, że szczęście nie ze|mnie
Który na nie zasłuży, będzie miał obficie

---

[1] Кустода: Philot. Tak zbawienne.

[2] Трэба: pójdźmy.

як падумаю пра мінулыя гады, дык здаецца, нібы ўжо свет перамяніўся: якіх розных характараў можна ўбачыць людзей! (*Уваходзіць Бедапаноскі*). Дзе ты быў да гэтае пары?

Бедапаноскі: Я быў у вайсковым стане, чакаў Васпана, але, не дачакаўшыся, вырашыў шукаць Васпана, каб даведацца, якія будуць загады.

Велізарый: Што там дзеяцца ў стане? Ці няма там чаго новага?

Бедапаноскі: Здаецца, нічога дасюль новага, толькі ўсе ў нейкай трывозе, невядома з якое прычыны.

Велізарый: Можа, хто прынёс ім непамысныя навіны? Можа, яны пачулі пра вайну?

Бедапаноскі: Я не ведаю пра гэта... Толькі спаткаў цяпер вельмі незадаволенага Нарсэса. Таксама бачыў Афінагора і Філота, якія да яго ішлі.

Велізарый: Што тут такога... Звыклае... Прыяцелі пайшлі яго наведаць.

Бедапаноскі: Толькі помста была відаць на іхніх тварах.

Велізарый: Гэта звычайная справа, калі маладыя незадаволеныя старымі, але няварта на гэта звяртаць увагу. Хадзем туды, паглядзім, што яны робяць, дадзім жаўнерам нейкі занятак. (*Сыходзяць*).

## Інтэрмедыя другая

### Фартуна

I

О як адрозна мяркуюць людзі на свеце!
Адзін спрабуе атрымаць маю ласку, другі – не дбае;
Гэтага я спрытна пастаўлю сярод грона святых,
Гэтым мая непрыхільнасць цалкам грэбуе.
Хто мне верны – я даю ўзнагароду,
Хто мне супраціўляецца – яму я станаўлюся праціўніцаю.

II

Людзі не ведаюць, што шчасце я не даю.
Той, хто яго заслугоўвае, будзе мець ўдосталь,
Але той, хто нікчэмны, стараецца марна.
Той, хто любіць Высакароднасць, будзе шчодра
Надзелены дарамі, якія здабудуць яму
Ласку Багоў і яго з Багамі зраўняюць.

III

Высакароднасць – каштоўнасць і скарб надзейны,
Той, хто яе любіць, будзе мець праўдзівыя дары.
Можа кожны даць надзейны прыклад,
Што Высакароднасць сваім прыхільнікам без меры дае
Дары. Хто яе любіць – ніколі нічога не губляе.
Бог шчодра заплаціць яму за ўсё.

## Акт другі

### Сцэна першая

*Нарсэс*

Ніколі не спадзяваўся такога няшчасця, бо быў упэўнены ў сваёй спрытнасці. Ці першы раз мне ашукваць старэйшых? І ўсё ўдала, добра і гэтак хвацка, што цяжка выказаць, але зараз і думаю, але думкі мае не ладзяцца, і хачу дзейнічаць, але заўсёды бачу перашкоду сваёй волі. Не ведаю, што чыніць? Разумее кожны, што я жадаю гэтага старца ў магілу ўвагнаць, бо пры ім немажліва панаваць. Але што ж? Як жа я гэта зраблю? Трэба паклікаць на раду Афінагора і Філота. Яны таксама непрыхільныя да Велізарыя. Яны, ведаю, дапамогуць мне ў маёй справе. Толькі не ведаю, ці наш розум адолее Велізарыя… Вось бяда, дык бяда… галава кругам ідзе.

### Сцэна другая

*Нарсэс, Афінагор і Філота*

Філота: Для нас гэта асаблівае шчасце, калі маем мажлівасць нашаму ранейшаму Палкаводцу падпарадкавацца.

Афінагор: І я з маёю грамадкаю аддаю належную пакору таму, хто гэтулькі гадоў над намі валадарыў.

Нарсэс: Сябры мае, майце ласку размаўляць са мною даверліва, буду гэтаму вельмі рады.

Філота: Мы не можам інакш чыніць, каб да нашага Палкаводца не ставіцца з даверам.

Афінагор: Наш стан нагадвае нам пра нашу павіннасць, каб мы заўсёды шанавалі ўсе загады і былі паслухмянымі нашым начальнікам.

Нарсэс: Вашая паслухмянасць мяне абнадзейвае; мяркую, што бачу ў вас сваіх сяброў.

Філота: Васпан не павінны ў гэтым сумнявацца, гэтулькі ранейшых довадаў могуць сведчыць пра нашую прыхільнасць.

Нарсэс: Сябра… Я не сумняваюся ў тым, але аднак жа…

Філота: А што такое? Ці наша прыхільнасць да Васпана ўжо пад падазрэннем?

Афінагор: Мы лёкаі Васпана. Як спрыялі Васпану, гэтак і зараз спрыяем.

Нарсэс: Я веру вам… Але парайце мне, што мне чыніць з Велізарыем, які супраць нас настроены і які… Ах, нясцерпны жаль поўніць маё сэрца.

Афінагор: Ах, што гэта? Што за прычына гэтага моцнага і раптоўнага жалю? Я ўвесь дрыжу ад страху.

Нарсэс: Гэта хвароба, якая знішчае павольна, яна нераптоўная, але мне дакучае, яна ў мяне астатак сіл адбірае. (*Млее, вяртаюць да прытомнасці*).

Афінагор: Ах, што ж гэта робіцца! Ах, мы няшчасныя, памірае наш палкаводц, паміраае наш Ойча.

Філота (*вяртае да прытомнасці*): Перастань, ён жа яшчэ жывы і жыць будзе, не дадавай яшчэ больш жалю да жалю.

Нарсэс (*слабым голасам*): Калі вы – сябры, дык ратуйце мяне.

Афінагор: Пане наш і нашага жыцця, нічога не пашкадуем на выратаванне твайго жыцця.

Філота: Каб трэба было трохі крыві праліць за тваё здароўе, дык і тае б не пашкадаваў.

Нарсэс: Дзякуй за прызнанне, але мне гэта не патрэбна; мне будзе досыць, калі вы будзеце маімі надзейнымі памочнікамі.

Філота: Я не адступлю ні на крок ад Васпана.

Афінагор: Але ў чым жа мы мусім быць памочнікамі Васпана?

Нарсэс: Сябра, я дзіўлюся з цябе, што ты менш ведаеш, чым твой калега. Ці не зразумеў, што ён хоча быць маім прыяцелем.

Афінагор: А я кім жа быў да гэтага часу, калі Васпан дасюль не адчуваў да сябе маіх сяброўскіх пачуццяў.

Нарсэс: Я не сумняваюся ў тым, будзь спакойны. Толькі мы зараз думаем пра сябе.

Афінагор: Я ўжо падумаў пра сябе, паеду да сям'і і буду там спакойна сядзець.

Нарсэс: А гэта кепска... Ці слушна дзеля прыватных спраў пакінуць справы грамадскія?

Афінагор: Не хочацца жыць у сварках; лепш весці спакойнае жыццё.

Нарсэс: Што за словы? Няўжо Васпан заўважыў, што пад маім кіраўніцтвам жыццё праходзіць у сварках? Ці не мае кожны жаўнер выгодаў? Ці лепш дзеецца ў палках Велізарыя?

Афінагор: Я не гляджу, што робіцца ў чужых палках, толькі кажу тое, што слушна.

Нарсэс: Што ж там за слушнасць, якой ты дамагаешся?

Афінагор: Няхай Філота скажа, ці аддавалі калі своечасова жаўнерам плату? Ці атрымлівалі яны ўсё? Ніколі... Таму ў нашым войску – бунт, таму – хваляванні, таму – пагарда да афіцэраў, і чаго ж нам было яшчэ спадзявацца?

Філота: Не трэба табе, мой сябра, гэтак жвава лезці ў гэтую справу, бо гэта можа табе зашкодзіць.

Нарсэс: Досыць, досыць гэтага; ідзіце пакуль што ў стан, даведайцеся, што там дзеецца, і майце ласку да свайго даўняга прыяцеля, бо мы нямала былі разам.

Афінагор: І гэта праўда, і гэта праўда. (*Сыходзяць*).

## Сцэна трэцяя

*Нарсэс*

Бяда! Яны супраць мяне. Але ніколі б не падумаў пра Афінагора: ён, здавалася, быў маім сябрам. І вось супраць мяне выцягвае на свет маю абыякавасць да дысцыпліны жаўнераў, супраць мяне выстаўляе маю ўяўную прыхільнасць, маё неўтаймаванае шаленства, мае падманлівыя спосабы здабывання грошай, тое, што мяне працінае наскрозь, што з'яўляецца найбольшым маім стымулам. Цяжка, падобна, будзе мне дасягнуць сваіх мэтаў, але я не спынюся, пайду на ўсё. Ах, ці не Веліразарый ідзе? Сапраўды, ён... Бяда з гэтымі жаўнерамі.

## Сцэна чацвёртая

*Велізарый, Нарсэс*

Велізарый: Сам убачыш, як я зараз даведаўся, што бяда табе з жаўнерамі. А хто ў гэтым вінаваты? На каго цяпер наракаць будзеш, калі не на сябе самога. Даў ім спачатку волю, а потым раптам пачаў яе абмяжоўваць; не караў, наадварот, маўчаннем нібы ўхваляў дробныя кепскія ўчынкі. А яны адчынілі браму для большых, якіх цяпер сам не можаш трываць. Заўваж, сябра, што гэта твая віна. Можна, праўда, гэту недысцыплінаванасць выправіць; можна зноў увесці звычайную для жаўнераў строгасць, але неабходныя іншыя спосабы, іншы характар.

Нарсэс: Якія ж тут спосабы? Пачаўшы ад першага, катаваць да апошняга.

Велізарый: Што кажаш? Ты думаеш, што пагрозамі і балеснымі пакараннямі можна выправіць кожнага чалавека? Ніколі гэтага пра ўсіх казаць нельга: ёсць такія, якіх адно слова кране больш за тысячу бізуноў, другія пасля лёгкай заўвагі выпраўляюць свае даўнія заганы, іншыя, атрымліваючы кожны дзень балесныя напамінкі, застаюцца, аднак, пры сваіх недахопах. Таму трэба дзейнічаць пароznаму, адных перасцерагаць, другім рабіць заўвагу, іншым напамінак прыпраўляць нясмачным кавалкам. І ў гэтым найбольшая мудрасць кіраўніка павінна быць.

Нарсэс: Я на гэта не зважаю, вінаватага заўсёды пакараю.

Велізарый: І што з таго? Ці выправіш гэтым кожнага?

Нарсэс: Павінны выправіцца, калі яму дапячы да жывога.

Велізарый: Не можаш гэтак казаць, сябра; няшмат каго гэткім чынам можна зрабіць добрым. Ведаеш гэта, сам пра гэта мне казаў не раз.

Нарсэс: Не ведаю, што цяпер рабіць.

Велізарый: Трэба рабіць усё паводле Божых і дзяржаўных законаў.

Нарсэс: Здаецца, я іх не парушаю.

Велізарый: Запомні гэта добра... Я мушу ісці даць распараджэнні свайму войску.

Нарсэс: Я ўслужыў бы Васпану.

Велізарый: Невялікага распараджэння будзе дастаткова... я сам. (*Сыходзіць*).

### Сцэна пятая

*Нарсэс*

Няшчасны я... Ах, Нябёсы, што дзеецца... падземныя багі! Чаму вы альбо мяне, альбо яго ў свае жахлівыя нетры не возьмеце? Колькі я буду цярпець? Ці можна вытрываць у здаровым розуме гэтакія нечуваныя дакоры? Я, праўда, быў простым салдатам, але ніколі гэтакіх не чуў прысмакаў. Здаралася, што каменданты, прыпамінаючы мне мае абавязкі, часам і грозна мусілі дзейнічаць, але гэта было ў маладым веку, на гэта тады не надта звярталася ўвага. Але каб цяпер, у век ужо сталы, на пасадзе амаль роўнай, я зносіў гэтулькі напамінкаў ды яшчэ гэтакіх датклівых. Ах, не магу вытрымаць, кіпіць ува мне кроў, лезь не лопаюся ад злосці... Ах, кепска мне, халодны пот выступае, і я хацеў бы...

### Сцэна шостая

*Нарсэс, Афінагор*

А ф і н а г о р: Не ведаю, дзе знайсці Імператара... Ах, што такое з Васпанам... Ах, зноў млее... Ах, ратуйце...

Н а р с э с: Не чапай, лепш мне памерці, так апрыкрала мне жыццё...

А ф і н а г о р: Ах, жыві, найдаражэйшы пане, для нас, бо мы вечныя сіроты без цябе.

Н а р с э с: Забудзьце ўжо пра мяне... Велізарый ужо будзе вам бацькам.

А ф і н а г о р: Прыкра, калі ён пачне намі камандаваць, а да вашага кіравання мы ўжо прывыклі.

Н а р с э с: Досыць ужо майго кіравання, як казаў, гэтак і кажу, думайце пра сябе, а я ўжо выбіраюся да вечнасці.

А ф і н а г о р: Найдаражэйшы бацька... Бо іншым словам я не магу выказаць маіх пачуццяў, не пакідаў жа нас, лёкаяў тваіх.

Н а р с э с: Думайце пра сябе, я ў магілу сабраўся. (*Млее*).

А ф і н а г о р (*бачачы Філота, які ўваходзіць*): Сябра, ратуй... Зірні, Палкаводца наш канае.

### Сцэна сёмая

*Афінагор, Нарсэс, Філота*

Ф і л о т а: Ах, Нябёсы, якія ж вы непрыязныя да нас... Пане наш, што ж табе гэтак цяжка дакучае?

А ф і н а г о р: Ці няма ў цябе, часам, кардыялу або спірту?

Ф і л о т а: Здаецца, пакінуў у пакоі... Ах, на шчасце, ёсць. (*Падсоўвае пад нос*).

Н а р с э с: Ах, не мучце мяне! Дайце спакойна памерці.

Ф і л о т а: Што за роспач? Мы зычлівыя лёкаі зычым самага лепшага здароўя.

А ф і н а г о р: Лепш бы мы самі сто раз захварэлі, чым бачыць гэтакага слабага Васпана.

Нарсэс: Я не веру вам, для вас лепшы Велізарый.

Афінагор: Я шаную Велізарыя, але Васпана люблю больш.

Філота: Я Велізарыя не ведаю, а Васпану заўсёды спрыяў і спрыяю.

Нарсэс: Калі вы кажаце праўду і будзеце стала спрыяць мне да канца, дык гэта будзе довад вашага вернага сэрца.

Філота: Май ласку, пан, не сумнявайся ў нас… мы будзем вернымі…

Нарсэс: Вы тут крыху пабудзьце, а я хутка да вас вярнуся. (*Сыходзіць*).

## Сцэна восьмая

*Афінагор, Філота*

Афінагор: Ах, Божа! Як жа шмат неспадзяванага ў чалавечым лёсе, як раптоўна можна пайсці ў магілу.

Філота: Гэта не была смяротная хвароба.

Афінагор: Што ты кажаш? Ён жа ўвесь збялеў, рукі ў яго былі халодныя, нават не мог гаварыць.

Філота: Гэта вынік слабасці, а яна, як я мяркую, не была знакам смерці.

Афінагор: Я моцна спалохаўся.

Філота: А ці не думаеш ты, што мне весела было глядзець на гэта?

Афінагор: Веру…

## Сцэна дзявятая

*Нарсэс, Афінагор і Філота*

Нарсэс: Сябры, ці жадаеце бачыць мяне жывым? У такім разе дапамажыце мне.

Філота: І жадаем, і зычым бачыць здаровага і жывога доўгія гады. У дапамозе, якая ў нашых сілах, мы не адмовім.

Афінагор: Я ўсе мае сілы ахвярую на служэнне Васпану.

Нарсэс: Заклінаю вас усімі абавязкамі сяброўства, каб вы былі маімі надзейнымі сябрамі.

Філота: І сумнявацца няма чаго, бо Васпан жа не раз ужо нас выпрабаваў.

Афінагор: Я гатовы жыццё за Васпана пакласці, загадвай, Васпан, што хочаш.

Нарсэс: Я хачу, каб вы сказалі Імператару, што Велізарый прагне кароны.

Афінагор: Як жа мы можам гэта сказаць, калі мы гэтага не ведаем.

Нарсэс: Але я ведаю… Ці вы ўжо мне не верыце?

Філота: Верым і будзем рабіць так, як загадана.

Афінагор: Але… ці не Імператар ідзе, будзем дапамагаць Васпану.

## Сцэна дзясятая

*Юстыніян, Нарсэс, Афінагор, Філота*

Нарсэс: Спазніліся мы (за што просім прабачэнне) схіліцца ў ногі Вашае Імператарскае Мосці.

Юстыніян: Ці парадак ужо ў вашым войску, бо нейкія нядобрыя даходзілі весткі.

Афінагор: У нашых палках, здаецца, спакойна, не ведаю, адкуль гэтыя весткі.

Філота: І я спакойным мой полк пакінуў; не разумею: у ім былі нейкія хваляванні?

Юстыніян: Твой полк і няздольны на гэта.

Нарсэс: І я магу паручыцца за мае, знаю ўсіх: іх галовы не гэтым занятыя.

Юстыніян: Мне сказалі, што твае былі першыя.

Нарсэс: О, Нябёсы! Гэта ўжо Велізарыя выхадка... ён хоча мяне загубіць... мяркую... што знойдзе дзеля гэтага спосабы... Ах, Нябёсы, чаму трываеце гэткую несправядлівасць?

Юстыніян: Стой... не абвінавачвай без прычыны Велізарыя. Можа, хто іншы кінуў камень.

Нарсэс: Ніхто іншы, як толькі Велізарый. Ён самы галоўны непрыяцель нам усім.

Юстыніян: Якія маеш довады?

Нарсэс: Я маю іх тысячы, але не буду іх падаваць; скажу толькі, што лёгка яму нас ганьбіць і называць бунтаўнікамі, калі ён Вашу Імператарскую Мосць ігнаруе і хацеў бы... (*Млее*).

Афінагор: Ах, дзеля Бога, ратуйце!

Філота: Спірту як хутчэй!

Юстыніян: Як хутчэй прынесці з мае аптэкі.

Афінагор: Ах, ах, ён слабне ўсе больш.

Філота (*намачыўшы хусцінку спіртам*): Трымай, сябра, пад носам, а я натру яму скроні.

Юстыніян: Вярніце яго да прытомнасці як можна хутчэй!

Філота: Добрая прыкмета: ужо пачынае варушыць павекамі.

Афінагор: Ужо вяртаюцца сілы, але цяжка мне яго трымаць.

Юстыніян: Няхай прынясуць крэсла, каб сеў (*уносяць, ён сядае*). Што за фатальны выпадак!

Філота: Вось ён, Найяснейшы Пане, вынік кіравання Велізарыя.

Юстыніян: Не веру я ў гэта, іншая павінна быць прычына.

Афінагор: Калі Вашая Імператарская Мосць не верыць, дык паверыш, як непрыяцеляў Вашае Імператарскае Мосці ўбачыш на магіле.

Юстыніян: Ах, што вы мне кажаце, не веру я ў гэта і верыць не хачу.

Нарсэс (*не ўстаючы*): Выбач, Імператар, што праз слабасць перад Вашай Імператарскай Мосцю ўстаць не магу. Асцерагчы, аднак, павінны Вашую Імператарскую Мосць як надзейны лёкай, хоць перад смерцю, што Велізарый ужо карону і скіпетр Вашае Імператарскае Мосці ледзь не трымае ў сваіх руках.

Юстыніян: Ах, Нябёсы, што ты кажаш? Як я магу ў гэта паверыць?

Нарсэс: Няхай скажуць і прысягнуць прысутныя тут. Яны хоць і ведалі, але дагэтуль маўчалі.

Юстыніян: Кажыце праўду, я вельмі неспакойны.

Ф і л о т а: Цяперашнія бунты жаўнераў могуць перакаанаць Вашую Імператарскую Мосць у ягоных замыслах.

А ф і н а г о р: Залішняя павага да яго прарочыла нешта нядобрае.

Н а р с э с: Я магу сабраць тысячу сведак, якія ў адзін голас паўтораць гэта.

Ю с т ы н і я н: Я ўстрывожаны, застаньцеся тут, я на нейкі час адыду.

### Сцэна адзінаццатая

*Нарсэс, Афінагор, Філота*

А ф і н а г о р: Ах, як жа Васпан раптоўна страціў прытомнасць!

Н а р с э с: Не здзіўляйся, сябра: ці ж мог я пра свайго непрыяцеля ўспомніць, каб не рушыла ўва мне жоўць?

Ф і л о т а: Але ж гэта шкодзіць здароўю!

Н а р с э с: Я ведаю, але калі, гэтак бы сказаць, удаваная пабожная лагоднасць мне абрыдла.

А ф і н а г о р: Удаваная... няможна гэтак казаць, праз тое, што ён ва ўсім супраць нас.

Ф і л о т а: А гэта прыемна трываць?

Н а р с э с: Мне гэта найбольш невыносна, бо каб я быў яму няроўны, дык і крыўды б не было. Хутка канец, сябры; стойце пры мне і дапамагайце маім довадам, але ўжо і Імператар вяртаецца.

### Сцэна дванаццатая

*Юстыніян і тыя самыя*

Ю с т ы н і я н: Не знаходжу месца, каб ператрываць маю згрызоту.

Н а р с э с: Найяснейшы Пане, якая Вашую Імператарскую Мосць пераследуе згрызота?

Ю с т ы н і я н: Велізарый – прычана наймацнейшага майго ўзрушэння.

Н а р с э с: Найяснейшы Пане, я не дзівіўся б таму, хто гэтак кажа, каб ён аніякае над ім улады не меў.

Ю с т ы н і я н: Я загадаў пасадзіць яго ў вязніцу, але ён заявіў, што можа давесці сваю невінаватасць.

Н а р с э с: Але, Найяснейшы Пане, яму гэта няцяжка: ён розум мае спрытны, умее ліслівіць жаўнерам, калі ён іх звядзе, яны будуць абараняць ягонае жыццё. А мы Вашую Імператарскую Мосць пры троне не захаваем. І гэтага ў хуткім часе трэба чакаць.

А ф і н а г о р: Гэта павінна выклікаць у Вашай Імператарскай Мосці здаровую рэакцыю і любоў да сябе ды руплівасць пра грамадскае дабро.

Ф і л о т а: Калі Вашая Імператарская Мосць ужо зусім не дбае і пра сябе, і пра дзяржаву, дык гэтае злачынства можаш пакінуць без пакарання.

Ю с т ы н і я н: Дык што ж мне рабіць?

Н а р с э с: Няхай смерць яго спаткае, дык і Вашая Імператарская Мосць будзе ў бяспецы, і ў дзяржаве будзе спакой.

**Афінагор**: Інакш у краіне, а найбольш сярод жаўнераў не супакоім бунту.

**Юстыніян**: Ці ж я магу гэта ўчыніць? На мяне ж уся краіна паўстане.

**Нарсэс**: Калі Вашая Імператарская Мосць не хоча зжыць яго са свету, дык ёсць, прынамсі, спосаб пазбавіць яго магчымасці кіраваць дзяржаваю і камандаваць войскам.

**Юстыніян**: Які ж спосаб?

**Нарсэс**: Загадай пазбавіць яго вачэй, дык будзе няздольным ні да чаго.

**Афінагор**: Добрая парада, бо пакараць яго смерцю было б нядобра.

**Філота**: Найяснейшы Пане, нельга марудзіць, бо ўсё мацней бунтуе войска, а як убачаць гэтак пакаранага свайго атамана, дык – запэўніваю – перастануць.

**Юстыніян**: Няхай жа гэтак і будзе. Ты, Нарсэс, і вы з ім разам будзьце выканаўцамі майго дэкрэту, які я выдам на супакаенне бунтаў. (*Сыходзіць*).

### Сцэна трынаццатая

*Нарсэс, Афінагор, Філота*

**Нарсэс**: Дасягнулі мы таго, чаго жадалі, звядзём са свету нашага непрыяцеля.

**Філота**: Гэта не звядзенне, калі мы яго святла вачэй пазбавім, але святло розуму пры ім застанецца.

**Афінагор**: Праўда, варта было, каб Імператар выдаў вырак на ягоную смерць.

**Нарсэс**: Досыць яму будзе: пазбаўлены маёмасці, пазбаўлены вачэй, ён павінны будзе жывіцца толькі нажабраваным хлебам. Але чаго ж мы бавімся, пасьпяшаемся выканаць імператарскі дэкрэт як найхутчэй, каб раптам зноў Імператар не прыйшоў да супрацьлеглых думак. Хадзем, пацешымся з тых вачэй, якія нашыя справы гэтак хвацка кантралявалі. (*Сыходзяць*).

### Інтэрмедыя 3-яя

## Акт трэці

### Сцэна 1-шая

*Афінагор, Філота*

**Афінагор**: Што, сябра, чуваць добрага?

**Філота**: У нас тое самае чуваць, што і ў Васпана.

**Афінагор**: У мяне вялікія хваляванні, але спадзяюся іх супакоіць.

**Філота**: Якая ж прычына гэтых хваляванняў?

**Афінагор**: Вядома, Велізарый.

Ф і л о т а: Ці ж яны ведаюць?

А ф і н а г о р: Не ведаюць нічога, але ўжо паграажаюць, дык я баюся, што калі даведаюцца, мне давядзецца, пакінуўшы каманду, ратаваць жыццё.

Ф і л о т а: Ці прыстойна гэтак баяцца каменданту?

А ф і н а г о р: Калі Васпан гэтакі адважны, дык супрацьдзейнічай ім.

Ф і л о т а: Пэўна, што буду, бо я разам са слаўным Палкаводцам Нарсэсам, які мне гэтак паспрыяў. А каб мне ў камандзе маёй застацца, ён сам супраць Велізарыя падказваў спосабы. За гэта я яму ўдзячны, дык цешуся, што ён перамог свайго і нашага непрыяцеля.

А ф і н а г о р: Ты, сябра, не маеш довадаў, што Велізарый быў нашым непрыяцелем.

Ф і л о т а: Як жа не маю, калі сам Імператар пацвердзіў маё меркаванне.

А ф і н а г о р: Як мог Імператар пацвердзіць тваё меркаванне, што Велізарый наш непрыяцель?

Ф і л о т а: Пацвердзіў, калі загадаў пазбавіць яго вачэй.

А ф і н а г о р: Гэта не довад. Змушаны, Імператар мусіў гэта ўчыніць.

Ф і л о т а: Хто мог прымусіць Імператара? Каго ж ён павінен слухаць?

А ф і н а г о р: Я не хачу пра гэта ведаць; запытайся ў Нарсэса.

Ф і л о т а: Дзе ж... а добра, у самы час ён ідзе.

### Сцэна другая

*Нарсэс, Афінагор, Філота*

Ф і л о т а: Ці Васпан не ад Імператара вяртаецца?

Н а р с э с: Іду ад Імператара. І ён сам неўзабаве сюды прыйдзе.

Ф і л о т а: У якім жа цяпер Імператар гуморы?

Н а р с э с: Неспакойны.

А ф і н а г о р: Ці не мы гэтага неспакою прычына?

Ф і л о т а: Што ж мы зрабілі кепскага Імператару?

Н а р с э с: Яго трывожаць хваляванні, якія пасля таго, як пазбавілі вачэй Велізарыя, пачаліся ў войску.

А ф і н а г о р: Праўда, і я хачу пайсці ў адстаўку са службы.

Ф і л о т а: А я паслухаюся парады нашага даўняга Палкаводца Нарсэса.

Н а р с э с: У цяперашніх абставінах я мушу перш-наперш пра сябе думаць.

Ф і л о т а: Ах, Нябёсы! Што я чую? Ці спадзяваўся я на такую перамену.

Н а р с э с: Для мяне гэта не перамена, я заўсёды такі самы: спачатку пра сябе думаю, а калі ў мяне памысна атрымліваецца, дык часам не забываюся і пра сяброў.

Ф і л о т а: Першая думка Васпана павінна быць пра нас, бо мы сябры Васпана.

А ф і н а г о р: Ці гэта годна нам здраджваць? Што мне рабіць у маёй згрызоце?

Н а р с э с: Я пасля таго, як сабе добра зраблю, не забуду і пра вас.

А ф і н а г о р: Добрае сяброўства! Лепш бы мне яго ніколі не ведаць.

Ф і л о т а: Праўда, што кожны любіць сам сябе, але ў гэтых акалічнасцях мы разам павінны дзейнічаць.

Н а р с э с: Не... не... вы думайце пра сябе, дастаткова мне будзе думаць пра мяне самога, каб апраўдацца. (*Сыходзіць*).

## Сцэна трэцяя

*Афінагор, Філота*

А ф і н а г о р: Пабач, сябра, што ён цяпер сказаў, і зрабі выснову з яго слоў пра ягоныя замыслы і пра ягонае да нас сяброўства. Няшчасныя мы, што таварышавалі яму ў згубе Велізарыя.

Ф і л о т а: Блытаецца і ў мяне ўсё, але гэта ягоныя даўнія жарты; мы ж яго добра ведаем, не ад сёння жывём з ім; ёсць у яго спосабы жартаваць і палохаць іншых.

А ф і н а г о р: Але тут не падобна на жарты, калі ён перад Імператарам у знішчэнні Велізарыя абвінавацiць нас. Яму гэта няцяжка.

Ф і л о т а: Ён жа дзе-небудзь дзенецца, бо ён галоўны, а мы толькі памагатыя.

А ф і н а г о р: Ён адрачэцца, а нас толькі запляміць; яму ж гэта няцяжка.

Ф і л о т а: Мы тыя плямы здолеем скасаваць. Ці ж нашы галовы абыякія?

А ф і н а г о р: Перастань, сябра, не здолеем мы супрацьстаяць яму, калі Велізарый не здолеў... Адно, праўда, што той пакручастымі сцежкамі не хадзіў.

Ф і л о т а: Не хвалюйся, сябра, слухай мяне і рабі тое, што будзе патрэбна. Пабачыш, што толькі яму аднаму найбольш зашкодзіць.

А ф і н а г о р: Калі яму найбольш, дык і нам досыць добра можа зашкодзіць.

Ф і л о т а: Мы можам хваляваца, але не так, як Нарсэс.

А ф і н а г о р: Страх мяне бярэ. Ідзі, сябра, даведайся, што Імператар думае.

Ф і л о т а: Добра, пайду, а ты пачакай тут; можа, я прывяду сюды Імператара. Глядзі ж, будзь уважлівы да настрою Імператара, не кажы нічога, пакуль не надарыцца неабходнасць.

## Сцэна чацвёртая

*Афінагор*

Моцна баюся будучага, можна сказаць, няшчасця нашага. Падддаліся мы Нарсэсу, дапамаглі яму, а, пэўна, як дойдзе да справы, дык ён нас да шыбеніцы давядзе, а сам, бо яму гэта няцяжка, унікнуць здолее. Які я няшчасны! Навошта мне было ўмешвацца ў гэтую чорную работу? Нявіннага загубілі... невідавочна, што мы і самі не загінем. Ах, які я быў неразумны! Толькі зараз зразумеў, але што ж, калі позна, ужо назад адкруціць цяжка... Няшчасны я, больш за тое скажу: асуджаны... але, здаецца, ідзе Імператар.

## Сцэна пятая

*Юстыніян, Нарсэс, Афінагор, Філота*

Н а р с э с: Дык вось, Найяснейшы Пане, бачыць Вашая Імператарская Мосць, што нават пазбаўлены вачэй Велізарый яшчэ бунтуе ўсё войска.

Ю с т ы н і я н: Не Велізарый прычына хваляванняў, а вы, вы ўчынілі няшчаснымі і сябе, і мяне.

А ф і н а г о р (*убок*): Ах, я няшчасны! Ці ж я не казаў?!

Н а р с э с: Ах, Нябёсы! Што я чую? З якое прычыны Вашая Імператарская Мосць і сябе, і нас называе няшчаснымі?

Ю с т ы н і я н: Называю, і слушна, сябе, бо паслухаўся нягоднага вашага абвінавачвання; вас, бо вы заслужылі на самае строгае пакаранне за жахлівы паклёп на невінаватага.

А ф і н а г о р (*да Філота*): Ах, мы няшчасныя! Ці не казаў я табе, сябра?

Ф і л о т а: Не хвалюйся гэтак раней часу, мы ж з нашым Палкаводцам.

Н а р с э с: За што ж Вашая Імператарская Мосць і мы мусім быць няшчаснымі? Мы ж надзейна служым Вашай Імператарскай Мосці.

Ю с т ы н і я н: Бо гэтае аблуднае і здрадлівае вашае сяброўства мне на старасці гадоў нязноснага клопату нарабіла.

Ф і л о т а: Мы былі заўсёды надзейнымі прыхільнікамі Вашае Імператарскае Мосці.

Ю с т ы н і я н: Вашая надзейнасць? Мяне і дзяржаву маю прывесці да згубы?

Н а р с э с: Наадварот, мы хочам ацаліць і да першапачатковага спакою прывесці.

А ф і н а г о р: Я, Найяснейшы Пане, хачу душэўнага спакою.

Ю с т ы н і а н: Слухаю, але не чую вашых адгаворак; сама рэальнасць не дазваляе мне гэтага; непрыемна мне ўжо на вас глядзець. (*Сыходзіць*).

## Сцэна шостая

*Нарсэс, Афінагор, Філота*

А ф і н а г о р: Ах, мы няшчасныя! Загубіў нас Васпан, цяпер чакае нас кепскі лёс.

Ф і л о т а: Чаго Васпан гэтак палохаешся: наш жа Палкаводца будзе за нас адказваць.

Н а р с э с: Дастаткова будзе, калі я сам за сябе адкажу.

Ф і л о т а: І як жа гэта будзе Васпана характарызаваць? Сам жа дакляраваў і амаль пад прысягаю пацвердзіў.

А ф і н а г о р: Мы слову Васпана паверылі, чакаем цяпер вынікаў гэтых абяцанняў.

Н а р с э с: Мне дастаткова таго, што пра сябе падумаю; вы думайце пра сябе. (*Сыходзіць*).

### Сцэна сёмая

*Афінагор, Філота*

Афінагор: Што тут будзеш рабіць? Няшчасны я, вось жа характар, вось жа высакароднасць.

Філота: Не будзем траціць дарэмна часу: трэба абдумаць спосаб апраўдання перад Імператарам.

Афінагор: Які спосаб? Упасці ў ногі Імператару, прызнацца ў нашай віне і адкрыць здраду Нарсэса.

Філота: Добры спосаб, але, можа, ён якраз пайшоў да Імператара і новыя пасткі на нас ставіць.

Афінагор: Каб ён і пайшоў, дык, ведаю, што Імператар, усё яшчэ неспакойны, не захоча з ім размаўляць.

Філота: Але ж нам трэба дбаць пра сябе, і гэтую справу нельга адкладваць.

Афінагор: Дык пойдзем да Імператара... ціха... здаецца, на нашае шчасце, ён сам сюды ідзе.

### Сцэна восьмая

*Юстыніян, Афінагор, Філота*

Юстыніян: Якое няшчасце мне на старасць! Жыў ужо столькі гадоў у блаславёным спакоі, а калі прыйшоў час паміраць – такія згрызоты!

Філота: І што такое неспадзяванае дакучае Вашай Імператарскай Мосці?

Юстыніян: Гэта вы парушылі мой мілы спакой.

Афінагор: Ах, Нябёсы! Не складай Вашая Імператарская Мосць на нас віну. Мы зусім невінаватыя.

Філота: Наадварот, мы жадалі і жадаем бачыць Вашую Імператарскую Мосць заўсёды задаволеным шчаслівым лёсам.

Юстыніян: Хто ж, калі не вы, разнёс гэткія фальшывыя весткі пра Велізарыя?

Афінагор: Прымушаныя Нарсэсам, мы мусілі гэта казаць.

Юстыніян: О, каб я хоць на гадзіну адклаў выкананне свайго дэкрэту, дык ніколі б такое крыўды не ўчыніў гэтаму вялікаму чалавеку.

Філота: А можа, Велізарый яшчэ здаровы?

Юстыніян: Як можа пазбаўлены вачэй быць здаровым?

Філота: Можа, яшчэ бачыць; можа, не гэтак гвалтоўна з ім абышліся?

Юстыніян: Мне ўжо данеслі, што дэкрэт выканалі адразу ж.

Філота: Шкада вельмі.

Афінагор: Ах, мы няшчасныя! Чаму мы, баючыся пагрозаў Нарсэса, такога заслужанага дзяржаве і невіноўнага чалавека загубілі.

Юстыніян: Вось такая вернасць вашая... Мяне ашукалі, самі злачынства зрабілі, і гэта Бог мусіць блаславіць?

*Уваходзіць жаўнер і ціха кажа Філоту пра Велізарыя*

Філота: Я, Найяснейшы Пане, маю вестку, што сюды ідзе Велізарый, і ён ужо блізка. Давайма прыгледзімся да яго цяперашняга стану.

Ю с т ы н і я н: Я тут быць не магу, бо ад жалю не змагу глядзець на варты слёз ягоны стан.

Ф і л о т а: Вашая Імператарская Мосць хай мае ласку затрымацца тут. Мы паспрабуем паразмаўляць з ім, а Вашая Імператарская Мосць даведаецца з раўмовы, што ён цяпер думае.

Ю с т ы н і я н: Добра, толькі глядзіце, каб ён не здагадаўся, што я тут.

### Сцэна дзявятая

*Тыя самыя*

Ф і л о т а: Як ён сюды прыйдзе, будзем яму спачуваць, будзем наракаць на тых, хто яго абвінаваціў, будзем яму старацца ўслужыць (*уваходзіць жаўнер і ціха кажа*). Ціха, ужо блізка... Гэта выпадак нечуваны! Жаль сціскае маё сэрца. Няшчаснае чалавечае жыццё.

### Сцэна дзясятая

*Тыя самыя і Велізарый, якога вядзе хлопец*

В е л і з а р ы й (*да хлопца*): Вядзі мяне павольней і асцерагай, дзе трэба, каб я часам неасцярожна дзе не зваліўся.

Б е д а п а н о с к і: Ідзі, Васпан, спакойна за мною. Васпана няшчасце – гэта адначасна і маё, дык жыццё Васпана, мяркую, гэтакае ж дарагое, як і маё. Але што я кажу... на шмат даражэйшае, калі ўспомніць ласку і дабрадзейства да мяне.

Ф і л о т а (*да Бедапаноскага*): Што гэта за калека? Каго ты вядзеш? Як ягонае імя? (*паказвае на мігах, каб маўчаў пра Імператара*).

Б е д а п а н о с к і: Гэта няшчасны Велізарый.

Ф і л о т а: Ах, жорсткі лёс! Як ты гуляеш з людзьмі! Гэта ж слаўны Палкаводца наш Велізарый! Пра ягоную высакароднасць і мужнасць ніколі годна не казалі. Гэта прыклад лагоднасці, памяркоўнасці, пабожнасці, любові да айчыны і да ўсіх яе афіцыйных асобаў, а перш-наперш – да Імператара. І якую ж ад яго за свае гэткія слаўныя справы атрымаў узнагароду?! Ах, Нябёсы...

В е л і з а р ы й: Добры чалавек, кім бы ты ні быў, дзякуй, што спачуваеш мне. Ухваляю цябе, што ты бароніш высакароднасць, але асуджаю, што згадваеш тут Імператара.

Ф і л о т а: Як жа мне не згадаць, калі бачу цябе гэткага нямоглага.

В е л і з а р ы й: Бачыш мяне гэткага нямоглага, але не маеш прычыны залішне шкадаваць майго лёсу, бо я сам мужным розумам маім яго зношу.

Ф і л о т а: Ах, нечуваная мужнасць! І як жа даўно твае заслугі не выклікаюць у цябе жадання справядлівае помсты?

В е л і з а р ы й: Дзіўна мне, што злачынства ты называеш справядлівым, бо гэтыя два словы не пасуюць адно аднаму.

Ф і л о т а: Як гэта? Ці ж гэта не была б справядлівая помста, каб за тваю крыўду пакаралі тых, хто з'яўляецца яе спраўцамі? Цябе ж усе

любяць, усе ж па першым тваім знаку гатовыя рызыкаваць, нягледзячы на небяспеку. Што ж цябе стрымлівае ад гэтага?

Велізарый: Стрымлівае мяне высакароднасць і розум. Яны кажуць мне, што гэтакі ўчынак не годны Велізарыя.

Філота: Як жа цяпер Васпан будзе жыць?

Велізарый: Я пайду да свае радні і там буду чакаць канца жыцця. Не затрымлівай мяне, бо далёкая перада мною дарога. Дазволь мне прасіць пра адну толькі ласку, якую, калі атрымаю, буду шчаслівым.

Афінагор: Якую? Мы на ўсё гатовыя.

Філота: Загадвай, Пане, а мы ўсё гатовыя выканаць.

Велізарый: Калі вы мне гэта абяцаеце, дык прашу вас і заклінаю ўсім, што толькі ў рэлігіі ёсць самага святога, каб былі верныя Імператару, усе ягоныя загады выконвалі, пацяшалі яго смутнага, баранілі ад непрыяцеляў, утрымлівалі дысцыпліну. А калі гэтак будзеце чыніць, дык зробіце мне гэтакае дабрадзейства, якога аднаго толькі ў жыцці жадаю. Вось такая просьба мая.

Афінагор, Філота: Ахвотна прысягаем гэта выканаць.

Велізарый: Бывайце, можа, ужо на векі. (*Сыходзіць*).

## Сцэна апошняя

*Юстыніян, Афінагор, Філота*

Юстыніян: Ах, Нябёсы! Што за высакародны розум! Што за высакароднасць! Што за мужнасць! Я ўчыніў яму гэткую вялікую крыўду, а ён мяне любіць загадвае! Я адхіліў яго ад кіравання войскам, а ён просіць яго, каб было мне верным! Я яму святло вачэй адабраў, а ён не мае зла на мяне за гэта. О, Нябёсы! Чаго ж я варты за гэта?!

Філота: Суціш свой адчай, Найяснейшы Імператар. Велізарый жа табе нічога кепскага не зычыць.

Юстыніян: Я гэта ведаю! Але што скажуць нашчадкі? Яны не вас вінаваціць будуць, хоць гэта вы з'яўляецеся спраўцамі, але мяне. Ах, я няшчасны!

Афінагор: Не псуй сабе, Вашая Імператарская Мосць, здароўя, якое для нас ёсць самым дарагім.

Юстыніян: Вы ўжо яго сапсавалі... Ах, я няшчасны!

Філота (*да Афінагора*): Нарсэса няма, ён, можа, гэтую б роспач суцішыў?

Юстыніан: Што б Нарсэс суцішыў? Ён – прычына гэтага ўсяго, ён кіраўнік, а вы яго памагатыя... Ах, жаль не дазваляе мне доўга ґаварыць. Скажу толькі на астачу, што няшчасны Уладар, які мае ліслівых дарадцаў; няшчасны Пан, які мае здрадлівых лёкаяў. Тут кожны можа паглядзець на сябе, а мяне лічыць прыкладам легкавернасці, праз якую здарыўся выпадак, за які ніколі не перастану шкадаваць.

**Дзеля большае славы Божае**

## Пра *Камедыю*

Дасканаласць драматургічнага тэксту *Камедыі* тлумачыцца высокім узроўнем развіцця тэатральнае культуры Еўропы і Рэчы Паспалітае. На нашую думку, аўтар быў добра знаёмы з тагачасным школьным тэатрам, а таксама з паэтыкамі для езуіцкіх калегіумаў – падручнікамі, якія, з аднаго боку, рэкамендавалі прынцыпы і правілы тварэння трагедыі, камедыі і оперы, а з другога – дапамагалі гледачу і чытачу разумець як спектакль, так і любы мастацкі тэкст.

Асноўны матыў *Камедыі* (нараканне селяніна на Адама) паходзіць, відаць, з езуіцкіх інтэрмедый XVII стагоддзя. Навукоўцы апісалі ажно чатыры рукапісы з інтэрмедыямі *Chłop, Anioł y Diaboł* (Аляксандар Брукнер), *Chłop oskarża ojca Adama* (*Rusticus incusat parenten Adam*) і *Intermedium, w którym Chłop narzeka na Adama, pierwszego rodzica, że w raju zgrzeszył* (Юльян Леваньскі), тэкст адной з якіх быў адрозны ад іншых.

Напрыканцы XIX стагоддзя А. Брукнер выявіў у Імператарскай публічнай бібліятэцы ў г. зв. калекцыі Залускіх (Codicem Zaluscianum)[1] і коратка ахарактарызаваў два рукапісы, у склад якіх уваходзілі дзве інтэрмедыі, у якіх селянін абвінавачваў Адама[2].

Перш-наперш – рукапіс "Разноязычн. XIV, Quarto 9", у якім апрача інтэрмедый знаходзіліся разнастайныя прамовы, вершы, квіты, лісты і інш. Гэта вучнёўскі сшытак, у асноўным напісаны адною рукою. Студэнт вучыўся ў Кросна[3], яго звалі F. K., магчыма (мяркуе А. Брукнер), Курдваноўскі, бо ліст, у якім паведамлялася, калі трэба адпраўляць коней у Кросна, "каб забраць яго на вакацыі", адрасаваны Шымону Курдваноўскаму ў Езове[4].

У сшытку маюцца эпіграмы Яна Каханоўскага (1530–1584), тэксты Пятра Вэнжыка Відаўскага (1563 – пасля 1605) і інш. На аркушы 55 – манаская песня (10 строфаў) пра марнасць свету ("Przeminie świat, przeminie zdrowie y uroda, // Przeminą y bogactwa, co w nich iest ochłoda").

---

[1] Паходзілі з варшаўскай бібліятэкі Залускіх, вывезенай у XVIII ст. у Пецярбург. Вернутыя ў Варшаву ў 1920-я гг., дзе згарэлі пад час Варшаўскага паўстання.

[2] У беларускім літаратуразнаўстве артыкул А. Брукнера ўпершыню выкарыстаў Якуб Усікаў у манаграфіі *Беларуская камедыя: Ля вытокаў жанру*, Мінск 1964, с. 162–164. Згадаў пра яе таксама А. Мальдзіс: *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.)*, Мінск 1980, с. 174.

[3] Павятовы горад ў Падкарпацкім ваяводстве Польшчы. Езуіцкі кляштар і калегіум пабудаваны ў 1660–1667 гг.

[4] Магчыма, маёнтак і вёска на Падляссі.

На арк. 27 v змешчаная інтэрмедыя *Селянін, Анёл і Д'ябал*, у якой апавядаецца пра тое, што Селянін, прыгнечаны паншчынай, стомлены і змардаваны працаю, скардзіцца на Адама і Еву: праз нейкі яблык страчаныя назаўсёды прыемнасці, г. зн. піТво ўволю, смажаная свініна і г. д., дык учынак Адама нельга назваць разумным. З'яўляецца Анёл і павучальна заўважае, што Селянін, як і яго продкі, не здольны стрымаць сябе, і раіць яму дзеля пробы хоць кароткі час памаўчаць. Але Д'ябал спакушае Селяніна, які кожны раз парушае сваё маўчанне. Яшчэ адно выпрабаванне, у якім Селянін абяцае не скрануцца з месца на працягу гадзіны, гэтак жа сама няўдалае. Пасля чаго Селянін разумее сваю слабасць і вяртаецца да цяжкае працы.

Спакусы Д'ябла, піша А. Бракнер, наступныя: ён прыходзіць, мармычучы, а Селянін пытаецца: Анёл загадаў і Пану маўчаць; ён прыходзіць з вадою, кажа, што агонь спаліў усю ваду на кухні, дык не можа запоўніць пасудзіну, бо пакідае адтуліну адкрытай і абвінавачвае Селяніна ў тым, што гэта ён выпівае ваду; Селянін загадвае яму закрыць адтуліну; прыходзіць як немец (у нямецкай вопратцы) з закручанай гарэлачнай бутэлькай і просіць Селяніна прасвідраваць у ёй адтуліну, зноў дакучае яму; вяртаецца з бутэлькай з гарэлкай, але як Селянін не хоча яму ўсміхнуцца, ён п'е адзін, вядома селянін усміхаецца яму; прыходзіць у сялянскай вопратцы і ловіць сонечнае святло рэшатам, каб асвятліць свой цёмны пакой; потым са сваім хлопцам грузіць драўніну, каб несці ў горад, груз для іх занадта вялікі, а яны загружаюць яшчэ больш – як вядомыя шыльдбюргеры. У другой сцэне Д'ябал косіць траву і замахваецца касой па нагах Селяніна, які неадкладна ўцякае і г. д.

У наступным сшытку "Разноязыч. Quarto XIV, 10" знаходзіцца крыху адрозная інтэрмедыя (фрагмент; тытул інтэрмедыі А. Брукнер не падае), у якой паўтараецца тое самае абвінавачванне. На аркушы 364 селянін скардзіцца: "Ох, Адам! Адам! чы не мог жэ ты, хлудзіну аберуч узяўшы, уздоў[ж] Еву аперэзаць, каб другі раз яблака заказанага ня кушала, ох, Адам! Адам! што ты цяпер" і г. д. Лёкай паведамляе, што новы Адам, Clarettus, прыйдзе ў Мсціслаў, а адтуль адправіцца ў рай, дзе цякуць рэкі віна, піва і гарэлкі; Селянін абяцае лёкаю чвэрць гарэлкі[1], калі той пераканае Адама ўзяць яго, Селяніна, з сабою; пры ўмове, што ён зможа памаўчаць чвэрць гадзіны. Селянін прыходзіць са сваім хлопчыкам, скардзіцца на цемру ў хаціне і на тое, як ён дарэмна ловіць сонечнае святло. Тут тэкст абрываецца[2].

А. Брукнер таксама сцверджае (праўда, невядома на падставе чаго), што першая інтэрмедыя – не арыгінал, адно копія, але ўдасканаленая.

[1] Пастановаю сойма 1766 г. *чвэрць* была зацверджаная як адна з асноўных адзінак вымярэння ў Вялікім Княстве Літоўскім замест ранейшага *карца*. Замене *карца* на *чвэрць* садзейнічала тое, што *бочка* мела 4 *карцы*. Гл.: К. Скурат, *Даўнія беларускія меры: Лексічны аналіз*, Мінск 1974, с. 91–92.

[2] A. Brückner, *Polnisch-russische Intermedica des XVII. Jahrhunderts*, "Archiv für slavische Philologie", herausgeben von V. Jagić, dreizehnter band, Berlin 1891, s. 408–409.

Другая інтэрмедыя – дакладна можна сказаць – двухмоўная: селянін гаворыць па-беларуску.

Польскія навукоўцы (відаць, Станіслаў Пігонь, 1885–1968) выявілі і апублікавалі (Юліян Леваньскі, 1915–2003) інтэрмедыю *Chłop oskarża ojca Adama* паводле рукапісу Ягелонскай бібліятэкі (BJ, sygn. 3526, k. 66v –71), дапаўняючы публікацыю паводле рукапісу *Intermedium, w którym Chłop narzeka na Adama, pierwszego rodzica, że w raju zgrzeszył* з бібліятэкі кракаўскіх аўгусціянаў (сёння – у Ягелонскай бібліятэцы, BJ, sygn. Akc. 265/53, k. 49v–51v), дзе інтэрмедыя захавалася толькі ў фрагментах. Такім чынам, мы маем поўны тэкст польскамоўнае інтэрмедыі – фактычна папярэдніцы *Камедыі*. Мы лічым патрэбным змясціць тут дадзены твор.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: *Chłop oskarża ojca Adama* [w:] *Dramaty staropolskie: Antalogia*, oprac. J. Lewański, t. 6, Warszawa 1963, s. 243–256.

## Intermedium *Chłop oskarża ojca Adama*
## Intermedium *Rusticus incusat parentem Adam*

(połowa wieku XVII)

R u s t i c u s

Wiesz go kat[1], co się na tym nędznym świecie dzieje,
Na włosku od frasunku człek nie oszaleje[2].
Gdzie stąpisz, to za tobą tu[ż] idą kłopoty.
Przydzie już wrychle zdechnąć od ciężkiej roboty.
Co weźmiesz, z rąk wypada; wszystko się źle wiedzie:
Żona, dzieci na ciebie patrzą jako śledzie.
Rychło im jeno co dasz, pilnie wyglądają;
Nie dasz li im czego zjeść, to cię przeklinają.
Aleć nas tych kłopotów nik inny nabawił,
Jeno Jadam swym grzechem w tę nędzę nas wprawił.
Czy mu to trudno było słuchać bez godzinę[3]
Chowając przykazanie, a nie wpadać w winę?[4]
Zachowałże nam, zgryzł wszytkie przywileje;
Jemu w niebie, a nam tu wszystko się źle dzieje.
Kiedy by był jabłuszka tego tam nie ruchał
I Ewy, która jabłko urwała, nie słuchał,
Słyszałem na kazaniu niekiedy od księdza,
Żeby się nas nie była żadna jęła nędza.
Na piecu by się było żyteczko rodziło,
Piwo na dębie; teraz coż by się nie piło?
Pańszczyzny tedybyśmy byli nie robili,

[1] *Wiesz go kat* – diabli wiedzą (д'яблы ведаюць). Тут і далей у асноўным выкарыстаны каментар, падрыхтаваны Ю. Леванскім
[2] *Na włosku od frasunku człek nie oszaleje* – ад клопатаў чалавек ледзь не ашалее.
[3] *bez godzinę* – przez godzinę (гадзіну).
[4] *wpadać w winę* – грашыць.

Tylko do karczmy dzień w dzień na piwo chodzili.
Chleb biały to by byli nie tylko panowie
Sami jedli, ale też i prosći chłopkowie.
Pić, jeść choćbyś się rozpukł, bez groszy miano,
Czegoś nie zjadł, do domu to nieść rozkazano.
O pieczonkę wieprzową nietrudno by było;
Ej, jakiej by się było rozkoszy zażyło!
Nie starzałby się był człek, zawsze by był młody.
Patrzcie, do jakiej nas ten Adam przywiódł szkody!
Kiedy bym się ja był mógł Adamem urodzić,
Nie dałbym się był Jewie nigdy za nos wodzić.
By było nawet Jewie wszystkie wybić zęby,
Nie kładłać by mu była jabłuszka do gęby.
Niechby była nie jadła, choćby się jej chciało,
Tak by się przykazanie było zachowało.
Smaczno-ć jemu – ja od prac ledwie aż nie płaczę.
O Adamie, Adamie, niemiło mi na cię.

*Tu A n i o ł przychodzi. C h ł o p obejrzawszy się do niego mówi*[1].

Owo li Jamioł idzie, co li mi poradzi;
Ej, duszkoż, jeżeli mię do nieba wprowadzi.

A n g e l u s

Żal mi Adama, że nań bardzo utyskujesz,
A wiem, że więcej zbłądzisz, choć się ofiarujesz.

R u s t i c u s

O cóż bym nie miał zbłądzić, kiedy mi kazano,
A potem co smacznego wypić obiecano?

A n g e l u s

Nie większą rzecz ja tobie zadam: nic nie gadaj;
Jeżeli cię kto spyta, namniej nie odpadaj.
Co jeżeli uczynisz, osądzi cię sama
Rzecz, że będziesz wierniejszy już i nad Adama.

R u s t i c u s

O, miły sługo boży, mogłeś mi co zadać
Większego, aniż z nikim nic a nic nie gadać.

A n g e l u s

Już jeno wprzód uczyń: nic a nic nie gadaj,
A sam się też ni od kogo niczego nie badaj[2].
Ja tymczasem odejdę.

R u s t i c u s

Już pewnie, Aniele,
I gęby nie rozdziewię, przyrzekący śmiele.

---

[1] Польскамоўная рэмарка з рукапісу бібліятэкі кракаўскіх аўгусціянаў (сёння: BJ, sygn. Akc. 265/53).
[2] *nie badaj* – не дапытвайся.

*Hic D a e m o n veniet in persona rustici, manibus os occludet*[1].

R u s t i c u s

Albo i tobie Anioł nic nie kazał gadać?

A n g e l u s

*przyszedszy mówić będzie.*

A wszakeś nie miał gadać ani odpowiadać.

R u s t i c u s

Wiesz go kat, jako mi się wymsknęło to słowo;
Mniemałem, by dobry człek, aż był diabał owo.
Mruczał ni pies, rzekomo nie mogąc nic gadać,
A z niego wielki wisieć. Musiałem go badać.
Przepuścież mi pierwszy raz, a ja się poprawię,
Ostrożniejszy już zgoła we wszystkim się stawię,
Idźże, miły Janiele, ja gadać nie będę,
Aleć mnie nogi bolą, więc sobie usiendę.

*Postea veniet D a e m o n in specie rustici cum dolio et cantaro*[2].

D a e m o n

Patrzcie jeno, jako to mam siła szkody.
Przyniosłem sobie pełno był do kuchnie wody;
Blisko wody ogień był, skra w wodę wleciała,
Jak się tam zapaliła, wszystka wygorzała.
I kiedy by obręczy jeszcze nie trzymały,
Pewnie by mi i deszczki na beczce zgorzały.
Musiałem tu drugi raz po wodę wędrować.
A jednę ciężką pracą dwakroć odprawować.
Ej, woda, woda! Patrzcie, jak do kuch[n]ie prawie
I daleko piękniejsza niż za broną[3] w stawie.

*Potem, niech przelewa, a czop wyjąć.*

Panie Boże, zmiłuj się, co się to wżdy[4] dzieje?
Jak[o] leję, tak leję, a nie znać, że leję.
Czy mi ją kto wypija? Wychodź, kto ją pije,

---

[1] Тут прыйдзе Д'ябал у сялянскай вопратцы, прыкрываючы вусны рукою (лац.). Малгажата Мешак, якая грунтоўна даследавала рукапіс BJ, sygn. Akc. 265/53, звярнула ўвагу, што ў ім "didaskalia zostały znacznie rozbudowane". У дадзеным месцы: "Tu sobie Chłop zatka gębę ręką, a Diabeł przychodząc do niego, w czarnej postaci, zatkawszy też sobie gęby, mruczeć będzie chodząc koło onego Chłopa. Chłop wytrwać nie mogąc mówić będzie, w tam, jak Chłop do niego przemówi, uciece śmiejąc się, iż go zwiódł" (k. 51r). Гл.: M. Mieszek, *Kategoria milczenia w staropolskich intermediach szkolnych*, „Acta Universitatis Lodziensis: Folia Litteraria Polonica" 2009, t. 12, s. 57–58.

[2] Пасля прыйдзе Д'ябал у сялянскай вопратцы з дзежачкаю і конаўкаю (лац.). У рукапісе BJ, sygn. Akc. 265/53: "Chłop nic nie mówiąc z daleka raz będzie kiwał" (k. 51r).

[3] *za broną* – za bramą (за брамаю).

[4] *Wżdy* (даўн.) – аднак, урэшце.

Bo jako cię ułapię, to-ć nakręcę szyję!
To ty, chłopie, podowno mnie tę wodę pijesz,
Ale, jak ci dam konwią w te ślepie, poczujesz.

*Tu C h ł o p  będzie pokazywał rękami, żeby czop włożył*[1].

Mówżę, [co] masz li mówić! Brydzisz czy szalejesz.

R u s t i c u s

Włóż, błaźnie, czop do faski, to prędzej nalejesz.

D a e m o n

A już ci [to] mam dosyć, bo się już nalało.
I czegom chciał dokazać, to się dokazano.

*Interea fugam dabit*[2].

R u s t i c u s

Ba, patrzcie tego [...]pia, jak ci wnet ucieka
Oszukawszy mnie, zdrajca, ubogiego człeka.

A n g e l u s

Azaż tak przykazanie, bracie, zachowujesz?

R u s t i c u s

Czemuż na mnie figlarzów sztucznych[3] naprawujesz?
Rzkomo wody chciał nalać, a on na to godził,
Żeby mi to był drogę do Raju zagrodził.
Ale od tego czasu już mnie też nie zdradzi,
Niech spróbuje, jako chce, i na to zasadzi.

A n g e l u s

Nu, dobrze. Stańże jeszcze a milcz.

R u s t i c u s

Dobrze, mój Jamiele,
Już nie będę nic mówił, obiecuję-ć śmiele.

*D a e m o n  in habitu germanico egredietur z flaszą*[4].

D a e m o n

Mo[s]cy panie, [na] piwo waszmości chcę prosić,
Dajcie go tu na gębę mojego kęs włożyć.
Nie masz ciury. Nie fiem, jak ten piw bedzie piła,
Wychodź pan piw, będzie go moja szpada biła.
Mój dobry, drogi czł[owi]ek, weź tam świdra który,
Potrzeba go przewiercić do tego piw dziury.
Będę ja go flas trzymać, a ty będziesz kolić,

[1] Польскамоўная рэмарка з рукапісу бібліятэкі кракаўскіх аўгусціянаў (сёння: BJ, sygn. Akc. 265/53).
[2] Тут ён уцячэ (лац.).
[3] *figlarzów sztucznych* – адмысловых (падступных) свавольнікаў.
[4] Д'ябал у нямецкай вопратцы выйдзе з бутляю (лац., польск.).

Bo mnie ten ręka i ten palec począł bardzo bolić.
Mój panie klopie Polak, [pch]ni go flasza tego,
I sam waszmość pij, i lej na gębę mojego.

Rusticus

O, pludra![1] Wielkie pludry masz, a rozum mały.
Odkęć śrubkę, bogdej cię kaducy miotali[2].

Daemon

[Ej, proszę was], pan Polak, a wżdy mnie nie bijcie.
Raczej się tego pifa dobrego napijcie.

Rusticus

Idź, obiesiu. Zgiń z piwem. Otoś mi przyczynę
Dał; dla ciebie teraz ot popełniłem winę.

Angelus

A takze to [ty] milcz[ysz]? Nie być tobie w niebie.
Narzekasz na Adama nie pomniąc na siebie.

Rusticus

Niechajże jeszcze, aby z raz jeden, spróbuję,
A już [się] na te franty lepiej nagotuję.

*Daemon solem captabit cribro sub specie rustici*[3].

Daemon

Już mam dom, a światła nic. Do izby nanoszę
[Słońca], lecz w nim ciemno; daj kto pudła, proszę.
Owo jest i już mi też będzie widno siedzieć. –
Jeszcze ciemno. – Cóż czynić? Czy nie mogę wiedzieć,
Co li to ten chłop mruczy? Spytać go nie wadzi,
Co li mam z izbą czynić, aza mi poradzi. –
Pomaga Bóg, niech ci się wszystko dobre stanie.
Cóż? Albo nie gadacie?

Rusticus

Nie gadam, mój panie.

Daemon

Dość mam.

Rusticus

Patrzcież, jako mnie wnet [chytrze] oszukał.
[Jak] to pięknie ze mną szedł, nic na mnie nie fukał.
A wżdy przecię musiałem przemówić do niego.
Ej, już ci mnie będzie wstyd Janioła onego.

[1] Пагардлівая мянушка немцаў. Ад ням. *Pluderhose* – шырокія штаны, шаравары.
[2] *kaducy miotal*i – д’яблы трэслі; эпілепсія (падучка) трэсла.
[3] Д’ябал у сялянскай вопратцы будзе лавіць рэшатам сонца (лац.).

A n g e l u s

A prawda, żeś się nie mógł zatrzymać od tego,
Żebyś był nie wymówieł i słowa jednego.

R u s t i c u s

Prawda. Atoli odtąd nie rzekę już nic, mój Janiele,
By mnie też kto miał pytać przez cztery niedziele.

A n g e l u s

Dobrze, [to] wnet obaczę.

R u s t i c u s

Oto i ci sami
Obaczą, iż będę miał język za zębami.

*D a e m o n  in vestitu rusticali z flaszą*[1].

D a e m o n

Ja zaś [z flaszą], że nie mam napoju lepszego
Jako nasza gorzałka dla zdrowia słabego.
Nie woda, nie woda, wszak wszyscy w[idziemy],
Nu, to ja do was, wy do mnie speł[niemy].

*Pije.*

Jakom cnotliwy, dobra. Więc jej nie żałować,
Tylko nie wiem, kogo mam wprzód nią poczęstować.
Kto się do mnie roześmieje, to spełnię do niego.
Wierę spełnię. Nuż jeno, czy me masz żadnego,
Co by się rozśmiał? Więc ja sam do siebie,
Kiedy z was nikt nie chce pić.

R u s t i c u s

Owo ja się śmieję.

D a e m o n

Będziesz ze mną gorzałkę pil, bracie?

R u s t i c u s

A będę.

D a e m o n

To dobrze, więc tu trochę ja sobie usi[e]ndę.
[Na tej lawie.] Usiądź wprzód. Nęż-ci, miły broda.

R u s t i c u s

Ba! By cię uwiązano! Wżdyć to prosta woda.

D a e m o n

Już to już między nami, panie broda, zgoda.

[1] Д'ябал у сялянскай вопратцы з бутляю (*лац., польск.*).

R u s t i c u s

Ej, już-ci mnie będzie wstyd Janioła owego,
Iżem już nie miał gadać i słowa żadnego.
Ej, jeśliby was on pytał, nie odpowiedajcie,
Jeżelim co z nim gadał, nic nie wspominajcie.
Aleć go też nie widać na to szczęście do mnie;
Będę milczał. Com gadał, nie pozna już po mnie.

A n g e l u s

A takżeś to, bracie, miał język za zębami,
Coś około gorzałki bawił się gadkami?

R u s t i c u s

Wżdyć to, co rozumiecie, mój Janiele drogi,
Przyniósł jej był niemało coś za człek niesrogi
I takem się dał uwieść, iżem pił do niego,
Bo pedał, iże znajdzie zdrowia kęs dobrego.
Ale już-ci, mój piękny i drogi Janiele,
Nie rzekę nic nikomu, upewniam cię śmiele.

A n g e l u s

Nu, dobrze, obaczę to niedługo.

*D a e m o n vestitum rusticalem habens cum P u e r o*[1].

C h ł o p i e c

Wie-ż go pastalenca[2], do miasta szkoda darmo chodzić.
Weźmy drew, może się co na drodze nagodzić,
Kupiemy sobie kędy dwuraźnego piwa[3].

D a e m o n

Ba, i soli.

C h ł o p i e c

Ba, i sierp do [bliskiego] żniwa.

D a e m o n

Dajże mi tutaj jeno tego to powroza,
Poniesiemy na grzbiecie, nie trzeba nam woza.
Tylko to prosto je kłaść, żeby letko nosić.
Ki kat, iże tak ciężko? Więcej kłaść potrzeba,
Aż będzie lekko. Kłaść choćby i do nieba.

R u s t i c u s

A, błaźnie miły. Ujmij, a nie kładź tak siła.

D a e m o n

Któż ci winien, bestyja, iżeś przemówiła?

---

[1] Д'ябал у сялянскай вопратцы з хлопцам (*лац.*) .
[2] *Wie-ż go pastalenca* – хвароба на яго; pestilentia (*лац.*) – зараза, хвароба.
[3] *dwuraźnego piwa* – відаць, *abbey dubbel*; піва, у якое пры гатаванні двойчы дадавалі хмель.

R u s t i c u s

Ba, i sam-ci by Anioł, widząc tak głupiego,
Musiałby go nauczyć rozumu lepszego.

A n g e l u s

Po staremu ty gadasz, chocieś nie miał gadać!

R u s t i c u s

Cóż było czynić? Chłop drew nie umiał układać.
Ale, mój drogi, jeszcze daj mi się poprawić.
Nic więcej jedno razik, muszę-ć się już stawić.

A n g e l u s

A dokądże tego będzie? Już zaprawdę dosyć.

R u s t i c u s

Będe-c się też wystrzegał, niech u ciebie zjednam.

A n g e l u s

[Gdy] tego nie uczynisz, cóż ja tobie zadam?

R u s t i c u s

To mnie według swojego spodobania skarzesz.

A n g e l u s

A toż ci rzecz mała zadam.
Nie ruszaj się stąd nigdzie przez godzinę całą,
Namniej się tym nie trwożąc, choć ci by się zdało,
Że cię zabiją, albo i niebo leciało.

R u s t i c u s

To, to, Janiele drogi, to mi było zadać;
Bo to łacniejsza niźli nic a nic nie gadać.
Oto ja już wypełnię, a zaraz tu sobie
Usiadszy, układę się oto tak przy tobie.
A żebym nic nie widział, tedy sobie oczy
Zasłonię, żeby ciemno było jak w pół nocy.

A n g e l u s

Pamiętajże, żebyś tak, jak mówił, uczynił.

R u s t i c u s

Otóż obaczysz, że mnie już nie będziesz winił.

*D a e m o n veniet cum falce ad secandum gramen*[1].

D a e m o n

Oj, siano siano…
Ej, łąka, łąka. Bogdaj takowa bywała.
Nie pomnę, ażeby być lepsza kiedy miała.
Jak to trawa wysoka, aże patrzyć miło.

---

[1] Д’ябал прыйдзе з касою касіць траву (*лац.*).

Ej, toż się to tu będzie z radością kosiło.
Więc w nię co prędzej, poko za pogody,
By zaś w jesień nie było jakowej przeszkody.

*Hie secabit gramen.*
*Rusticus elevato capite dicet*[1].

Rusticus

Ale cóż drwisz? Czyś olsnął[2], bój mi uciąć nogi. –
Ale cóż czynisz, bracie, mójeści ty drogi?
Bójże mi uciąć nogi, bo mi Janioł kazał
Właśnie, ba, jakoż widzisz, ażebym tu lezał.
Ejże, nie brój! – Co czynisz? Bo jak przydzie Janioł,
Tedy ujrzysz, iżeć to będzie wszystko ganieł.

*Hic surget Rusticus, Angelus dicet*[3].

Angelus

Ej, tożeś się poprawił, tożeś nie odbieżał
Przecie z owego miejsca, na którymżeś leżał?
Już się osądź, jeżeliś słusznie lamentował,
Jeśliś słusznie pierwszego Adama winował.
Oto się tobie siedem razy poprawić kazano,
A onemu i razu, gdy zgrzeszył, nie dano.
Zaczym, jeśli on musiał dorabiać się chleba,
Tedyć i tobie robić koniecznie potrzeba.
Idźże, chłopie, a więcej nie winuj Adama,
Boś ty gorszy, jak cię rzecz osądziła sama.

Rusticus

Ej, co rozumiecie, jak mnie ten Anioł pobeształ,
Jeszcze dobrze, żem chudak blisko niego nie stał,
Boby mnie był zapewne tak w co zamalował,
Żebym się był przez stery niedziele smarował.
Toć widzę, że się człek chleba dorabiać musi
I tak długo pracować, aż go śmierć zadusi.

224 вершаваныя радкі інтэрмедыі маглі даць Аўтару *Камедыі* шмат матываў, а таксама – назавём так – моўна-ілюстрацыйнага матэрыялу, аднак ён запазычыў фактычна толькі адзін матыў, праўда, цэнтральны: Селянін наракае на Адама, абвінавачвае яго ў сваім цяжкім жыцці. У асноўным аўтар ідзе сваім шляхам. Па-першае, адважваецца на дастаткова смелы крок: на месца Анёла, які ў інтэрмедыі з'яўляецца абаронцам Адама і які прапануе Селяніну заклад (хоць і не цалкам аформлены як заклад), каб памаўчаць гадзіну, ён ставіць Д'ябла, які ў інтэрмедыі выконваў ролю адно спакушальніка-правакатара. Па-другое, не выкарыстоўвае аніводнага з сямі інтэрмедыйных спакушэнняў,

[1] Тут будзе касіць траву. Селянін, узняўшы галаву, скажа (*лац.*).
[2] *olsnął* (даўн.) – аслеп.
[3] Тут устане селянін, анёл скажа (*лац.*).

замяняе іх іншымі, якія ў *Камедыі* – хоць і не яўна – паходзяць ад Д’ябла. Праўда, як і ў інтэрмедыі прычына, праз якую Селянін прайграе заклад тая самая: нявытрыманасць і нецярплівасць чалавека, узмоцненыя ў *Камедыі* злосцю і ашуканствам. Па-трэцяе, лагодны інтэрмедыйны фінал (Селянін пагаджаецца на цяжкую працу дзеля хлеба) заменены на апакрыфічнае пекла. Уласна з гэтаю мэтаю Аўтар вымушае Селяніна трымаць заклад з Д’яблам, хоць у інтэрмедыі Селянін і прапануе Анёлу пакараць яго. Па-чацвёртае, у *Камедыі* з’яўляецца постаць Жыда, што можна інтэрпрэтаваць як перапрацоўку і ўзбуйненне інтэрмедыйнага матыву п’янства.

Аднак вельмі шмат і агульнага ў інтэрмедыі і *Камедыі*. Гэта выяўляецца перш за ўсё на моўна-стылістычным узроўні (нягледзячы на тое, што інтэрмедыя польскамоўная[1], а *Камедыя* напісаная на дзвюх мовах). Напрыклад, як і ў інтэрмедыі (“Przepuścież mi pierwszy raz, a ja się poprawię”) Селянін з *Камедыі* просіць даравацъ і абяцае паправіцца (“A dabradzieju da|daruj że ty Waszeć mnie użo papraulusię”).

Мяркуючы, што Аўтар *Камедыі* – дастаткова самастойны і арыгінальны, мы, аднак, гаворым і пра аграмадную ролю запазычванняў, а гэта ўсё разам дазволіла стварыць высокамастацкі літаратурны тэкст, які не саступае найлепшым камедыям Францішка Багамольца. І не толькі дзякуючы тым, відавочным запазычванням з вядомае інтэрмедыі. У першую чаргу “запазычваннямі” мы лічым атрыманыя і ўдала выкарыстаныя веды з галіны паэтыкі, якія Аўтар набываў пад час навучання ў езуіцкім калегіуме, а таксама самастойна знаёмячыся з адпаведнымі падручнікамі, магчыма, дзеля падрыхтоўкі тых курсаў, якія мусіў выкладаць у “школах”.

Як вядома, за час існавання езуіцкае сістэмы навучання кіраўніцтва ордэна шматразова змяняла свае рэкамендацыі адносна выкарыстання тых ці іншых падручнікаў, але заўсёды прытрымлівалася статуту пра школы (*Ratio atque Institutio Studiorum Societatis Jesu*, Neapoli 1599), дзе была сфармуляваная канцэпцыя драматургіі і школьнага тэатру[2]. Ужо ў першай кадыфікаванай паэтыцы французскага філолага і перакладніка Якоба Пантануса (1542–1626), якая называлася *Poeticarum institutionum libri tres* (Ingolstadti 1594), вызначалася мэта камедыі (навучанне спосабу жыцця), называліся ўзоры (старажытныя –

[1] Зрэшты, Аўтар мог ведаць і двухмоўную інтэрмедыю.

[2] Гісторыя школьнага езуіцкага тэатра даследаваная ў працах польскіх навукоўцаў. Далейшыя нашыя разважанні грунтуюцца на: J. Poplatek, *Studia z dziejów z dziejów jezuickiego teatru szkolnego w Polsce*, Wrocław 1959; S. Pietraszko, *Doktryna literacka polskiego klasycyzmu*, Wrocław 1966; I. Kadulska, *Ze studiów nad dramatem jezuickiego wczesnego Oświecenia (1746-1765)*, Wrocław 1974; E. Sarnowska-Temeriusz, *Droga na Parnas: Problemy staropolskiej wiedzy o komedii*, Wrocław 1974; J. Okoń, *Intermedium polskie XVII wieku: próba typologii*, „Pamiętnik Literacki” 1986, t. 1 (LXXVII), s. 101–138; I. Kadulska, *Koncepcja komedii w poetykach szkół jezuickich*, „Pamiętnik Literacki” 1989, t. 2 (LXXX), s. 172–214; T. Michałowska, *Średniowieczna teoria literatury w Polsce*, Wrocław 2007.

Арыстоцель, Гарацый, Цыцэрон і рэнесансавыя аўтары), акрэслівалася структура твора, рэкамендаваўся прынцып *imitatio*, што лучыла Я. Пантануса з праграмамі гуманістаў. Пазнейшыя аўтары шмат у чым наследавалі ягоны падручнік, які доўгі час заставаўся абавязковым у езуіцкіх навучальных установах.

У паэтыках XVII стагоддзя выразна адчуваецца ўплыў контррэфармацыйных і барочных ідэй. Так, у падручніку прафесара Collegium Romanum Алясандра Данаці *Ars poetica* (1631) сцвярджаецца, што мэта камедыі – выклікаць ў гледача пачуццё прыемнасці. Вучнем А. Данаці ў 1620-я гг. быў Мацей Казімір Сарбеўскі (1595–1640), які ў трактаце *De perfecta poesi, sive Vergilius et Homerus* (*Пра дасканалую паэзію, альбо Вергілій і Гамер*), паўтараў ідэі настаўніка ў сваёй тэорыі барочнае езуіцкае драмы: "Камедыя наследуе ўчынкі, якія не маюць вялікага значэння, малазначных асобаў з намерам бавіць і стварэння добрага настрою". А вось на дыдактычную функцыю драматургічнага твора ён амаль не звяртае ўвагу. Хоць праца М.К. Сарбеўскага і не была выдадзеная, але была шырокавядомая ў Рэчы Паспалітай, дзякуючы ягоным вучням.

Абавязковым у езуіцкіх калегіумах шмат якіх краін быў папулярны падручнік паэтыкі нямецкага езуіта Якаба Масэна (1606–1681) *Palestra eloquentiae ligate* (1657), дзе рэкамендавалася барочная канцэпцыя камедыі (свабода часу і месца дзеяння, наяўнасць алегарычных вобразаў, эстэтычная асалода).

Але ў хуткім часе ідэі французскіх тэарэтыкаў класіцызму пачынаюць актыўна пашырацца і ў езуіцкім асяроддзі. Так, Жозэф дэ Жувансі (1643–1719) у падручніку De *ratione discendi et docendi* (*Пра прынцыпы навучання і выкладання*, 1691) сцвярджаў, што камедыя – гэта драматычная паэзія, якая паўстае на аснове штодзённага плябейскага жыцця, а ейная асаблівая мэта – выхаванне люду з дапамогаю простых прыкладаў, каб свае звычаі кожны паправіў. Асаблівае значэнне ў школьнай практыцы езуітаў набыла класіцыстычная канцэпцыя тэатру, якая сфармавалася ў парыжскім Collegium Ludovici Magni (Lycée Louis-le-Grand, Калегіум Людовіка Вялікага), дзе ў першай палове XVIII стагоддзя рыторыку выкладалі Габрыэль Франсуа Ле Жэй (Gabriel François Le Jay, 1657–1734), Шарль Порэ (Charles Porée, 1675–1741) і Шарль дэ Ла Рю (Charles de la Rue, 1643–1725).

У іхніх працах на поўны голас прагучала патрабаванне праўдападабенства ("рэчы, якія не выклікаюць даверу, не кранаюць розум і не могуць навучыць"). Мэтаю камедыі павінна быць пазнанне людскіх звычаяў, іх апісанне і праз апісанне – выпраўленне. Аўтар мусіць актывізаваць гледача дзеля маральнага павучання.

Ш. Порэ сурова выступіў супраць свецкага тэатра, які стаў забаваю; які прасякнуты эротыкай, страсцю; які падахвочвае да рэвалюцыі, да гвалту. Камедыя ў ягоным разуменні павінна быць элегантнаю, добра выхаванаю, сарамліваю, скіраванаю на выпраўленне звычаяў; павінна вучыць дысцыпліне моладзь, пакоры і падпарадкаванню дзяўчатаў і кабетаў, высакароднасці і непадкупнасці мужчынаў. Ён дзеля ўзору

падрыхтаваў і выдаў у 1749 г. уласныя камедыі, якія назваў “fabulae dramaticae”, бо былі напісаныя прозаю, што парушала правілы тагачаснага тэатра. Заўважым: беларускія езуіты нават у XIX стагоддзі ставілі на сцэне п’есы Ш. Порэ[1]. Гэта можа быць сведчаннем як шырокай папулярнасці камедый французскага прафесара, настаўніка і выхавальніка Франсуа-Мары Аруэ дэ Вальтэра (1694–1778), так і таго ўплыву Ш. Порэ (і камедый, і трактата *Oratio de theatro*) на езуіцкіх (а, магчыма, і на дамініканскіх) прафесараў рыторыкі і паэтыкі ды драматургаў.

Франц Неймайр (Franz Neumayr, 1697–1765), аўтар падручніка *Idea Poeseos sive Methodica Instructio de praeceptis, praxi, et usu artis ad ingeniorum culturam, animorum oblectationem, ac morum doctrinam accommodata* (Crätz 1759) нагадваў пра абавязак захавання трох адзінстваў (падзеі адбываюцца цягам 12 гадзінаў, а месцам дзеяння можа быць тэрыторыя не большая за 300 крокаў; дапускаюцца праходкі ад дому да блізкага лесу ці саду), рэкамендаваў, каб драматург не імкнуўся дзеля смеху выводзіць на сцэну блазнаў і шарлатанаў, бо толькі той дасягне поспеху, хто кладзе націск не на словы, а на дасціпныя сітуацыі. Істотна таксама тое, што ў падручніку сцвярджаўся прынцып маральнага ўплыву на гледача кожнага спектаклю. Пра гэта павінен рупіцца кожны езуіцкі драматург і рэжысёр.

Звернем таксама ўвагу на тое, што з сярэдзіны XVIII стагоддзя ў калегіумах Рэчы Паспалітае абавязковымі сталі п’есы Ф. Багамольца (1720–1784). Пяць тамоў камедый, выдадзеныя ў 1755–1760 гг., яшчэ тройчы перавыдаваліся. Аўтар беларускай *Камедыі* маглі зацікавіць словы Ф. Багамольца ў прадмове да першага томіка:

> Wiem, że ledwie kilka *Komedyi* Polskich, y to z cudzego ięzyka całkiem tłumaczonych na świet wyszło. Robionych zaś, albo przerabianych żaden ieszcze podobno Polak ojczystym ięzykiem nie wydał: a przecież ta zabawka, iako iest y uczciwa, y pożyteczna, tak godna tego, ażeby się Polacy w niey równie, iako y inne narody kochali. Koniec albowiem Komedyi, y cel właściwy iest, na śmiech podaiąc, poprawiać złe obyczaie[2].

І сапраўды, камедыі на землях Рэчы Паспалітае не карысталіся асаблівым поспехам: нізкі сацыяльны статус камедыйных герояў не выклікаў цікавасці ў гледача-шляхціца[3]. Не менш істотнымі былі і словы Ф. Багамольца пра мову камедый: беларускі Аўтар прачытаў іх, пэўна, як заклік пісаць так, каб п’есу разумела шырокая аўдыторыя, каб

---

[1] “У гэты самы час у канвікце выхаванцы таксама ставілі камедыі па-французску, а сяды-тады і на лаціне – з твораў ксяндза Порэ”. Гл.: Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*, Варшава 2012, с. 437.

[2] F. Bohomolec, *Komedye: Znowu przedrukowane*, Warszawa 1772, s. n.n.

[3] I. Kadulska, *Koncepcja komedii w poetykach szkół jezuickich*, „Pamiętnik Literacki” 1989, t. 2 (LXXX), s. 184.

папраўляў свае звычаі не толькі вышэйшы клас, хоць менавіта яго ў першую чаргу мае на ўвазе Аўтар:

> Poznają z Ciebie wszyscy, ktorzy nie pilnują obowiązkow stanu swego, czego się spodziewać mają, n i e | d o | w a s  C h ł o p k o w  i e d n y c h  t o  s i ę  s i ę g a ,  m o ż e ,  a | w i ę c e y  p o w i e m ,  ż e  ł a t w i e y  p o p a ś ć  w | t e ż | s a m e  n i e s z c z ę ś c i e  y  P a n , (вылучэнне нашае. – *M. X.*) Kiedy|się sprawować nie|będzie za przewodnicstwem Rozumu, Który|się na Prawach Boskich, y|Kościelnych zasadza... To Ja dobiero wszystkim powiadam y|przestrzegam...

* * *

Рукапіс, у якім занатаваныя трагедыя *Вольнасць у няволі* і *Камедыя*, узнік у 1787 г. Працавалі над ім некалькі чалавек (гл. вышэй). Ці быў сярод іх К. Марашэўскі – пытанне адкрытае. Магчыма, калі мы будзем мець узор почырку гэтага прафесара Забельскага канвенту, дык зможам адказаць на яго. Але сёння адназначна можна сказаць, што перапісвальнікі не вызначаліся дасканаласцю ў пісанні. Маем на ўвазе ў першую чаргу веданне імі правілаў запісу польскае мовы[1]. Складваецца ўражанне, што мы маем справу з рукапісам маласпрактыкаваных шкаляроў, бо столькі недакладнасцяў, відаць, не магло паходзіць з пад пяра прафесара рыторыкі і паэтыкі.

Што датычыць беларускае мовы *Камедыі*, дык абодва перапісвальнікі, не маючы аніякіх друкаваных рэгламентацый, выкарыстоўвалі фанетычны прынцып запісу ў адпаведнасці з уласным маўленчым вопытам. Прычым, другі з іх, апрача таго, што меў значна горшы почырк, магчыма, валодаў расейскаю моваю, што выяўлялася зрэдзь час у ігнараванні беларускага акання (напісанне літары “***о***” замест “***а***”).

Важным аргументам, які пацвярджае несспрактыкаванасць перапісвальнікаў, можа быць тое, што яны абодва адносна кепска выкарыстоўвалі тагачасныя правілы пунктуацыі. Зрэшты, усе нашыя дапушчэнні пра несспрактыкаванасць перапісвальнікаў могуць быць вытлумачаныя паспешнасцю, з якою яны мусілі запісваць чытаныя ім тэксты.

Найважнейшае тое, што рукапіс, які ўзнік амаль 250 гадоў таму, даволі складана расчытваецца. З гэтым меў праблемы У. Перэтц, які, не ведаючы – апрача таго – беларускае мовы, не здолеў правільна ўзнавіць шмат якія невыразна альбо з памылкамі занатаваныя перапісвальнікамі словы[2]. Асобныя недахопы публікацыі У. Перэтца паправіў Я. Карскі, але ў кароткім каментары ён не мог, вядома, звярнуць увагу на ўсе

[1] Гл., напр., дапаможнік прафесара паэтыкі Мінскага езуіцкага калегіума, а пасля “szkół narodowych” Міхала Дудзінскага: M. Dudziński, *Zbior rzeczy potrzebniejszych do wydoskonalenia się w oyczystym języku służących*, Wilno 1776, 74 s.

[2] В. Перетцъ, *Къ исторiи польскаго и русскаго народнаго театра...*, с. 248–319.

“цёмныя месцы”[1]. Пазней, публікуючы ў газеце “Беларусь” як свае даследаванні па гісторыі беларускае літаратуры, так і асобныя тэксты прыгожага пісьменства, ён не забудзецца і пра *Камедыю*[2]. Публікацыю Я. Карскага выкарыстаў Максім Гарэцкі спачатку дзеля *Хрыстаматыі*[3], а пасля дзеля *Выпісаў*[4]. Прызначаныя для студэнтаў і школьнікаў, гэтыя выданні, вядома, не вызначаліся дакладнасцю ўзнаўлення надрукаванага Я. Карскім, а тым больш арыгінала.

Значна лепш за Я. Карскага расчытаў *Камедыю* Аляксандар Коршунаў (1924–1991), але ягоная публікацыя – гэта, па-першае, толькі скарочанае (19 сцэнаў п’есы падаюцца ў пераказе) узнаўленне тэксту, а па-другое, – беларускамоўныя рэплікі Селяніна і Жыда транслітараваныя і нязначна адаптаваныя[5].

У 1961 г. Аркадзь Жураўскі (1924–2009) для *Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы* дакладна ўзнавіў і пракаментаваў фрагменты дзевяці сцэнаў *Камедыі* паводле арыгіналу[6].

Поўная публікацыя кірыліцай часткова адаптаванага тэксту твора паводле фотакопіі арыгінала ўпершыню была здзейснена Анатолем Сабалеўскім у 1975 г. Пераклад польскамоўнае часткі п’есы ажыццявіў Зянон Пазняк[7].

Для выдадзенага ў 1978 г. Сцяпанам Лаўшуком пад грыфам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларускай ССР зборніка *Беларуская дакастрычніцкая драматургія* тэкст *Камедыі* паводле фотакопіі арыгінала падрыхтаваў А. Коршунаў. Мова Селяніна і Жыда транслітараваная з лацінкі на кірыліцу ды ў значнай ступені

---

[1] Гл.: Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. 2: *Языкъ бѣлорусскаго племени*, кн. 3: *Очерки синтаксиса бѣлорусскаго наречія...*, с. 314.

[2] Гл.: *Камэдыя*, “Беларусь” 1920, № 106–107. Тут змешчаныя адно фрагменты (“кірыліцай, у скарочаным выглядзе”) твора. На жаль, нам не ўдалося выявіць дадзеныя нумары газеты.

[3] *З Камэдыі Марашэўскага* [у:] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры: XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 70–73. Змешчаны кароткі пераказ *Камедыі*, а таксама колькі маналогаў галоўнага героя. Складальнік пазначае, што тэкст паходзіць з газеты “Беларусь”, але падае толькі год – 1919 (sic!).

[4] К. Морашэўскі, *Комэдыя* [у:] *Выпісы з беларускае літаратуры*, частка першая: 1. *Вусная народная творчасьць*; 2. *Старадаўняе пісьменства*, улажылі: М. Гарэцкі, Ул. Дзяржынскі і П. Каравай, Масква–Ленінград 1925, с. 284–297. Складальнікі не падаюць крыніцу паходжання тэксту.

[5] А. Коршунаў, *Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры*, Мінск 1959, с. 386–403.

[6] *Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы*, частка першая, склад. У. Анічэнка, П. Вярхоў, А. Жураўскі, Я. Рамановіч, Мінск 1961, с. 446–455.

[7] Гл.: *Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі ў 2 ч*., т. 1: *Дарэвалюцыйны перыяд*, уклад, рэд. тэкстаў, уступ. арт. і камент. А. Сабалеўскі, Мінск 1975; *Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі ў 4 т.*, т. 1: *Ад вытокаў – да пачатку ХХ стагоддзя*, уклад, рэд. тэкстаў, уступ. арт. і камент. А. Сабалеўскі, 2-е выд. пашыр. і ўдакладн., Мінск 1997, с. 58–117.

адаптаваная, польскамоўная частка твора перакладзеная на беларускую[1].

Выдадзены пад грыфам Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі другі том *Залатой калекцыі беларускай літаратуры*, у склад якога ўвайшла *Камедыя*[2], падрыхтавалі Алесь Бразгуноў і Сяргей Гаранін. Апошні, пераважна дакладна (хоць і тут ёсць памылкі) транслітаруючы беларускі тэкст п'есы, прапанаваў уласны, у значнай ступені – як нам падаецца – чарнавы (падрадковы) пераклад польскамоўнае яго часткі. Менавіта знаёмства з дадзеным выданнем *Камедыі* падштурхнула нас падрыхтаваць яшчэ адну публікацыю твора паводле ўласнага расчытання. Мы імкнуліся максімальна захаваць усе моўныя, пунктуацыйныя і часткова графічныя (маем на ўвазе ўзнаўленне літары "доўгае s" – **ſ** / ***ſ***, якая сёння не выкарыстоўваецца ў польскай графіцы) асаблівасці арыгінала. Звяртаем увагу, што асобныя мясціны (прынамсі, у тэксце, занатаваным другім перапісвальнікам) дастаткова складаныя для расчытання, дык не можам адназначна сказаць, што нам удалося пазбегнуць недакладнасцяў і памылак.

Асобнае пытанне – памылкі і апіскі перапісвальнікаў. Пры ўзнаўленні тэкстаў твораў (*Вольнасць у няволі* і *Камедыя*) мы іх захоўвалі, але дзеля правільнага прачытання слова падавалі ў спасылках наш варыянт.

Прымаючы пад ўвагу малапрыдатнасць сёння арыгінальнага тэксту (беларуская неўнармаваная лацінка XVIII стагоддзя і правінцыйная польская мова, запісаныя – хутчэй за ўсё – недавучанымі шкалярамі), мы прапануем нашую адаптацыю беларускамоўнае часткі *Камедыі* і пераклад польскамоўнае яе часткі, г. зн.:

1. Непаслядоўнае адлюстраванне на пісьме гука [***ж***] (вельмі часта ён запісваўся з дапамогаю графемы ***z***) мы перадаём літараю ***ж*** (а не ***з***).

2. Непаслядоўнае адлюстраванне на пісьме гука [***н'***] (вельмі часта ён запісваўся з дапамогаю графемы ***n***) мы перадаём як ***нь*** (а не як ***н***).

3. Непаслядоўнае адлюстраванне на пісьме гука [***з'***] (вельмі часта ён запісваўся з дапамогаю графемы ***z***) мы перадаём як ***зь*** (а не як ***з***).

4. Непаслядоўнае адлюстраванне на пісьме гука [***с'***] (вельмі часта ён запісваўся з дапамогаю графемы ***s***) мы перадаём як ***сь*** (а не як ***с***).

5. Непаслядоўнае адлюстраванне на пісьме гука [***ц'***] (вельмі часта ён запісваўся з дапамогаю графемы ***c***) мы перадаём як ***ць*** (а не як ***ц***).

6. Літару ***h*** перадаём як ***г*** (напр. ***caluhenki*** – ***цалюгенькі*** [цалюхенькі], ***hitryje*** – ***гітрые*** [хітрыя], ***hto*** – ***гто*** [хто]).

7. Не папраўляем неадлюстраванае зрэдчас аканне і яканне (напр. ***aniemieli*** – ***анемелі***).

---

[1] *Беларуская дакастрычніцкая драматургія*, уклад., падрыхт. тэкстаў, уступ. артыкул і камент. С. Лаўшука, Мінск 1978, с. 9–40.

[2] К. Марашэўскі, *Камедыя* [у:] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 2: *Літаратура XVIII–XVIII стагоддзяў*, Мінск 2012, с. 642–678.

8. ***Не*** з дзеясловамі (а таксама іншымі часцінамі мовы) пішам асобна.

9. Літару ***ę*** ў постфіксе ***się*** перадаём як ***-е*** (напр. ***upiuszysię*** – ***упіўшысе***); постфікс пішам злітна.

10. Гук [***ў***], які ў рукапісе звычайна перадаваўся літараю ***u***, – літараю ***ў***. Звяртаем, аднак, увагу, што перапісвальнікі спрабавалі перадаваць гук [***ў***] таксама і літараю ***w*** (напр. ***nie leź w oczy***, ***i wstydno***, ***i w haławie***, ***mnie w woczy***, ***tabie w oczy***, ***zaprawdy***, ***zapazniwsia***).

Маем надзею, што нашая публікацыя дазволіць выйсці на новы ўзровень як літаратуразнаўчым, так і мовазнаўчым даследаванням славутага драматургічнага твора XVIII стагоддзя.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: LMAVB, f. 18, b. 201, l. 13v–29 r.

X[1]

|13v|

# KOMEDYA

## Treść rzeczy

Chłopowi gdy|się uprzykrzyła praca, zaczoł narzekać na swoy stan, i na pierwszego człeka Adama, Któremu[2] tak narzekającemu, ukazał się Djabeł mówiąc do niego; nie narzekay na Adama, bo byś się ty sam nie wſtrzymał od pożywania Owocu zakazanego, gdyż ty i teraz nie możeſz|się zachować w milczeniu lecz narzekasz: chłop przyrzeka na jaki czas milczenie zachować, Djabeł idzie z|nim w zakład o cene Duszy, jeżeli nie|zachowa, chłop przegrywa.

## Osoby

Chłop
Żyd
Djabeł
Niewiniątka
Trzey Bracia
Pokutujący

Scena odprawuje|się w polu blisko Lasu

|14r|

## AKT Ãwszy[3].

### Scena Ãwsza.

Chłop.

Och jak nieszczaśliwojo życio majo! chadzu ja, chadzu pieraz caluhenki dzień, aż nohi aniemieli, ruk nie|czuwać ad pracy i tapara, a horſz jeszczo ad capa, małaczu ad samych kurey, aż mało|szto nie da|paudnia jak|by sam adzin: prauda szto i żonka pamahała, da szto|ż jeje za rabota, wiedama żanockaja sprawa; ciuknieć kolka razy Capom, aż za raz Jeje licho i biereć, to siadzieć, to lażeć, to kolki padapruć, tolki Czort łońſki jeje dusić, a|potym jeszcze z homanom i klećboju poydzieć, papytajusia Ja tylki jeje kudy? poydzieſz? aż zaraz ſkażeć, Dziecieу karmić, strawu waryć, a Ja jak paczuju, aż Jena upiuſzysię u karczmie pad łaukaju jak świnia kaczajetca... A ja sam adzyn[4] jak ciuk, tak ciuk, małaczu aż da potu, a jak świet, aż żonka i tut, użo każeć ſzto i drou nada

---

[1] Мы не ведаем, што азначае гэты знак (ці літара).
[2] Другая літара ў слове (магчыма, -***ó***-) папраўленая на -***tó***-.
[3] Тут і далей дзеля нумарацыі актаў і сцэнаў *Камедыі* перапісвальнік часткова выкарыстоўваў літары і дыякрытычны знак цітла [˜ ], каб скараціць абазначэнне лічбавых значэнняў.
[4] Памылка перапісвальніка. Трэба: *adzin*, гл. ніжэй.

nasiecz, choć ty treśni i prapadzi z taparom, ad Cepa jeszczo nie|adayduć, aż tut ad tapara mało ſzto nie|adsochnuć, heta zart, narubay u|piecz, u asieć, u Browar, a usio jak adzin tak adzin, Syna perałom udawiu, nie|raścieć, a Parabka nie|za|szto naniać; Wot i ciepier u|les treba jechać, a nie|s|kim, heta żart, adnamu soſnu spuscić, paszczapać, i na Woz, hoć ty treśni zwalić treba, a prywioższy da chaty i parubać, a usio jak ja, tak ja pamachczy niekamu. Prapadzi Jeno, nieſzczaśliwojo zycio naſzojo, bo usio jak harawać, tak harawać musim. E: E: smakuje: Kap to Adam pierszy nasz Acieć nie|zahraſzyu, tak|by i my hetak nie|pracawali|b. Och! Durak ty Durak, naszto tabie było irwać Jabłyk z|dzierawa praklataho? prapadzi jeno, kab mnie nie wieleno było, to|by ja ani paruchau|by a szto horſzaje, ani paruchau|by: a|my|b u Raju, jak Pany|b na ziemli żyli|b, kłopatu żadnaho nie|mieli|b, ab siermiahu tahdy|by nie|kłapacili|by|się, i hołyje|b u Raju perachadzili|by, a ciepier jak siermiaszka zdzieretca, choć ty z|hoławy wyidzi, nieatkul uziać, a horsz szto niezaszto kupić, a tut i zima nadchodzić, i wſtydno. A ja i szeleha przy|duszy nie|maju, da Duszy|sz nie|maju! a|Pan[1] |14v| nie|hledzić, da usio kryczyć, zapłaci s|kurwy Syn, zapłaci wużawa krou muzyk! Aha tu! aha tu na ciebie Adam, Adam, jak ty nas pahubiu. Och kap|to Ja, ja, ja, –

## Scena 2g̃a

Chłop, Żyd

Żyd. Niu na Ciebie ciorny hod, chadzil ja, cliadzil za taboju, bul ja dwoycy u twajoy chacie, az ledwo tut ja ciebie znasou, kali ty mnie addasi za harełku.

Chłop. Prapadzi ty, nie maju hdzie ad ciebie padzietca, addam licho nie|-wozmieć.

Żyd. Usio kazes sto adjam, adjam, a ja dazdatca nie|mahu twayho adjam – Arendu mnie treba ciepier płacić, końco aday.

Chłop za|rękę żyda bierze. Nu Panie arendaru, użo Ja tabie szczyro kazu ſzto addam, widź że ty wiedajesz dobra szto ja ihłać[2] nie|umieju.

Żyd śmieje|się: Niu i sto ty kaześ i kali ty tahdy adau, kali abiecau, adday kaniecna ciepier, uzo tabie boley wieryć nie budu.

Chłop. Prapadzi ty z twajeju harełkaju nie, nie, nie|budu nikoli napawier braci.

Żyd. Biery, nie|biery i chto ciebie prosić, tolki[3] majo mnie ty ciepier adday.

Chłop. Jdzi ty procz ad mienie, wot mnie drou treba rubać nie z|taboju bałakać.

Żyd. Adday ty majo mnie tak ja i paydu.

---

[1] Кустода: *adnak na toje nie|hledzić.*
[2] Так у рукапісе. Трэба: *iłhać.*
[3] Слова *tylki* папраўленае на *tolki.*

Chłop. Nie|leź|za ty mnie w Oczy, ja tabie kazu, bo ja tabie tut jak|zadam, to ty ani pantoflou[1], ani Jarmułak swaich nie|pazbierajeſz.

Żyd. Niu i sto ty świnia nie|addajes taho sto winien, smakowaie tu Żyd, a|potym mówi: Oy oy wey mir gwałt, i jesco łajessię.

Chłop. Jdzi|sz ty ad mienie, idzi choć u chatu maju, a ja drou nasiekszy, pryidu.

Żyd. Niu i hdzie ja ciebie budu sukać, uzo ja i tak mnoho za taboju nahadziusie, leps ty mienie sukay. Czapkę chłopowi z głowy zdziera.

Chłop. Ach ty niechresnik! Pahański Synu! szto ty mienie czy złodzieja znaſzou? i zyda chwyciwszy tarmosi[2] czapkę swoją odbiera, nadto płaſzcz z Żyda zdziera.

Żyd. Gwałtu, gwałtu, ratuycie, ratuycie Synagogi maje, sorenki, Jeckiele, mackiele.

Chłop. Kryczy kab tabie rażon u horło ulez, kab tabie skulla horło raztaczyli.

Żyd. Niu i za sto ty razboynik, corny hod na ciebie mienie klenies, i bjeśsię, i sto winien nie|addajes, adday prynaymniey chóc płaszc –

Chłop. Addam tabie tahdy płaszcz, kali ty mnie pryabiecajesz toy douch darawac, szto ja u ciebie na piu.

Żyd. Ale Panie Dziemidzie pa sumleniu tolka sam padumay, cy mahu|z ja tojo skazać, sto ty mnie nie winien, kali ab hetym dauhu maje sorenki, Jeckiele, maćkiele dauno uzo wiedajuć, ja daruju, sto uzo nie paydu da Pana na ſkargu za tojo, sto ty mienie akrwawiu, zabiu, abdzior, jak[3] |15r| razboynik u|lesie tu smakuje i mowi: a za tojo|b usio u ~~sta~~ sraku uziau|by.

Chłop. Na tabie apańczu, prapadzi ty ad mienie.

Żyd. Cy mnie u chatu twaju iści?

Chłop. A ciebie czy Czort tam pahonić?

Żyd. Widź że ty kazau mnie pieroz keb ja u chatu twaju pasou i ciebie cakau.

Chłop. Dobra, dobra krucisię choć k Czortu.

Żyd. Budź zdarou, dziakuju sto z dusoju mienie puściu.

## Scena 3ĉia

Chłop

Biedny ja biedny czaławiek, wot i żyda Czort na moju haławu nahadziu, usiemu hetamu Baćka naſz pierszy Adam winawat, кap|to Jon nie|zahraszyu, to|by żyd praklaty, śmierdziuch astatni mnie w|woczy za harełku nie|lez|by. A ja|b u Raju szto dzien pa|pautara|b Garca, z|kwartaju, i pławinkaju wypiwau|by, i usio|b sabie śpiewau Aj, Aj, Aju, hoha, hoha, hodzgi dzga. A|ciepier bolsz kłopatu, niż picia. Aha tu na ciebie Adam, Adam, na licho tabie było słuchać Żeńszczyny, było tabie jeje wieroukaju, wieroukaju, ot tak, jak Ja swaju czaſto swięczu, kab da jeje licho nie|prystupiło, tak|by i jena|b tabie w oczy|b nie|lezła.

---

[1] Літара -*u* папраўленая з -*y*.
[2] Пасля літары -*i*-, верагодна, была літара -*c* (-*ć*), якая аказалася залітая атрамантам.
[3] Кустода: *razboynik u|lesie*.

tu chłop smakuje i mowi daley: Ehe, kab to Ja byu Taboju, użo|b ja i Ewie zadau|by wieroukaju, och dau|by, dau|by, a sam u karczmu day pahulau|by. A ciepier choć ty Panie treśni harujuczy, pracujuczy. Och Adamie, Adamie!

## Scena 4ta

Djabeł, chłop, Żyd

Djabeł. Za co ty tak srodze na Adama narzekasz?

Chłop. Nie użo|sz ty Panie nie|wiedajesz, szto z jeho usio na naſ licho uzyszło.

Djabeł. Jakie licho?

Chłop. Wot i ciepier mazalicca treba, addychnuć niekali, mała ſzto krouju nie|pacieju aż pakul nie pakul kawałak chleba zarablu, ziemla użo nieuradżaynaja stała, duzo mnoho nakłapaciszsię i naharujeszsię pakul nie|urodzić. Usio nam na prociu idzieć, usio na nieszczaście; nie|spadziewatca dabra, niſzto tak nie|udajetca, jak my choczem. Czy paznau ty waszeć ciepier naszuju biedu, a|jak|że nam na jeho nie|narakać i płakać che, che, che płacze tu: Och Adam, Adam, kap ciebie nikoli bolsz nie|wſpaminau[1].

|15v| Djabeł. Ale co temu Adam winien, że go tak często i z|uzaleniem wspominaſz?

Chłop. Ehe! kali ty Waſzeć nie|wiedajesz i nie|spytwau jeszczo taho prabawać, tak i nie|pytaysie.

Djabeł. Ale a, a, a,

Chłop. Jdzi procz kazu, namierza się: kap|ty skroś ziemli paszou.

Djabeł. Ale a, a, a,

Chłop. A ha tu na ciebie, usio tolki każesz a, a,: a|kap ty sam paszou da papracawau tak jak my, nie|boysie i ciebie|b licho uzieło|b.

Djabeł. Ale Panie Dziomka, nie bądź|że tak srogim.

Chłop. Adkul ty Waſzeć wiedajesz a maim Jmeniu?

Djabeł. Przede|mną nie|maſz nic taynego, i dla tego wiem co to jeſt praca, ale tego|się tylko pytam, dla czego na Adama narzekaſz?

Chłop. Skaży|sz ty Waſzeć mnie, za szto ty tak czorny jak Czort?

Djabeł. Krótkom prawda pracował, ale jednak aż szczerniałem.

Chłop. Nie paznau ja szto ty kazau dla czaho, dla czaho?

Djabeł. Dla tego, żem nie tak czynił, jak mi nalezało.

Chłop. Da szto da taho należyć, ja i czasto tak nie rablu, jak mnie Pany każuc, adnak ja nie|czorny.

Djabeł. Często byłeś czarny, tylko żeś siebie nie|widział.

Chłop. Szto ty każesz, ja siebie nie|widzieu, iłżesz, iłżesz, wot ja tabie każu, szto ty iłżesz.

Djabeł. Ty i teraz czarny, obacz się. pokazuje lustro.

---

[1] Кустода: *Djabeł: Ale co temu.*

Chłop. Prapadzi ty na szto mnie hetojo zierkało, ja siehodnie iduczy kasić, u czystym ruczaju kali pić, zachaciełosię, hledzieusie[1], adnak nie|czorny.

Djabeł. Nie tak jak należy na siebieś|się patrzał.

Chłop. A jak|że tam u|czorta?

Djabeł. Oto tak, oto tak. Około jego skaczą[c] pokazuje znowu luſtro.

Chłop. Nie|chaczu, nie|chaczu.

Djabeł. Trzeba z|gruntu siebie poznać.

Chłop. Jak|że tam należyć siebie paznać? skaży ty mnie.

Djabeł. Nie|dość jeſt na siebie patrzeć oczema cielesnymi, lecz trzeba i dusznymi.

Chłop. Moy Dabradzieju skaży ty Waszeć mnie, czy Dusza majeć Oczy, ja wiedaju, szto maju Duszu i Cieło, i w haławie jość dwie Oczy, tak u Duszy musić być boley bo mnie kazali Papy szto Dusza bolszaja jość, jak cieło.

Djabeł. Prawda bo więcey poznajesz, aniżeli widzisz, widzisz tylko jedną rzecz, a z|niey i dziesięć wnioskow uczyniſz[2].

|**16r**| Chłop. Ty Waszeć musisz być dużo mudrym, bo kali szto każesz, tak ja i paznać nie|mahu. Skaży ty waſzeć mnie, szto heto za padwiąski, och nie! za zwiąski, za zwiąski?

Djabeł. Ja nie|mówię związski dziewockie, ale to jest, kiedy ci z jedney rzeczy poznaney, druga wypływa.

Chłop. Da duszy|sz heto prauda musić być bo mnie czasto krou z nosa /: **pływieć**.

Djabeł. Och! nie to ja ci mówię, ale gdy ty widzisz, że Żona twoja, rozłozywszy ogień na zgotowanie wieczerzy, idzie do ogrodu, pomysliſz sobie, że jey jakiey rzeczy nie ſtaje do przysmaku.

Chłop. Da duszy|sz heto zausim szczeraja prauda, ja joy czaſto prypaminaju, kap jena mnie chrenu, czosnyku, rećki, cybuli, pasternaku, pietruszki da Ahurcou pryniesła.

Djabeł. Otoż znay dopioro co to jeſt wniosek.

Chłop. Znaju, ale ty waſzeć moy Dabradzieju, kali ty waszeć hetak mudry, paradź mnie jakim sposabam, ja mahu być bahatym, bo zdajetca szto ja dość dużo ciaszko pracuju, adnakowa jak nie|maju niczoho, tak nie maju. Och Adam, Adam u|jekije ty naſ hory uwiou.

Djabeł. Co tobie winien Adam, za co ty na niego narzekasz?

Chłop. A jak|że nie|narekać, kap jeho Czort uziau, bijesie w|gębe: adpuści Boże hrecha, widź że ty widziſz jak ja pracuju, a heto usio z jeho łaſki.

Djabeł. Cit|że, cit nie|składay na niego winy, ty sam często winnieyſzym jeſteś.

Chłop. Adkul ty znaſzousie u|licha hetaki Patron; wiedama niet, ja znaju szto jon mienie u hetojo licho uprawiu, i usiech nas mużyczkou paieu.

Djabeł. Jakim sposobem?

---

[1] Літара -***u*** папраўленая з -***y***.

[2] Кустода: *Chłop. Ty Waſzeć.*

Chłop. Och! jeki|ż ty wieliki durak, śmiejąc|się mówi. a zawiązkach mnie hawaryu, a hetaho nie|znajeſz.
Djabeł. Ja znam wſzystko, jednak chce wiedzieć, jakim ciebie sposobem Adam zgubił.
Chłop. Wot jak zarwau Jabłyczak z dzierawa praklatoho, tak i sam praklatym zastau, i nas praklatymi paczyniu, Och kap Ja tahdy na jeho mieyscu byu, tak|by ja nikoli taho nie|uczyniu, prapadzi jeno.
Żyd wychodząc krzyczy: Dziomka, Dziomka ~~c~~hdzie ty u licha zhinuu, a ja chce daley mówić potym postrzegłszy Djabła, przepraſza go mówiąc: Wybacz WMPan, że Ja WP[a] nie|widziawſzy na Dziomkę krzyczałem, bo on mnie winien.
Djabeł do Żyda: Zadney mnie przez to krzywdy nie|uczyniłeś.
Żyd kłania|sie, a Djabeł ręką macha, [n]a niego, tym czasem mówi do Chłopa: nie|znasz, co gadasz, ot ty mnieyszey rzeczy nie|zachowaſz[1].
|16v| Żyd. Dziomka pytaysie Jekoje.
Chłop. Smierdziuch paszou ty won, ja bez ciebie z|hetym Paniczkom razhawarusię.
Żyd. Da nu|ty durak pytaysię jekoje. Djabeł im przypatruje|się:
Chłop. Da użo|sz papytajesie, – – och, och zabyusię, prapadzity, Ehe, Ehe, jekoje ty Paniczok Kazau reczy?
Djabeł. Oto nie wytrzymasz, gdybyś nic nie|mówił, ani pisnoł przez godzinę.
Żyd. To prawda, co WPan Dobrodey mówis.
Chłop. Jdzi procz śmierdziuch, ja nie|wycierplu kali tabie u mordu dam, a szto mauczać bez ciebie patraflu.
Djabeł. Nie potrafisz.
Chłop. A zakład chadzi za mnoju.
Djabeł. Dobrze, o jaki zakład?
Żyd na|stronie mówi: Day Boh Dziomku wychrać, to|by mnie zaraz za harełku zapłaciu!
Chłop. Ty waszeć mnie dasi sto Rubley kali ja dacierplu.
Djabeł. Dobrze, dobrze dam i dwiescie i trzysta.
Żyd znowu na|ſtronie: Och, Och jeki jon wieliki budzieć Pan, kali hubu zasyjeć.
Chłop. Pod sumleniem tolki kazysz Waſzeć, szto addasi.
Djabeł. Tak jest: ale kiedy ty nie|dotrzymasz, to co będzie?
Chłop. Tahdy ja twaim budu Paddanym.
Djabeł. Dobrze, dobrze.
Żyd. Dziomka skarey perebiwaycie ruki.
Chłop. Day|że ty waſzeć na tym mnie ruku, szto, kali ja dacie[r]plu, hroszy|mnie /: addasi.
Djabeł. Pamiętay|że, że moim będzieſz poddanym. Daje Chłopowi rękę.
Chłop. Panie Arędaru Perebiy Waſzeć nam ruki.
Żyd. Day Boh Dziomku wyhrać. Tu przebija im ręce.
Djabeł. A czy wiesz kto ja jeſtem?

---
[1] Кустода: *Żyd. Dziomka.*

Chłop. Nie|wiedaju.
Żyd przypatruje|się.
Djabeł. Jestem Djabeł. i płaszcz z|siebie zrzuca.
Żyd uciekając i walając się krzyczy. Gwałtu, Gwałtu.
Chłop, chce uciekać, Djabeł za rękę trzyma, chłop trzęsie sie.
Djabeł: Jeżeli nie dotrzymaſz zakładu, duſzę twoją wezme do piekła, a|to bez żadnego pardonu, pamiętay|że na to.
Chłop. Ach, Ach da szto tut mnie rabić, da użo|sz Panie Djabłe, datrymaju, datry^maju.
Djabeł, odchodząc mówi: Patrzay że.
Żyd z za[1] parawanow do chłopa. Dziomka na tabie ihołku, zasyi hubu sabie.

## Scena 5ta

Chłop[2]

|17r| Nuż papau|że Ja załazytca... Och kap ja wiedau hto jon jość, nie|aszukau|by tahdy Jon mienie, a ciepier i rady sabie dać nie|mahu, szto maju rabić? adnak zakład datrymać treba, bo z Djabłem zartawać nie|patraflu, aszukau|że jon mienie, kab to można było, adrok|by|się i zakładu, da jon nie|adſtupić. Wot bieda nie a|ciaszkuju to prauda recz tut idzieć, mauczać zdajetca potraflu, heta|z nie|wielikaja recz pieraz hadzinu mauczac, Ja na|paru pieraz caluhenki dzień mauczu, kali u polu|rablu, tak mnie nieciaſzko budzieć zakładu dadzierżać, da jak|że użo dadzierzu, tak budu mieć sto Rubley, a moze i boley, jak jon sam kazau, tahdy|ż ja sabie ſtatku nakuplaju, Panu szto winien addam, i jeszczo na harełku z|maładźby idzia napitca zaſtaniecca. Arendar tahdy nie|ſkażeć ſzto nie|dam, och! kap jon tahdy skazau szto nie|dam, to by Ja|jeho u mordu, u|mordu, abo adnoju rukoju za peysa^c^hi,[3] a druhoju pakazwau|by hroszy, tahdy|by jon byu dla mienie lepszy, pokazuje mówiąc jakby bił żyda. i Susiedzi tahdy buduć mnie kłanietca, kali abaczuć szto ja bahaty, a Harasim choć moy wieliki niepryjaciel, adnak spadziejusię szto budzieć kłanietca, kap ja tolki jemu na Czynsz hroszy pazyczyu, da niet, nie warwieć, zjeść Czorta – nie|dam – – nie|dam choćby i zjeu, niechay rozumu nauczycca... i Djabła uże Czort niesieć treba hubu zatykać, użo musić być taja hadzina.

## Scena 6ta

Djabeł, Chłop

Djabeł. Już się zbliża czas, byś twoje wykonywał przyrzeczenie, godzina wraz uderzy od tey zaczniesz twoje milczenie.
Chłop. A czy skoro?

---

[1] Слова *za* напісанае замест нейкага іншага.
[2] Кустода: *Nuż papau|ża Ja załazy.*
[3] Коска пастаўленая замест другое літары -*i*.

Djabeł. Oto wraz, pamiętay|że, żebyś się dobrze zachował w|przyrzeczeniu swoim, ja|ci sto Rublow i więcey bez wątpienia oddam, nadto jeszcze przyrzekam tobie, iż corocznie będę ci dawał, kiedy dotrzymasz.

Chłop. Dacierplu, bo hubu pakulem u|dzioheć pamaczyuszy zatkaju.

Djabeł. Nie potrzeba, ty tak przez godzinę wytrzymay w milczeniu.

Chłop. Wytrymaju, da duszy|sz wytrymaju szto heto.

Djabeł: A kiedy nie?[1]

|17v| Chłop. Tak dusza twaja budzieć.

Djabeł. Patrzay|że, ja ciebie oſtrzegam, żebyś potym na mnie nie|narzekał, bo jak nie|dotrzymasz zakładu, ja ci pardonować nie|myślę.

Chłop. Ja tabie każu szto dacierplu, dacierplu, czaho ty choczesz ad mienie.

Djabeł. Słuchay|że jak godzina uderzy, żebyś zaraz umilkł.

Chłop. Bez twaie kazki ja|heto wiedaju, idzi sabie procz.

Djabeł. Patrzay|że (: Odchodzi:)

Chłop. Dobra, dobra.

## Scena 7m̃a

Chłop

Wot ciepier abaczym hto kaho peremożeć, jon każeć ſzto mienie woźmieć da Piekła, kali mauczać nie|budu, a Ja każu szto Jon i z Rodem swaim nie|dażdzeć, bo ja hatou sabie hubu na kałutku zamknuc; ale prauda prypaminaju sabie, na|szto mnie tyje kałotki, na|ſzto tyje pakule z|dziochciem, wot kali zachoczacca hawaryć, tak ja rukoju hubu zatkaju, wot hetak (: pokazuje:) abaczym szto jon mnie tahdy zrobić, a kończo wyhraju sto Rublou, wot tahdy mnie budzieć dobra. Siada, Godzina bije. Cit, Cit, na migach pokazuje.

## Scena 8m̃a

Chłop, y Niewiniątka

Pierwſze Niewiniątko. Już też wzywa nas Bog do chwały swoiey, już|się cieszyć z nim będziemy na wieki.

Drugie. Ale jak|że weydziemy, kiedy tak wysoko.

Trzeycie: Obmyśli Bog sposob, abyśmy weszli.

Pierwſze. Patrzcie, patrzcie, (z radością, mówi widząc że|się drabina spuſzcza:) oto spuſzcza|się już drabina.

Drugie. Toć musi być droga do Nieba, ale jak po|niey iść.

Trzeycie. Oto tak, same tylo nogi stawiąć na szczebłe nie|dotykają|się rękoma.

Pierwſze odpycha. Nie tak, ale tak, na ręku sie wiesza bez pomocy пog.

Chłop tu paſsyonuie[2], z żyma|się.

---

[1] Кустода: *Chłop. Tak duſza twaja.*

[2] Ад лац. *passio* (*passionem*) – пакутлівая жарсць, афект.

Drugie Niew: przełazi przez szczebłe. Chłop paſsyonuje, pokazuje na gestach jak włazić. Niewiniątka probują po|kilka razy, ale nie potrafią.

Chłop, nie|wytrzyma i porwie|sie i mówi, Wot hetak treba leść, wy nie|umiejecie, abaczycie jak ja zaraz ulezu da Nieba. Chłop jak tylo za drabinę weźmie|się i nogę postawi, drabina w|górę wciągnie|się, a chłop spadnie, niewiniątka z żalem odeydą[1].

|18r|

## Scena 9ta

Djabeł i Chłop

Djabeł wyskoczywſzy Chłopa porywa i ciąga. A przysięga gdzie? przyrzekłeś że będziesz milczał, poszedłeś w zakład, a oto nie|dotrzymałeś, ja ciebie teraz do Piekła poprowadzę. (: ciągnie, chłop wſtaje:)

Chłop. Moy ty naymileyszy Dabradzieju prapraſzaju, wybaczay mnie bo hetye błazny da aſtatnieje złości mienie uwieli, czy im Boh rozum adabrau, czy szto u Czorta, jak im nie|paznać taho, jak leść treba pa drabinie. trzęsie|sie i kłania|się.

Djabeł. A co to do ciebie należało, wſzak ty tylko milczeć powinieneś był, bo taki naſz jest zakład.

Chłop. Da jak|że było ścierpieć, kali aż u|złość ustupiu. (: Kłania|sie:)

Djabeł. Co mi do tego, ja mam prawo do Ciebie, tyś moy.

Chłop, Klęka i ręce składa. A dabradzieju da|daruj że ty Waſzeć mnie użo papraulusię.

Djabeł. Nie|można taka była naſza umowa.

Chłop. A Paniczenku a budź|że łaſkau.

Djabeł. Widziſz jak niesłusznie narzekałeś na Adama, kiedy ty dopioro jeszcze gorzey zrobiłeś.

Chłop. Da znaju tojo, tolki pozwol jeszcze choć troſzaczki, a użo|ſz budu maucząć.

Djabeł. Mam wzgląd na twoją ułomność, pozwalam ci na|czas jaki frysztu[2], ale patrzay, żebyś znowu, jak ci przykaże milczenie, ścisle zachował, bo ci drugi raz już nie|daruje. (: Chłop kłania|się, Djabeł odchodzi:)

## Scena Ãota

Chłop

Wot u jakuju ja biedu ulez, chwaroba tych błaznou na maju hoławu pryniesło, woch jakije Jeny duraki, na drabinu chacieli uleść to adnymi nahami, to adnymi rukami, to wieſzali|się, licho wiedajeć szto jeny rabili, a Ja baczyu szto dużo pryhożo z hary niechto ich prasiu, da jak|że było maucząć, choć treba było, bo ja paſzou u|zakład, ale ja tahdy i zabyusia, jak mienie u|złość uwieli, niechay|że – – budu na druhi raz astaraźnieyszym, zjesi ty licha Panie Djable, kali mienie boley

---

[1] Кустода: *Scena 9ta. Chłop. Djab*[*eł*].

[2] Ад ням. *Frist* – тэрмін, вольны час.

aſzukajesz, kap ty ciepier i niedzwiedziou na mienie spuściu, to użo budu mauczać. Ciepier jeszczo schodzu da domu, pakuł taja para nie pryidzieć; treba abaczyć, szto tam dziejetca, rabotku jekuju sabie zahadać, a uzad potym siudy pryści, hetyje sto Rubley muszuć taki maje być kończo. (: odchodzi:)[1].

|18v|

## AKT Drugi

### Scena Ãwsza

Chłop

Szto heto jość takojo? (: ogląda|się:) zdajetca szto tojo|z samoje mieysce, a ciepier użo admieniłosie tak borzdo; da czaho ja|dziulu|się, szak hetamu Panu Djabłu niczoho nietrudno, musieu[2] Ja trochi douho zabawitca. Czy nie byu Jon użo tut? czy nie biła uzo hadzina, prauda kap była użo para, znaszou|by jon mienie, music być ſzto niet jeszczo toje pary, paczakaju Ja tut trocha, hdzie maju chadzić, kali pryidzieć tak dobra, ale wiedaju, szto pryidzieć, bo Jemu duzo Duſzy maje choczecca. – – nie – nie choć sabie iłby i haławy paukruczwajuć lezuczy na drabinu, uzo Ja im nie pakazu, jak leści, nie, druhi raz mienie nie|aſzukajuć, Ja ciepier jak para pryidzieć, waźmusie za łupy, a dzierżac mocno budu, choć i chacieć budu szto hawaryć, to nie|budu machczy. Raz udałasie sztuka, druhi raz nie|zautra mieuie padmanuć. Dzierżysie Dziemidzie, dzierzysię nieboże, Oy|budu, budu, nie|uchopić użo Ciepier, zjeść czorta. Nu szto|ż dziełać? użo stałosię, na druhi|raz budu aſtaraźnieyszym, ciepier usie abaczuć, jak Ja budu mauczać. Wot hetak naprymier, (: bierze|sie za wargi i trzyma:) choć chaciełosie|b szto hawaryć, tahdy|b hetak, (: znowu siebie zatrzymuie.

### Scena 2ga

Żyd, Chłop

Żyd. Dziomka skazy ty mnie jak ty ad Carta adkasnuusie.
Chłop. Och kap ty i z Czartom razem prapau, tahdy|b ja śmiejausie.
Żyd. Da niu Dziomka skazy ty mnie, cy wyhrau ty?
Chłop. A tabie szto da|taho, czy ja wyhrau, czy nie.
Żyd. Ja dla taho pytajusie, kali ty wyhrau, tak ty mnie za|harełku zapłaci.
Chłop. Nie boysie Czort nie|waźmieć zapłaczu, ale abaczym, czy wazmieſz i czy zachoczesz maje zapłaty.
Żyd. Czamu nie, adday tolki.
Chłop. Czort za mienie tabie mieu zapłacić.
Żyd. Ja nie|chacu kap mnie Cort płaciu, ty sam mnie zapłaci.
Chłop. Da nie|budź|że ty durakom, jon zaraz zapłacić.
Żyd. Nie|chacu ja, nie|chacu kap jon płaciu, ty sam mnie zapłaci.

---

[1] Кустода: *Akt 2gi*.
[2] Літара *-u* папраўленая з літары *-y*.

Chłop. Użo ja jeho prasiu, i jon mnie pryabiecau tabie zapłacić, a wot i jon z hroszmi idzieć.

Żyd. Hdzie, hdzie? (: trzęsie|sie:)[1].

|19r| Chłop. Wosieka, wosieka, (: na tę samę stronę ukazuje zkąd Djabeł wychodzi:) uląkszy|sie żyd krzyczy: Gwałtu, gwałtu, (i|rakiem ucieka:)

Chłop. Arendar, arendar waźmi hroszy.

## Scena 3ĉia

Djabeł, Chłop

Djabeł. Już|się zbliża umówina godzina, przez którą milczeć powinieneś, darowałem ci raz, już|się drugi raz nie|spodziewary: twoje te narzekania na Adama nie|pozwalają mi, abym ci drugi raz darował, wſzak wiesz, że On raz tylko zgrzeszył, a pokutował przez całe życie, i po nim cały narod ludzki, i ty|się z tego regestru nie|wyglozujeſz: nie narzekay przeto na Adama, ale na siebie, bo ty gorſzy jeſteś, ty do uszczęsliwienia twego wiecznego mając przepisane reguły, według nich nie|zachowujesz|się, ty nie|miłujesz Boga i bliźniego, choć to jest pierwſze i naymocnieysze przykazanie, na którym|się całe waſze zasadza uszczęśliwienie, i na którego zachówaniu los wasz wſzystek zawisł, ty tego|nie|zachowujeſz, szemrzysz przeciw Bogu, którego Ja choć odrzucony uznaje za Boga, a ty go chwalić nie|chceſz w czasie, który ci wyznaczony jest do wysługi.

Chłop. Da ja heta Maspanie znaju, da kali|ż Czort zwodzić.

Djabeł. Jak|że ty możesz mówić? że Djabeł zwodzi, kiedy ja cię od tego odwodzę.

Chłop. Może Waszec adzin tak patściwy, a inſzyje nie|takije.

Djabeł. Zkądże ty to wiesz?

Chłop. Z Prykazki.

Djabeł. Z Jakiej powieści?

Chłop. Widź u nas każuć szto Djabli jość wielikije Pużała.

Djabeł. Prawda bo tych straſzemy, i tym jesteśmy straszni, którzy na to zasługują.

Chłop. Każuć jeszczo szto usie hitryje jak sabaki.

Djabeł. Na chitrość waſzą musiemy i|my być chytremi.

Chłop. Każuć szto usiech nas choczuć mieć u piekle na pieczonku sabie.

Djabeł. Co to, to zgadłeś, bo pociecha jest nędznym mając uczęstnika, ale ty tym czasem słuchay dobrze, bo wraz godzina uderzy, patrzay|że abyś milczał, już ci drugi raz nie|daruje.

Chłop. Użo mienie ciepier chłopcy nie|aszukajuć.

Djabeł. Ja tobie nie o chłopcach mówię, ale o|milczeniu.

Chłop. Tak dobra ja|ż każu, ſzto budu mauczać.

Djabeł. A|kiedy nie|dotrzymaſz, to już może nie|daruje.

Chłop. Dadzierżu, dadzierżu, heto|ż nieciaſzkaja recz mauczać.

Djabeł. Patrzay|że jak godzina uderzy, żebyś milczał.

Chłop. Budu hledzieć dobra, dobra. (: kłania|się:)

---

[1] Кустода: *Chłop*. *Wosieka*.

D j a b e ł. Pamiętay, że nie|z|chłopcami będzie tobie sprawa.

C h ł o p. Niechay jeny pracham payduć, czort ich znau, czaho jeny chacieli, da tyje użo błazny mia[1] boley nie|aſzukajuć; szczascia ich, szto raz im udałosię[2].

|19v| D j a b e ł. Patrzay|że bo duſza twaja, będzie juz moja.

C h ł o p. Kap ty nie|daždau. (i pluje z pogardą:)

D j a b e ł. Patrzay|ze, Ja cię już to drugi raz oſtrzegam, żebyś na mnie nie|narzekał.

C h ł o p. Nie|daczekajesz ty z|rodem twaim.

D j a b e ł. Ey nie|dufay tak wiele sobie.

C h ł o p. Nie|boysie; nie budzieć tak druhi raz jak było, budu ja szupnieyszy ciepier, choćby i sotnia błaznou pryszło, to nie|aszukajuć, bo i huby nie|raziaulu. (: tym czasem poziewa:)

D j a b e ł. Milcz że bo zaraz godzina uderzy.

C h ł o p. Nie|boysie wot i ryzinaju zaraz zatkaju hubu. (: *zatyka*:)

D j a b e ł. Patrzay|że bo będziesz nieſzczęśliwy. (: odchodzi:)

C h ł o p. Szto, szto ty każesz Panie Djable – – Ręką macha, krucisię choc k|Czortu.

## Scena 4ta

Chłop

Wot druli raz bezjezykim treba zrabitca, dla zakładu. Och kap Ja Jeho nikoli nie|znau, wot zahraſzyu, zachaciełosie sto Rubley, mnie zdałosie szto małaja recz maucząć, a ciepier jak ja paznau, z|kim ja u zakład paſzou, y usie Jeho figle jak użo abaczyu, i paznau, czaho jon ad mienie choczeć, tak i dużo Duſza maja trasietca markotnaja, choć Ja nie|bajusie, wiedaju szto dacierplu maucząć, choćby ciepier tyje błazny i haławy sabie paukruczwali.

## Scena 5ta

Chłop, Żyd

Ż y d. Dziomka o Dziomka ja znaju, szto ty dużo markotny, skazy|ty mnie, jak ty ad Djabła adkasnuusie?

C h ł o p. Nie|lez że ty mnie w|oczy, mnie i tak użo na Duszy usiako.

Ż y d. Da niu Dziomac~~z~~ka skazy a sto tabie?

C h ł o p. Da nie sto, adna da lichaja, wot i żywot balić, i usiemu ledajak, i hawaryć nie|choczecca, idzi ty sabie procz.

Ż y d. Czy nie|napjeſsię ty harełki?

C h ł o p. A czy maje|ż ża[3] ty tut?

---

[1] У рукапісе, як заўважыў яшчэ У.Ператц, *mia* папраўленае з *mienie*, *-nie* часткова выцертае.

[2] Кустода: Djabeł. *Patrzay|że bo Dusza.*

[3] Літара -***a*** папраўленая з -***y***.

Жыд. Ню, і гдзе я цебе буду сукаць? Узо я і так много за табою нагадзіўсе! Лепс ты мене сукай! *(Здзірае ў Селяніна з галавы шапку).*

Селянін. Ах ты, нехрэснік! Паганьскі сыну! Што ты мене, чы злодзея знашоў? (*І, схапіўшы Жыда, тармосіць яго, адбірае сваю шапку, нават здзірае з Жыда плашч).*

Жыд. Гвалту, гвалту! Ратуйце, ратуйце сыногогі мае, Сорэнкі, Ецкеле[1], Мацкеле[2]!

Селянін. Крычы, каб табе ражон у горло ўлез, каб табе скулля горла разтачылі!

Жыд. Ню, і за сто, ты, разбойнік, цорны год на цебе, мене кленес і б'есьсе і сто вінен не аддаес? Аддай прынамней хоць плашч!

Селянін. Аддам табе тагды плашч, калі ты мне прыабецаеш той доўх даравацъ, што я ў цебе напіў.

Жыд. Але, пане Дземідзе, па сумленю толька сам падумай, цы магу з я тоё сказаць, сто ты мне не вінен, калі аб гэтым даўгу мае Сорэнкі, Ецкеле, Мацькеле даўно ўзо ведаюць? Я дарую, сто ўзо не пайду да пана на скаргу за тоё, сто ты мене акрвавіў, забіў, абдзёр, як разбойнік у лесе. *(Тут смакуе і кажа:)* А за тоё б усё ў сраку[3] узяў бы!

Селянін. На табе апаньчу[4], прападзі ты ад мене.

Жыд. Цы мне ў хату тваю ісьці?

Селянін. А цебе чы чорт там пагоніць?

Жыд. Відзь жэ ты казаў мне пероз, кэб я ў хату тваю пасоў і цебе цакаў.

Селянін. Добра, добра. Круціся, хоць к чорту!

Жыд. Будзь здароў! Дзякую, сто з дусою мене пусьціў.

### Сцэна 3-я

Селянін

Бедны я, бедны чалавек! Вот і Жыда чорт на мою галаву нагадзіў. Усему гэтаму бацька наш першы, Адам, вінават, кап то ён не заграшыў, то бы Жыд праклятый, сьмердзюх астатні, мне ў вочы за гарэлку не лез бы. А я б у Раю штодзень па паўтара б гарца з квартаю і палавінкаю выпіваў бы і ўсё б сабе сьпеваў: "Ай, ай, аю, гога, гога, годзгі, дзга!" А цепер больш клопату, ніж[5] піця. Ага-ту на цебе, Адам! Адам, на ліхо табе было слухаць жэньшчыны? Было табе ее вероўкаю, вероўкаю. От так, як я сваю часто свенчу, каб да ее ліхо не прыступіло. Так бы і ена б табе ў очы б не лезла. *(Тут Селянін смкуе і кажа далей:)* Эге, каб то я быў табою! Ужо б я і Эве

---

[1] Форма ад імя יצחק (Іцхак, Ісаак, Янкель).

[2] Форма ад імя מֹשֶׁה (Майсей, Мойша).

[3] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 612: "СРА́КА, -и, сущ. ж. 1) Задница. *Срака не бересцень, не будуць сѣчь цѣлый дзень* (Посл.) <...>".

[4] Даўняе верхняе адзенне ў выглядзе шырокага плашча. (Цюрк.)

[5] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 339: "НИ́ЖЛИ, союзъ. Нежели. *Лѣпѣй циперъ, нижли послѣ*".

задаў бы вероўкаю. Ох, даў бы, даў бы! А сам у карчму дай пагуляў бы. А цепер хоць ты, пане, трэсьні, гаруючы, працуючы. Ох, Адаме, Адаме!

### Сцэна 4-я

Д'ябал, Селянін, Жыд

Д ' я б а л. За што ты так моцна наракаеш на Адама?

С е л я н і н. Няўжо ш ты, Пане, не ведаеш, што з его ўсё на нас ліхо ўзышло?

Д ' я б а л. Якое ліха?

С е л я н і н. Вот і цепер мазаліцца трэба, аддыхнуць некалі. Мала што кроўю не пацею, аж пакуль не пакуль кавалак хлеба зараблю. Земля ўжо неўраджайная стала. Дужо много наклапацішсе і нагаруешсе, пакуль не ўродзіць. Усё нам напроціў ідзецьь, усё на нешчасьце; не спадзеватца дабра. Нішто так не ўдаетца, як мы хочэм. Чы пазнаў ты, Вашэць, цепер нашую беду? А як жа нам на его не наракаць і [не] плакаць. Хэ, хэ, хэ (*тут плача*). Ох, Адам, Адам, кап цебе ніколі больш не ўспамінаў!

Д ' я б а л. Але хіба ў гэтым Адам віноўны, што ты яго так часта і з жалем ўспамінаеш?

С е л я н і н. Эге! Калі ты, Вашэць, не ведаеш і не спытваў ешчо таго прабаваць, так і не пытайсе!

Д ' я б а л. Але а, а, а...

С е л я н і н. Ідзі проч, кажу! (*Замахваецца*.) Кап ты скрозь землі пашоў!

Д ' я б а л. Але а, а, а...

С е л я н і н. Ага-ту на цебе! Усё толькі кажэш: а, а... Кап ты сам пашоў да папрацаваў так, як мы, не бойсе, і цебе б ліхо ўзело б!

Д ' я б а л. Але, пане Дзёмка, не будзь жа такім строгім.

С е л я н і н. Адкуль ты, Вашэць, ведаеш а маім іменю?

Д ' я б а л. Для мяне няма нічога тайнага і таму ведаю, што такое праца. Я толькі пытаюся: чаму ты на Адама наракаеш?

С е л я н і н. Скажы ш ты, Вашэсць, мне, за што ты так чорны, як чорт?

Д ' я б а л. Працаваў я, праўда, мала, але, аднак, аж счарнеў

С е л я н і н. Не пазнаў я, што ты казаў: для чаго, для чаго?

Д ' я б а л. Для таго, што я не так рабіў, як мне належала.

С е л я н і н. Да што да таго належыць? Я і часто так не раблю, як мне паны кажуць, аднак я не чорны.

Д ' я б а л. Ты часта быў чорны, толькі сам сябе не бачыў

С е л я н і н. Што ты кажэш: я себе не відзеў? Ілжэш, ілжэш! Вот я табе кажу, што ты ілжэш.

Д ' я б а л. Ты і цяпер чорны. Паглядзі на сябе. (*Паказвае люстра*.)

С е л я н і н. Прападзі ты! Нашто мне гэтоё зеркало? Я сегодне, ідучы касіць, у чыстым ручаю, калі піць захацелосе, гледзеўсе, аднак не чорны.

Д ' я б а л. Ты не так, як належыць, на сябе глядзеў.

С е л я н і н. А як жэ там у чорта?

Д ' я б а л. Вось так, вось так. (*Скачучы каля яго, зноў паказвае люстра*).

С е л я н і н. Не хачу, не хачу.

Д ' я б а л. Трэба грунтоўна пазнаць сябе.

С е л я н і н. Як же там належыць себе пазнаць? Скажы ты мне.

Д ' я б а л. Не дастаткова глядзець на сябе вачыма цела – трэба яшчэ і вачыма душы.

С е л я н і н. Мой Дабрадзею! Скажы ты, Вашэць, мне, чы душа маець очы? Я ведаю, што маю душу і цело і ў галаве ёсць две очы; так у душы мусіць быць болей, бо мне казалі папы, што душа большая ёсць, як цело.

Д ' я б а л. Праўда, бо больш пазнаеш, чым бачыш: бачыш толькі адну рэч, а з яе і дзесяць *внёскув*[1] зробіш.

С е л я н і н. Ты, вашэць, мусіш быць дужо мудрым, бо калі што кажэш, так я і пазнаць не магу. Скажы ты, вашэць, мне, што гэто за *падвёнскі*?[2] Ох не! —за *звёнскі*[3], за *звёнскі*?

Д ' я б а л. Я не кажу: дзявочыя *звёнскі*, але пра тое, калі табе з аднае пазнанае рэчы выплывае другая.

С е л я н і н. Дадушы ш, гэто праўда мусіць быць, бо мне часто кроў з носа плывець.

Д ' я б а л. Ох! Не пра гэта я табе кажу. Але калі ты бачыш, што твая жонка, запаліўшы агонь дзеля прыгатавання вячэры, ідзе на агарод, дык ты падумаеш сабе, што ёй якойсьці рэчы не стае дзеля прысмаку.

С е л я н і н. Дадушы ш, гэто заўсім шчэрая праўда. Я ёй часто прыпамінаю, кап ена мне хрэну, чосныку, рэцькі, цыбулі, пастэрнаку, петрушкі да агурцоў прынесла.

Д ' я б а л. Вось і ведай цяпер, што такое ёсць *внёсэк*.

С е л я н і н. Знаю. Але ты, Вашэць, мой Дабрадзею, калі ты, Вашэць, гэтак мудры, парадзь мне, якім спосабам я магу быць багатым, бо здаетца, што я досьць дужо цяшко працую, аднакова як не маю нічого, так не маю. Ох, Адам, Адам! У екіе ты нас горы ўвёў!

Д ' я б а л. У чым жа вінен перад табою Адам? За што ты на яго наракаеш?

С е л я н і н. А як жэ не наракаць, кап его чорт узяў! (*Б'е сябе па губах.*) Адпусьці, Божэ, грэха, відзь жэ ты відзіш, як я працую, а гэто ўсё з его ласкі.

Д ' я б а л. Цыц жа, цыц! Не ўскладай на яго віну. Ты сам часта больш віноўным бываеш.

С е л я н і н. Адкуль ты знашоўсе ў ліха гэтакі патрон[4]? Ведама нет. Я знаю, што ён мене ў гэтоё ліхо ўправіў і ўсех нас, мужычкоў, паеў.

---

[1] Польск. *wniosków* – высноваў.

[2] Польск. *podwiązka* – падвязка (эластычная павязка для падтрымання панчохаў).

[3] Польск. *związek* – сужэнства; пазашлюбная сувязь; *związka* – вязанка, звязка.

[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы…*, с. 394: "ПАТРО́НЪ, -а, с. м. 1) Святой или день святаго, имя котораго дано младенцу при крещеніи; день ангела. *Съ патрономъ поздравляю.* 2) Адвокатъ, занимающійся по судамъ защище-

Д ’ я б а л. Якім чынам?

С е л я н і н. Ох, екі ж ты велікі дурак! (*Смяючыся, кажа.*) А *завёнзках* мне гаварыў, а гэтаго не знаеш?

Д ’ я б а л. Я ведаю ўсё, аднак хачу ведаць, які чынам цябе Адам загубіў?

С е л я н і н. Вот як зарваў яблычак з дзерава праклятого, так і сам праклятым застаў, і нас праклятымі пачыніў. Ох, кап я тагды на его мейсцу быў, так бы я ніколі таго не ўчыніў; прападзі ено!

Ж ы д (*выходзячы, крычыць*). Дзёмка, Дзёмка! Гдзе ты ў ліха згінуў, а я... (*Хоча далей казаць, але, убачыўшы Д'ябла, просіць у яго прабачэння.*) Выбачай, Ваша Мосць Пан, што я Васпана не заўважыўшы, крычаў на Дзёмку, бо ён мне вінен.

Д ’ я б а л (*да Жыда*). Аніякае крыўды ты мне гэтым не ўчыніў. (*Ж ы д кланяецца, а Д ’ я б а л, махаючы на яго рукой, кажа тым часам да С е л я н і н а.*) Не ведаеш, што пляцеш. Вось ты і меншае рэчы не вытрываеш.

Ж ы д. Дзёмка! Пытайсе: екое!

С е л я н і н. Смердзюх, пашоў ты вон! Я без цебе з гэтым панічком разгаварусе.

Ж ы д. Да ну ты, дурак! Пытайсе: екое! (*Д ’ я б а л прыглядваецца да іх.*)

С е л я н і н. Да ўжо ш папытаесе... Ох, ох, забыўсе, прападзі ты! Эге, эге! Екое ты, панічок, казаў рэчы?

Д ’ я б а л. Вось не вытрываеш, каб цягам аднае гадзіны нічога не сказаць і не піснуць.

Ж ы д. То праўда, што Васпан-добродэй мувіс.

С е л я н і н. Ідзі проч, смердзюх! Я не выцерплю, калі табе ў морду дам, а што маўчаць бэз цебе патрафлю.

Д ’ я б а л. Не патрафіш.

С е л я н і н. А заклад хадзі за мною.

Д ’ я б а л. Добра! Аб які заклад?

Ж ы д (*кажа ўбок*). Дай Бог Дзёмку выграць: то бы мне зараз за гарэлку заплаціў!

С е л я н і н. Ты, Вашэць, мне дасі сто рублей, калі я дацерплю.

Д ’ я б а л. Добра, добра! Дам і дзвесце, і трыста.

Ж ы д (*зноў убок*). Ох, ох! Екі ён велікі будзець пан, калі губу засыець!

С е л я н і н. Под сумленем толькі кажыш, Вашэць, што аддасі.

Д ’ я б а л. Так. А калі не вытрымаеш, то што будзе?

С е л я н і н. Тагды я тваім буду падданым.

Д ’ я б а л. Добра, добра!

Ж ы д. Дзёмка, скарэй пэрэбівайце рукі!

С е л я н і н. Дай жэ ты, Вашэць, на тым мне руку, што калі я дацерплю, грошы мне аддасі.

---

ніемъ чьего либо права. *Патрона наняць на гето дзѣло.* 3) Защитникъ, покровитель. *Хорошаго маець за себе патрона у пана. Мнѣ патроновъ не треба*".

Д ’ я б а л. Памятай жа, што маім будзеш падданым! (*Дае С е л я н і н у руку.*)

С е л я н і н. Пане Арэндару, пэрэбій, Вашэць, нам рукі!

Ж ы д. Дай Бог Дзёмку выграць! (*Тут перабівае ім рукі.*)

Д ’ я б а л. А ці ты ведаеш, хто я такі?

С е л я н і н. Не ведаю.

(*Ж ы д прыглядаецца*).

Д ’ я б а л. Я – Д’ябал! (*І скідае з сябе плашч.*)

Ж ы д (*уцякаючы і падаючы на зямлю, крычыць*). Гвалту! Гвалту!

*С е л я н і н хоча ўцякаць. Д ’ я б а л трымае яго за руку. С е л я н і н трасецца.*

Д ’ я б а л. Калі не вытрымаеш заклад, я душу тваю вазьму ў пекла, не зважаючы ні на што. Памятай жа пра гэта!

С е л я н і н. Ах, ах! Да што тут мне рабіць?! Да ўжо ш, Пане Д’ябле, датрымаю, датрымаю.

Д ’ я б а л (*адыходзячы, кажа*). Глядзі ж!

Ж ы д (*з-за шырмы да С е л я н і н а*). Дзёмка! На табе іголку, засыі губу сабе.

## Сцэна 5-я

Селянін

Ну ж папаў жэ я залажытца!.. Ох, кап я ведаў, гто ён ёсць, не ашукаў бы тагды ён мене! А цепер і рады сабе даць не магу, што маю рабіць. Аднак заклад датрымаць трэба, бо з д’яблэм жартаваць не патрафлю. Ашукаў жэ ён мене! Каб то можна было, адрокбысе і закладу, да ён не адступіць. Вот беда! Не а цяшкую то, праўда, рэч тут ідзець. Маўчаць, здаетца, патрафлю. Гэта ж невялікая рэч – пераз гадзіну маўчаць. Я на пару пераз цалюгенькі дзень маўчу, калі ў полю раблю; так мне нецяшко будзець закладу дадзержаць; да як жэ ўжо дадзержу, так буду мець сто рублей, а можа, і болей, як ён сам казаў. Тагды ж я сабе статку накупляю, пану, што вінен, аддам і ешчо на гарэлку, з маладзьбы ідзя напітца, застанецца. Арэндар тагды не скажэць, што не дам. Ох, кап ён тагды сказаў, што не дам, то бы я его ў морду, у морду, або адною рукою за пэйсахі, а другою паказваў бы грошы. Тагды бы ён быў для мене лепшы! (*Кажучы так, паказвае, як бы ён біў Ж ы д а.*) І суседзі тагды будуць мне кланетца, калі абачуць, што я багаты. А Гарасім, хоць мой велікі непрыяцель, аднак, спадзеюсе, што будзець кланетца, кап я толькі ему на чынш грошы пазычыў. Да нет! Не варвець, з’есць чорта – не дам… Не дам, хоць бы і з’еў. Нехай розуму научыцца. І Д’ябла ўжэ чорт несець: трэба губу затыкаць. Ужо мусіць быць тая гадзіна.

## Сцэна 6-я

Д'ябал, Селянін

Д'ябал. Ужо набліжаецца час, калі ты павінен будзеш спаўняць сваё абяцанне. Зараз праб'е гадзіна, і ты пачнеш маўчаць.

Селянін. А чы скоро?

Д'ябал. Вось зараз. Памятай жа, каб добра трымаў сваё абяцанне. Я табе без сумневу аддам сто рублёў і болей. Звыш таго, абяцаю яшчэ, што буду даваць табе кожны год, калі вытрымаеш.

Селянін. Дацерплю, бо губу, пакулем у дзёгаць памачыўшы, заткаю[1].

Д'ябал. Не трэба. Ты так вытрымай цягам гадзіны ў маўчанні.

Селянін. Вытрымаю. Дадушы ш, вытрымаю. Што гэто!

Д'ябал. А як не?

Селянін. Дык душа твая будзець.

Д'ябал. Глядзі ж, я цябе перасцерагаю, каб потым на мяне не наракаў; бо як не вытрымаеш заклад, я табе даравацъ і не падумаю.

Селянін. Я табе кажу, што дацерплю! Дацерплю. Чаго ты хочэш ад мене?

Д'ябал. Слухай жа! Як праб'е гадзіна, каб ты зараз жа змоўк.

Селянін. Бэз твае казкі я гэто ведаю. Ідзі сабе проч.

Д'ябал. Глядзі ж! (*Адыходзіць.*)

Селянін. Добра, добра.

## Сцэна 7-я

Селянін

Вот цепер абачым, гто каго пэрэможэць. Ён кажэць, што мене возьмець да пекла, калі маўчаць не буду. А я кажу, што ён і з родэм сваім не дажджэць, бо я гатоў сабе губу на калутку[2] замкнуць. Але, праўда, прыпамінаю сабе, на што мне тые калоткі, на што тые пакуле з дзёхцем. Вот калі захочацца гаварыць, так я рукою губу заткаю. Вот гэтак (*паказвае*). Абачым, што ён мне тагды зробіць! А коньчо выграю сто рублёў. Вот тагды мне будзець добра! (*Сядае. Гадзіна б'е. Цыт, цыт! Паказвае на мігах.*)

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы…*, с. 634: "ТКАЦЬ, -каю, сов. Уткаць, однокр. Ткануць, дѣйств. глаг. 1) Совать, пихать. *Куды ты его ткаёшъ. Уткай собѣ гето въ горло. Ткай снопы на осець; ткани еще сноповъ пяць.* 2) сов. Наткаць, въ знач. сред. Дѣлать упреки, колкости, ставить на видъ. *Не по праўдзѣ ты ткаёшъ, тканувъ мнѣ гетымъ. Наткаць кому въ носъ*".

[2] Магчыма, ад польск. *kłódka* – замок ці ад фразеалагізму *zatknąć gębę na kłódkę* – "замаўчаць". Гл. таксама: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы…*, с. 242: "КОЛО́ДКА, -и, с. ж. умен. слова Колода. 1) Толстый отрубокъ дерева. *Колодку расщепи на дровы.* 2) Привѣска, въ шутку привѣшиваемая на Масляной недѣлѣ холостому человѣку, не женившемуся въ мясоѣдѣ. Это обыкновеніе сохранилось и донынѣ у простолюдиновъ. *Колодку повѣсили, откупицьца треба.* 3) Два бруска съ вырѣзкой на ногу узнику. *Колодку на ногу набили*".

### Сцэна 8-я

Селянін і малыя дзеці

Першае дзіця. Ужо кліча нас Бог у сваё валадарства, ужо будзем цешыцца з Ім вечна.

Другое. Але як жа ўвойдзем, калі яно так высока?

Трэцяе. Прыдумае Бог спосаб, каб нам увайсці.

Першае. Глядзіце, глядзіце! (*Прамаўляе з радасцю, бачачы, як спускаецца драбіна*). Вось спускаецца ўжо драбіна.

Другое. Гэта мусіць быць дарога на Неба, але як па ёй ісці?

Трэцяе. Вось так! (*Ставіць толькі ногі на перакладзіны, не датыкаючыся рукамі.*)

Першае (*адпіхвае*). Не так, а гэтак! (*Павісае на руках без дапамогі ног.*)

*Селянін тут калоціцца ад злосці, парываецца ад гневу. Другое дзіця пралазіць паміж перакладзінамі драбіны. Селянін калоціцца ад злосці, паказвае на мігах, як лезці. Дзеці спрабуюць па некалькі разоў, але ў іх не атрымліваецца.*

Селянін (*не вытрымлівае, парываецца і кажа*). Вот гетак трэба лезьць, вы не ўмееце, абачыце, як я зараз улезу да Неба.

*Як толькі Селянін возьмецца за драбіны і паставіць на яе нагу, драбіна пацягнецца ўгору, а Селянін упадзе, Дзеці з жалем адыдуць.*

### Сцэна 9-я

Д’ябал і Селянін

Д’ябал (*выскачыўшы, хапае Селяніна і цягне*). А дзе прысяга? Ты ж заракаўся, што будзеш маўчаць; пайшоў у заклад, а вось не споўніў, што абяцаў. Зараз я цябе павяду ў пекла. (*Цягне. Селянін падымаецца.*)

Селянін. Мой ты наймілейшы Дабрадзею! Прапрашаю, выбачай мне, бо гэтые блазны[1] да астатнее злосьці мене ўвелі. Чы ім Бог розум адабраў, чы што ў чорта? Як ім не пазнаць таго, як лезьць трэба па драбіне? (*Трасецца і кланяецца.*)

Д’ябал. А гэта мела да цябе дачыненне? Ты ж павінен быў маўчаць, бо такі наш заклад.

Селянін. Да як жэ было сьцерпець, калі аж у злосьць уступіў. (*Кланеецца.*)

Д’ябал. Што мне да гэтага? Я маю права на цябе, ты мой.

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 26: “БЛА́ЗЕНЪ, -зна, с. м. 1) Малолѣтній. *Куды тобѣ? Ты еще блазенъ.* 2) Глупый, дуракъ. *Кепъ, дурень, блазенъ; три штуки разомъ.* (Посл.) 3) Шутникъ. *Блазенъ блазенское и погоняець*”.

С е л я н і н (*кленчыць і складае рукі*). А Дабрадзею! Да даруй жэ ты, Вашэць, мне! Ужо папраўлюсе!

Д ' я б а л. Нельга. Такая была нашая ўмова.

С е л я н і н. А панічэньку, а будзь жэ ласкаў!

Д ' я б а л. Бачыш, як няслушна ты наракаў на Адама, калі вось сам яшчэ горш зрабіў?

С е л я н і н. Да знаю тоё; толькі позволь ешчэ хоць трошачкі, а ўжо ш буду маўчаць.

Д ' я б а л. Зважаючы на тваю недасканаласць, дазваляю табе яшчэ адну спробу, але глядзі, каб зноў, як я загадаю табе маўчаць, ты маўчаў строга, бо другі раз я ўжо табе не дарую.

*С е л я н і н кланяецца. Д'ябал адыходзіць.*

### Сцэна 10-я

Селянін

Вот у якую я беду ўлез! Хвароба тых блазнаў на маю голаву прынесло. Вох! Якіе ены дуракі! На драбіну хацелі ўлезьць то аднымі нагамі, то аднымі рукамі, то вешалісе. Ліхо ведаець, што ены рабілі. А я бачыў, што дужо прыгожо з гары нехто іх прасіў. Да як жэ было маўчаць, хоць трэба было, бо я пашоў у заклад, але я тагды і забыўся, як мене ў злосьць увелі. Нехай жэ буду на другі раз астаразьнейшым! З'есі ты ліха, Пане Д'ябле, калі мене болей ашукаеш! Кап ты цепер і недзведзёў на мене спусьціў, то ўжо буду маўчаць. Цепер ешчо сходжу дадому, пакуль тая пара не прыйдзець. Трэба абачыць, што там дзеетца, работку екую сабе загадаць, а ўзад потым сюды прысьці. Гэтые сто рублей мушуць такі мае быць коньчо. (*Адыходзіць.*)

## АКТ ДРУГІ

### Сцэна 1-я

Селянін

Што гэто ёсьць такоё? (*Аглядаецца.*) Здаетца, што тоё ж самоё мейсце, а цепер ужо адменілосе так борздо. Да чаго я дзіўлюсе! Шак[1] гэтаму пану Д'яблу нічого не трудно. Мусеў я трохі доўго забавітца. Чы не быў ён ужо тут? Чы не біла ўжо гадзіна? Праўда, кап была ўжо пара, знашоў бы ён мене. Мусіць быць, што нет ешчо тае пары, пачакаю я тут троха, гдзе маю хадзіць; калі прыйдзець, так добра. Але ведаю, што прыйдзець, бо ему дужо душы мае хочэцца. Не, не! Хоць сабе ілбы і галавы паўкручваюць, лезучы на драбіну, ужо я ім не пакажу, як лезьці. Не, другі раз мене не ашукаюць. Я цепер, як пара прыйдзець, вазьмусе за лупы,

[1] Ад польск. *wszak* – аднак жа, дык.

а дзержаць моцно буду, хоць і хацець буду што гаварыць, то не буду махчы. Раз удаласе штука, другі раз не заўтра мене падмануць. Дзержысе, Дземідзе, дзержысе, небожэ. Ой, буду, буду. Не ўхопіць ужо цепер. З'есьць чорта! Ну, што ж дзелаць? Ужо сталосе. На другі раз буду астаразьнейшым; цепер усе абачуць, як я буду маўчаць. Вот гэтак, напрымер (*бярэцца за губы і трымае іх*). Хоць хацелосе б што гаварыць, тады б гэтак. (*Зноў трымае сябе за губы.*)

## Сцэна 2-я

Жыд, Селянін

Жыд. Дзёмка, сказы ты мне, як ты ад Царта адкаснуўсе.

Селянін. Ох, кап ты і з Чартом разэм прапаў, тагды б я сьмеяўсе.

Жыд. Да ню, Дзёмка, сказы ты мне, цы выграў ты?

Селянін. А табе што да таго, чы я выграў, чы не?

Жыд. Я для таго пытаюсе, калі ты выграў, так ты мне за гарэлку заплаці.

Селянін. Не бойсе! Чорт не вазьмець – заплачу. Але абачым, чы вазьмеш і чы захочэш мае заплаты.

Жыд. Цаму не! Аддай толькі.

Селянін. Чорт за мене табе меў заплаціць.

Жыд. Я не хацу, кап мне Цорт плаціў, ты сам мне заплаці.

Селянін. Да не будзь жэ ты дураком, ён зараз заплаціць.

Жыд. Не хацу я! Не хацу, кап ён плаціў, ты сам мне заплаці.

Селянін. Ужо я его прасіў, і ён мне прыабецаў табе заплаціць. А вот і ён з грошмі ідзець.

Жыд. Гдзе? Гдзе? (*Трасецца.*)

Селянін. Восека, восека (*паказвае ў той бок, адкуль выходзіць Д'ябал*).

*Перапалохаўшыся, Жыд крычыць*: Гвалту, гвалту! *І ўцякае ракам.*

Селянін. Арэндар, арэндар! Вазьмі грошы!

## Сцэна 3-я

Д'ябал, Селянін

Д'ябал. Ужо набліжаецца ўмоўленая гадзіна, цягам якое ты павінен маўчаць. Я табе раз дараваў, на другі раз не спадзявайся. Твае тыя нараканні на Адама не дазваляюць мне, каб табе другі раз дараваў. Ты ж ведае, што ён толькі раз зграшыў, а пакутаваў усё сваё жыццё, а пасля яго – увесь род людскі. І ты не выключэнне. Дык не наракай на Адама, а на сябе, бо ты горшы. Ты дзеля збавення свайго вечнага маеш напісаныя законы, але не жывеш ў адпаведнасці з імі. Ты не любіш Бога і бліжняга свайго, хоць гэта першае і найважнейшае прыказанне, на якім грунтуецца ўсё вашае збавенне і ад выканання якога лёс ваш цалкам залежыць. Ты яго не захоўваеш, гугнявіш супраць Бога, якога я, хоць і адрынуты,

прызнаю за Бога, а ты Яго не хочаш славіць нават у той час, які табе прызначаны дзеля набажэнства.

Селянін. Да я гэта, маспане, знаю; да калі ж чорт зводзіць.

Д'ябал. Як жа ты можаш казаць, што д'ябал зводзіць, калі я цябе ад гэтага адводжу?

Селянін. Можэ, Вашэць адзін так патсьціві[1], а іншые не такіе.

Д'ябал. Адкуль жа ты гэта ведаеш?

Селянін. З прыказкі[2].

Д'ябал. З якое легенды?

Селянін. Відзь, у нас кажуць, што д'яблы ёсьць велікіе пужала[3].

Д'ябал. Праўда, бо мы тых страшым і для тых страшныя, хто таго заслугоўвае.

Селянін. Кажуць ешчо, што ўсе гітрые, як сабакі.

Д'ябал. На хітрасць вашую і мы мусім быць хітрымі.

Селянін. Кажуць, што ўсех нас хочуць мець у пекле на печонку[4] сабе.

Д'ябал. Адносна гэтага ты ўгадаў, бо пацеха бедным, калі ім спагадаюць. Але ты тым часам слухай добра, бо зараз праб'е гадзіна. Глядзі ж, каб маўчаў! Другі раз ужо я табе не дарую.

Селянін. Ужо мене цепер хлопцы не ашукаюць.

Д'ябал. Я табе не пра хлопцаў кажу, а пра маўчанне.

Селянін. Так, добра. Я ж кажу, што буду маўчаць.

Д'ябал. А калі ты не вытрымаеш, то ўжо пэўна не дарую.

Селянін. Дадзержу, дадзержу! Гэто ж не цяшкая рэч маўчаць.

Д'ябал. Глядзі ж, як гадзіна праб'е, каб маўчаў

Селянін. Буду гледзець, добра, добра. (*Кланяецца*).

Д'ябал. Памятай, што не з хлопцамі будзе ў цябе справа.

Селянін. Нехай ены прахам пайдуць! Чорт іх знаў, чаго ены хацелі. Да тые ўжо блазны мя[не] болей не ашукаюць. Шчасця іх, што раз ім удалосе.

Д'ябал. Глядзі ж, бо душа твая будзе ўжо мая.

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 485: "ПОТСЦИ́ВЫЙ, сравн. склон. Потсцившій, прил. 1) Честный. *Потсцивый человѣкъ никого не скривдзиць. Нема никого потсцившаго, якъ ты.* 2) Целомудренный. *Невѣста пришла къ намъ потсцивою.* 3) Почтительный. *Потсцивый хлопецъ! кождому склонився*". Ibidem, с. 490: "ПОЧЦИ́ВЫЙ, сравн. склон. Почцившій, прил. Почтительный, вѣжливый. *Почцивый хлопецъ кождаго уважаець старшаго. Твой сынъ почцившій за мойго*".

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 501: "ПРИ́КАЗКА, -и, с. ж. 1) Поговорка. *У его приказка такая.* 2) Прибавка къ сказкѣ. *Скажу казку да й съ приказкою.* (Посл.) 3) Пословица. *Удався на приказки, якъ собачча шкура на привязки.* (Посл.)".

[3] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 538: "ПУЖА́ЛО, -а, с. ср. Пугало, чучело. *На цебе, якъ на пужало, поглядзѣць страшно. Выставиць пужало на пшеницу, веребьевъ пужаць*".

[4] Відаць, тое самае, што і пячэня. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 413: "ПЕЧЕ́НЯ, -и, с. ж. Жаркое. *Подай госцямъ печеню. Не бойцеся курки, не много васъ треба, // Семъ на вечеру, а восьмая на печеню.* (Изъ свадебн. пѣсни)".

Селянін. Кап ты не даждаў! (*І плюе з пагардай.*)
Д'ябал. Глядзі ж! Я гэта ўжо другі раз цябе перасцерагаю, каб на мяне не наракаў.
Селянін. Не дачэкаеш ты з родэм тваім.
Д'ябал. Эй, не будзь такім самаўпэўненым.
Селянін. Не бойсе, не будзець так другі раз, як было. Буду я шупнейшы цепер! Хоць бы і сотня блазноў прышло, то не ашукаюць, бо і губы не разяўлю. (*Тым часам пазяхае.*)
Д'ябал. Маўчы ж, бо зараз праб'е гадзіна.
Селянін. Не бойсе, вот і рызінаю[1] зараз заткаю губу. (*Затыкае.*)
Д'ябал. Глядзі ж, бо будзеш нешчаслівы! (*Адыходзіць.*)
Селянін. Што, што ты кажэш, Пане Д'ябле? (*Махае рукою.*) Круцісе хоць к чорту!

## Сцэна 4-я

Селянін

Вот другі раз бэз'езыкім трэба зрабітца для закладу. Ох, кап я его ніколі не знаў! Вот заграшыў! Захацелосе сто рублей. Мне здалосе, што малая рэч – маўчаць. А цепер, як я пазнаў, з кім я ў заклад пашоў, і ўсе его фігле як ужо абачыў, і пазнаў, чаго ён ад мене хочэць, так і дужо душа мая трасетца маркотная, хоць я не баюсе: ведаю, што дацерплю маўчаць, хоць бы цепер тые блазны і галавы сабе паўкручвалі.

## Сцэна 5-я

Селянін, Жыд

Жыд. Дзёмка, о Дзёмка! Я знаю, што ты дужо маркотны. Сказы ты мне, як ты ад д'ябла адкаснуўсе?
Селянін. Не лезь жэ ты мне ў очы. Мне і так ужо на душы ўсяко.
Жыд. Да ню, Дзёмацка! Сказы, а сто табе?
Селянін. Да не сто. Адна, да ліхая. Вот і жывот баліць і ўсему леда-як[2], і гаварыць не хочэцца. Ідзі ты сабе проч.
Жыд. Чы не нап'ессе ты гарэлкі?
Селянін. А чы маеж жа ты тут?

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 562: "РИЗИ́НА, -ы, умен. РИЗИ́НКА, -и, с. ж. Худая, плохая одежа. *Якая была ризина и тую на горълку заставивъ. Дай хоць ризинку ей! – А ни ризинки не маю*".

[2] Абы-як. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 266–267: "ЛЁДА, безъ ударенія, частица, прилагаемая къ вопросительнымъ мѣстоимѣніямъ и нарѣчіямъ, когда онѣ не имѣютъ вопроса. Нибудь, либо. *Леда якій чортъ придзиць. Леда якому чорту годзи. Леда кому отдай. Леда якъ проживешъ. Леда гдзъ дзъњь. Леда куды положи*". *Ibidem*: ЛЕДА́ИКЪ, нар. 1) Тошно. *Ледаикъ отъ ягодъ. Ледаикъ, не ъвши.* 2) Трудно, не выгодно. *Ледаикъ работаць. Ледаикъ поднимаць. Ледаикъ рукамъ, довго дзержучи*".

Ж ы д. Я цепер па сеўбаваным еждзу[1], есцо засталосе тросацка, вот тут і конь мой за леском стаіць.

С е л я н і н. Ах, змілуйсе, Пане Арэндару, пакрапі ты мене.

Ж ы д. Заплаці ты за тую гарэлку, так я табе дам.

С е л я н і н. Пане Арэндару, павер жэ ты мне, змілуйсе! (*Кланяецца.*) Хоць гэтат разок, а я прысегаю, што за пуўдня з гасьці[н]чыкам табе аддам, толькі з Д'яблам законьчу.

Ж ы д. Дай жэ руку на тым, што ты сам мне аддасі, а Пана Д'ябла не будзеш прасіць.

С е л я н і н (*падае руку і кажа*). Верно і шчыро табе як казаў, так і кажу.

Ж ы д. Ці гнаўсе тагды за мною Д'ябэл, як я ўцекаў?

С е л я н і н. Хацеў гнатца, да я не пусціў. Да дай жэ мне гарэлкі, дай!

Ж ы д. Ой, як я напузаўсе, і дусы ў мене не было.

С е л я н і н. Арэндар, да ідзі ш ты па гарэлку!

Ж ы д. Да сказыс ты мне, як ты его ўдзерзаў?

С е л я н і н. Не, ужо досыць мне з табою балакаць. Не дасі ты мне гарэлкі?! Зараз сьвісну ж я на Чарта, а ён прыбежыць зараз да дасьць жэ табе, дасьць. (*Хоча свіснуць.*)

Ж ы д. Не заві, не заві! Я зараз прынесу. (*Адыходзіць.*)

С е л я н і н. Не баўсе ж. Ох, як ён баітца Д'ябла. Зараз ён тут гарэлкі мне прынесець, ужо ш тагды напіўшысе ашукаю і Чарта. Чы не казаў я, што ён будзець бавітца. (*Ж ы д нясе бутэльку.*)

Ж ы д. На, на, на! Толькі Царта не заві.

С е л я н і н. Не буду, не буду. (*П'е.*)

Ж ы д. Змілуйсе, змілуйсе.

С е л я н і н. Чаго ты Чарта баісся? Я табе кажу, што не бойсе, а так у заклад з нім ідзі, як я.

Ж ы д. Не хацу, не хацу.

С е л я н і н (*п'е і аддае бутэльку*). Дзякую.

Ж ы д. Гто гэто стукаець, ці не Д'ябэл ідзець?

С е л я н і н. Можэ, і ён.

Ж ы д (*трасецца і азіраецца*). Ой, ой, ой!

С е л я н і н. Не трапечысе! (*Бярэ Ж ы д а за плашч.*)

Ж ы д. Пусці, пусці! Пайду, пайду!

С е л я н і н. Пане Д'ябле, да ідзі сюды! (*За шырмаю стукае.*)

Ж ы д (*вырываецца і, уцякаючы, крычыць*). Ой, ой, ой! Wey mir! Цорны год на табе!

С е л я н і н (*смяецца*). Ох, які Жыд дурак! Чаму я Д'ябла не баюсе? А ён аж трасетца, мало што не ўробітца[2]. А вот і Чорт ідзець.

---

[1] Гаворка пра тагачасны звычай, калі жыд падчас сяўбы прыязджаў да гаспадароў, каб дамовіцца пра кантракт на будучы ўраджай і на знак згоды шчодра частаваў гарэлкаю.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 652: "УДЗѢЛЫВАЦЬЦА, сов. Удзѣлацьца, глаг. возвр. Пачкать, загаживать свою одежу въ собственное испражненіе. *Не корысный дзѣцёнокъ! Не просицца доловъ, а всёгды на улонняхъ удзѣлываёцца, удзѣлаёцца по вуши*".

## Сцэна 6-я

Селянін, Д'ябал

Д'ябал. Зважай, бо зараз гадзіна праб'е, а як толькі праб'е, дык зараз без аніякіх затрымак ты павінен паклапаціцца пра выкананне свайго, замацаванага прысягай, абавязку.

Селянін. Добра, добра. Але Жыд цебе баітца.

Д'ябал. Тут не пра Жыда справа, але памятай, што я табе казаў, што я табе раз дараваў. Будзь пэўны, што не буду другі раз такім спагадлівым да цябе. Сцеражыся! Я цябе папярэджваю: не будзеш потым казаць, што "Д'ябал мяне ашукаў", бо я ж цябе выразна папярэджваю. Глядзі ж, каб гэта ты памятаў! Больш ужо цябе я папярэджваць не буду. Памятай мае перасцярогі. (*Адыходзіць.*)

## Сцэна 7-я

Селянін

Дадушы ж, не ведаў я і не чуў аб тым, каб Д'ябэл быў так патсьціўы. Вот ён сам мене наўчаў, як трэба быць астарожным. А! Да цепер ведаю я а тым, што ён усех нас хочэць мець у пекле. Вот цепер згадаць не можна, што ему ў чорта сталосе, што ён мене так напамінаў, так напамінаў, што і папы лепш на споведзі не будуць напамінаць. Ага! Мусюць быць і д'яблы дваякого роду: адные мусюць быць доброго, а другіе – ледаштого[1]. Гэтыі мусіць быць з роду добраго. Ах, я забалакаўся, а можэ, ужо біла гадзіна? Да трэба б было б чуць, каб біла. Не, не, не спадзеваюсе. (*Прыслухоўваецца.*) Да Чорт усюды маець загаркі[2]! Можэ, ён у балоце гдзе і тут кінуў екі, кап я ведаў і чуў, як першаго разу? Толькі хвароба его ведаець, гдзе его кладзець. Я б зараз украў, да ён так мудро хаваець, як нашые паны грошы хаваюць –украсьць нельзя. Так ён свой загарэк мусеў зхаваць. (*Б'е гадзіна.*) Цыт, цыт...

## Сцэна 8-я

Тры браты: Аляксандар, Клеафас і Зосімас

Аляксандар. Браты мае мілыя, напаткала нас вялікае гора са смерцю нашага любага бацькі, які быў нам павадыром да ўсяго добрага.

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 267: "ЛЕДА́ШТЫЙ, прил. Дрянный, негодный, гадкій. *Ледаштый хомутъ. Ледаштый ты человѣкъ! Ледаштая работа. Ледаштыя руки. Ледаштое маець воко. Ледаштый маець норовъ, якъ пьянъ*".

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 222: "ЗЭ́ГАРЪ, зэ́гара, сущ. м. Стѣнные, столовые или башенные часы. *Животъ за зэгаромъ не згожаецца.* (Посл.) (Говорятъ тамъ, гдѣ въ экономіи рабочіе по колоколу, въ извѣстный часъ, собираются къ обѣду, и значитъ: ѣсть хочется)".

К л е а ф а с. Праўда, дарагі братка. Толькі, між намі кажучы, быў ён вельмі строгі.

З о с і м а с. Тая ягоная строгасць не вяла нас да кепскага, наадварот, яна адводзіла нас ад таго, што нас не вартае, а вяла нас да выканання таго, што мы павінны.

К л е а ф а с. Толькі ж... праўда, што ўсё тое было добра, але толькі трохі занадта.

А л я к с а н д а р. Можа, гэта табе, братка, падавалася, што тое было занадта, а нам уяўлялася яно дарэчным.

К л е а ф а с. Бо ж вы вельмі дагаджалі Бацьку.

А л я к с а н д а р. Не можаш ты такое казаць: мы толькі выконвалі бацькавую волю.

К л е а ф а с. Аднак і я не пярэчыў, наадварот – заўсёды выконваў.

З о с і м а с. Але ж ты не гэтак выконваў, як хацеў Бацька. Ты заўсёды чыніў насуперак бацькоўскае волі. Бацька хацеў, каб ты маўчаў, а ты крычаў на ўвесь двор; Бацька хацеў, каб ты падпарадкаваўся яму, ты ж, змушаны толькі гвалтам, адно тое выконваў. А ці гэта добра? Ці гэта довад сыноўскае павагі да бацькі? Я маладзейшы за Васпана, але добра ведаю, што бацькоў трэба шанаваць і выконваць іхнія загады. А Васпан старэйшы за мяне, а так няслушна паводзіш сябе, магу нават сказаць: бязбожна пра бацьку нашага нябожчыка мяркуеш.

К л е а ф а с. Што ж тут рабіць? Я ведаю ўсё гэта, але ўсяму вінаватая маладосць.

З о с і м а с. Я ж маладзейшы за Васпана, а чаму ж я трымаюся іншага меркавання, чым Васпан?

К л е а ф а с. Бо Васпан ідзе па бацькоўскіх слядах.

З о с і м а с. Цешуся, што змагу назвацца годным сынам свайго бацькі.

К л е а ф а с. А я – нягодны?

З о с і м а с. Калі так хутка пасля смерці ўжо бацьку знаць не хочаш, дык мусіць і нягодны.

К л е а ф а с. Адкуль жа ты гэта ўзяў? Малады ты яшчэ, каб павучаць старэйшага брата.

З о с і м а с. Я не павучаю, а толькі праўду кажу.

К л е а ф а с. Адкуль жа ты гэта ўзяў?

А л я к с а н д а р. Ціха, Клеафас! Ты павінен слухаць мяне, старэйшага брата, замест бацькі. Крыўдзішся, што табе малодшы брат праўду кажа. А ці ж можа так паводзіць сябе разважлівы сын, які любіць сваіх бацькоў?

К л е а ф а с. А што я кепскага сказаў?

А л я к с а н д а р. А што ж і добрага? Ці няпраўду казаў наш малодшы брат Зосімас?

К л е а ф а с. І што з таго?

А л я к с а н д а р. Вось каб ты лепей скарыўся і прызнаўся, што ты не адзін раз быў прычынаю бацькавага засмучэння і жалю.

К л е а ф а с. Пры чым тут гэта. Тут звычайная рэч – я малады і вясёлы.

А л я к с а н д а р. Але тая твая весялосць адымала ў бацькі здароўе.

К л е а ф а с. Як гэта? Якім чынам?

А л я к с а н д а р. А вось так: бачачы цябе непаслухмяным, бачачы, што ты не звяртаеш увагі на яго загады, дык не ўтаймаваўшы сваіх пачуццяў, калі падрасцеш, пойдзеш на любое зло і станеш ганьбаю нашага роду. Гэта і ёсць прычына смерці нашага бацькі-нябожчыка.

К л е а ф а с. Гэта ўжо сталася і змяніцца не можа. Нават каб ты, братка, і тысячу цяпер перасцярогаў і развагаў даваў, дык імі ўжо бацьку не вернеш да жыцця. Дарэмна, з магілы ён ужо не ўстане. А таму давайце не губляць часу, а пойдзем у скарбніцу, каб падзяліцца. Але што гэта за чалавек сядзіць і чаго ён хоча?

## Сцэна 9-я

Тыя самыя і Селянін

К л е а ф а с. Хто ты, мой чалавеча? (*С е л я н і н кланяецца, нічога не кажучы.*) Скажы ж мне, хто ты такі? Чый ты падданы?

А л я к с а н д а р. А можа, і вольны.

К л е а ф а с. Што з таго? Я толькі хачу ведаць: хто ён. Хто ж ты такі? (*С е л я н і н кланяецца.*) А ну, кажы!

З о с і м а с. Пэўна, ён нямы. Што ты яму дакучаеш?

К л е а ф а с. Скажы нам, чаго ты сюды прыйшоў? (*С е л я н і н паказвае на мігах, што не можа размаўляць.*)

А л я к с а н д а р. Так яно і ёсць: ён нямы. Аднак давайце возьмемся за сваю працу, пабачым, ці вялікі там знойдзем скарб.

К л е а ф а с. Вялікі... вялікі... Большы не знойдзем, як ёсць.

З о с і м а с. Але ж толькі не будзем марна губляць часу.

К л е а ф а с. Калі ты гэтак шкадуеш часу, дык ідзі ад нас прэч.

А л я к с а н д а р. Табе ўсё хочацца пацвяляцца. А ці ведаеш, што гэтую справу трэба закончыць хутчэй, чым сюды прыйдуць бацькавыя крэдыторы.

К л е а ф а с. А што бацькавым крэдыторам да нас?

А л я к с а н д а р. Праўда, што не да нас, але да бацькавых рэчаў.

З о с і м а с. Як гэта да рэчаў? Усе ж яны належаць нам, як сынам.

А л я к с а н д а р. Праўда, і я хацеў бы, каб і ўсе так думалі, як і мы. Але калі яны скажуць: рэчы нябожчыка вам належаць, дык і ягоныя даўгі, якія вы заплаціць павінныя.

К л е а ф а с. Цырымонія была б зноў жа недалікатная.

А л я к с а н д а р. І я тое самае кажу.

З о с і м а с. Тое не істотна. А праўда, што пан Аляксандар кажа: мы ведаем пра даўгі, дык ведаць таксама павінны і пра іх выплату.

К л е а ф а с. Гэта праўда. Але чаго сядзіць тут гэты чалавек?

А л я к с а н д а р. Што табе да гэтага чалавека? Пойдзем ды возьмемся за справу.

К л е а ф а с. Ну, калі так, дык ідзём ужо.

З о с і м а с. Хто з вас першы ўвойдзе?

К л е а ф а с. Вядома, пан Аляксандар, як старэйшы.

А л я к с а н д а р (*хоча ўвайсці, але не можа*). Але як жа тут увайсці, калі немагчыма?

К л е а ф а с. Калі не ведаеш, дык і не хапайся... І праўда, немагчыма.

З о с і м а с. Я паспрабую. Можа, вы надта наеліся, а таму патаўсцелі. Я ж сёння мала што еў. Праўда, немагчыма. Як жа гэта наш бацька тут гэтыя скарбы клаў?

К л е а ф а с. Мусіў ён мець навучанага пацука, які яму ўсё гэта паперанасіў.

А л я к с а н д а р. Нічога твае глупствы не значыць. Мушу я абавязкова ўвайсці. (*С е л я н і н безупынна калоціцца ад злосці.*)

К л е а ф а с. Не, дарэмна. Не ўвойдзем, трэба сцяну праламаць.

*С е л я н і н і смяецца, і злуецца на іх.*

З о с і м а с. Дык я пайду па чалавека, які патрапіць праламаць.

*С е л я н і н калоціцца ад злосці і на мігах паказвае, што не трэба чалавека, бо можна і так увайсці.*

А л я к с а н д а р. Дык ты будзеш доўга бавіцца, але ведай, што з нашаю справаю нельга марудзіць.

З о с і м а с. А што ж там у д'ябла рабіць?

К л е а ф а с. Можа, і так увойдзем.

А л я к с а н д а р (*спрабуе ўжо інакш улезці*). Сапраўды, немагчыма. Што ж тут рабіць?

К л е а ф а с. Можа, я ракам улезу. (*Спрабуе.*) Немагчыма.

*С е л я н і н ледзь не лопаецца са злосці і ад смеху.*

З о с і м а с. А можа, я так праціснуся? (*Кладзецца і пасоўваецца.*)

А л я к с а н д а р. І так немагчыма.

### Сцэна 10-я

С е л я н і н і тыя самыя

С е л я н і н. Мне здавалосе, што вы мудрыэ людзі, а гэтае фрашкі не знаеце. Як жэ вам таго не пазнаць, што перэз вузкіе дзверы грубым перэлесьць неможна. Праўда, што вы не дужо грубые, да вашо плаце паньское вам перэз гэтыэ дзверы ўлесьць не пазваляець. Вот я ў сермяжэццэ сваёй зараз улезу. (*Праціскаецца, але не ўлазіць.*) А дадушы ж, неможна. Ага, ага! Вот цепер даразумеўсе. Гледзіце только, як лесьць патрэба. (*Уваходзіць бокам.*) Вот відзіце, якіе вы дуракі, хоць паны, нічого б вы не даказалі б, кап не я. (*Выходзіць і кажа.*) Ідзіце ж вы цепер! (*Азіраецца.*) Скарэй, скарэй берэце да ўцекайце, бо зараз хто-кольвек прыкруціцца... Скарэй, скарэй! Дзверэй не замыкайце. Нехай як былі адчыненые, нехай так і будуць.

Т р ы  б р а т ы (*усе разам*). Дзякуем за параду. Будзь здароў!
С е л я н і н. Буцьце на другі раз разумнейшымі і астаразьнейшымі... Вох, вох! Можэ, зараз Д'ябла чорт прыкруціць. Пайду я толькі на сваё мейсцэ сяду, так ён не пазнаець, што я гаварыў, чы чорт ему скажэць. (*Сядае і насоўвае шапку*.)

## Сцэна 11-я

Д'ябал, Селянін

Д ' я б а л. Я ж дараваў табе ўжо раз у надзеі на тваё выпраўленне, а ты стаў яшчэ горшым. Першы раз ты апраўдваўся недасведчанасцю. Цяпер яна табе не дапаможа, бо меў перасцярогі ад мяне, якіх, калі б не меў, павінен быў, аднак, трымацца ўмовы. А цяпер пасля стολькіх перасцярогаў, пасля стολькіх дадзеных табе парадаў, пасля ўжо раз здзейсненага гэткага ж учынку ты зноў гэтаксама правініўся. Не наракай жа зараз на Адама, на сябе будзеш цэлую вечнасць наракаць. Ідзі за мною, ты ўжо мой.

*С е л я н і н  паказвае на мігах, што яшчэ не павінен размаўляць.*

Што ты выдаеш сябе за нямога, а раней, калі мяне не было, добра гаварыў.

*С е л я н і н усё яшчэ паказвае на мігах, што яшчэ не можа размаўляць.*

Размаўляй жа, кажу я табе! Чаму ты не захаваў маўчання?

*С е л я н і н кланяецца і вырабляе на мігах, што толькі можа.*

Я ж ведаю, што ты паказаў тым Панам, як увайсці ў гэтую скарбніцу і што з імі размаўляў. (*Здымае з С е л я н і н а шапку і моцным голасам нібы са злосці кажа яму*.). Гавары ж ты мне, бо я табе ўраз галаву адарву.

*С е л я н і н паказвае на мігах, што не павінен, бо захоўвае прысягу.*

Што ты мне круціш? Ведай: ты мяне не ашукаеш. Ты, праўда, можаш Ж ы д а  ашукаць, але мяне не патрапіш. Размаўляй, загадваю табе.

*С е л я н і н паказвае, што Д ' я б а л  не мае права загадваць і адштурхоўвае яго. Д ' я б а л, крыху адскочыўшы, зноў падскаквае да яго і хапае.)*

Годзе мне быць добрым! Не буду ўжо цярпліва зносіць усё! (*Цягне Селяніна*.)

## Сцэна 12-я

Селянін, Д'ябал

С е л я н і н. А Дабрадзею, а Панічэнку, хіба ж за пазваленем вашэціным буду гаварыць.
Д ' я б а л (*адпускае яго*). Кажы ж, што хочаш сказаць.

**Селянін.** Я тоё самое кажу, што і паказаваў перож[1] на мігах, што з нікім не гаварыў і нікого не відзеў.

**Д'ябал.** Ты хочаш хлуснёю сваёю ашукаць таго, хто сам з'яўляецца вынаходцам хлусні.

**Селянін.** Не, Пане Д'ябле, я праўду кажу, што нікагугно не відзеў і ні з кім не гаварыў пераз цалюгенькую гадзіну. Кап ты цепер не прышоў, так бы я як земля маўчаў бы.

**Д'ябал.** Як жа ты гэта можаш казаць, што нікога не бачыў, калі я табе пэўна давяду, што ты паказаў тром братам, як улезці да скарбніцу і размаўляў з імі.

**Селянін.** Добра ты казаў перож, што ты першы махляр і лгар. Ты для таго ілжэш, кап мне грошы скруціў тые, каторые я выграў.

**Д'ябал.** О, які ты неразумны чалавек! Альбо ж ты не ведаеш, што я магу ведаць усё, што дзеецца ва ўсім свеце.

**Селянін.** Недажданё тваё, кап ты ведаў. Вот і цепер не ведаеш нічого, толькі напастуеш на мене. А я ані пулчалавечка не бачыў і пуўслоўка не казаў.

**Д'ябал.** А калі я табе давяду?

**Селянін.** Не дакажэш. (*Кажа з пагардай.*)

**Д'ябал.** Ураз я табе тых братоў пастаўлю, з якімі ты размаўляў.

**Селянін.** Пастаў, калі ены прысьведчуць, так добра, твая будзець праўда.

**Д'ябал.** Чакай жа ты тут, зараз яны сюды прыйдуць. (*Адыходзіць.*)

**Селянін.** Добра, добра.

### Сцэна 13-я

Селянін

Да, гэто не жарты, калі ён іх око на воко паставіць. Не ведаю, як я выкручусе. Да можэ ены з Чартом не будуць гаварыць. Я ж ім добра зрабіў, бо ены хоць покнулі[2] б, так бы ў гэтые дзверы не ўлезьлі б. Ены ему не скажуць, спадзеваюсе, што я з німі гаварыў. Толькі трэба будзець, як толькі ены прыідуць, на іх кіўнуць, каб не сьведчылі. А вот ліхо ўжо іх несець. Да дай Бог, кап ены не выказалісе!

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 402: "ПЕРЕ́ЖЪ, нар. Прежде. *Гето и пережъ было и послѣ будзець*".

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 458: "ПО́КНУЦЬ, однокр. глагола ср. *Покаць*. Лопнуть. *Струна покнула. Обручъ покнувъ. Покнешъ, покуль возмёшъ мене*".

## Сцэна 14-я

Д’ябал, Селянін і тры браты

Д’ябал (*у плашчы*). Шаноўныя рыцары! Я паклікаў вас сюды толькі для таго, каб вы, памятаючы пра свой стан, праўдзіва пасведчылі нам тое, аб чым вас спытаюць.

*Селянін міргае, кланяецца і непрыкметна просіць, каб не сведчылі.*

Аляксандар. Я ведаю пра сябе і пра братоў маіх, што мы ўсе не прывыклі хлусіць.

Клеафас. Бо любая хлусня ганьбіць годнага чалавека.

Зосімас. І бацька наш, паміраючы, пакінуў нам перасцярогу. Ён казаў, што калі вы хочаце быць у павазе і карыстацца пашанай у свеце, дык ніколі не хлусіце.

*Селянін тут кланяецца яшчэ ніжэй.*

Аляксандар. Кажы тады, што маеш спытаць, а мы табе шчыра, калі толькі будзем ведаць, скажам.

Д’ябал. Пайшоў я з гэтым вось чалавекам, якога вы тут бачыце, у заклад. А ён мала таго, што парушыў прысягу, захацеў яшчэ сваё злачынства прыкрыць хлуснёю. Дык будзьце ласкавыя паведаміць мне, ці прыходзілі вы сюды да гэтае вашае скарбніцы?

Клеафас. А што табе да таго, прыходзілі мы ці не? Калі і прыходзілі, дык да ўласнае нашае.

Д’ябал. Але, Панове мае, я не таму пытаюся, што сумняваюся, быццам гэтая скарбніца вам належыць, а таму, каб вы ідавочна паказалі гэтаму чалавеку ягоную хлусню, бо ён аспрэчвае мяне і сцвярджае, што і нагі вашае тут не было.

Аляксандар. Гэта ўжо першая ягоная хлусня, бо мы тут былі.

Клеафас і Зосімас. Так і ёсць, а не інакш.

Селянін (*убок*). Ох, кап вам скулле горла растачылі!

Д’ябал. Вось і маеш сведчанне. Дык ты ўжо мой.

Селянін. За што? Ены ж толькі кажуць, што былі, а болей нічога.

Д’ябал. Мае Панове! Вечна буду ўдзячным за вашае праўдзівае сведчанне, толькі майце ласку паведаміць мне яшчэ, ці казаў Вам, Вяльможным Панам, што-небудзь гэты чалавек?

Клеафас. Спачатку быў нямым.

Зосімас. Дужа мы на яго налягалі… але…

Селянін. Дай Божэ вам здарове за вашоё сьвядецтво. (*Кланяецца.*)

Д’ябал. А пазней ці не казаў ён Вам што і ці не паказаў спосабу, як увайсці ў гэтую скарбніцу?

Клеафас. Дык у гэтым жа няма нічога кепскага, што ён нам паказаў.

Д’ябал. А ці не размаўляў ён у той час з Вамі?

Аляксандар. Ён мала што казаў, толькі нас перасцерагаў, навучаў і паказаў спосаб, але з намі мала размаўляў.

К л е а ф а с і З о с і м а с. Гэта праўда, што брат наш кажа. І ён сам ад гэтага адмовіцца не можа.

С е л я н і н. Каб вас усех д'яблі пабралі за такоё сьвядэцтво.

Д ' я б а л. Вялікі дзякуй Вашмосцям Панам! Даруйце мне, што патурбаваў.

Т р ы б р а т ы (*адыходзяць і кажуць*). Кланяемся! А ты, нябожа, больш не хлусі.

## Сцэна 15-я

Селянін, Д'ябал

С е л я н і н. А Паніч[эньку Дабр]адзею, ужо ш цепер не буду болей таго чыніць.

Д ' я б а л. Ты і першы раз тое самае казаў, аднак не датрымаў слова.

С е л я н і н. Цепер, мой Дабрадзею, датрымаю.

Д ' я б а л. Але як табе верыць, калі ты ўжо раз схлусіў ды яшчэ ашукаць мяне хацеў.

С е л я н і н. Ох, я сам не ведаю, гто гэто мене спакусіў.

Д ' я б а л. Ты сам сябе! Табе ж Найвышэйшая Існасць дала інстынкты, а ты на іх не зважаеш. Я нават сам перасцерагаў цябе, але ты не слухаў мяне. Цяпер табе ўжо не дарую. Ідзі за мною! (*Бярэ яго, а Селянін крычыць.*)

С е л я н і н. Ах, Дабрадзею, змілуйсе, даруй.

Д ' я б а л. Не дарую. Бо гэта ўжо другі раз.

С е л я н і н. Да галюбенька ты мой! Да кукулачка ты мой! Зезюлечка ненаглядная! Да ты ж маё ні сёе ні тоё! Да даруй жэ гетот разочэк! (*Кленчыць.*) Даруй!

Д ' я б а л. Зноў, зважаючы на тваю недасканаласць, дарую табе і другі раз. Але таксама і перасцерагаю, калі ты не захаваеш ужо ў трэці і апошні раз свайго маўчання, каб ты мяне не вінаваціў, бо кожны ведае, што ты сам вінаваты. Да таго ж, я цябе сам адводжу ад гэтага сваімі перасцярогамі і парадамі, якія калі б Бог дазволіў скіраваць на маё збаўленне і калі б я сам тады прыняў парады да сэрца, напэўна, не быў бы самай нешчаслівай істотай.

С е л я н і н. Добра, Мой Дабрадзею, добра.

Д ' я б а л. Апамятайся зараз і глядзі, каб вытрымаў свой заклад. Я цябе перасцерагаю, што ўжо ў трэці раз табе не дарую. Зважай! Як толькі праб'е гадзіна, каб ты зараз жа змоўк і на працягу ўсяе гадзіны моцна трымаўся, каб ані піснуў, бо ведай, што трэці раз я ўжо табе не дарую. Тут будзе табе і канец. Апамятайся! (*Сам адыходзіць.*)

## Сцэна 16-я

Селянін

Ах, як я нешчаслівы! Ублутаўся ў заклад, чы яго ліха на мяне нагадзіла!. То Хлопцы звялі, а цяпер Панічы, а чорт сам хіба ве-

даіць, што гэтай гадзіны будзіць. Запраўды ня ведаю, што я цяпер рабіць буду. Закладу адрачыся няможна, прасіць яго больш не патраплю. Вот як худа, так худа. Бяда мая, бяда. Чы мяне чорт у гэта ўплютаў? Ах, праўда, што чорт, да я яго не знаў і нядужо тагды чорным быў, хоць кажуць людзі, што чорт чорны, а вот ён ня чорны быў. Чорт яго дзяры. Пайду толька я ў хату, пакуль тая гадзіна ўдарыць. Нядужа мне там доўга можна бавітца, аднак пайду, хоць кароцінькі час. Ведаю, што незадоўга тая гадзіна ўдарыць, аднак хоць трошэчку з жонкай пацешуся гаворачы.

## АКТ III

### Сцэна першая

Селянін

Аж змарыўся бегучы. Аддыхацца яшчо не магу, а ліхо знаіць, можа, ужо і запазніўся... Запраўды, здаетца, што ўжо спазніўся. Чы ня быў ужо тут Д'ябел? Да яшчо здаетца, што яшчо рана; ня мусіў яшчо ён прыхадзіць. Бо мне здаетца, што ён аба мне лепей мусіць помніць цяпер, бо і яму а рэч ідзець. А толька кажуць людзі, калі ўдаетца раз і другі, так трэцьцяга ўжо не спадзеватца. І ён казаў – трэці і астатні раз пазволіў мне маўчаць. Вот тут мне альбо выграць, альбо праграць прыдзітца. Аднак праграць не спадзеваюся, бо як два разы я прайграў, так і ўму набраўся. Не-не, ня выграіш трэці раз за мной, Пане Д'ябле! Ужо цяпер ані на Хлопцаў, ані на Панічоў уважаць ня буду. Нехай яны сабе што хочуць, так робюць. Хоць бы сабе і на галаве хадзілі б, то я ані паўслоўца не скажу; а яны сабе хоць галавы нехай круцюць, я маўчаць буду, а ў духу смеятца: ха, ха, ха... калі што смешнага рабіць будуць. А гаварыць, дадушы ш, ня буду ані слоўца, хоць бы што захацелася, так я і губу заткаю, і вочы завяжу, калі б толька нічога не гаварыць, ані абачыць. Але ж, калі дацярплю, – сто рублей маіх будзіць!

### Сцэна 2-я

Жыд, Селянін

Селянін. Ах, беда мая, беда! Не ў кага мне і парадзітца: жоне ня хочытца сказаць, што я з Д'яблам пазнаўся, а больш некаму і зверытца. Вот калі ліха на мяне прыходзіць. Калі я праграю, ніхто ня будзіць ведаць, гдзе падзенуся, і памінкі па мне ніхто не справіць. Пайду толька я да Арандара. Аднак ужо ён ведаіць. Нап'юся гарэлкі, буду яго прасіць, кап ён пры мне быў. Да ён Чарта баітца, не захочыць. Падарую яму палавіну грошы, што выграю, тагды, можа, намыслітца. (*Кліча.*) Арандар! Арандар! Хадзі толька ты сюды.

Жыд. Ню, чаго ты ў чорта гаманіш?

Селянін. Да хадзі ш сюды, нешта табе скажу.

Жыд. Не, не ашукаіс болі; досіць табе, – раз удалося, што я за табой нахо[дзіўся.]

Селянін. Да хадзі сюды, будзім грошы тыя дзяліць, што я ў Д'ябла выграў.

Жыд. Ці ўзе ты выграў?

Селянін. А ўжо ш! Нашто я буду ілгаць?

Жыд. Сора, Сора! Падай мне бутэльку гарэлкі, пайду я Пана Дзёмку пацястую!

Селянін. Да не баўся ш!

Жыд. Зараз. Зараз.

Селянін. Ашукаітца ён.

## Сцэна 3-я

Жыд, Селянін

Жыд (*выходзіць з бутэлькаю*). Кланям Вашэці! На, Дзёмацка, гарэлку, напіся! А скажы, як табе ўдалосе выграць з Д'яблам?

Селянін. Дзякуй за гарэлку. Мусіць быць шабасоўка[1]. Ну, Пане Рандару, чы ведаіш ты, што я мыслю?

Жыд. Пацым я магу ведаць?

Селянін. Я мыслю, колька тобе даць грошы.

Жыд. Колька ты хоцісь?

Селянін. Я б табе і многа даў, каб ты мяне ўсёгды слухаў.

Жыд. А колька дасі?

Селянін. Папалам бы с табой падзяліўся б.

Жыд. Ню і што ты хочыш, каб я цёбе слухаў?

Селянін. Калі толька я цябе зазаву, каб ты з гарэлкай прышоў.

Жыд. Добра, добра.

Селянін. Я табе цяпер не дам яшчо грошы.

Жыд. Цаму?

Селянін. Ты мяне потым ня будзіш слухаць.

Жыд. Ню, буду, буду! На табе рука.

Селянін. Яшчо Д'ябэл мне не аддаў. Кажыць, што не абецаў сто рублеі.

Жыд. Я сам цуў, сто ён табе абяцаў толька.

Селянін. Змілуйся ш, Пане Арандару! За гадзіну прыдзі тут, і Д'ябал тагды тут будзіць. Ня бойся яго, ён маіць троха сумленя.

Жыд. Баюся, баюся.

Селянін. Дадушы ш, кажу табе: ня бойся.

Жыд. Дзёмацка, не звадзі ты мяне!

Селянін. Ну, дурак, я ш кажу табе, што ня бойся.

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 703: "ШАБАСО́ВКА, -и, сущ. ж. 1) Водка, которую Евреи обыкновенно приготовляютъ для шабаса. Слич. Пэйсаховка. *Шабасовки своей давъ чарку*. 2) Свѣчка, зажигаемая Евреями наканунѣ субботы. *Нема ниякихъ у жида свѣчь, опричъ шабасовокъ*".

Ж ы д. Дзёмацка! Дай зэ ты мне руку на тым, сто Д'ябэл мяне ня возміць, хоць я няхрэснік.

С е л я н і н. На табе руку, што пры мне ня возміць.

Ж ы д. Ня бойся, цяпер прыду, толька грошы.

С е л я н і н. Будуць, будуць.

Ж ы д. Будзь здароў, Дзёмка!

## Сцэна 4-я

Селянін і Д'ябал

С е л я н і н. Здаетца, што тут ужо і баўлюса, аднак Д'ябла дачекатца не магу. Мусіць, ён мысліць, як мяне ашукаць. Ашукаітца ён сам уперад, а мяне ўжо не ўварвець болей. Вот і нет, і нет, а мо шча яшчо гадзіна не тая, бо ён бы зараз прыбег. Ён і даўней усёгды перад гадзінай прыхадзіў. Мусіць быць яшчо далёка. Да глядзі, велікая шкода, што даўжэй не заб[ав]іўся жонкай. Да ў страху вочы вялікі, два разы ашукаўся, так трэці раз і на зімнаю ваду дмухаць трэба. Гэто не жарты – з гэтакім Панічом мець справу! Каб то ён падсцівы быў, так можна б было ад яго адпрасітца. Да ён ведамы непрыяцель, у яго адпушчэння не дастаць. Праўда, што мне два разы даравабў, а чаго ж мне за трэцьцім разам спадзеватца? Пеўна то, што ўжо не даруіць, як ён сам казаў. Што два разы ўдалося, а болей не спадзеваетца.

Д ' я б а л. Добра, што ты тут знаходзішся, бо ўжо неўзабаве праб'е гадзіна. Памятай жа, у чым пакляўся.

С е л я н і н. Помню.

Д ' я б а л. Ведаеш, што з гэтага вынікае?

С е л я н і н. Знаю і добра знаю.

Д ' я б а л. І што ж ты знаеш?

С е л я н і н. Ах, знаю-знаю, што ты мне трэці раз не даруеш.

Д ' я б а л. Ты здагадаўся – не дарую. Я зважаў на тваю недасканаласць, дык даравабў табе два разы, але ўжо трэці раз і не падумаю, і не магу; да двух разоў удаецца фокус. Глядзі ж, каб на мяне не наракаў, як наракаў на Адама, калі табе не хацелася працаваць. Вось ты і пераканаўся цяпер, што сам горшы: маючы столькі перасцярогаў, не споўніў і малога абавязку.

С е л я н і н. Знаю я тоя сам усё. Але што ш я мею рабіць, калі раз Блазны ў злосць увялі, другі раз – Панічы, хоць ужо вялікіе, але сусім глупы. Як ім таго не знаць, што пераз цесные дзверы, шырока ўбраўшыся, улесьць інак няможна, як толька бокам. А яны таго не пазналі, дуракі зусім.

Д ' я б а л. А што табе было да таго? Ты ж павінен быў пільнавацца свайго абавязку.

С е л я н і н. Але што ш я меў рабіць, калі няможна?

Д ' я б а л. А навошта тады абвінавачваў Адама, калі ты сам горшы? Самае дробнае справы выканаць не можаш. Падумай цяпер пра

тое! Я цябе перасцерагаю, бо – ведай – табе ўжо ў трэці раз не дарую. Хай у цябе не будзе самае малое надзеі! Просьбы твае цяпер будуць дарэмныя, а слёзы – марныя. Я цябе перасцерагаю – *захавайся*[1]. (*Селянін хоча схавацца.*) Стой! Я кажу, каб захоўваў маўчанне, бо тут будзе твой канец. Сачы! Як праб'е гадзіна, каб змоўк.

### **Сцэна 5-я**

Селянін і Жыд

Селянін. Ідзі ты сабе, я тоя ўсё ведаю, што ты казаў. Але мне трэба Жыда, майго падданага, зазваць; ці будзіць ён мне паслушным? Калі будзіць, а я прайграю, так я яго за сябе аддам. Зазву яго толька. Арандар! Арандар! А хадзі толькі сюды.

Жыд. Ці ўзо пара?

Селянін. А табе што да таго, ці пара, ці не? Ты павінен слухаць.

Жыд. Зараз, зараз, Пане Дзёмка.

Селянін. Скарэй жа ты.

Жыд. Ню і сто ты сказісь?

Селянін. Дай гарэлкі.

Жыд. Зараз, зараз.

Селянін (*п'е гарэлку*). Ах, добрая гарэлка. Я цябе на тоя пазваў, каб ты паслушны быў і каб ты не баяўся Чарта. Ён і тагды за табой не гнаўся. Я табе толька жартам сказаў. Ужо я і яму казаў, што ты прысведчыш.

Жыд. А ён сто на тоя?

Селянін. Ён казаў, як ты прысведчыш, так аддасьць.

Жыд. А падзеліжся ты са мной?

Селянін. Падзялюся.

Жыд. Дай руку. (*Селянін дае руку.*) Ня бойся, узо прысведцу.

### **Сцэна 6-я**

Селянін

Селянін. Прападзі, Жыд, а мне рупіць, як з Д'яблам законьчыць. Гэта не жарт! Ні разу Д'ябал так сердзіта са мной не гаварыў. Тагды мог яшчо пазнаць, што падаруіць. Але што цяпер – не спадзяваюся. Бедны я цяпер! Ці нядобрая мяне ў гэта ўплютала ліха? Адрокбыся ўжо і сто рублей, і другія б сто адрабіў бы. Але то не з чалавекам справа. Не патрэба яму грошы. Ён і сам каму можыць даць. Ён толька душы хочыць. Гэта праўда, што душа найдаражэйшая за ўсё, бо калі яе раз пацераеш, болі яе ня зышчыш... Вот як у бяду я ўлез. Вот як, наракаючы на Адама, з'еўся. Аднак яшчо спадзеваюся, што гэтат трэці раз вымаўчу. Здаетца, што хоць бы і самоя ліха хацела са мною гаварыць, прышоўшы ка мне, не адкажу ані

---

[1] Даўняе польскае *zachoway się* азначала 'сцеражыся', 'унікай [чаго-небудзь]', а не 'хавайся'.

паўслоўка... Што гэта ў чорта, ці не б'ець... не... праўда жэ. (*Б'е гадзіна. Селянін на мігах паказвае розныя знакі.*)

## Сцэна 7-я

Пустэльнік і Селянін

Пустэльнік. Вопыт навучыў мяне, што свет шмат можа. Ён сваімі спакусамі вядзе да замілавання сабою. Ён спакушае да пажадання таго, што ёсць неадпаведным. Ён уводзіць у зман нават у тым, што ёсць добрае, даючы парады, якія пярэчаць высакароднасці і спрыяюць граху. Ён усхваляе гэта ды чыніць іх бязвіннымі і нават намагаецца падаваць іх за ўзорныя. Вось гэта і адштурхоўвае мяне ад свету, гэта прымушае мяне развітацца з ім. Я не хачу зведаць на сабе ўздзеянне тых вартых жалю ўплываў. Я ўжо дастаткова наглядзеўся, дастаткова да гэтага часу засмучаўся ды папсаваў нямала сабе крыві з гэтае прычыны. Іду цяпер у пустэльню[1], каб ніхто з жывых ужо не ведаў пра мяне. Іду, каб жыццё сваё прысвяціць служэнню Тварцу. Не перашкодзяць мне аніякія жарсці, бо я іх бачу ў сабе ўжо ўтаймаванымі. Не спалохаюць мяне аніякія страхі, бо я гэтаму не веру і верыць не буду, хоць бы мне нямаведама што казалі. Хіба, каб мне сам паказаўся Люцыпар, але што я кажу?.. Саграшыў я, што ўспомніў таго, хто з'яўляецца ворагам роду людскога, што ўспомніў яго знарок і ў размове, і яшчэ тым, што я такі самаўпэўнены ў сабе. Божа, будзь літасцівы да мяне... Дапамажы мне, каб я вытрымаў у той пустэльні. Ніколі не вярнуся з яе... Ой, не... не... я буду знаходзіцца і жыць у ёй аж да смерці. Бывай здаровы, Яснавяльможны Пане Свет!.. Я цябе так зараз тытулую, бо ўжо пакідаю ўсе тытулы табе. Бывай здаровы! (*Ідзе і наступае на дуду.*) Ах, даруй Божа, што гэта дзеецца? З самага пачатку пустэльніцтва мяне ўжо спатыкаюць такія прыгоды. Мой першы крок пазначаны такой варожасцю лёсу. Нават само ўяўленне малюе мне агідны канец. Ах, што мне чыніць, нешчасліваму? Куды ісці? Што чыніць? Як мне патрапіць уратаваць маё жыццё ад небяспекі? Вазьму ж, аднак, я кій у рукі ды пайду. Ці не перамагу гэтую гадзюку? (*Ідзе і б'е, а Селянін смяецца і злуецца.*) Ах, яна яшчэ і кія не баіцца і не саступае з дарогі! А я паабяцаў Богу жыць у пустэльні, весці там самотнае жыццё. А зараз на самым пачатку мяне хацела з'есці лютая гадзюка. Ды яшчэ такая страшная, што і глядзець на яе не магу. Раздулася, быццам з'ела трое цялят. Што я кажу? Ад цяляціны і не так патлусцець можна. Касматая, як маладое цялё; пашча, як у льва; ног не злічыць і даткнуцца не дазваляе... Ах, няхай мяне Пан Бог бароніць! Не бачыў я яшчэ такое пачвары за ўсё сваё

---

[1] Месца жылля пустэльніка. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 539: "ПУСТЭ́ЛЬНЯ, -и, с. ж. Уединенное мѣсто, пустыня. *Я не буду жиць въ гетой пустэльни*".

жыццё: жывот надзвычай вялікі, шыя доўгая. Вось якія перашкоды для службы Богу. Баюся ўжо і ступіць далей. На пачатку майго пустэльніцтва паўстала перашкода, каб рухацца далей. Прагну па-праўдзе жыць у пустэльні, але што ж – калі на самым падступе да яе я сустракаю перашкоды. Дух мой ахвочы, але цела слабое. Баюся, каб лёс не пакпіў з мае пастановы. Лічу за лепшае вярнуцца... Але што, ці ўжо гэтая несур'ёзная прычына мае змарнаваць маё пачынанне? Не будзе так... Пайду, абыйду яе вакол. А можа, мне ўдасца. Іду туды і больш не вярнуся... (*Ідзе.*) Аднак паварушу яе кіем, каб лепей разглядзець. (*Паварушвае кіем, дуда пішчыць і крычыць.*) Ратуйце! Ратуйце! (*Селянін ледзь не лопаецца ад смеху і злосці. Пустэльнік адскоквае.*) Баюся ісці далей. Хто ведае, што гэта азначае? Гэтая гадзюка прадракае мне фатальныя ў той пустэльні здарэнні... Аднак яе трэба перамагчы, каб я мог стаць добрым пустэльнікам. Пайду і заб'ю яе. (*Ідзе і хоча выцяць.*) Баюся, каб яна не з'ела мяне. Божа, хай будзе воля твая! (*Б'е дуду; дуда пішчыць.*) Мусіць, раззлавалася, бо ўжо пішчыць іншым голасам. (*Цягне яе кіем да сябе. Дуда пішчыць. Пустэльнік просіць ратунку.*) Ах! О Божа, я не ведаю, што мне чыніць? (*Трасецца.*)

### Сцэна 8-я

Селянін, Пустэльнік

Селянін. Чаго Ваша, баісься? Ці не знаіш, што гэта ёсьць?

Пустэльнік. Не ведаю.

Селянін. Гэта не гадзіна, гэта дуда руская.

Пустэльнік. Як гэта – дуда руская?

Селянін. Вот какая, што можна на ей іграць.

Пустэльнік. Што ты пляцешь?

Селянін. Я не пляту, але праўду кажу. Калі хочыш, так і зайграю.

Пустэльнік. Я не веру таму, каб ты яе і ў рукі ўзяў.

Селянін. Вот абачыш. (*Бярэ і грае.*) А што, альбо непрыгожа? А ты, дурак бояўся. Паскачы цяпер, бо яшчо пайграю. (*Грае.*)

Пустэльнік. Цяпер ужо веру, але дзіўлюся таму, хто выдумаў гэты інструмент і хто на ім грацьможа. Яго ж страшна ў рукі ўзяць.

Селянін. Так твой дурны ум, так баісся. Ня мусіў ты быць з нашымі брацьмі ў карчме, а мы калі зберымся до карчмы, мала яе не развалім ад гуку толька дуд нашых.

Пустэльнік. Але навошта патрэбны гэты мех?

Селянін. А які ж ты дурак! Без яго і граць няможна б было... А гдзе б дух дзержаўся?

Пустэльнік. Бачу, Ваша, майстра на гэтым інструменце граць. Зайграй жа нам на ім! Ці не трэба Вяльможнаму Пану зэдлік?

Селянін. Магу я зайграць і стоючы.

Пустэльнік. А як Ваша Мосць Пан будзеш перабіраць? Трэба было б яе пакласці на стале, а потым пальцамі, дзе трэба, затыкаць.

Селянін. Нядзіва б было, кап які блазён гаварыў так, як ты, Вашэць. Няўжо ш Вашэць таго не пазнаў, што так трэба іграць? (*Іграе.*) Вот гэтак губай трэба дуць, а пальцамі перабераць. Відзіш, як трэба іграць?

Пустэльнік. А там што за страшыдла?

Селянін. Вот цяпер даждаўся на сваю галаву. Ой, беда, беда! Я думаў, што ўжо не прыдзіць.

## Сцэна 9-я

Селянін, Д'ябал, Пустэльнік

Д'ябал. А дакуль жа вось гэта будзе? Пасля столькіх перасцярогаў – і ўсё яшчэ не памятаеш сваю прысягу!

Селянін. Да Панічаньку, каб ты ведаў, які ён вялікі дурак! Разумеў ён, што гэто гадзіна, а гэта дуда руская.

Д'ябал. Што табе было да гэтага? Табе ж трэба было толькі маўчаць. Ты ж ведаеш, на які заклад пайшоў! Ведаеш і тое, што я ўжо табе два разы дараваў. Я цябе папярэджваў, што трэці раз ужо не дарую. Аднак ты не стрымаў абяцання, ты парушыў мой загад, які, калі б ты споўніў, быў бы шчаслівым, але [цяпер будзеш на] векі нешчаслівым. Ты наракаў на Адама, а ці слушна?

Селянін. Не ведаю, Пане Д'ябле.

Д'ябал. Вось калі ты не ведаеш гэтага, дык я цябе навучу. Адам быў такі чалавек, як і ты. Ён меў наказ ад Пана Бога не спажываць забароненага плоду. Але ж ён не ведаў тых таямніцаў нашае здрады, як ведаеш ты. Ён нічога не чуў пра пасткі, якія мы расстаўляем штодня на род чалавечы. Ён не бачыў аніякага падобнага прыкладу для сябе. Ты ж асвечаны казаннямі, пераканаваны на прыкладах і падмацаваны штодзённым вопытам, адважыўся парушыць тры разы клятву прысягі. Цяпер я ўжо не магу табе дараваць.

Селянін. Ты, Вашэць Дабрадзей, паслухай толька, што тод дурак ня ведаў, што дуда. Ён думаў, што гадзіна неякая.

Д'ябал. А гэта, хіба, датычылася цябе? Табе трэба было думаць толькі пра маўчанне: ён хай бы сабе што хацеў, тое і казаў.

Пустэльнік. Дык ён мяне толькі перасцярог.

Д'ябал. Гэтым горш зрабіў, што перасцярог, бо і ты, можа, быў бы мой.

Селянін. А я ж яму нічога аб нашай гаворцэ не казаў.

Д'ябал. Калі б ты і пра гэта нічога не казаў, дык было б лепей.

Селянін. Цы я ж гэтага, Панічэньку, спадзеваўся?

Д'ябал. Хіба ж ты можаш казаць, што не спадзяваўся?! Я ж ужо два разы табе дараваў, дык таму ў трэці раз трэба было быць асцеражнейшым.

Пустэльнік. Але ж даруй яму на гэты раз.

Д ’ я б а л. Добра, я яму дарую, але вазьму цябе.

П у с т э л ь н і к. А згінь ты, прападзі! (*Жагнаецца і адходзіць.*) Знайшоўся мне дабрадзей!

С е л я н і н. А Дабрадзею, а даруй жэ ты, Вашэць, гэтат раз.

Д ’ я б а л. Аніякім правам не магу. Даю табе яшчэ мінуту часу. Рыхтуйся ўжо быць вечна са мною.

### Сцэна 10-я

Селянін

Ой, беда мая, беда! Гора ш маё, нешчаслівы на векі цяпер! Вот што я сабе зрабіў! Лепей, каб я таго глядзеў, што да мяне належыць, каб ня жаліўся на Пана і на страву для сябе, жонкі і дзяцей, як дагэтуль я рабіў, ніколі б я так нешчаслівы ня быў бы. Вот што гультайства мне зробіла! Да які ж я вялікі дурак! Як мне не зважаць! Толька ён раз мяне перасцерагаў, каб заклад дадзержаваў, каторы б каб дадзержаў, меў ба вялікую суму грошы. Аднак я не выцерпеў, як ён мне казаў, і для таго стаў я нешчаслівы. Ах… ах… мне беднаму… Што б я даў, каб тут цяпер мае суседзі былі, мае таварышы, каторые клясці Адама памагалі; каторые казалі, каб я быў няверным Пану; каторые самі так рабілі; каторые акрасьць Пана за грэх ня мелі; каторые ашукваць Пана і другіх па злосці ўядаць перад Панам радзілі; каторые пры маладзьбе колька разы па колька чвёртак[1] у карчму насілі са мной разам на гарэлку; каторые замкі адмыкаць, ціха падхадзіць, пад свірны падкападца, сцены і памосты круціць і збожа тачыць[2] учылі; каторые як Паном адказаць, як з віны выкруціtца ўчылі! Праклятае тое таварыства! Праклятае з шэльмамі жыццё! Ніколі б я гэтак ня згінуў бы, ніколі б я гэтак нешчаслівы ня быў ба, каб з тымі не таварышыў, каторыя з д’яблаmі жывуць, каб у таварыстве з імі ня быў і ня слухаў. Але што ш? Віць і я мужык! З панам <*нечыт.*> было <*нечыт.*>, з шляхціцам дастаў ба пазаушку[3]. Што ш я, бедны, меў рабіць?

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы…*, с. 396: “ЧВЁРТКА, -и, сущ. ж. 1) Четвертая доля гарнца, составляющаго нынѣ пятую долю ведра. *Чвертку горѣлки куплю, только скажи правду.* 2) Четвертка пахотной земли, четвертая доля уволоки. *Усю чвертку засѣявъ пшеницею*”.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы…*, с. 638: “ТО̂ЧИ́ЦЬ, -чу, точишъ, дѣйств. глаг. 1) (отъ подражанія звуку льющейся изъ полнаго сосуда чрезъ узкое отверстіе жидкости: токъ-токъ). Лить, исподоволь цѣдить. Слич. Наточиць. *Точиць горѣлку изъ бочонка*. <…>”.

[3] У вядомых нам беларускіх крыніцах выраз не зафіксаваны. Магчыма, паходзіць з расейскае мовы. Гл.: *Малый академический словарь*, Москва: Институт русского языка Академии наук СССР, 1957–1984: “ЗАУШИТЬ, -шу, -шишь; сов., перех. (несов. заушать). устар. 1. Ударить по уху, дать пощечину. *На кухне повар все еще стоял с поднятой рукой, как бы намереваясь заушить поваренка*. Афанасьев, *Народные русские сказки*. 2. перен. Оскорбить, опорочить, опозорить” [online] https://enc.biblioclub.ru/Termin/1228473_zaushit [доступ: 29.01.2022].

Трэба, коньча, было з мужыком жыць. Збытная маё п'яньства, частые байрамы[1] гэтые мяне нешчаслівым учынілі. Ах, беда ш мая, беда! Беражыціся, мужычкі, беражыціся! Я вас асцерагаю! Не ругайце ані на Бога, ані на Адама, але на сябе. Мы горшы яшчо, як Адам. І ён, праўда, заграшыў, але раз толька і за раз пакутуваў. А мы дзень на дзень грашым і пакутуваць ня хочым. Гэта то прычына нашай згубы! Гэта ў пекла нас вядзець! Ах, як на тоя цяжка ўздумаць, што цярпець зараз буду? А яшчо цяжэлей на тоя, што вялікая моц у пекла дастаетца для таго, што ня помнілі на перасцяраганньня папоў. Ох, многу, многу рабят, што бацькоў, падданыя Паноў ня слухаюць у тым, што да збавення вядзець. Многа бацькі дзяцём, Паны падданым напрыкраютца ў тым, каб добрамі былі. Жалаваць таго будуць некалі, да па часе: так, як я цяпер. Помню, што мне бацька казаў, каб я не хацеў багацства, а дзякуваў Богу за тоя, што Бог даў, каб пацераў не апушчаў А я нічога гэтага не рабіў: не прышлося часам і пераксзітца[2] ўстаўшы, за клязьбу, як за малітву, хватаўся. Гэта то мяне згубіла. Гэта то мяне цяпер у рукі Чорту ўпхнула. Гэта то мяне на векі нешчаслівым учыніла. Ах, беда мне, беда... Да чаго я тужу, аднак? Мяне чорт возміць. Трэба, коньча, Жыда прызваць, каб ён быў, як Чорт прыдзіць. А можэ Яго за мяне возміць? (*Стукае і крычыць.*) Арандар! Арандар!

### Сцэна 11-я

Селянін, Жыд

Ж ы д. Ню, а сто ты сказісь?

С е л я н і н. Беда мая, ня магу дачакатца майго таварыша.

Ж ы д. Якога?

С е л я н і н. Таго самага, ад каторага ты ўцекаў.

Ж ы д. Ці Цёрт твой таварысь?

С е л я н і н. Так ёсьць, што Чорт мой товарыш, разам будзіць і твой.

Ж ы д. А я не хацу, не хацу.

С е л я н і н. Чаго ты ня хочыш? Ці ты ж забыўся, што я з табой прыабецаў папалам падзялітца?

Ж ы д. А ці выграў за ты?

С е л я н і н. Выграў, толька ты будзь мой, а я твой друх.

Ж ы д. Добра.

С е л я н і н. Як прыдзіць Д'ябал, так ты не ўцекай, бо калі ён захочыць круціць грошы, ты прысведчыш.

Ж ы д. Баюся.

---

[1] Свята ў мусульманаў пасля паста, татарскі мясаед. Тут: пагулянка, кутня.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 404: "ПЕРЕКСЦИ́ЦЬЦА, сов. глагола возвр. Ксцицьца. 1) Перекреститься, принять св. крещеніе. *Жидъ сянни перексцився.* 2) Положить на себя знаменіе креста. *Перексцись, ложучись спаць*".

Селянін. Ня бойся, дурак! Я табе кажу, хоць бы ён і сярдзіт быў, ён табе ані слоўка не скажыць.

Жыд. Ці праўду кажэсь?

Селянін. Вер ты мне.

Жыд. Добра, я ш яго буду дазыдаць. А вот і ён ідзець.

Селянін (*кажа ўбок*). Даждзесься ты нечага.

## Сцэна апошняя

Селянін, Д'ябал і Жыд

Д'ябал. Ужо прыходзіць табе час развітацца з гэтым святлом, на якое ты цяпер паглядаеш. Пойдзеш са мною, спазнаеш вечную цемру. Не маеш права цяпер ні на каго наракаць. Ты ж наракаў на Адама. Спазнаеш жа, ці слушна? Ты горшы за яго і павінен цяпер гэта прызнаць сам.

Селянін. Знаю то, але выбачай, муй Дабрадзею, бо гэта з неўвагі сталася.

Жыд (*з цікавасцю прыслухоўваецца*). Дзёмка, упамінайся гросы!

Д'ябал. Што ты мне кажаш?! Хіба ж я табе не дараваў два разы і не перасцерагаў за кожным разам, каб ты захоўваў маўчанне?

Селянін. Праўда ты кажыш. Аднак, мой Дабрадзею...

Д'ябал. Нічога з гэтага не будзе.

Жыд. З прапрасанем твоей годносьці, віць Вяльможны Пан пабецаў даць?

Д'ябал. Праўда, што я абяцаў даць грошы, але тады, калі ён будзе варты.

Жыд. Я сведцу, сто ён выйграў.

Д'ябал. Дык ты прайграў!

Жыд. Я с тобой не братаюся.

Д'ябал. А чаго ты хочаш?

Селянін. Ён таго хочыць, Пане Д'ябле, каб ты быў ласкаў (*кленчыць і кланяецца*), яго ўзяў за мяне, аднак ён твой, бо няхрэснік.

Жыд (*уцякаючы, крычыць*). Гвалту!

Д'ябал. Яго я не маю прычыны яшчэ браць. Гэта праўда, што ён будзе мой, але ты...

Селянін. Да Вяльможны Мосці Дабрадзею! Ужо ш цяпер, кажу, што шчыра папраўлюся, толька прашу цябе: даруй мне гэтат раз.

Д'ябал. Нічога з гэтага не будзе. Ты быў папярэджаны. Я ж табе ў самым пачатку казаў і перасцерагаў, каб ты не наракаў на мяне. Я навучаў цябе, як сябе паводзіць. Аднак ты ўсё гэта не прыняў пад увагу. Ты не памятаў пра сябе. Зараз ужо пойдзеш са мною. Гледзячы на цябе, усе, хто не пільнуецца абавязкаў свайго стану, пазнаюць, што іх чакае. Гэта датычыцца, можа, не толькі адных вас, мужычкоў. Скажу больш, што ў такое самае няшчасце лёгка можа патрапіць і Пан, калі не будзе разумна выконваць абавязкі паводле правіл, заснаваных на боскіх і касцельных правах... Я кажу гэта ўсім і перасцерагаю... Не наракайце з гэтага часу на

Д’ябла, кажучы, што нас Д’ябал спакусіў. Праўда, мы хочам спакусіць. Але на таго, хто паслухмяны, хто мае ў памяці і сэрцы прыказанні боскія і стараецца іх выконваць, мы не маем аніякага права, бо з ім жыве Бог. (*Да Селяніна.*) Ты не можаш паскардзіцца на Бога, бо Бог дазволіў нават мне перасцерагаць цябе. Ты ж, аднак, легкадумна паставіўся да маіх перасцярогаў, легкадумна паставіўся да сваіх праступкаў, а таму і прыйшоў да гэтага нешчаслівага крэсу. Ідзі ж за мною! Будзеш ужо са мною не векі нешчаслівым. (*Цягне Селяніна ў пекла.*)

С е л я н і н (*крычыць*). Квасу! Дайце квасу!

Дзеля большае славы Божае!

# ДАКУМЕНТЫ
# пра Забельскі дамініканскі кляштар

## I

## Запіс на дамініканскі кляштар (1726)

Вырашэнне праблемы атрыбуцыі *Камедыі* ў значнай ступені залежыць ад узроўню вывучанасці гісторыі Забельскага дамініканскага кляштара. Варта яшчэ раз уважліва прачытаць вядомае ды апублікаванае і працягваць выяўляць новыя матэрыялы. Нас у першую чаргу павінны цікавіць дакументы, якія б маглі пацвердзіць, што ў Валынцах у 1780-я гады існаваў калегіум, а пры ім дзейнічаў тэатар. Валыняк, які карыстаўся як кляштарнаю хронікаю, так і іншымі паперамі забельскіх дамініканцаў, спасылаецца на запіс Юры Шчыта-Забельскага ад 1716 г. дамініканцам, у якім – сярод іншага – было патрабаванне "мець studyum filozoficzne i teologiczne для клерыкаў ордэна <...>; катэхізіс выкладаць дзецям у нядзелі і святы; школку (szkółkę) для шляхецкіх і мяшчанскіх дзяцей стварыць/пабудаваць (zaprowadzić)"[1]. Гэта значыць: у кляштары павінна жыць 12 законнікаў і ў ім павінна была працаваць школка, статус якое канкрэтна не вызначаўся. Але, здаецца, фундатар не меў на ўвазе вучэльню тыпу блізкага Полацкага езуіцкага калегіума. Паміраючы ў тым жа 1716 г. у 70-гадовым узросце (паводле іншых крыніц – 80-гадовым), Ю. Шчыт пакідае ўсё яму належнае крыху, відаць, маладзейшай[2] жонцы Ганне, якая праз дзесяць гадоў запісвае свой маёнтак забельскім дамініканцам цалкам, нічога не пакідаючы нашчадкам як сваіх братоў і сясцёр, так і мужавых. Характэрна, што "патрабаванні" да тых, хто прымаў дар, засталіся ранейшыя: "Законныя школы, г. зн. studium theologium et filosophium павінны дзейнічаць стала ў гэтым кляштары, як таксама і школа для малых дзяцей, каб не заставаліся невукамі". Праўда, з запісу 1726 г. становіцца зразумела, што на лаўры полацкіх езуітаў Шчыты-Забельскія не пасягалі: яны лічаць толькі на школку для малых дзяцей. Тую школку, якая дасць магчымасць стаць студэнтамі полацкага ці нейкага іншага калегіума. Зрэшты, яно было б дзіўна, каб ў першыя гады будаўніцтва Забельскага кляштара ставілася задача стварэння не пачатковай, а сярэдняй школы.

---

[1] Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej*, cz. 1, Kraków 1917, s. 287.
[2] Ю. Шчыт і Г. Гласка ўзялі шлюб у 1669 г. У 1710 г. яны страцілі свайго адзінага сына Аляксандра.

Дык узнікае пытанне: ці маглі цягам 50–60 гадоў дамініканцы трансфармаваць школку для малых дзяцей у адмысловую сярэднюю навучальную ўстанову – калегіум? Што датычыць колькасці памінальных службаў волю фундатараў яны не парушалі, але вось, пабудаваўшы мураваны касцёл і кляштар, колькасць законнікаў у Валынцах павялічылася ў некалькі разоў. Лагічна будзе дапусціць, што маючы і сродкі, і падрыхтаваныя кадры, кіраўніцтва ордэна, наследуючы полацкіх езуітаў, на базе колішняе пачатковае школкі стварыла калегіум. Вось толькі ці будуць калі выяўленыя дакументы з пацвярджэннем гэтае гіпотэзы?

Запіс Г. Шчыт-Забельскае ў актавых кнігах Полацкага гродскага суда выявіў і апублікаваў Зміцер Даўгяла ў *Гісторыка-юрыдычных матэрыялах*, што выдаваў у 1871–1906 гг. Віцебскі цэнтральны архіў старажытных актаў. “Ліст” Г. Шчыт-Забельскае быў напісаны на краёвай польскай мове з дадаткам абавязковае тады судовае лаціны. У навуковай літаратуры сцвярджаецца, што пад рэдакцыяй З. Даўгялы палепшылася якасць публікацый тамоў выдання: тэксты сталі перадавацца блізка да арыгінала. Зрэшты, кепскага расчытання старых папераў, а таксама памылак друку, відавочна, унікнуць не ўдалося.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: *Историко-юридическіе матеріалы, извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерній Витеской и Могилевской, хранящихся въ центральномъ архивѣ въ Витебскѣ и изданные подъ редакціей и. д. архиваріуса сего архива Дм.Ив. Довгялло*, выпуск двадцать девятый, Витебскъ 1901, с. 34–41.

## [Запись на доминиканскій монастырь въ м. Волынцахъ]

1726 г. февр. 29[1]

*1726 г. марта 12. Запись на доминиканскій монастырь въ м. Волынцахъ, Полоцкаго воеводства, со школами при немъ – (одна – для обучеія богословія и философіи, а другая – для малыхъ дѣтей). Означенные доминикане получаютъ отъ жены Георгія Щита, Анны, урожд. Гласко, всѣ имѣнія, доставшіяся ей въ пожизненное владѣніе послѣ смерти мужа, и нѣкоторыя имѣнія свои собственныя. Перечисляются всѣ фундушовыя имѣнія и называется первый пріоръ сего монастыря.*

Roku panskiego tysiąc siedmset dwudziestego szostego mca Marca dwunastego dnia.

Na roczkach sądowych grodzkich Marcowych[2] porządkiem prawa pospolitego przypadłych y sądownie w Połocku odprawowanych przed nami, Waleryanem Antonim Żabą[3], starostą Bialskim podwojewodzym[4], Alexandrem Rypińskim[5], stolnikiem Smolenskim zędziom, et Stefanem Michałem Korsakiem, Udzielskim[6] pisarzem urzędnikami sądowemi grodskiemi województwa Połockiego od Jasnie Wielmożnego Jmść Pana Stanisława Hrabi Denhoffa[7], wojewody Połockiego Hetmana Polnego W. X. L., Nowomieyskiego, Kałuskiego, Koscierżynskiego, Lucinskiego, Lubochenskiego, Latowickiego, Zeudekanskiego etc. starosty ustanowionemi, stanowszy oczewisto u sądu wielmożna Jey Mość pani Anna Hłaskowa Jerzyna Zabielska, woytowa woyska Połocka, opowiadała y presentując list swoy dobrowolny wieczysty powtorny *de nowa radicie erogowany*[8] prawnie sprawiony fundusz od siebie w Bogu przewielebnemu Jmci Xiędzu Ludwikowi Borowskiemu, zakonu Swiętego Dominika, przeorowi pierwszemu klasztoru Zabielskiego przez siebie w dobrach swoich wieczystych ziemskich w wojewodstwie Połockim leżących fundowanego y erigowanego y wszystkich Jch Mość Xięzy Dominikanom tegoż klasztoru prowincji Litewskiey z pieczęciami y dodpisami[9] rąk samey Jey Mości y wielmożnych Jchmość. panow pieczętarzow[10] od Jey Mść.

[1] Відаць, памылка (перапісвальніка ці друку): 1726 год не быў высакосным.
[2] Roczki – паседжанні земскага ці гродскага суда.
[3] Валерыян Антоні Жаба (~1700 – 1753), вядомы палітычны дзеяч ВКЛ, пазнейшы маршалак Галоўнага трыбуналу ВКЛ, а таксама кашталян брэсцкі і полацкі.
[4] Наместнік ваяводы ў судовых справах.
[5] У гэты час полацкім земскім пісарам быў Базыль Рыпінскі, прапрадзед літаратара XIX ст. Аляксандра Рыпінскага.
[6] Стафан Міхал Корсак-Удзельскі (~1670 – ?), пісар гродскі.
[7] Станіслаў Эрнэст Дэнгоф (~1673–1728), гетман польны літоўскі (1709–1728), ваявода полацкі (1722–1728).
[8] выданы.
[9] *podpisami*.
[10] Урадоўцы, якія мелі пячаткі.

Pani do tego funduszu ustnie y oczewisto uproszochych, niżey wyrażonych dany, służący y należący, pierwszy fundusz, *in antecessum*[1] sprawiony, roborujący ony, ustnie a dobrowolnie przy wykonanym podług constytycij seymowey roku tysiąc sześćset trzydziestego piątego *fakto pectore juramencie*[2] przyznała. Który ustnym swoim a dobrowolnym przyznaniem *et insuper*[3] podług wysz specifikowaney constytucij corporali juramento przed nami urzędom facto pectore wykonanym, approbowawszy y na to wszystko co w nim iest opisano dobrowolnie zezwoliwszy ządala na urzędzie, aby ten list Jey Msci dobrowolny wieczysty *et puro zelo*[4] ku rozmonożeniu chwały Boskiey powtorny de nowa radice sprawiony fundusz ze wszystkiego w nim wyrażoną rzeczą do akt xiąg grodskich spraw wieczystych wojewodstwa Połockiego przyjęty y wpisany był. Którego to listu dobrowolnego wieczystego zapisu funduszu my, urzęd, oglądawszy y czytanego przed sobą po dostatku wysłuchawszy a widząc być ony we wszystkim słuszny y z prawem pospolitym zgodnym przyznaniem oczewistym y wykonanym facto pectore juramentem od wielmożney Jey Msci Pani woyskiey Połockiey approbowany, kazaliśmy go do xiąg wpisać, który wpisując *de verbo ad verbum tali sequitur tenore*[5].

W jmie Oyca y Syna, y Ducha Swiętego, Boga w Troycy Swiętey Jedynego, niech się stanie ku chwałe Jego Swiętey, Amen. Ja, Anna z Hłaskow Jerzyna Zabielska Szczytowa, woyska Połocka, czynie wiadomo tym moim dobrowolnym *ex puro zelo* ku rozmnożeniu Jego Chwały Boskiey przenayswiętszey powtornym de nowo radice funduszom listem wieczystym reborającym prawem zapisem wszem wobec y kożdemu zosobna, komu by o tym teraz y na potym będącego wieku ludziom wiedzieć należało o tym, iż co ja, woyska Połocka ufunduwawszy z nieboszczykiem swiętey pamięci Wielmożnym Jmść. Panem Jerżym Zabielskim Szczytem, woyskim Połockim, starostą Kuszlickim miłym małżąnkiem moim w Bogu wielebnych Jchmść Xięzy Dominikanow prowincji Litewskiey na Zabiałach y na wszystkich ziemskich dziedzicznych dobrach naszych *sine ullo detrimento et fraude*[6] Rzeczy Pospolitey, dobrach wolnych, swobodnych, żadnemi długami nie onerowanych, przezyskami y przewodami prawnemi nie przekonanych w pierwszym funduszu wyrażonych, – tenże fundusz y tereznieyszym libere bez żadnego przymusu, wymożenia y podeycia we wszystkich punktach, kondycyach klawsułach y paragraffach na wiecznie y nigdy nie odzowne czasy stwierdzam, umacniam y prawnie tym listem wieczystym, confirmacyinym zapisem funduszem *reboruie*[7], oddawszy zaraz w realną possessyą na prowizyą tymże Jch Mść Xięży Dominikanom dobra nasze ziemskie wieczyste, nazwane Wołynce y Czerkasowszczyzne[8] alias Swołnę

---

[1] раней.
[2] пад прысягаю.
[3] і больш за тое.
[4] шчыра, ад усяго сэрца.
[5] слова ў слова.
[6] без усялякае шкоды і падману.
[7] аддаваць у дэпазыт.
[8] Валыняк падае як *Czekasowszczyzne*.

y do onych jurisdice przez jenerała intromitowawszy, ustąpiłem tymże w Bogu wielebnym Jchmść Xięży Dominikanom półtora tysiąca talarów bitych summy na majętności, nazwaney Ułuzie[1], nieboszczykowi małżąkowi memu y mnie Szczytowey od Jmść. Pana Adryana Orzechowińskiego zastawnym prawem należącą y potem przewodami prawnymi y dekretami tribunalskiemi przez samych że w Bogu wielebnych Jchmść. xięży Dominikanów ewinkowaną, w wojewodstwie Połockim leżącą. Kture to dobra wszystkie ziemskie fusius w pierwszym funduszu namieniona, a mnie tylko *ad vitae suae tempora*[2] do wolnego szafunku zostawione tym powtornym de nowo radice funduszem moim sama dla słabości zdrowia, w podeszłych leciech swych będąc, władać, dysponować nie mogąc, ztwierdzam y roboruię pierwszy fundusz, vigore którego ponieważ już w fundacji naszey kościoł y klasztor iest noviter wystawiony y erigowany y pierwszy przeor do tego klasztoru iest ustawiony, oraz kapłani na mieszkanie y odprawowanie oblig opisanych w funduszu są introdukowane, przeto [u]stempując do żywocia mojego w Bogu przewielebnemu teraznieyszemu Jmść. xiężu Ludwikowi Borowskiemu y wszystkim Jch mość. xięży Dominikanom tegoż klasztoru prowincji Litewskiey offitiose przez jenerała wojewodstwa Połockiego dobra wszystkie *superius*[3] wyrażone, które secundum obloquentiam prawa konstytucji seymowych, stanowszy personaliter przed sądem grodskim wojewodstwa Połockiego *rite te ligitime*[4] odprawującym się y sądzącym się corpoli juramento stwierdziwszy y approbowawszy, fundusz de nowa radice errogowany, w realną possessyą y moc y spokoyne dzierżenie do daty ninieyszey podaie y intromituie. Wolni tedy y mocni będą jchmść xięży Doninikanie conventu Zabielskiego dobrami temi funduszem pierwszym y teresnieyszym mym approbacyjnym nadanemi y ustąpionemi jako swymi własnymi władac, dysponować y ku potrżebie klasztorney *pro usu et fructu*[5] obracac, z onych pożytkow wszelkich wynaydować. A ja, od daty ninieyszey absolute interesować się y w żadną dyspozacyą wchodzić nie mam y nie powinna będe, obligując w tym Jchmość. xięży Dominikanow, ażeby w pierwszym funduszu wyrażonym obligom zadosc czynili, odprawując co tydzien po trzy mszy *requialnę*[6], spiewanę y dwadziescie trzy mszy czytanych[7] *in perpetuas externitates*[8], aż do kończenia swiata. Szkoły zakonne to jest studium theologium et filosophium ma sine ulla

[1] Маецца на ўвазе маёнтак Утуга (сёння Себежскі раён Пскоўскае вобласці).
[2] да жыцця майго крэсу.
[3] вышэй.
[4] законна.
[5] і выкарыстання.
[6] за памерлых.
[7] У 1730 г. Ганна Забельская зменшыла колькасць службаў да 12. І так было да 1797 г., калі іх зноў стала 26. Гл.: Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej*, cz. 1, Kraków 1917, s. 290.
[8] з належнымі эфектамі.

interruptione[1] trwac w tym że klasztorże, similiter[2] dla dzieci małych szkoła aby indecinenter persistere[3] mogła obligiuję, litanią aby do Nayswiętszey Panny po nieszporze organista spiewał mają dojrzec Jchmść. xięża Dominikani tegoż klasztoru, ktorym *ad argendum majorem cultum*[4] Boga Wszechmogącego w Troycy Swiętey Jedynego y Panny Przenayswiętszey niepokalanie poczętey, majętność Swołnę[5] od wielmożnego Jmść. Pana Władysława Thadeusza Wańkowicza[6], starosty Rupowskiego y samey wielmożney Jemść. Paniey Heleny z Wołodkowiczow Wańkowiczowey starosciney Rupowskiey małżonkow wieczystym prawem przezemnie nabytą *cum omnibus attinentijs et pertinetnijs*[7] na klasztor Zabielski tereznieyszym de nova radice approbacynym funduszowym zapisem do pierwszego funduszu *jura tranfusione* wlewam, przyłączam, leguię y wiecznemi czasy zapisuję. In super do tegoż funduszu dworki trzy w miesci J-go K-oy M-ci Połocku, mnie od miłego małżonka zapisane y place na Zapołociu przezemnie od Jmść. Pana Theodora Zalenskiego przykupione do placow w pierwszym funduszu zapisanych, alias Słobodkę nazywających się, z kopciowem od swiętey pamięci małżonka mego wespoł zemną *anterius* zapisanych z budynkami wszelkiemi do funduszu wysz. wyrażonego de nova radice erigowanego wiecznemi czasy leguię y zapisuię summę w tąż tysiąc trzysta trzydziesci dwa talary bite na Iwaszkowicze w wojewodstwie Połockim leżące Jmść. Panu Samuelowi Dilewskiemu, staroście Niechorowskiemu, y samey jemsci na prawo zastawnę daną, mnie woyskiey Połockiey zapisaną y przynależącą cum exolatione summy jmść Panu Franciszkowi Oskirce[8], stolnikowi Mozyrskiemu, talerow bitych dziewiędziesiąt pięc za prawem zostawnym osobliwie y obligiem złotych pięddziesiąt y za dekreta, takoż grunt kupiony między gruntami słobody Połockiey od Jmść. Pana Stanisława Rakuskiego y samey Jemść. Przy tym summę, wniesioną y zapisaną od miłego małżonka mego na Zabiałach y Nieszczordzie mnie cztery tysiącę złotych, to jest talarow pięćsett, talar rachując po złotych osmiu. Tudziesz obligiro ne nieboszczykowi memu małżonkowi na jedną osobą jego danę, lub po krewnych spadłe, a mnie należące *de volute* dostałe służące; także wszelką ruchomość od tegoż nieboszczyka mego miłego małżąka mnie zapisana tak w funduszu pierwszym, jako y w testamencie wyrażoną; oraz co kolwiek z łaski Bożey przybyło to jest w złocie, srebrze, summach pieniężnych

---

[1] без перапынку.

[2] аналагічна.

[3] не заставаліся невукамі; не паводзілі сябе непрыстойна.

[4] для большага пакланення.

[5] У 1725 г. да маёнтку Свольна, калі яго купіла Ганна Забельская ў Вальковічаў, належала 14 вёсак. Гл.: A. K. Ł., *Swołna* [w:] *Polski Słownik Geograficzny*, t. XI, Warszawa 1890, s. 725.

[6] Гл.: *Tadeusz Władysław Wańkowicz* [w:] *Wielka Genealogia Minakowskiego* [online] https://wielcy.pl/wgm/?m=NG&t=PN&n=sw.76782 [доступ: 5.01.2022].

[7] з усім, што да яго належыць.

[8] Гл.: *Franciszek Michał Oskierka* [w:] *Wielka Genealogia Minakowskiego* [online] https://wielcy.pl/wgm/?m=NG&t=PN&n=sw.992 [доступ: 5.01.2022].

ruchomych, miedzi, cynie, bydłe rogatym y nierogatym, stadku, koni z zbożem w swirnach będącym y w polach zasianym, owo zgoła od małych, aż do naywiększych rzeczy, cokolwiek znayduie się y może znaleść ruchomości zapisuię, leguię y wiecznymi ezasy od daty presentis ustempuię, daruię y oddaię Jch mość. xięży Dominikanom prowincji Litewskiey klasztoru Zabielskiego[1], zadnego naymnieyszego braci swoiey[2], siostrem, synowcom, wnukom, bliskim pogołowiu, dalekim krewnym, przyjaciołom y successorom do pomienionych dobr, zapisów, sum, dworkow y płacow prawa przystempu y akcepty nie zastawując, nie zachowując własności y bliskosci cale ninieyeyszym na wieczne, nigdy nie odzowne czasy uczynionym zapisem approbacynym funduszowym listem oddałam, a na nigdy nie odzowne czasy Ichmść. xięży Dominikanow prowincij Litewskiey fundacji de novo radice erigowaney zapisuję; sprawy, prawa, obligi, inwentarże obodnice y wszystkie dokumenta na majetnosci y dobra, na dworki, domy y płace będące pierszym y tym funduszem powtornym specyfikowane wszystkie, ktore miec mogą *ad manus*[3] oddaję A gdzieby kto mimo ten moy dobrowolny wieczysty fundacyjny zapis tak z krewnych moich bliskich jako y obcych, z jakiego kolwiek pretextu y wymysłu ludzkiego przepomniawszy bojaźni Bożey y srogości, ten prawa Pospolitego fundusz moy powtorny, jako y pierwszy nasz spolnie z nieboszczykiem małżonkiem mym de nowa radice erygowanym chciał y ważył się invalidować, ruinować y z spokoynego dzierżenia Jchmść. xięży Dominikanow rugować, tedy kożdego turbatora temu sprzeciwięcego się na sąd straszny Boski zapozywam y na kożdego takowego zaręki sto tysięcy złotych polskich zakładam, połowice na urząd sądowy, a połowice na klasztor tego funduszu naszego Zabielski, a po zapłaceniu by y kilkakroć zaręki przeciez ten nasz fundusz pierwszy y powtorny przy zupełney mocy y walorze ma zastawać; sąd zas y urzęd wszelki *infero ubiquinaria* do ktorego kolwiek Jchmść. xięża Dominikanie prowincji Litewskiey Zabielscy udadzą się na dobrach y osobie kożdego takiego turbatora y gwałtownika prawa pospolitego tak za staniem y w niestaniu wyżey opisaną zarękę wskazać, skuteczną y nie odwłoczną sprawiedliwość stronie żałujący uczynić wolen y mocen będzie. Czego wszystkiego Jchmść. xięży Dominikanie przełożeni Zabelscy tego funduszu naszego mają y powinni będą, a jako fundusz teraznieyszy moy do punktow należytych pierwszego funduszu *in omni*[4], tak punkta w zajem tego powtornego funduszu mego y nieodmienney nigdy woli moiey do pierwszego funduszu ze wszystkiemi obowiązkami clausulis et paragrafis we wszystkim regulować się mają – na wieczne chwały Boskiey y wiary swiętey katolickiey pomnożenie. Na co dla lepszey wiary ręko własną podpisuję się do tego funduszu powtornego, uprosiwszy Jchmść. Panow pieczętarzow.

---

[1] Усяго забельскім дамініканцам было ахваравана Ганнаю Забельскаю 487 "дымоў" і 1738 асобаў мужчынскага полу. Гл.: Wołyniak, *Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej*, cz. 1, Kraków 1917, s. 289–290.

[2] Адам Банецкі называе братамі Ганны: Дамініка, Яна, Траяна, Язафата і Феліцыяна. Гл.: A. Boniecki, *Hłaskowie v. Hłazkowie h. Leliwa* [w:] A. Boniecki, *Herbarz polski*, t. VII, Warsyawa 1904, s. 292.

[3] у рукі.

[4] ва ўсім.

Pisan w Z a b i a ł a c h roku tysiąc siedmsetnego dwudziestego szostego msca Februarij dziesiątego dnia. U tego listu dobrowolnego wieczystego funduszu prawa zapisu przy pieczęciach podpisy rąk tak samey Wielmożney Jeymść. Paniey woyskiey Połockiey, jako y Jchmść. Panow pieczętarzow *in eum tenorem* pisane: Anna Hłaskowna Jerzyna Szczytowa Zabielska woyska Połocka.

Ustnie y oczewisto podług prawa proszony pieczętarz od Wiemożney Jeymść pani Anny z Hłaskow Jerzyney Szczytowey woyskiey Połockiey do tego darownego funduszowego prawa, danego w Bogu przewielebnym Jchmść. xięży Dominikanom prowincji Litewskiey podpisuję się Wałeryan Antoni Żaba, podwojewodzy Połocki.

Oczewisto proszony pieczętarz podług prawa od wielmożney Jemść pani z Hłaskow Jerżyney Szczytowey woyskiey Połockiey do tego prawa darownego funduszowego danego w Bogu przewielebnym Jchmść. xięży Dominikanom prowincji Litewskiey podpisuję się Alexander Rypinski, stolnik Smolenski, sędzia grodski woiewodstwa Połockiego mpr.

Ustnie y oczewisto proszony pieczętarz od wiemożney Jeymść. Pani Anny z Hłaskow Jerzyney Zabielskiey Szczytowey, woyskiey Połockiey, do tego funduszu podpisuję się Karoł Obrąpalski, mieczny Witebski.

Oczewisto proszony pieczętarz do tego prawa funduszowego, danego w Bogu wielebnym Jchmść. Xięży Dominikanom prowincji Litewskiey od Wielmożney Jemść. Pani Anny z Hłaskow Jerzyney Szczytowey woyskiey Połockiey podpisuję się Stefan Michał Korsak Udzielski, pisarz grodski Połocki.

Ustnie y oczewisto proszony pieczętarz do tego fundacyjnego zapisu podpisuję się Karol Hłasko.

Oczewisto proszony pieczętarz od osoby wyż wyrażoney do tego funduszu podpisuję się Theofil z Rusca Rusiecki, skarbnik Wilenski mpr.

Który to list dobrowolny wieczystyf undacyiny zapis z oczewistym onego przez wielmożną Jeymść Panią Anną z Hłaskow Jerzyną Szczytową Zabielską, woyską Połocką, przyznaniem jest do xiąg grodzkich spraw wieczystych wojewodstwa Połockiego przyięty y wpisany.

По оп. кн. № общ. 243, № част. Полоцк. 92, л. 262–267.

## II

## Пра вучэльню ў Забельскім даміниканскім кляштары

Дакумент, які публікуецца ніжэй, нібыта развенчвае гіпотэзу, якую мы прапанавалі вышэй: а менавіта, пры Забельскім даміниканскім кляштары не існаваў у 1780-я гг. калегіум. Пра гэта сведчыць дзясяты пункт з адказаў прэфэкта вучэльні Юстына Сакульскага: “Все заведеніе въ семъ училищѣ удерживается съ созданія монастыря Забяльскаго”. Тым больш, што і шосты пункт можа быць пацвярджэннем таго, што вучэльня ў кляштары відавочна дзейнічала ў часы Камісіі народнае/нацыянальнае адукацыі: “Науки преподаются въ трехъ классахъ по большей части изъ книгъ, от Комиссіи прежде бывшей Польской училищамъ народнымъ данныхъ и предложенныхъ”.

Маўляў, з даўніх часоў у Валынцах для адукацыйных патрэбаў мясцовага насельніцтва даміниканцы ўласным коштам утрымліваюць школу, якая працуе (і, відавочна, працавала раней) па праграме сярэдніх навучальных установаў тагачаснае Еўропы[1]; што сёння тут выкарыстоўваюцца для навучання падручнікі, рэкамендаваныя колішняй Камісіяй. І хоць пра папярэдні этап дзейнасці вучэльні пытання ў фармуляры не было, але з адказаў адназначна вынікае, што ўстанова мае свае традыцыі і высокую рэпутацыю сярод тутэйшага грамадства.

Аднак наш вопыт працы з пісьмовымі крыніцамі дазваляе часам засумнявацца ў праўдзівасці змешчаных у асобных з іх звестках. Маем шэраг аргументаў на карысць таго, што кляштар мусіў падаваць не зусім дакладную інфармацыю.

Па-першае, дасланае ў лістападзе 1802 г. “предписаніе Дризинскаго Нижняго Земскаго Суда”, г. зн. павятовае паліцэйскае ўлады, магло выклікаць пэўныя пытанні ў кляштары: дзеля чаго збіраюцца звесткі пра вучэльню? Дачыненні даміниканцаў з расейскімі акупацыйнай адміністрацыяй дасюль не вызначаліся асаблівай прыязнасцю. Яны, відавочна, памяталі, што зусім нядаўна, у 1797 г., прыёр віленскага

---

[1] М. Мілавіцкі піша пра тое, што даміниканцы ў шэрагу кляштараў на Беларусі мелі публічныя школы. А менавіта ў Наваградку, Ушачах, Забелах, Гародні і Нясвіжы. Пры гэтым падкрэслівае, што ўзніклі яны па распараджэнні Камісіі народнай адукацыі на месцы калегіумаў езуіцкага ордэна. Аднак ён не ўлічыў, што Валынцы трапілі ў 1772 г. у расейскую зону акупацыі, дзе езуіты працягвалі сваю дзейнасць, а таксама тое, што езуіцкага калегіума ў Валынцах не было. Гл.: M. Miławicki, *Dominikanie na kresach wschodnich Rzeczypospolitej Obojga Narodów (teren dzisiejszej Białorusi)*, „Folia Historice Cracoviensia” 2014, t. 20, s. 117.

канвенту Фаўстын Цяцерскі быў арыштаваны і высланы ў Сібір. А таму няўдала сфармуляваныя адказы маглі наклікаць бяду і на вучэльню, і на кляштар. Дык патрабавалася, не адступаючы далёка ад праўды, падаць як можна ў лепшым святле сваю дзейнасць; пераканаць улады ў сваёй лаяльнасці ды карыснасці для дзяржавы і мясцовага насельніцтва. І так было, маўляў, з тых часоў, як у Валынцах заснавалі дамініканскі кляштар.

Па-другое, варта далучыць асобныя ўскосныя сведчанні, што аніякае сярэдняе вучэльні для шляхецкіх дзяцей у 1780-я – першай палове 1790-х гг. у Валынцах не было. Так, у жніўні 1786 г. магілёўскі архібіскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч паведаміў у Дзяржаўную камісію, якая займалася арганізацыяй працы народных вучэльняў, наступнае: “Во исполненіе моего долга осматривалъ я ввѣренныя моему правленію[1] училища. Коллегии Іезуитскія въ городахъ Могилевѣ, Оршѣ, Мстиславлѣ, Полоцкѣ и Витебскѣ существующія, Піарское училище въ мѣстечкѣ Дубровнѣ[2] и семинарія, при кафедральномъ моемъ соборѣ заведенныя, по истеченіи годоваго времени при концѣ прошедшаго мѣсяца учениками представляли опытъ, изъ коего виденъ былъ успѣхъ какъ въ разсужденіи преподаванія разныхъ языковъ, такъ и обществу полезныхъ наукъ. Во всѣхъ же оныхъ училищахъ заводится образъ ученія по нормальнымъ правиламъ. О чемъ оной Коммиссии честь имѣю симъ сообщить”[3]. Ці мог С. Богуш-Сестранцэвіч не ведаць пра адзінае, што належала дамініканскаму ордэну, у Полацкім намесніцтве (1776–1796) “Забяльское училищѣ”? Ці проста пералічыў толькі тыя, які здолеў “осмотреть”? Не знойдзем мы таксама згадак пра Валынцы і ў *Краткихъ свъденіяхъ объ учебныхъ заведеніяхъ Западно-Русскаго края съ 1789 по 1802 годъ*[4]. Атрымліваецца, што дамініканцы сваю адукацыйна-асветніцкую дзейнасць шырока не афішыравалі, дык не траплялі ва ўрадавыя статыстыкі? Выглядае даволі дзіўна: невялікія школкі з адным настаўнікам у павятовых гарадках фіксуюцца ў справаздачах, а трохкласная вучэльня на некалькі дзясяткаў вучняў застаецца паза ўвагаю мясцовае ўлады.

Па-трэцяе, палітычная гісторыя Валынцаў і ўсяе Полацкае зямлі другое паловы XVIII ст. таксама не на карысць гіпотэзы пра існаванне Забельскага калегіума. Так, ужо ў жніўні 1772 г. Валынцы апынуліся ў межах Расейскае імперыі. І хоць толькі ў верасні 1773 г. паводле падпісанага трактату падзелу гэта сталася афіцыйна, але сувязь з незабранымі яшчэ землямі Вялікага Княства і Рэчы Паспалітае была перапынена. А гэта значыць, што дзейнасць Камісіі нацыянальнай

---

[1] С. Богуш-Сестранцэвіч быў на чале каталіцкага касцёла Расейскае імперыі.
[2] Годам раней пераведзенае з Віцебска.
[3] *Сборникъ матеріаловъ для исторіи просвъщенія въ Россіи, извлеченныхъ изъ Архива Министерства народнаго просвъщенія*, Т. 1: *Учебныя заведенія въ Западныхъ губерніяхъ до учрежденія Виленскаго учебнаго округа. 1783–1803*, С-Петербургъ 1893, стлб. 15.
[4] *Ibidem*, стлб. 455–502.

адукацыі на тэрыторыю Расейскае імперыі не распаўсюджвалася. Як, дарэчы, і брэвэ *Dominus ac Redemptor Noster* Клеменса XIV. Вядома, забельскія дамініканцы маглі ведаць пра рэформы ў сістэме адукацыі ў Рэчы Паспалітай, пра ўзнікненне школаў трох тыпаў (парафіяльныя, народныя, вышэйшыя), але толькі гіпатэтычна можна казаць, што і яны дастасаваліся да новых вымогаў міністэрства іхняе колішняе дзяржавы, ды замест школкі з бакалярам для малых дзяцей стварылі трохкласную вучэльню[1]. Зрэшты, такое магло здарыцца толькі пасля 1783 г., калі быў апублікаваны статут павятовае школы, а Таварыства элементарных кніг пачало публікаваць падручнікі і дапаможнікі. Дарэчы, за дзесяць гадоў (да 1787 г.) школа Рэчы Паспалітае атрымала літаратуру да ўсіх асноўных прадметаў праграмы. (Хіба, *Wymowa i poezja dla szkół narodowych* Гжэгаша Пірамовіча з'явілася ў 1792 г., але яна прызначалася для IV класа, які ў большасці школаў адсутнічаў).

Аднак вядома, што дамініканскі ордэн не атрымаў права ад Адукацыйнае камісіі адкрываць школы. Больш за тое, калі калі чашніцкія дамініканцы заснавалі ў 1777 г. вучэльню, Камісія дамаглася (праўда, цягам дзесяці гадоў) яе закрыцця, хоць і дазволілі "перанесці" ва Ушачы. І толькі расейская адміністрацыя ў 1790-я гг., імкнучыся аслабіць уплыў езуітаў і піяраў у сістэме адукацыі, спрыяла дамініканскім школам: "У 1797 г. дамініканцам былі перададзены свецкія 6-класныя акруговыя вучылішчы ў Гродна і Навагрудку. Да таго ж, у 1796 г. Полацкі Сумленны суд зацвердзіў завяшчанне мінскага ваяводы Я. Гільзена, па якому Забельскі калегіум пачаў атрымліваць дадаткова 6 тыс. руб. срэбрам штогод, што дазволіла яму таксама ўзняцца да рангу гімназіі"[2].

Найбольш верагодна, што вучэльня тыпу "народнае школы" ўзнікла ў Валынцах пасля другога (1793 г.) ці нават трэцяга (1795 г.) падзелу Рэчы Паспалітае[3]. Бо толькі цяпер з'явілася магчымасць карыстацца

---

[1] Валыняк сцвярджае, што ў недалёкіх, але яшчэ рэчыпаспалітаўскіх Ушачах павятовая школа была створаная Адукацыйнаю камісіяй толькі ў 1791 г. Расейскія ўлады мадыфікавалі яе ў 1803 г., а закрылі ў 1831 г. Што датычыць Валынцаў, то ягоныя звесткі пра першы этап дзейнасці школы менш канкрэтныя: "[школы] дзейнічалі ў ж о ў X V I I I с т . (вылучэнне нашае. – *М. Х.*), рэарганізаваныя ў 1804; з 1816 – гімназія, скасаваная ў 1836 г.". Гл., Wołyniak, *Spis szkół średnich na Litwie i Rusi, zniszczonych przez rząd rosyjski* [w:] *Polska w kulturze powszechnej*, cz. 1, Kraków 1918, s. 414.

[2] А. Самусік, *Асветніцкая дзейнасць дамініканскага ордэну на беларускіх землях у XVIII – першай трэці XIX ст.* [у:] *Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: Зборнік навуковых артыкулаў*, ч. 2, Гродна 2009, с. 199.

[3] Цікавай у гэтых адносінах з'яўляецца інфармацыя з некралогу Фелікса Цяцерскага (1774–1826), правінцыяла Літоўскае правінцыі. Відавочна, малады прафесар, які дагэтуль добра сябе зарэкамендаваў у вучэльні навагрудскіх дамініканцаў, рэфармаваў навучанне ў Забельскай школе: "У 1800 г. яго перавялі ў Забельскую вучэльню, якой ён надаў новы лад і парадак, прыстасаваўшы прыёмы вядзення ўрокаў да рэкамендацый Адукацыйнае камісіі і стварыўшы прыстойную хімічную лабараторыю ды фізічны кабінет. У гэтай школе, апрача рыторыкі і паэтыкі, ён асабліва ахвотна выкладаў эксперыментальную

выйшаў з друку зборнік амаль усіх вядомых на той час твораў песняра[1], а да 200-х угодкаў з дня ягонага нараджэння – фактычна поўнае выданне тэкстаў (польскамоўных і “на пінскім дыялекце” – у двух версіях: арыгінале і перакладзе)[2]. Крыху псавала агульнае ўражанне (як на навуковае выданне!) патрыятычна-публіцыстычны пафас прадмовы і каментароў[3] (а таксама поўная адсутнасць каментароў у другім томе) ды частковая мадэрнізацыя арыгінальных тэкстаў. Памылак расчытання няшмат. Зрэшты, калі ў Сеціве з’явіліся электронныя версіі першавыданняў і нават аднаго рукапісу В. Дуніна-Марцінкевіча, дык сённяшні даследнік можа і не звяртацца да друкаваных узнаўленняў XXI стагоддзя. Крыху горш з тэкстамі, якія ўсё яшчэ застаюцца маладаступнымі. І не толькі для заўзятых аматараў беларускага прыгожага пісьменства, але нават і для прафесійных даследнікаў. Напрыклад, рукапіс *Пінскае шляхты*[4] наўрад ці ў хуткім часе стане даступны кожнаму, хто карыстацца інтэрнэтам і ўмее шукаць электронныя рэсурсы.

Той факт, што беларускія гісторыкі літаратуры і беларуская дзяржава не бачылі патрэбы і не знайшлі магчымасці падрыхтаваць факсімільнае выданне *Пінскае шляхты*, сведчыць не толькі пра адсутнасць традыцыі. У сярэдзіне 1980-х гг. у друку няраз гучалі галасы пра неабходнасць узнавіць у выглядзе факсіміле ўсю беларускую літаратурную спадчыну. Аднак зроблена было вельмі мала. І нават юбілейныя мерапрыемствы ў сувязі з угодкамі В. Дуніна-Марцінкевіча не сталі нагодаю дзеля факсімільнае публікацыі славутае камедыі: усё ж чатырох старонак рукапісу твора, змешчаныя ў шыкоўным фотаальбоме[5], яўна недастаткова і для даследнікаў, і для аматараў.

Маем надзею, што ў прынцыпе нескладаная для сучасных выдавецтваў задача некалі будзе выкананая. Аднак застаецца праблема навуковага выдання тэксту *Пінскае шляхты*[6]. Твор, напісаны паўтара стагоддзя таму ў форме стылізацыі палескіх гаворак, патрабуе філала-

---

[1] В. Дунін-Марцінкевіч, *Творы*, уклад, прадм. і камент. Я. Янушкевіча; рэц. Г. Кісялёў, Мінск 1984.

[2] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 т.*, т. 1: *Драматычныя творы, вершаваныя аповесці і апавяданні*, уклад. з тэксталагічнай падрыхтоўкай, прадмова, пераклады і каментарый Я. Янушкевіча, навук. рэд. Г. Кісялёў; т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia*, уклад. з тэксталагічнай падрыхтоўкай, пераклады Я. Янушкевіча, навук. рэд. Г. Кісялёў; Мінск 2007–2008.

[3] На жаль, гэта наш агульны недахоп, не толькі канкрэтных гісторыкаў літаратуры, але і ўсяго беларускага літаратуразнаўства.

[4] Lietuvos valstybės istorijos archyvas, LVIA, f. 1135 [*Виленское общество любителей наук*], ap. 10 [*Ян Карлович*], b. 219 [Записи белорусских народных песен, пьесы, паэмы, пословиц и др. (Кривицкие песни, пьеса *Пинская шляхта*, поэма Тарас на Парнасе). Записаны Э. Еленьской-Дмоховской, Э. Свежиньской, Я. Карловичем, и др. в Мозырском, Новогрудском и Речицком пов. Белорус. яз.], l. 30–46.

[5] *Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч: Фотаальбом*, уклад. і аўтар тэксту Ф. Ястраб, Мінск 2008, с. 72–75..

[6] Адзначым вялікі ўклад у справу тэксталогіі *Пінскае шляхты*, які зрабіў Я. Янушкевіч, але тут усё яшчэ застаецца нявырашаным шэраг праблемаў.

гічнага каментара. Не прэтэндуючы на грунтоўнасць, мы ўсё ж паспрабуем даць гісторыка-літаратурны каментар, амаль не кранаючы моўных асаблівасцяў тэксту. Але найперш пастараемся падаць усе даступныя сёння звесткі пра кола з'яў і праблемаў, звязаных гісторыяй напісання і публікацыі *Пінскае шляхты*.

Годам напісання твора лічыцца 1866-ы. Гэта амаль агульнапрынята ў літаратуразнаўстве, хоць прамых сведчанняў, што *Пінская шляхта* напісаная якраз у гэтым годзе, і няма: ні ў адзіным захаваным рукапісе, ні ў першапублікацыі, якая была падрыхтаваная на падставе іншага рукапісу, дата не пададзеная. За аснову датавання ўзятае паведамленне Аляксандра Ельскага ў варшаўскай газеце "Chwila" за 16/28 студзеня 1886 г.:

> W roku 1866: <…> c) Marcinkiewicz Wincenty napisał komedyjkę jednoaktową p. t. *Pińskaja szlachta*. Utwór ten nie wydany pozostaje w rękopiśmie w tece pośmiertnej autora, u rodziny[1].

У 1892 г. гэтая дата была паўтораная А. Ельскім у VII томе *Wielkiej Encyklopedii powszechnej Ilustrowanej*. Праўда, тут з'явіліся таксама істотныя ўдакладненні адносна мовы:

> W roku 1866: <…> c) Marcinkiewicz Wincenty napisał w języku ludu pow. pińskiego komedyjkę jednoaktową p. t. *Пинская шляхта*, utwór ten, nie wydany, znajduje się w zbiorze piszącego[2].

Цікава, што ў першай друкаванай згадцы пра *Пінскую шляхту* (нататка складзеная рэдакцыяй газеты "Kraj" "на аснове падрабязнай біяграфіі В. Дуніна-Марцінкевіча, прысланай Аляксандрам Ельскім"[3]) няма дакладнае даты напісання:

> Od r. 1863 Marcinkiewicz całkiem się usunął do swojej zagrody. Pisać nie przestał, ale publicznie już nie występował. Obcował niemal wyłącznie z ludem i przyrodą. Kilka prac jego z tego czasu (jak np. *Zaloty*, wodewil w mieszanej białorusko-polskiej mowie, *Pinskaja szlachta* po białorusku), posiada w swych zbiorach p. Aleksander Jelski (Zamość pod Mińskiem)[4].

Зрэшты, у нас няма пэўнасці, што рэдакцыя "Kraju" дакладна ўзнаўляла, а не адвольна пераказвала фрагменты "z obszernej <…> biografji", бо ў пазнейшым, напісаным па-беларуску (sic!) у 1909 г. у Замосці *Uspaminku ab Wincentym Duninie-Marcinkiewicz, Biełaruskim pisacielu i autoru*, А. Ельскі, датычна году напісання, паўтарае фактычна тое, што занатаваў пра *Пінскую шляхту* ў сваёй бібліяграфіі:

---

[1] A. Jelski, *Słówko o materyałach służących do badań gwary, etnografii i literatury białoruskiej*, „Chwila" 1886, nr 21.

[2] A. J., *Białoruska literatura i bibliografia* [y:] *Wielka Encyklopedya powszechna Ilustrowana*, t. VIII, Warszawa 1892, s. 653.

[3] Г. Кісялёў, *Некралог у "Kraiu"* [у:] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, 2-е выд., Мінск 2003, с. 162.

[4] eli, *Pieśniarz białoruski*, „Kraj" 1885, nr 10.

*Pinskaja šlachta*, komedja, napisana w r. 1866 po polsku i w narzeczu pińskim[1].

Звернем увагу: назва твора ўсюды падаецца А. Ельскім ў няпольскім варыянце. Асабліва цікава тое, што ў найбольш "дакладным" энцыклапедычным выданні захаванае нават кірылічнае напісанне тытула. Пэўна, так і было ў арыгінале, а г. зн. рукапіс, які меў літаратар з Замосця, быў кірылічны. Пэўныя пытанні выклікаюць сцвярджэнні А. Ельскага пра мову *Пінскае шляхты*: усе чатыры ягоныя допісы розныя: "па-беларуску" (1885), без паказання мовы (1886), "мова люду Пінскага павета" (1892), "па-польску і пінскім дыялектам" (1909). Магчыма, апошні варыянт у А. Ельскага гучаў як "па-расейску і пінскім дыялектам", але быў праз няўважлівасць ці неразуменне зменены ўжо Ю. Галомбкам.

Варта спыніцца яшчэ на адным гісторыка-літаратурным пасажы А. Ельскага. У 1885 г. (да 10/22 сакавіка) ён (больш дакладна: рэдакцыя "Kraju" на падставе "obszernej <...> biografji") піша ў некралогу, што арыгінал камедыі знаходзіцца ў Замосці пад Мінскам. Праз некалькі месяцаў (студзень 1886 г.) у друку ім сцвярджаецца, што арыгінал нібыта ўжо ў Люцынцы, у сям'і. А праз пяць гадоў (у 1892 г.) – зноў у А. Ельскага.

Гісторыкі літаратуры гэтыя "перамяшчэнні" рукапісу тлумачылі наступным чынам:

> Адразу пасля смерці пісьменніка ў Люцынку з Ігуменскага павета наведаўся знаёмы або нават прыяцель Дуніна-Марцінкевіча, заўзяты аматар беларушчыны і сам беларускі пісьменнік Аляксандр Ельскі, які добра разумеў гістарычнае значэнне творчасці Беларускага дудара і, трэба думаць, з хваляваннем зазірнуў у куфар, пра які ўспамінаў Ядвігін Ш. Ён здолеў ацаніць вартасць такіх недрукаваных твораў пісьменніка, як *Пінская шляхта* і *Залёты*, і ў сваёй беларускай бібліяграфіі, апублікаванай ў студзені 1886 г., спецыяльна адзначыў, што рукапісы гэтых твораў захоўваюцца "ў пасмяротным партфелі (архіве. – *Г. К.*) аўтара, у сям'і". Гэта бібліяграфія, відаць, дабратакі заляжалася ў рэдакцыі варшаўскай газеты "Хвіля", таму што значна раней, у складзеным па матэрыялах Ельскага некралогу Дуніна-Марцінкевіча, паведамлялася: "Колькі прац яго з таго часу (маецца на ўвазе перыяд пасля паўстання 1863 года. – *Г. К.*) (як, напр., *Залёты*, вадэвіль на мяшанай беларуска-польскай мове, *Пінская шляхта*, па-беларуску) мае ў сваіх зборах п. Аляксандр Ельскі (Замосце, паблізу Мінска). Было б добра, калі б пп. выдаўцы звярнулі на іх сваю ўвагу". Такім чынам, рукапісы *Пінскай шляхты* і *Залётаў* перайшлі ў рукі Ельскага ў перыяд паміж смерцю Дуніна-Марцінкевіча (снежань 1884 года) і апублікаваннем у "Краі" некралога пісь-

[1] Цыт. па: J. Gołąbek, *Wincenty Dunin Marcinkiewicz, poeta polsko-białoruski*, Wilno 1932, s. 40.

менніка (сакавік 1885 года), а надрукаваная ў “Хвілі” ў 1886 годзе бібліяграфія складзена таксама ў гэты прамежак часу, але раней за некралог, яшчэ да атрымання рукапісаў[1].

На нашую думку, такая інтэрпрэтацыя вядомых фактаў небясспрэчная.

Вядома, што А. Ельскі працаваў над “беларускай бібліяграфіяй” шмат гадоў, а першы варыянт яе (*Слова пра матэрыялы, якія можна выкарыстаць пры вывучэнні беларускага дыялекту, этнаграфіі і літаратуры*) падрыхтаваў на замову рэдакцыі газеты “Chwila” ў 1885 г., ужо пасля смерці В. Дуніна-Марцінкевіча. А вось калі была напісаная і высланая ў рэдакцыю “Kraju” “obszerna <...> biografja” пісьменніка? Выглядае на тое, што яшчэ да смерці Беларускага Дудара: напісаная пра жывога, яна патрабавала не толькі скарачэнняў, але і пэўных зменаў. З гэтае прычыны рэдакцыя складала некралог, а не друкавала дасланае з Замосця. Увогуле, лічым, менавіта дзеля напісання біяграфіі знаёмца і прыяцеля А. Ельскі прыязджаў да яшчэ жывога Беларускага Дудара (факты біяграфіі ён хутчэй за ўсё пачуў з вуснаў самога пісьменніка) і мог пазычыць у той час асобныя ягоныя выданні і рукапісы.

Гіпатэтычна можна меркаваць, што сям’я пасля смерці В. Дуніна-Марцінкевіча, ведаючы, хто пазычыў рукапісы, запатрабавала вярнуць “сваю ўласнасць”[2]. А гэта значыць, што рыхтуючы ў другой палове 1885 г. публікацыю ў газеце “Chwila”, А. Ельскі мусіў напісаць, што рукапісы захоўваюцца “ў пасмяротным партфелі аўтара, у сям’і”.

Аднак праз нейкі час А. Ельскі мог набыць ва ўдавы ці дзяцей асобныя рукапісы беларускага песняра, дык у новым варыянце свае працы па беларускай бібліяграфіі (1892) напісаў, што *Пинская шляхта* і *Zaloty* знаходзяцца ўжо ў ягоным уласным зборы. Гэта даволі праўдападобна, бо вядома, што ў 1887–1888 гг. рукапісамі В. Дуніна-Марцінкевіча цікавіўся Ян Карловіч. Больш за тое, Каміла Асіпавічова, дачка паэта, нават выслала яму – сярод іншага – і *Пінскую шляхту*:

> Апрача таго, пасылаю яшчэ адзін твор майго бацькі: *Пінская шляхта*. Калі Пан з прысланых рэчаў захоча што набыць, то прашу самому прызначыць цану, бо я ў гэтым не разбіраюся[3].

Падобна на тое, што Я. Карловіч з атрыманых матэрыялаў набыў *Пінскую шляхту*:

> Ласкавы Пане! Ноты атрымала – прашу выслаць пераклад *Тадэвуша*[4].

---

[1] Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча: Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў*, Мінск 1988, с. 13.
[2] Гл. ліст К. Асіпавічовае да Я. Карловіча ад 16.08.1888 г. Цыт. па: Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча...*, с. 10.
[3] Ліст К. Асіпавічовае да Я. Карловіча ад 24.11.1887 г. Цыт. па: *Ibidem*, с. 10.
[4] Ліст К. Асіпавічовае да Я. Карловіча ад 12.11.1888 г. *Ibidem*, с. 11.

Гэта, прынамсі, пацвярджаецца рукапісам твора, выяўленым у сярэдзіне XX ст. у зборах навукоўца. Заўважым яшчэ, што Я. Карловіч меў чарнавы варыянт *Пінскае шляхты*, а вось А. Ельскі – белавы[1].

Ускосна дату напісання *Пінскае шляхты*, якую паслядоўна падаваў А. Ельскі, пацвярджае ліст самога В. Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча ад 15 верасня 1868 г.:

> Właśnie jedzie jeden poczciwy szlachcic z naszych stron, który doręczy Panu *Dudarza* i *Lucynkę*, a do Wiszniewskiego wiezie dla przeczytania *Pinskaja Szlaczta* i *Szkice prowincyonalne*; poznajom się Pan z zacnym Wiszniewskim i, póki szlachcic wyjedzie z Wilna, zbierzcie się w Kółko domowe, przeczytajcie tę bazgraninę razem, dajcie o niej swój sąd razem z odesłaniem tych pism. Pan bardzo będzie rad ze znajomości P. Wiszniewskiego i on nie mało, a zwłaszcza wspólny nasz przyjaciel Mamert Renier, mogę[2] dać Panu materjałów (do) ludowej literatury, u Reniera może Pan i *Kupałę* znajdziesz[3].

Гэты фрагмент ліста стаўся першым з сямі "аргументаў", на падставе якіх Ніна Мячкоўская катэгарычна сцвердзіла: "Винцент Дунин-Марцинкевич не был автором водевиля *Пинская шляхта*"[4].

Але прыгледзімся ўважліва: пра што, уласна, ідзе гаворка ў лісце? В. Дунін-Марцінкевіч прапануе свайму адрасату пазнаёміцца з Аляксеем Вішнеўскім[5], якому "шляхціц з нашых ваколіцаў" вязе на чытанне *Пінскую шляхту* ды *Szkice prowincyonalne*[6], сабрацца "хатнім колкам" і прачытаць "гэтую пісаніну". У арыгінале аўтар выкарыстоўвае слова

---

[1] Як пацвярджэнне, занатаваныя ў рукапісе Я. Карловіча шэсць радкоў у тэксце і дванаццаць на палях (два выкасаваныя) раманса *Рвэтса мое сырце*... Відавочна, у рукапісе А. Ельскага ўсе шаснаццаць радкоў раманса знаходзіліся ў тэксце і радкоў "~~Мое сырцэ рветца, якъ тая отоса, / Колы ій тармашатъ поганы колiоса~~" не было.

[2] Відавочна, тут павінна быць слова *тодą*. Менавіта, Аляксей Вішнеўскі і Мамерт Рэніер *могуць* даць Я. Карловічу матэрыялы па народнай літаратуры.

[3] Цыт. па: Я. Янушкевіч, *Беларускі дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча*, Мінск 1991, с. 123.

[4] Н. Мечковская, *Винцент Дунин-Марцинкевич не был автором водевиля Пинская шляхта*, "Wiener Slawistischer almanach" 2000, band 46, s. 225–238.

[5] Звестак пра аматара беларушчыны Аляксея Вішнеўскага амаль не захавалася. Мы адно ведаем (з ліста В. Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча), што жыў ён у доме біскупа Адама Станіслава Красінскага пры вуліцы Замкавай. Быў сярод тых, хто падпісаўся на *Пана Тадэвуша* ў перакладзе Беларускага Дудара і меў асобнік выдання. Магчыма, валодаў фальваркам Ніскадворац у Трокскім павеце. Гл.: М. Хаўстовіч, *Тэкст і кантэкст*, "Acta Albaruthenica" 2015, t. 15, s. 249–250.

[6] У 1988 г. Я. Янушкевіч выказаў думку, што *Szkice prowincyonalne* – гэта "opowiadanie w 2ch częściach" *Z nad Isłoczy, czyli Lekarstwo na sen*, напісанае якраз у 1868 г. Гл.: Я. Янушкевіч, *Новыя штрыхі жыццяпісу В. Дуніна-Марцінкевіча*, "Полымя" 1988, № 1, с. 200. Першая частка твора захоўвалася калісь у зборах А. Ельскага; сёння – у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (BN, II. 50304).

“bazgranina”, пераклаўшы якое як “пісаніна”, мы не зусім дакладна перадаём усе нюансы польскага выразу. Гэта яскрава бачна, калі звернемся да адпаведнага артыкула ў тлумачальным слоўніку польскае мовы: „BAZGRANINA <...> 3. małowartościowy, słaby literacko utwór (o utworach własnych zwykle żartobliwie [вылучэнне нашае. – *М. Х.*]); tekst (np. list) niechlujnie napisany”[1]. Ужо гэтага дастаткова, каб зразумець, што В. Дунін-Марцінкевіч вядзе гаворку пра ўласныя творы[2]. Больш за тое, ён хоча пачуць думку пра іх: “выкажыце пра яе [г. зн. маю пісаніну. – *М. Х.*] сваё меркаванне разам з вяртаннем гэтых твораў”. Відавочна, гэта аўтарскае жаданне мець водгук на ненадрукаваны твор.

В. Дунін-Марцінкевіч, добра ведаючы грамадска-палітычную сітуацыю ў краі, патрабаванні цэнзуры, відаць, і не меў намеру аддаваць *Пінскую шляхту* ў друк[3]. Твор прызначаўся, хіба, толькі для чытання ў сяброўскіх колах. А гэта значыць, маглі існаваць аўтарскія рукапісы і копіі *Пінскае шляхты*. Пра існаванне, прынамсі, двух рукапісаў, мы ведаем.

Адзін з іх, высланы Камілаю Асіпавічоваю ў лістападзе 1887 г. Я. Карловічу, захаваўся. Мы ўжо казалі, што ён можа быць чарнавым аўтарскім варыянтам. Здаецца, вядомы польскі навуковец яго ніколі не выкарыстоўваў і не згадваў. Магчыма, гэта яму (ці камусьці з ягонага атачэння) належыць прыпіска напрыканцы рукапісу:

> Brawo, Brawo i Brawo, bardzo sprytnie wykazany charakterek w ogóle wszystkich państwa Kruczkowych, a których dziś spotykamy na każdym kroku po kilku.
>
> Браво Автору даю
> И прочесть еще что новаго желаю.

Пасля смерці Я. Карловіча ягоны архіў трапіў у зборы заснаванага ў 1907 г. Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie (Віленскага таварыства сяброў навук), дзе рукапіс *Пінскае шляхты* чамусьці “згубіўся” больш чым на паўстагоддзя: нават добры знаўца літоўскіх архіваў і бібліятэк Уладас Абрамавічус напрыканцы 1940-х гг. нічога не ведаў пра яго[4].

---

[1] *Słownik języka polskiego pod redakcją W. Doroszewskiego* [online] http://doroszewski.pwn.pl/haslo/bazgranina/ [доступ: 25.02.2022].

[2] Праблема атрыбуцыі *Пінскае шляхты*, нягледзячы на тое, што – здавалася б – канчаткова вырашана ў юбілейным 2008 годзе Г. Кісялёвым (*Пінская шляхта В. Дуніна-Марцінкевіча: праблемы тэксталогіі і атрыбуцыі*, “Acta Albaruthenica” 2008, t. 8, s. 98–112), Я. Янушкевічам (*Каментарыі* [у:] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 т.*, т. 1: *Драматычныя творы, вершаваныя аповесці і апавяданні...*, с. 476–478) (гл.: таксама: М. Хаўстовіч, *Атрыбуцыя Пінскае шляхты: новыя гіпотэзы*, “Acta Albaruthenica” 2009, t. 9, s. 35–51), зрэдчас “сенсацыйна” з’яўляецца на старонках друку. Напр.: А. Ільін, *“Хрэн табе ў вочы!”: дык хто ж напісаў Пінскую шляхту?*, “Наша гісторыя” 2019, № 5, с. 41–45.

[3] Праўда, грамадзянскае пісьмо рукапісу можа сведчыць і пра адваротнае.

[4] Гл.: В. Абрамавичюс, *Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные*, Вильнюс 1949. [Машынапіс]. Праўда, у 1948 г. літоўскі дас-

А гэта якраз тады зборы TPNwW апынуліся ў Цэнтральным гістарычным архіве Літоўскае ССР і, як сведчыць *Лист использования документа*, беларускія даследнікі часта знаёміліся са справаю[1], у склад якое ўваходзіць *Пінская шляхта*: першыя запісы датуюцца пачаткам 1950-х гг. І нават мікрафільм *Пінскае шляхты* быў зроблены ў той час. Але ў друку толькі ў 1965 г. Сцяпан Міско (1930–2010) "прыгадаў мімаходзь" (Г. Кісялёў) *твор у* сваім артыкуле:

> З іншых цікавых знаходак можна адзначыць яшчэ рукапіс камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча *Пінская шляхта* на ўкраінскай мове[2].

Відаць, менавіта гэтую публікацыю-падказку выкарыстаў Павел Ахрыменка (1919–1997), каб, пазнаёміўшыся з рукапісам (ён замовіў мікрафільм у архіве), прапанаваць сваю гіпотэзу ўзнікнення і функцыянавання ўкраінскага перакладу твора В. Дуніна-Марцінкевіча:

> Пераклад камедыі *Пінская шляхта* на ўкраінскую мову зроблены ў цэлым дакладна, часта нават літаральна, а таму не заўсёды па-мастацку і, акрамя таго, не літаратурнай мовай, а паўночнай гаворкай. <...> Украінскі пераклад *Пінскай шляхты* ў свой час быў вядомы пэўнаму колу чытачоў, якія высока цанілі яго[3].

Памылка П. Ахрыменкі, уласна, "справакаваная" пасляваеннымі публікацыямі твора В. Дуніна-Марцінкевіча, у якіх ніколі не згадвалася пра "пінчуцкую гаворку" *Пінскае шляхты*[4], а таксама няведаннем даследаванняў А. Ельскага, Р. Зямкевіча, Ю. Галомбка.

---

леднік апублікаваў у газеце "Звязда" (13 чэрв.) артыкул *Рукапісы беларускіх пісьменнікаў у Літве*, у якім сцвярджаў, што ў зборах Віленскага таварыства сяброў навукі знаходзіцца "автографованная рукопись" *Залётаў*. Пазней гэтая інфармацыя трапіла і ў *Библиографию по белорусской литературе...* (с. 88). Гл.: Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча: Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў*, Мінск 1988, с. 15. Цікава: *Залётаў* сярод збораў ВТСН няма, але ёсць *Пінская шляхта*. Зрэшты, як прызнаецца сам даследнік, "материалами этого фонда мне не удалось воспользоваться", бо іх яшчэ не паспелі "привести в порядок" (Гл.: В. Абрамавичюс, *Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные*, Вильнюс 1949, с. 16).

[1] Справа складаецца з наступных частак: 1. *Pieśni Krewickie*, k. 1–28; *Pińska szlachta*, k 30–46; *Przysłowia*, k. 47–47v; *Z parafji Poczapowskiej*, k. 48–77v; *Swatańje*, k. 78–78v; *Taras*, k. 78a–83v.

[2] С. Міско, *Першыя беларускія апавяданні*, "Літаратура і мастацтва" 1965, № 42 (25 мая).

[3] П. Ахрыменка, *Летапіс братэрства: Аб беларуска-ўкраінскіх фальклорных, літаратурных і тэатральных сувязях*, Мінск 1973, с. 117, 118. Упершыню пра рукапіс *Пінскае шляхты* як пра пераклад твора на ўкраінскую мову П. Ахрыменка пісаў у артыкуле *Первый украинский перевод ПІНСКАЙ ШЛЯХТЫ* ("Неман" 1967, № 8).

[4] Напр. у зборы твораў 1958 г.: "Друкуецца па зб. *Сцэнічныя творы*, кн. I выд. "Савецкая Беларусь", Мінск, 1923, стар. 42–60. Упершыню арублікавана ў газ.

Г. Кісялёў, памятаючы і пра пазнакі рэдактараў газеты “Вольная Беларусь” ды зборніка *Сцэнічныя творы*, і працы А. Ельскага, прыйшоў да высновы, што вільнюскі рукапіс – копія невядомага сёння арыгінала камедыі. Праверкай дадзенай высновы, зробленай Г. Кісялёвым з дапамогай навуковай сістэматызацыі гісторыка-літаратурных матэрыялаў, займаўся Я. Янушкевіч: ён накіраваў дакументы на графалагічную экспертызу, заключэнне якое гучала так:

> У працэсе параўнальнага даследавання выяўлена, што тэкст рукапісу п’есы *Пінская шляхта* В.І. Дуніна-Марцінкевіча на 33 аркушах ( 30–30 адв. – 46) выкананы В.І. Дуніным-Марцінкевічам[1].

Арыгінал *Пінскае шляхты* паводле “рукапісу Я. Карловіча” ўпершыню быў апублікаваны ў *Дадатку* да зборніка В. Дуніна-Марцінкевіча *Творы* (1984) “згодна з правіламі сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі, але з захаваннем усіх моўных асаблівасцей”[2]. Літаратурнамастацкі фармат выдання патрабаваў пэўнай уніфікацыі тэксту.

Апісанне “рукапісу Я. Карловіча” даў Г. Кісялёў:

> Гэта самаробны сшытак без вокладкі на 18 лістах, прашытых суравой ніткай. 17 лістоў спісаны даволі акуратна чорным чарнілам кірылічным пісьмом. Апошні ліст чысты. Тытула няма, аўтар не названы. Няма і пераліку дзейных асоб, года напісання твора. Адразу пачынаецца тэкст <...>. Зверху характэрным почыркам Карловіча пазначана алоўкам па-польску – *Pińska szlachta*[3].

Да апісання[4] беларускага навукоўца можна дадаць наступнае: сшытак, відаць, ужо першапачаткова не меў вокладкі і старонкі з пералікам дзейных асобаў: пра гэта сведчыць характар сшывання і ледзь заўважная (хутчэй: не вельмі старанна выцертая) нумарацыя (1–17) алоўкам. Узнікае пытанне: хто сшываў і нумараваў рукапіс? Аўтар, К. Асіпавічовая, Я. Карловіч? Наяўнасць пазнакі рукою Я. Карловіча *Pińska szlachta* сведчыць, што да вядомага навукоўца твор трапіў без тытулу, але ён ведаў ягоную назву, бо, магчыма, чытаў яго ў 1868 г. Зрэшты, назву падавала дачка Беларускага Дудара ў сваім лісце.

---

“Вольная Беларусь”, 1918, № 30–31. Камедыя напісана ў 1866 г.” Гл.: В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў*, Мінск 1958, с. 421.

[1] Цыт. па: Я. Янушкевіч, *Арыгінал Пінскай шляхты*, “Літаратура і мастацтва” 1982, № 31 (30 ліп.).

[2] В. Дунін-Марцінкевіч, *Творы*, уклад. прадм., і камент. Я. Янушкевіча, Мінск 1984, с. 487–499.

[3] Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча: Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў*, Мінск 1988, с. 41–42.

[4] Чамусьці Я. Янушкевіч у сваім апісанні рукапісу падае, што ён налічвае 16 аркушаў (“белавы рукапіс на 16 лістах у выглядзе сшытка без вокладак і тытульнай старонкі”). Гл.: Я. Янушкевіч, *Каментарыі* [у:] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 т.*, т. 1: *Драматычныя творы, вершаваныя аповесці і апавяданні*, Мінск 2007, с. 476.

*Пінская шляхта* занатаваная ў сшытку, які мае памеры 173 мм у шырыню і 214 мм у вышыню, г. зн. перапісвальнік выкарыстаў 9 аркушаў паперы памерам 346х214, складзеных папалам. Злева на ўсіх старонках (апрача першае) адведзеныя алоўкам палі (прыкладна 25–27 мм ад краю) – месца на імёны дзейных асобаў.

Параўноўваючы рукапіс *Пінскае шляхты* з рукапісам "opowiadania" *Z nad Isłoczy*, заўважаем, што апошні, хоць таксама не мае вокладкі (калі не лічыць вокладкай першы, гэткі ж, як і астатнія, аркуш), але ўключае і тытульную старонку, і шмуцтытульную. Апрача таго, тут маецца аўтарская нумарацыя аркушаў. Складваецца ўражанне, што гэта белавы рукапіс, магчыма нават, прызначаны для выдаўца, прынамсі, для чытання па-за сямейным колам. А вось *Пінская шляхта* з "рукапісу Я. Карловіча", з адсутнаю тытульнаю старонкаю, бракам пераліку дзейных асобаў, года напісання, выпраўленнямі, дапіскамі на палях[1], – гэта чарнавы варыянт, гэта тое, на падставе чаго паўстаў "рукапіс А. Ельскага".

На нашую думку, існаванне двух рукапісаў – "Я. Карловіча" і "А. Ельскага" – бясспрэчнае. І не толькі таму, што ў першапублікацыі маецца пералік дзейных асобаў. А. Ельскі, відавочна, атрымаў "свой" асобнік *Пінскае шляхты* раней, чым Я. Карловіч. Вельмі верагодна, – ад самога аўтара (а пасля набыў у сям'і). І атрымаў белавы асобнік. А таму Каміла Асіпавічова ў 1887 г. магла прапанаваць Я. Карловічу адно чарнавы варыянт камедыі. Ці былі адрозненні паміж белавым і чарнавым рукапісамі? На жаль, дакладна высветліць гэта не ўяўляецца магчымым, бо перашапублікатар Язэп Лёсік (1883–1940) мог адвольна апрацоўваць тэкст твора. Напр., рэпліка Ціхона Пратасавіцкага, якая ў "рукапісе Я. Карловіча" занатаваная так: "Кій Чортъ дэтыще! колы вже съ хлопцями сходытца, да баюкае", перададзена ім наступным чынам: "Які чорт дзіця, калі з хлопцамі цалуецца!"[2]. І гэты варыянт нязменна захоўваецца ва ўсіх вядомых нам публікацыях *Пінскае шляхты*! Нічога не змянілася нават тады, калі Я. Янушкевіч апублікаваў "аўтэнтык", дзе дадзеная рэпліка зафіксаваная так: "Кій Чорт дэтыще! колы вже с хлопцями слодытца[3] да баюкае". Няўжо Я. Лёсік, як і Я. Янушкевіч, расчытаў

---

[1] Н. Мячкоўская дзеля ўласнае гіпотэзы, нават не пазнаёміўшыся з рукапісам, бяздоказна сцвярджае, што "поправки и дополнения в беловой рукописи *Пинской шляхты* необязательно свидетельствуют о том, што их делал сам автор произведения". Маўляў, гэта мог зрабіць уладальнік рукапісу ці "непрофессиональный пользователь". Гл.: Н. Мечковская, *Винцент Дунин-Марцинкевич не был автором водевиля* ПИНСКАЯ ШЛЯХТА..., s. 228–229.

[2] В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта: Фарс-водэвіль у 1 дзеі* [у:] *Сцэнічныя творы*, Кніжка 1, Менск 1923, с. 46.

[3] Літары ***схо-*** слова ***сходытца*** трапілі ў "рукапісе Я. Карловіча" на месца сшывання. У выніку нітка пашкодзіла іх (прарвала паперу). Але калі з расчытаннем літары ***с*** няма праблемаў, дык крыху "зрэзаны" верх літары ***х*** перашкаджае ўспрымаць яе правільна. Асабліва, калі параўноўваць гэтую пашкоджаную літару з літараю ***х*** у слове ***хлопцями***. Аднак варта супаставіць пашкоджаную літару з адпаведнаю ў слове ***лыхы***, то становіцца зразумела, што чытаць трэба ***сходытца***, а не ***слодыцца***.

слова “сходытца” як “слодытца”? Няўжо Я. Лёсік, не зразумеўшы гэтага “слодытца да баюкае”, замяняе іх на больш простае “цалуецца”? Ці, можа, Я. Лёсік свядома папраўляе нейтральна-бацькоўскае “сустракаецца і размаўляе” на больш, на яго погляд, адпаведнае? Аднак нельга выключаць, што ў “рукапісе А. Ельскага” было “целуетца”.

Існаванне двух спісаў *Пінскае шляхты* прызнаецца даследнікамі. Нават Н. Мячкоўскаю, якая дзеля пастаўленае мэты “пастаралася” ўнесці пэўную блытаніну ў гэтае пытанне: на яе думку, у доме В. Дуніна-Марцінкевіча было ажно два спісы – па-беларуску і на пінчуцкай гаворцы[1]. Спасылаецца яна пры гэтым на некралог у газеце “Kraj”, свядома ці несвядома “забываючыся”, што некралог складзены рэдакцыяй газеты, што словы пра спіс *Пінскае шляхты* па-беларуску нельга адназначна прыпісваць А. Ельскаму, бо ён сам у аўтарытэтным энцыклапедычным выданні выразна называе мову камедыі. На нашую думку, два спісы *Пінскае шляхты*, чарнавы і белавы, прычым, аўтографы-аўтэнтыкі, – выразнае сведчанне, што менавіта В. Дунін-Марцінкевіч з’яўляецца аўтарам твора. Гэтаму аніяк не пярэчыць тое, што ў *Описи документов, находящихся в деле № 219, ф. 1135, оп. 10* пазначана: “*Пинская шляхта* – пьеса из народной жизни. Автор неустановлен”. Дадзеную “архивную паспортизацию” Н. Мячкоўская лічыць заснаванай “на мнении Карловича”[2], не ведаючы, што зрабілі яе супрацоўнікі Цэнтральнага гістарычнага архіва Літоўскае ССР 20 жніўня 1979 г., г. зн. “меркаваннем Я. Карловіча” мог быць для іх толькі занатаваны на першай старонцы ўгары справа тытул камедыі.

Белавы “рукапіс А. Ельскага”, відаць, не захаваўся. Але пра яго існаванне мы ведаем не толькі з апублікаванага самім пісьменнікам з Замосця. Так, у 1889 г. *Пінская шляхта* (ці ейная копія) знаходзілася ў Мітрафана Доўнара-Запольскага (1867–1934), які ў той час, рыхтуючы да выдання “Календарь Сѣверо-Западнаго края на 1890 годъ”, планаваў апублікаваць камедыю, а таксама біяграфію В. Дуніна-Марцінкевіча і ягоны партрэт[3]. Так, прынамсі, пра гэта гаварылася ў абвестцы пра “Календарь...” у газеце “Минскій листокъ” ад 18 ліпеня 1889 г.[4].

Заўважым: выдаўшы “Календарь Сѣверо-Западнаго края на 1889 годъ” як “приложеніе къ «Минскому листку»”, М. Доўнар-Запольскі ў наступным годзе зрабіў выданне каляндара цалкам самастойным.

---

[1] Н. Мечковская, *Винцент Дунин-Марцинкевич не был автором водевиля Пинская шляхта...*, s. 227.

[2] *Ibidem*, с. 227–228.

[3] Гісторыкі літаратуры лічаць, што ўсе гэтыя матэрыялы былі прапанаваныя М. Доўнару-Запольскаму А. Ельскім, які не толькі падаў *Пінскую шляхту*, але і напісаў біяграфічны нарыс; партрэт Беларускага Дудара намаляваў паводле, відаць, фотаздымка пляменнік літаратара з Замосця Ігнацы Урублеўскі (1858–1953).

[4] Нам не ўдалося пазнаёміцца з дадзеным нумарам газеты. Інфармацыя паходзіць з артыкула: А. Семяновіч, *Перагортваючы старыя выданні*, “Беларусь” 1965, № 4, с. 30. Гл. таксама: Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча...*, с. 83.

(З гэтай прычыны рэдактар Іван Фоцімскі мусіў абяцаць чытачам свае газеты, што "редакція, вмѣсто прошлогодней преміи «Календаря», дастъ въ будущемъ году своимъ подписчикамъ нѣсколько законченныхъ переводныхъ или оригинальныхъ беллетристическихъ произведеній"[1]). Друкаваць "Календарь" планавалася ў маскоўскай тыпаграфіі "Разсвѣтъ", як, дарэчы, і томік на 1889 г.[2]. Але калі першы цэнзура прапусціла ў друк, то з другім узніклі праблемы. Прычым, праз таго самага В. Дуніна-Марцінкевіча, вершаванае апавяданне якога *Гапон* раней было апублікаванае амаль цалкам у артыкуле маладога навукоўца. Маскоўскі цэнзурны камітэт, разгледзеўшы пададзеныя М. Доўнарам-Запольскім матэрыялы ("биографию В. Дунина-Марцинкевича с портретом его и еще не изданные произведения под заглавием *Пинская шляхта*, фарс-водевиль на пинском наречии, и *Сборник народных песен* на том же наречии"[3]), перанакіраваў іх у Пецярбург да Уладзіміра Юзэфовіча (1841–1893), які выконваў абавязкі кіраўніка Галоўнае ўправы па справам друку. Пазней яны трапляюць да Івана Каханава (1825—1909), віленскага, ковенскага і гродзенскага генерал-губернатара, аднаго з ініцыятараў усталявання помніка Мураўёву-вешальніку ў Вільні. Высланыя з Пецярбурга 12 жніўня (ст. ст.) 1889 г. гэтыя матэрыялы да 31 жніўня былі ўжо "ацэненыя":

> имею честь уведомить вас, милостивый государь, что помещение в упоминаемом "Календаре" биографии Дунина-Марцинкевича я нахожу совершенно лишним, во-первых, потому, что личность этого автора едва ли может представлять какой-либо интерес для читателей календаря, а, во-вторых, потому, что этот поэт, по словам автора его биографии, был очень популярен в среде польских писателей, которые, как, например, Сырокомля, посвящали ему даже свои стихотворения.
> То же самое я должен сказать и о фарс-водевиле под заглавием *Пинская шляхта*, о напечатании которого в «Календаре Северо-Западного края» ходатайствует его издатель.
> По моему мнению, подобное произведение, в коем в неприглядном свете выставляется личность должностного лица,

---

[1] Гл.: *Памятная книжка Минской губерніи на 1890 годъ: Изданіе Минскаго губернскаго статистическаго комитета*, Минскъ 1889, с. н. н.

[2] Цікава адзначыць, што "Календарь Сѣверо-Западнаго края на 1889 годъ" выйшаў накладам 5000 асобнікаў. Гл.: "Библіографъ: Вѣстникъ литературы, науки и искусства" 1889, № 4–5, с. 192.

[3] Як сведчаць матэрыялы фонда М. Доўнара-Запольскага (Центральний державний історичний архів України, м. Київ, ф. 262, оп. 1, спр. 155) навуковец планаваў апублікаваць у "Календарѣ Сѣверо-Западнаго края на 1890 годъ" не толькі вышэйпералічаныя матэрыялы, але і паэму *Тарас на Парнасе*. У нататцы для друкарні ён пісаў: "Корректуры этой поэмы нужно прислать мнѣ и 2) въ губ. г. Минскъ для передачи въ имѣніе Замостье, Александру Карловичу Ельскому. Не забудьте! <...> После *Пинской шляхты* поставить". Гл. таксама: Г. Кісялёў, *Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы Энеіда навыварат і Тарас на Парнасе*, Мінск 2005, с. 315–316.

> станового простава, который к этому везде называется «наи-яснейшая корона», вряд ли удобно помещать в каком-либо издании, а в особенности в таком, как календарь, который предназначается для распространения в среде местного населения[1].

Пазней, выкарыстоўваючы ў артыкуле *В. Дунинъ-Марцинкевичъ и его поэма Тарас на Парнасѣ...* атрыманыя ад А. Ельскага рукапісы (хутчэй, копіі) паэмы *Тарас на Парнасе* і верша *Вясна голодъ пярапала...*, М. Доўнар-Запольскі адно згадае пра непрапушчаную цэнзураю біяграфію В. Дуніна-Марцінкевіча і ягоны партрэт. Перадрукоўваючы ў 1909 г. артыкул *Гапонъ, повѣсть въ стихахъ на бѣлорусскомъ наречіи В. Дунина-Марцинкевича* з "Календаря Сѣверо-Западнаго края на 1889 годъ", М. Доўнар-Запольскі зазначае ў спасылцы:

> Когда печаталась настоящая статья въ 1888 г., то московская цензура выбросила изъ нея біографію Марцинкевича и его портретъ. Къ сожалѣнію я не могу теперь возстановить ни того, ни другого[2].

Вядома, навуковец памыляецца: біяграфія і партрэт прызначаліся ў "Календарь Сѣверо-Западнаго края на 1890 годъ". Але для нас больш важнае тое, што праз дваццаць гадоў, г. зн. у 1909 г., ён ужо нібыта не меў ні першага, ні другога. Сцвярджэнне вельмі дзіўнае, бо ў спасылцы да артыкула *В. Дунинъ-Марцинкевичъ и его поэма Тарас на Парнасѣ: Очеркъ изъ исторіи бѣлорусской этнографіи* праз пару дзясяткаў старонак гэтае самае кнігі паведамляецца зусім іншае: "у насъ есть въ рукописи болѣе подробная біографія поэта, написанная Александромъ Карловичемъ"[3].

Якая з гэтых спасылак больш позняга часу? Артыкул пра паэму *Гапон* з'явіўся ў 1889 г. (у календары і асобным адбіткам), а пра паэму *Тарас на Парнасе* – у газеце "Витебскія губернскія вѣдомости" (1895, №№ 5, 7, 9; 1896, №№ 2, 3) і ў 1896 г. асобным адбіткам. Дык атрымліваецца, што ў 1896 г. "біографія Марцинкевича и его портретъ" яшчэ былі ў М. Доўнар-Запольскага, а ў 1909 г. ужо не.

А як з *Пінскаю шляхтаю*? Ці захоўваўся ўсё яшчэ ў М. Доўнара-Запольскага рукапіс-аўтограф ці копія камедыі?[4]

---

[1] Цыт. па: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 168.

[2] М. Довнаръ-Запольскій, *Гапонъ, повѣсть в стихахъ на бѣлорусскомъ языкѣ В. Дунина-Марцинкевича. (Изъ исторіи бѣлорусской письменности)* [у:] М. Довнаръ-Запольскій, *Изслѣдованія и статьи*, т. 1: *Этнографія и социологія, обычное право, статистика, бѣлорусская письменность*, Кіевъ 1909, с. 175.

[3] М. Довнаръ-Запольскій, *В. Дунинъ-Марцинкевичъ и его поэма Тарас на Парнасѣ: Очеркъ изъ исторіи бѣлорусской этнографіи* [у:] *Ibidem*, с. 199.

[4] Невядома дакладна, ці М. Доўнар-Запольскі ў 1889 г. меў "аўтэнтык" са збораў А. Ельскага, ці ўсё ж зрабіў копію *Пінскае шляхты*? Бо ж А. Ельскі вельмі неахвотна аддаваў сабраныя ім матэрыялы.

У 1918 г. рукапіс *Пінскае шляхты* (А. Ельскага? М. Доўнара-Запольскага? нейкі іншы?) "з'явіўся на свет" у акупаваным немцамі Мінску, у рэдакцыі газеты "Вольная Беларусь". Заўважым: здарылася гэта праз пяць месяцаў пасля публікацыі ў газеце *Залётаў*. Зрэшты, з *Залётамі* справа больш простая: паводле копіі Браніслава Эпімаха-Шыпілы яшчэ ў 1913 г. Янка Купала падрыхтаваў беларускамоўную версію твора, перадаў тэкст у драматычную цэнзуру, гэтым самым спрыяючы першай ейнай пастаноўцы ў 1915 г. і рэцэнзуючы гэтую пастаноўку[1]. Янкі Купалы, вядома, у той час не было ў Мінску, але тэкст *Залётаў* рэдакцыя магла атрымаць не абавязкова ад яго. Галоўнае, той, хто меў рукапіс *Пінскае шляхты*, "заахвочаны" публікацыяй *Залётаў*, прынёс ці даслаў камедыю ў рэдакцыю. Магчыма, нават адразу, яшчэ вясною ці на пачатку лета 1918 г. Але ў друк *Пінская шляхта* трапіла не так і хутка, бо быў патрэбны час на моўную апрацоўку твора.

Публікацыю *Пінскае шляхты* ў "Вольнай Беларусі" даследнікі звыкла звязваюць з М. Доўнарам-Запольскім з тае прычыны, што ён "падтрымліваў сувязі" з рэдакцыяй мінскае газеты, "друкаваў там свае матэрыялы"[2]. І сапраўды, гісторыкам даўно вядомая ягоная нататка *К пытанню аб найменні дзяржаўных установаў*, апублікаваная ў маі 1918 г.[3]. Апрача таго, якраз у гэты час навуковец стала жыў у Мінску і нават быў абраны ў гарадскі магістрат:

> С 4-го чэрв. па загаду Глаўнакамандыючаго (Арме Обэркомандо) распушчана Менская Гарадская Дума, заміж каторай устаноўлены магістрат на камісарскіх правох. У склад магістрата назначаны: С.Б. Хржонстоўскі – войт, Г. Каплан – яго наменснік; Цывінскі, Даўнар-Запольскі, паня Кодзіс, як меськія райцы. Пры магістрату будзе істнаваць Рада дарадчых з менскіх жыхароў[4].

Мяркуем, што да гонару рэдакцыі было б паведаміць чытачам: гэта "меські райца" і прафесар прапанаваў у друк камедыю "Беларускага Песняра". Аднак рэдакцыйная нататка аказалася кароткая і малаінфарматыўная:

> Твор гэты напісаны аўтарам пінчуцкай гаворкай у 1866 г. і да гэтага часу нідзе не друкаваўся. Выпраўлены на беларускі лад, ён друкуецца ў "Вольнай Беларусі" першы раз. З часам "Вольная Беларусь" выдрукуе і аўтэнтык гэтага твора[5].

На шчасце, захавалася прозвішча таго, хто "выпраўляў" камедыю "на беларускі лад". Дакладней, не прозвішча, а крыптанім – Я. Л-к,

---

[1] К–а, *Залёты: Опэрэтка Вінцука Дуніна-Марцінкевіча*, "Наша Ніва" 1915, № 5 (6 лют.).
[2] Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча…*, с. 41.
[3] Проф. М. Даунар-Запольскі, *К пытанню аб найменні дзяржауных установау*, "Вольная Беларусь" 1918, № 19 (26 мая).
[4] *Роспуск Менскай Гарадской Думы*, "Вольная Беларусь" 1918, № 20–21 (9 чэрв.).
[5] В. Марцінкевіч (Наум Прыгаворка), *Пінская шляхта: Фарс-водэвіль у 1-й дзеі*, "Вольная Беларусь" 1918, № 30 (3 вер.).

г. зн. – галоўны рэдактар Я. Лёсік быў тою асобаю, якая магла прыадчыніць заслону з таямніцы. Бо ж нават значэнне выразу "аўтэнтык" даследнікі сёння дакладна не ведаюць. І сапраўды, "аўтэнтык" – гэта аўтограф В. Дуніна-Марцінкевіча ці гэта копія "аўтэнтычная аўтарскаму тэксту"[1]? Мы ўжо казалі, што ў М. Доўнара-Запольскага на пачатку стагоддзя (1909) ужо нібыта не было ні біяграфіі Беларускага Дудара, ні ягонага партрэта, дык ці магла захавацца з тае самае "папкі" *Пінская шляхта*? Ды яшчэ аўтэнтык! Дарэчы, слова "аўтэнтык" Максім Гарэцкі перакладаў як "подлинник"[2].

Яшчэ раз пра "аўтэнтыкі" – трэба думаць, і В. Дуніна-Марцінкевіча – Я. Лёсік (пад псеўданімам Язэп Ксяневіч) згадае ў нататцы, у якой апавядаў пра шкоду, што ўчынілі бальшавікі ў снежні 1918 г. у рэдакцыі газеты "Вольная Беларусь":

> Разам з тым, бальшавікамі была разграблена адзіная на той час беларуская часопісь у Менску "Вольная Беларусь". Гэта яны зрабілі зараз-жа, як прыйшлі у Менск, у сьнежні м-цы 1918 г. Рэдактара "Вольнай Беларусі", Я. Лёсіка "чрезвычайка" не арэштавала толькі дзеля таго, што той падашукау яе, а потым схавауся.
> Тагды бальшавіцкіе грабежнікі ачысьцілі рэдакцыю да апошняй паперкі. Забралі пішучую машыну, шапірографы, рукапісы, канцэляр. паперу, пячаткі, канторскіе кніжкі, рахункі, адрасы падпісчыкау, пісьмы і г. д. Гдзе гэта усе дзелося – няма ведама. Згінуло навекі, а тым часам шмат было рукапісау вядомых беларускіх пісьменікау, каторых ніякімі грашыма аплаціць немагчыма, бо гэта былі аутэнтыкі[3].

Такім чынам, можна ўпэўнена казаць, што ў рэдакцыі "Вольнай Беларусі" быў арыгінал *Пінскае шляхты*, "аўтэнтык". Яго, відаць, мог перадаць М. Доўнар-Запольскі, але найбольш праўдападобна, што навуковец адно падказаў (пасля публікацыі *Залётаў*) пра незвычайны скраб, які захоўваецца ў Замосці. Летам 1918 г. нехта з рэдакцыі (можа, нават сам Я. Лёсік), адолеўшы сорак кіламетраў, наведаўся ў маёнтак Ельскіх і змог набыць рукапіс В. Дуніна-Марцінкевіча.

Камедыя будзе апублікаваная ў верасні 1918 г., але "аўтэнтык" праз некалькі месяцаў бясследна знікне ў першыя дні другое (ад снежня 1918 г. да жніўня 1919 г.) расейска-бальшавіцкае навалы.

Янка Купала, стаўшы па даручэнні выдавецтва "Савецкая Беларусь" рэдактарам "Беларускай Тэатральнай Бібліятэкі", уключыў *Пінскую шляхту* ўжо ў першую кніжку *Сцэнічных твораў* (1923). Параўноўваючы першую і другую публікацыю камедыі, заўважаем шматлікія дробныя праўкі Янкі Купалы. Праўда, яны датычаць адно фанетыкі

[1] Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча...*, с. 41.
[2] Гл.: М. Гарэцкі, *Беларуска-расійскі слоўнічак – Белорусско-русский* словарик, Менск 1925, с. 16.
[3] Я. Ксяневіч, *Беларуская Кнігарня*, "Звон" 1919, № 9 (12 вер.).

(дысімілятыўнае яканне) і граматыкі тэксту. І толькі адна праўка датычыла структуры твора: рэдактар вылучыў фрагмент фінальнае часткі восьмае з'явы ў асобную дзявятую з'яву (Кручкоў – Дзясяцкі), у выніку замест дзесяці (так у "рукапісе Я. Карловіча" і першапублікацыі) аказалася адзінаццаць з'яў. Апрача таго, Янка Купала палічыў патрэбным паведаміць чытачу тое, што можна было прачытаць у рэдактарскай нататцы "Вольнай Беларусі", а таксама, што "аўтэнтыка" больш не існуе. Аднак адказнасць за знікненне арыгінала ён перанёс[1] з "бальшавікоў" на "палякаў":

> УВАГА. *Пінска шляхта* напісана Марцінкевічам пінчуцкай гаворкай у 1866 г. і да апошняга часу твор гэты нідзе не друкаваўся. Выпраўлены Я. Лёсікам, быў надрукаваны першы раз у "Вольнай Беларусі" у 1918 г. Аўтэнтык гэтага твору у часе польскай акупацыі Менска недзе згінуў. *Рэд.*[2].

З 1923 г. *Пінская шляхта* перадрукоўвалася нібыта паводле зборніка *Сцэнічныя творы*, аднак падзел твора на з'явы (не адзінаццаць, а дзесяць) сведчыць, што рэдактары савецкіх выданняў карысталіся першапублікацыяй, хоць і дастасоўвалі лёсікаўскую апрацоўку да вымогаў дзейнага правапісу.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: Lietuvos valstybės istorijos archyvas, LVIA, f. 1135 [*Виленское общество любителей наук*], ap. 10 [*Ян Карлович*], b. 219 [*Записи белорусских народных песен, пьес, паэмы, пословиц и др. (Кривицкие песни, пьеса Пинская шляхта, поэма Тарас на Парнасе). Записаны Э. Еленьской-Дмоховской, Э. Свежиньской, Я. Карловичем, и др. в Мозырском, Новогрудском и Речицком пов. Белорус. яз.*], l. 30–46.

---

[1] Янка Купала супрацоўнічаў з газетаю "Звон". Асобныя даследнікі сцвярджаюць нават, што ён з'яўляўся галоўным рэдактарам выдання. Апрача таго, ад Я. Лёсіка ён мог дакладна ведаць, калі і як "згінуў" "аўтэнтык".

[2] Гл.: В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта: Фарс-водэвіль у 1 дзеі* [у:] *Сцэнічныя творы*, Кніжка 1, Менск 1923, с. 60.

„Pińska szlachta”[1]

|30|

## Явленіе 1. –

Марися (*Сама*[2]*, сидя на скамьѣ, прядетъ припеѣвая*[3]. –)

**№ 1**

Тяжко жыты мни, дыўчаты[4]
Съ мыленкимъ ў разлуце, –
Лаетъ батько, лаетъ маты,
Що сырдэнко ў скуце. –
Годы сыдытъ надъ прясныцей,
Я хочу бытъ молодыцей. –
Маты каже викъ молоды,
Ой ты еще мала! –
А вже сама въ эты годы
Съ батькомъ любовала! –
Годы сыдытъ надъ прясныцей,
Я хочу бытъ молодыцей. –

Ой такъ! – нэхай ганытъ батько, – нехай лаетъ маты, а я люблю Грицька и любити его викъ буду. – Ой бэдные|жъ наши головэньки! – Що се за дуръ напавъ на батькоў? – по пьяну завэлыса, дай побылыса съ собою за шляхецьтво, а мы съ Грыцкомъ чрезъ то горуемъ, да унываемъ. – Его батько подаў на мого у Судъ жалобу и сигодня прыидетъ ў околыцю Найяснѣйшая Корона на слидство:[5] – въ |30об| нимъ цылое наше спасэньѣ. – Якъ прыидэ то мы съ Грыцькомъ поклонымса ему у ноги, да и будэмъ просыты да молыти щобъ вюнъ погодыў нашихъ батькоў, и щобъ вюны дозволылы намъ побратыса. – А вюнъ таки сырдиты, нэ допущай Богъ! Якъ настaвытъ[6] одынъ вусъ у гору, а другы въ нызъ, якъ зыркнэ однымъ своимъ вокомъ, а крыкнэ: – по Найяснэйшому Указу! – то батьки злякаютса и сладятъ намъ высильѣ. – (*садится*:) Да що это сталоса

---

[1] Тытул твора занатаваны алоўкам рукою Я. Карловіча.

[2] Адна (з *польск.* ці *дыял.*).

[3] Літара ***е*** падкрэсленая, а ўгары дапісаная літара ***ѣ***.

[4] Адзін з першых беларускамоўных тэкстаў грамадзянскага пісьма, дзе ўжываецца літара ***ў***.

[5] Въ прежніе годы Асесоры, или засѣдатели, что нынѣ Становые пристава, однѣ избираемы были во время Дворянскихъ выборовъ, другіе назначаемы Правительствомъ, что называлос[ь] (апошняя літара ў слове адсутнічае. – *М. Х.*) отъ Короны, – и потому послѣднихъ Пинская Шляхта обыкновенно величала Найяснэйшей Короной. – (*Заўвага В. Дуніна-Марцінкевіча*).

[6] Літара ***с*** дапісаная пазней.

Грицьку? – вже сонэнко высоко, а вюнъ не прыходытъ? – (*Грицько мѣдленно указывается изъ за дерева и тишкомъ подкрадывается къ Мариси.*) Боюса щобъ нэ всталы батьки, нэльга було|бъ и побачытыса съ нымъ. – (*встаетъ и, разхаживая по сценѣ, продолжаетъ*:) Ой Грыцько, Грыцько! – ты щось тэпэръ ставса велми лэнивы, тоби пэвно тэпэръ сырце такъ вже нэ тоскуе по мни. – Якъ прыдэ, то покажуса передъ нимъ сердытою, – и хоть будэтъ просыты, дай молиты щобъ поцыловала, то нэ поцылую, – Богъ ня! – нэ поцылую! –

## **Явленіе 2. –**

*Грыцько и Марися. –*

Грыцько. Такъ я|жъ и просыты нэ стану, самъ тэбэ поцылую. – (*целуетъ ее.*) –

Марыся. Ахъ Грыцько нэ добры! – Якъ ты мэнэ слякавъ, – гнэваюса нэ жартомъ. –

Грицько. Гнэваешса? – нэ правда! – а чему|жъ ты на мэнэ такъ мылэнко зыркаешъ? –

Марися. Я? – такъ, со злосты! – негыдный! – гдэ ты забав|31|лявса? – Это|жъ заразъ прыдутъ батьки, а мы такъ много маемъ съ собою пэрэговорыты. –

Грицько. Выбачай мылая Марисю! – тюльку що показалась зара я сьиздыў вже до миста, паў къ ногамъ ацесара[1], просыў, щобъ вюнъ взявъ насъ пидъ свою опику. –

Марися. Що его просыты съ голыми руками, – трэба було завэсты яки гостынчикъ. –

Грицько. Да я|жъ завэзъ ему два зайцы, тры пары цѣцѣрукоў, да лубку мэду; – вюнъ всэ прыняў ласково и сказаў що тэпэр|же ранкомъ прыбэжитъ къ намъ Судытъ дило жалобное мого батьки съ твоимъ. – Ой наварылы батьки сыби каши, будэтъ[2] що исты. –

---

[1] Асэсарам пінская шляхта называе станавога прыстава, бо ў краі спрадвеку існаваў інстытут асэсарства. У склад кожнага Земскага суда ў Рэчы Паспалітае ўваходзіла звычайна 4–6 асэсараў (апрача, вядома, суддзі, падсудка, пісара і вознага), якіх абіралі на сойміках. Але ад самага пачатку свайго панавання ў краі расейскія ўлады фактычна скасавалі інстытут асэсарства. Афіцыйна асэсараў сталі называць *засядацелямі*, хоць усё XIX ст. шляхта і сяляне звыкла велічалі іх асэсарамі. Новая ўлада падзяліла ўсіх асэсараў (засядацеляў) на дзве катэгорыі: каго сама прызначала – гэта засядацелі ад кароны, іншыя – засядацелі “па выбару”. Так было і ў Павятовым судзе, і ў Земскім, і ў Гродскім. А таксама і ў судах губернскага ўзроўню. Назіралася тэндэнцыя скарачаць лік “засядацеляў па выбару” і павялічваць “засядацеляў ад кароны”. У 1837 г. у імперыі была ўведзена пасада Станавога прыстава (стан – гэта паліцэйская акруга, у склад якое ўваходзіла некалькі воласцей), які прызначаўся губернатарам з кандыдатаў, пададзеных Шляхецкай зборняю. Падпарадкоўваўся ён спраўніку (ці капітан-спраўніку) і Земскаму суду.

[2] Апошнія літары старанна выцертыя.

Вюнъ вэлми сырдыты, – якъ размаўлаў то усъ одынъ такъ у гору коломъ и стаў: – будэ вазьня! –

Марися. Дай Богъ щобъ эта каша намъ зубіоў нэ попрыщыла! –

Грицько. Вюнъ деклераваў сладытъ наше щастьѣ: – на Богу, да на нимъ цылая наша надія. –

**№ 2. Дуэтъ. –**

Спустывшысъ во ўсымъ на Бога,
Чого|жъ уныватыʼ? –
Прысяглы любытъ до гроба,
Да и будэмъ ждаты. –
Хоче насъ нэщасна доля
На викъ разлучыты; –
|31об| А Богъ скаже: – моя воля
Имъ съ собою жыты! –
Нэ помогутъ злы языки,
Ни батькоў стороже, –
Вюнъ|же таки Панъ вэлыки,
Що хоче, то зможе! –

## Явленіе 3е

*Тѣ|же, – Тихонъ Протосовицкій и его жена Кулина. –*

Тихонъ. Хрынъ тоби у вочи! – жинка, – о жинка! – ходы, да подывыса якъ дочка твоя съ Грыцькомъ Тюхайчикомъ голубытса. –

Кулина (*за сценой*) Хто, – дочка? – бойса Бога! – да вюна|жъ[1] еще малая. – (*входитъ*)

Тихонъ. Кій чортъ малая! – хринъ тоби ў вочи! – ходика, да полюбуйса! –

Марися. Що|жъ я за малая, – колы мни на Спаса кончитса сэмнадцатъ годіў[2]. –

Кулина. Мовчи ты хытрая лысыца! – полядько якъ вюна скоро полычила годы. –

Тихонъ. Ахъ ты бысаў сынэ! – хринъ тоби ў вочи! – нэ годы|жъ що батька до живого мэнэ покрыўдіў, назваўши нэ шляхтычомъ, да еще сынокъ дочку намъ баламутитъ. –

Грыцько. Да я|жъ ее мылую и хочу съ нэю женытыса. –

Тихонъ. Ось я тэбэ такъ поженю, якъ твого батьку. – жинка, – о жинка! – дай мэтлу! – хринъ тоби у вочи! –

Грыцько. Що хотытэ, то робытэ, а всіо тыки Марися будэ моя! – (*Мариси*) будь здорова! – (*Уходя* |32| *встречается съ Куторгою и сшибаетъ его съ ногъ, – Марися убегаетъ въ хату. –*)

---

[1] Зверху алоўкам: *винаж*.

[2] Слова напісанае на месцы нейкага іншага, выцертага. У гэтым жа радку алоўкам дапісана яшчэ раз *годіў*.

## **Явленіе 4[е]**

*Тѣ|же, кромѣ Грыцька, – и Куторга*. –

Куторга. Ахъ ты поганецъ! (*вставая*:) татарынъ ты нэ хрищоны: – вотъ сбыў мэнэ, якъ[1] швыдаў Ходкивичъ пидъ Кырголмомъ[2]. – Постойка, отплачу я тоби эту штуку, нэ тыпиръ то ў чытвиръ! – (*Здравствуется*:) Здорово панэ Протосовицки, – здорово Пани Протосовицка; (: *целуетъ ея руку*:) видно, видно! – дякуй Богу! – здоровы, вось рыжки боровы. – Да я къ вамъ съ вэлыкою новиною, – нэ видаетэ! – тюльку що панъ Ацесаръ прыихаў. – А таки сырдиты, нэ допущай Боже! – Кажыса лыхы татарынъ. – Якъ тюльки ўихаў ў околыцу, да стаў каля Берки, такъ вюнъ и крыкнуў: – дэсацкихъ, Соцкихъ! – собраты ўсію шляхту къ Тыхану Протосовицкому, – да щобъ Иванъ Тюхай Лыпски прышоў съ сыномъ туды|жъ. –

Тихонъ. Хрынъ ему у вочи! – будэ бэда, – будэ! – геты собака Лыпски подаў на мэнэ ў Судъ жалобу, що я поколотыў[3] его, такъ вотъ и Ацесара прыслалы. – Ну! абдэрэ шкуру до чиста. –

Куторга. Чого тутъ дывытыса, – на то вюнъ Ацесаръ, полядько! у его и руки даўжей отъ другихъ людэй. – Ты знаешъ его прыповэсть[4]: – чирвона, бэлая, всэ пэрэдэлае. –

**№ 3**

|32об|
Гдэ унадытца юрыста,
Вымэтэ хату до чиста! –
Такихъ дываў наговорытъ,
Такъ много кручкоў натворытъ,
Що, – почисаўши затылокъ,
Ты разсупонышъ узылокъ: –
Не дашъ?– вюнъ тэбэ замучитъ; –
Добрэ стара казка учитъ: –
Дэрэ коза ў лисе лозу,
Дэрэ воўкъ у лисе козу,
А воўка мужикъ, Иванъ,
А Ивана шляхтычъ, Панъ,
Шляхтыча дэрэ юрыста,
А юрысту?.. бысаў трыста!!! –

Тихонъ: Хринъ тоби у вочи! – добра тоби вэсты раздабары колы нэ тяжытъ на спынэ бэда; – да скажи лепшъ що робыты? – Панэ

---

[1] Літары -***къ*** дапісаны пазней.
[2] Ян Караль Хадкевіч (~1560–1621), гетман вялікі літоўскі. 27 верасня 1605 г. у часе вайны Рэчы Паспалітае са Швецыяй (1600–1629) пад Кірхгольмам (цяпер Саласпілс), у 15 кіламетрах ад Рыгі, на паўночным беразе Дзвіны разбіў шведскую армію Карла IX.
[3] Слова падкрэсленае алоўкам.
[4] Слова падкрэсленае алоўкам.

Куторга! ты|жъ таки пысменны чоловикъ, можешъ сулиты разумну раду. –

Куторга: А прымэтэ чесно моихъ сватоў да вашей Мариси? –

Кулина: Бойса Бога панэ Куторга! – да вюна|жъ еще маленка, – то|жъ детыщэ гыркое! –

Тихонъ: Кій Чортъ дэтыще! колы вже съ хлопцами[1] сходытца, да баюкае. –

Куторга: Дыкъ чого|жъ ждаты? – гето кажутъ лыхы товаръ; – мый, да чеши, – потомъ спэшы, – заплоты кому, щобъ вывэзъ изъ дому. –

Тихонъ Добрэ панэ Куторга, – бэры соби дочку, – и посагъ дамъ, тюльку сослужи дружбу, – вытягни съ бэды. –

|33| Куторга. Якъ чырта изъ болота. –

Кулина. Дорадь панэ Куторга, – ты|жъ таки чоловикъ бывалы, тягаўса и по Судахъ. –

Куторга. Ну я готоў вамъ сослужыты дружбу, тюльки якъ дочка захимерычитъ и отчураетса отъ мини, що тогды будэ? – то|жъ вэдаетэ прыповэсть: – догоняючи нэ нацыловацца. –

Тихонъ: Ратуй, ратуй панэ Куторга! Марысю ты ладомъ угомонишъ, – чоловикъ таки разумны! Якъ подпустышъ іой ліосточки, якъ подплывэшъ сэлезніомъ, такъ вюнъ ена и разплывэтся. –

Куторга: Вэдаетэ|жъ що панэ Протосовыцки? – Якъ прыйдэ къ Вамъ Ацесаръ то стаўляйтэ мэнэ у свитки; – хоть я и нэ бачыў, да буду свэдчитъ що вюнъ тэбэ колотыў[2], а ты тюльку бороныўса: – нэ жаль для Марыси скрывытъ душою; – тюльки|жъ паны Протосовицка прышлытэ сюды Марысю, щобъ я могъ съ нэю поговорытъ, да угомонытъ дурную, башъ щобъ не чураласа разумного чоловыка. –

Кулина. Помогайтэ тюльку моему Тыхону а вже Марися будэ ваша, я ей сама ладомъ напылую вуши. – Пойдэмъ Тихонъ, приготовымса щобъ по господарски прынятъ Найяснэйшу Корону, – а ты панэ Куторга почекай, заразъ прышлю Марысю. – (*Уходитъ съ Тихономъ.*)

## Явленіе 5ᵉ

*Куторга самъ.* –

|33об| Куторга. Ну! – хвала Богу! – батькоў удалоса отуманитъ, тэпэръ трэба пайты ў голову по розумъ щобъ дыўку оморочитъ; – лакомы башъ кусочикъ. (: *целуетъ въ пальцы, какъ|бы любовался вкусом*:) Лычико, якъ сонэнко, ясное, – щочки, вось малынки, красные, – губки, бачицца карали, – а якъ засмэетца сэребранымъ голосочкомъ, дый выщырытъ зубки, то кажысь бачишъ два перловые шнурочки. – Да и посагъ за нэю

[1] У слове *хлопцами* літара ***а*** выпраўленая на ***я***.
[2] Слова падкрэсленае алоўкам.

господарски: – одна у батькоў, а старые карбованцы осмынаю[1] мэратъ; – и у гумни поўно, у хатэ избытокъ и обора богата. – Добрэ гуторка каже: – колы обора тэчэ, господыня блыны пэчэ, – а колы гумно тэчэ, господаръ съ хаты утэчэ; – тыханиха|жъ дэнь въ дэнь блинами гостэй прымае. – Прауда викъ нэ схожы, – я вже добываю шостого дэсатка, а вюна сэмнадцаты годокъ, – будэ клопоту нэ мало: – ой, ой! – нэ разъ почишу затылокъ, – молодэжъ, башъ пшчолы ульліо, будутъ облегатъ мою хату, – прыятэлей полычу копами; – да що|жъ робыты? – нэ я пэршы, нэ я послэдни, – дурныхъ старцыў нэ мало на Божимъ свитэ: – щобъ сорватъ такую прыгожу и богату квэточку, нэ шкода и у болото повилятца. –

**№ 4ы**

Хто на старостъ порыскуе,
Той хоть часомъ бэду чуе,
Да при малодэнкой жинце,
При руплывай господынце
|34| Быть философомъ, – то значитъ
Нэ бачъ, що нэ трэба бачитъ. –
Взростутъ надъ головой груши,[2]
Думай що се доўги вуши; –
Гуляе жинка по ночи,
Ты бытцэмъ спышъ, зажмуръ вочи; –
Тогды тоби жыцціо нэбомъ: –
Всэлякимъ твоимъ потребомъ
Жинка рада догодыты,
Станэ[3] тя крыпко любыты; –
Скажэ[4] мужъ мой хоть старэнки,
Да разумны, – да мылэнки! –

Такъ, такъ! – ў тэпэрэшнэмъ разумномъ викѣ хошъ спокойно жыты? – будь философомъ; – бачишъ? – нэ бачишъ! – чуешъ? – нэ чуешъ! – Ба, ба! – да вось и Марыся идэ сюда: – Якая красочка! – глэдючи на ее ажъ слынка по губамъ тэчэ; – нукась Куторга! – подпусты іой ліостачки. –

## Явленіе 6е

*Марыся и Куторга*

Куторга (: *съ улыбкой жеманясь*:) Добрыдэнъ панна Марьянна! –
Марися: (: *застѣнчиво*:) Добрыдэнъ панэ Куторга! –

---

[1] Тут: пасудзіна мерай тры пуды (блізу 50 літраў).
[2] Збоку ў дужках: (*вытягиваетъ надъ головой пальцы воображая роги*).
[3] У слове выцертыя дзве літары. Магчыма, ***-тъ***.
[4] У слове выцертыя дзве літары. Магчыма, ***-тъ***.

Куторга: Якъ се панна Марьянна прыгожо выглядае, – якое свэжэ лычико, вось ружичка тюльки що изъ пучка. – Съ якимъ я нэтэрпэньемъ ждаў[1] щаслываго момента щобъ поцыловатъ[2] белэнкую ручку панны… (*под*|34об|*ходитъ съ комическою уловкою и целуетъ руку Мариси, та отступаетъ, обтирая руку передникомъ*:) Панна Марьянна! вы нэ чуетэ, вы нэ вэдаетэ якъ я васъ крыпко люблю, якъ по васъ тоскую. –

**№ 5. Романсъ**

Рвэтса мое сырце до краснэнкой розы,
Кажыса пры колахъ атоса изъ лозы; –
По паннэ Марьяннэ душичка тоскуе,
Бытцемъ|бы зюзюля жалосно кукуе: –
Як нэ бачу Панны жыццio мнэ могыла,
Голоўцы тяжэнко, утэкае сыла! –[3]

Марися (: *перебивая*:) А вэдаетэ отъ чого это панэ Куторга? – Отъ старосты! – Да ты вже порадкомъ стары, – пора объ дыўчатахъ пэрэстаты думать, а молытыса Богу, щобъ даў спасэньѣ. –
Куторга: Стары, – стары! –

**№ 6[ой] Дуэтъ**

Кажешъ що я ладомъ стары, –
Алэ выдны, – алэ яры! –
Буду тя крыпко любыты,
Викъ тоби вирой служыты. –
Молоды|жъ часто нэ щыры,
Нэ шукай въ нимъ доброй виры,
Ў коханьни тоби клянэтца,
А тамъ съ другою смэѣтца
Марися: Да що мни съ мужа старого,
Я хочу мого мылого, –

---

[1] У слове *ждаў* літара ***ў*** напісаная замест нейкае іншае.
[2] У слове *поцыловатъ* літара ***ы*** напісаная замест нейкае іншае.
[3] На доле гэтае старонкі справа, і на доле наступнае злева, В. Дунін-Марцінкевіч дапісаў дванаццаць радкоў, два з якіх выкрэсліў:

Ой высохъ я высохъ, якъ лапэть на пэчи,
Гырка|жъ моя доля, – хто|жъ мэнэ улечи; –
~~Мое сырце рвется, якъ тая отоса,~~
~~Колы ій тармашатъ поганы колiоса~~; –
Якъ Цетрэў ў лесочку жалостно болбоче,
Такъ и мое сырце до панны сокоче: –
Не верэщаки, коўбасы, дэлянка,
Ништа нэ смакуѣ безъ тэбэ, – коханка! –
Дамъ тоби зегарокъ велыки, якъ репа,
|35| [Н]ехай вюнъ при сырцы крипко твоимъ кле[п]а,
И напомынае якъ богатько ною, –
Та|жъ и въ дэнь и въ ночи нэ маю спокою. –

|35| Бо стары мэсто гуляты,
Будэ кашлятъ, да стогнаты.

Марыся
Мой Грыцько хлопэць мотарны,
Выдны, молоды, да гарны; –
Глянь! – ажъ душа къ нему рветса,
И сырдынко крэпчей бъѣтса! –

Куторга
Малоды|жъ Грыцько нэ щыры,
Нэ шукай въ|нымъ доброй виры; –
Ў коханьни тоби клянэтца;
А тамъ съ другою смэѣтца! –

(*Во время пѣнья входятъ Становой съ Письмоводителемъ и кроются по сторонамъ, дабы подслушать ихъ разговоръ*:)

Куторга: Башъ собака Грыцько! – вюнъ клыщомъ упывса тоби въ сырце; – да ништа съ того нэ будэ. – Батько твой деклявраваў мни твою руку за то, що я буду свидкомъ протіў Тюхая Лыпскаго. – Найяснэйшая Корона прыихала на слидство по жалобэ Тюхая, поданной ў Судъ на твого батьку, що вюнъ его побыў; – и колы ты пойдышъ за мини, то я готоў и душою скрывыты, да показать на слидствэ що батько твай[1] нэ быў Тюхая; – а колы мое нэ ў ладъ, то я съ своимъ назадъ. – Захымэрычса тюльку то буду свидкомъ протіў твого батьки. – Уихаў твой родны ў нироdъ, ны ўзадъ ни впирадъ! – попавса юрысту ў когты, то|жъ вюнъ его выссэ, башъ упиръ витрэну дивчину[2]. – А колы|бъ ему и удалоса пэрэкобатытъ Найяснэйшую Корону, то нэ конэцъ еще бэды: – знашъ що кажутъ людэ? – бисъ бэду |35об| перэбудэ, одна згынэ ~~друга~~дэсатъ будэ: дыло у Судъ якъ пойдэ; то такъ допэкутъ юрысты, вось боровыку на угольяхъ, – отчураетса и своихъ! –

Марыся: Дарма ты мэнэ лекаешъ! – мы съ Грыцькомъ поклонымса ў поясъ Найяснэйшэй Коронэ, то вюнъ погодытъ нашихъ батькоў, а тоби за крывое показаньэ дастъ хорошу гонку. –

Куторга: Що! – ты думаешъ я боюса Ацесара? – да я такой ему задамъ пары, що вюнъ нэ згадаѐ гдэ вьюны зымуютъ. Я чоловикъ бывалы, маю розумъ, сумэю ладомъ его вывэсты ў поле[3], якъ зайчика пидъ харты. –

## Явленіе 7

*Тѣ|же, да Кручковъ и Писулькинъ.* –

(*Кручковъ подходитъ тихо къ Куторгѣ, ударяетъ его по плечу, Писулькинъ|же съ комическою ухваткою подходитъ къ Марисі, которая съ застѣнчивостью и страхомъ кланяется.*)

---

[1] Так у арыгінале. Трэба: *твой*.

[2] У слове *дивчину* літара *д* напісаная замест нейкае іншае.

[3] Wywieść w pole (*польск.*) – ашукаць, вадзіць за нос.

Кручковъ: Дакъ ты мэнэ думаешъ вывэсты ў полѣ? – хошъ научитъ гдэ вьюны зымуютъ? – почекай|же голубчикъ! – Я|жъ тэбэ поучу гдэ нэправыхъ свидкаў сажаютъ. – Гей десяцкій! –

Куторга (: *со страхомъ*:) Ваше Благородное Сыятельство! Найяснэйшая Корона! – да я|жъ тюльку себэ жартоваў, – вотъ страшіў дурное дыўчатко щобъ |**36**| вюна прызволила выйты за мэнэ замужъ: – батьки благословляютъ, а вюна козырытца, – дыкъ я вось такъ съ дуру сказаў ей...

Кручков: Съ дуру хошъ крыво прысягнутъ? – а знашъ чимъ это пахнэ?[1] – По указу Всэмилостывэйшего Царя Петра вэлыкого 1779 года Августа 10º и по статуту Литоўскому, раздэла 3º, параграфа 375^го^ гето уголовное преступлэньѣ, сыбыромъ пахнэтъ, сыбыръ, сыбыръ голубчикъ! – Гей дэсяцкій! – (*тотъ входитъ*:) посады гетого молодця въ особую свэтлыцу, да гляды щобъ вюнъ нэ выдаўса съ ныкимъ, а борони Боже щобъ съ господаромъ нэ сговарываўса. –

Куторга: (: *уходя съ дѣсяцкимъ*:) Найяснэйшая Корона! – бойтэса Бога, – нэ губытэ бэдного чоловика! – мало що языкъ молоў. – Добрэ пословыця каже: – млынъ мелэ, мука будэ, – языкъ мэлэ, бида будэ! – выбачтэ моему дуру. –

Кручковъ: Якому дуру? – ты|жъ чоловикъ бывалы, – тожъ нэ даўно хвалыўса со своимъ розумомъ. –

Куторга: (: *въ боковыхъ дверахъ*:) Яки тутъ у быса розумъ, колы такъ нэ осторожно попавса у биду, вось швыдъ пидъ Полтавай[2]. – (*уходитъ съ дѣсяцкимъ*)

## Явленіе 8^е^

*Тѣ|же, кромѣ Куторги.* –

|**36v**| Кручковъ: Ну панэ Писулькинъ, – покинь ваше залецанки, а бэрыса за дило; тутъ братъ намъ прыгоже жныво. – Гей дэсяцкій! – (*тотъ входитъ*) постаў тутъ по сэредынэ столъ, да накрый его судовымъ сукномъ. – (: *десяцкій исполняетъ приказаніе*:) Хороша погода, можно и на дворы попрацоваты. – Садыса панэ Писулькинъ, да прыбэры бумаги. (*Писулькинъ садится важно, откупорываетъ чернилицу, разбираетъ бумаги, изъ которыхъ несколько подаетъ Становому, который тоже садится при столѣ задомъ къ Писулькину, въ послѣдствіи говорить до мариси.*) Ну Марыню! – Хадыка сюда по блыже, да кажи мнэ щирую праўду, – ты|жъ бачишъ що у мэнэ вусы нэ наежылыса, тожъ я и нэ сэрдыты. Кажи: любишъ ты Грыцька Лыпскаго? –

Марися: (: *со стыдливостью, забавляясь передникомъ*:) Ну дак що? –

---

[1] У слове выцертыя дзве літары. Магчыма, ***-тъ***.

[2] Маецца на ўвазе паражэнне шведаў у Палтаўскай бітве, якая адбылася 27 чэрвеня (8 ліпеня) 1708 г. Трэць шведскага войска або загінула, або трапіла ў палон.

Кручковъ: За що|жъ ты его полюбыла? –

Марыся: Сама нэ видаю, – вотъ такъ щось прыпаў[1] къ сырцу. – Да якъ|же его нэ любыты, колы вюнъ молоды, гарны хлопицъ, – а сырце у нэго золотое. –

Крючковъ: Дакъ хошъ за его выйты за мужъ? –

Марися (*съ застѣнчивостью*). Алэ хочу... колы за его нэ пійду, то вже викъ мнэ бэдной гороваты дыўкой. – Найяснэйшая Корона! – умило|$_{37}$|сэрдытыса надъ нами, да сотворытэ наше щастьѣ. (: *Кланяется ему*:)

Кручковъ: Чого|жъ ты хошъ отъ мини? –

Марися. Найяснэйшая Корона! – окончайтэ дило нэщастное мэжъ нашими батьками нэ по судовому, а по хрыстыанскому обычаю, погодытэ ихъ съ собою, нэхай большъ нэ индычатца, да и выможтэ щобъ вюны насъ съ Грыцькомъ случыли. – Найяснэйшая Корона! (: *кланяется еще ниже и съ жалостью продолжаетъ*:) ты|жъ таки, хоть чоловикъ Судовы, чиноўны, – да пэўно вэрышъ у Бога, – тожъ, дэлѣ милосты Господнэй, сотворы ты и намъ мылостъ, сладь наше щастьѣ, а мы викъ будэмъ за тыби, твоихъ дитокъ, и ўнучатъ Бога молиты. –

Кручковъ: Но, но милая! будь спокойна. Я хоть чоловикъ, якъ кажешъ, Судовы, да всэ зроблю по хрыстыьянски и еще на твоимъ вэсыльи по скачу. – Гей десяцкій! – (: *тот входитъ*:) а чи собраласа шляхта изъ околыцы? –

Десяцкій: Вси собралыса, хто съ курыцою, хто съ лубкой мэду, а хто съ сушоной рыбой, – чекаютъ що ваша мылостъ имъ прыкаже. –

Кручковъ. Добрэ! – нэхай ўсіо отдадутъ фурману, дый спакуйтэ тамъ хорошэнко до воза: – ты |$_{37об}$| зазовы тутъ и Тыхона Протосовицкого съ Кобэтою, – а естъ Тюхай Лыпски съ сыномъ? –

Десяцкій. Тюхай кромъ мэду и рыбы прытягъ дэсять винковъ сушоныхъ боровикоў, а сынъ его копў[2] рожинкаў ўюноў. –

Кручковъ. Добрэ, добрэ, – ўсэ попоковатъ осторожно, да зовы всэхъ сюды. –

(*Десяцкій уходитъ, Кручковъ строитъ фуріозную физогномію, одинъ усъ направляетъ въ гору, другой въ низъ, – изъ глубины сцены выходитъ Шляхта со страхомъ, кланяясь низко и прячась одинъ за другого, – изъ боковой|же двери выходитъ Тихонъ Протосовицкій съ женою, Марися сходится въ глуби сцены съ Грыцькомъ, перешептываясь межъ собою.*)

---

[1] У слове *прыпаў* літара ***ў*** напісаная замест выцертых ***въ***.
[2] Так у арыгінале.

## Явленіе 9.

*Тѣ|же и Тихонъ Протосовицкій, его жена Кулина, Тюхай Липскій, его сынъ Грыцько, Тимохъ Ольпенскій, Базыль Статкевичъ и протчая Шляхта. –*

---

Тихонъ. Жинка, о жинка! будэ бэда! – полядько якъ у Найяснэйшей Короны вусъ одынъ въ нызъ, другы у гору задырса: иды ты напэредъ да поклоныса ему, хрынъ ему у вочи! –

Кулина: Що ты мэнэ посылаешъ! – ты самъ наварыў пыва, самъ его и попывай здороў, – я боюса. –

Тихонъ: Ты кобэта, хрынъ тоби у вочи! – вюн|же |38| тэбэ нэ сьистъ. – Возми эты корбованцы, тугъ ихъ пять дэсатокъ, – поклоныса ў ногы, да положи на столъ; – вюнъ|же юрыста, нэ отчураэтса грошей, тогды дыло пойдэ якъ по салѣ. –

Кулина: Ну що робыты, попытаю. – (*подходитъ со страхомъ, кладетъ мешокъ на столъ, послѣ кланяется низко становому*:) Найяснэйшая Корона!..

Кручковъ: Тише! – (*Кулина со страхомъ отходитъ и прячется за мужа, Кручковъ, держа бумагу, встаетъ и, не смотря на собравшихся, говоритъ*) По Указу Пинского Земского Суда, отъ 23. мая, сего года, за № 2312., прыбылъ я въ околыцу для разслѣдованія уголовного дила о побояхъ причиненныхъ Тихономъ Протосовицкимъ Ивану Тюхаю Липскому. – Лыпски! – маешъ свидкаў? –

Липскій: Маю Найяснэйшая Корона! –

Крючковъ: Пусть выступятъ въ перодъ! (*трое изъ шляхты выступаютъ*:) Протосовицкій! – за що ты его быў? –

Тихонъ: Да вюнъ|же назваў мэнэ мужикомъ. – хрынъ **ему ў вочи!**[1]

Кручковъ: Маешъ свидкаў? –

Тихонъ Маю Куторгу. –

|38об| Кручковъ: Его нэ можно ставитъ, вюнъ пидъ судомъ. – (*Оборотясь къ свидѣтелямъ Липского*:) Вы бачилы якъ Протосовицкій быў Лыпского? –

3. Свидѣтелѣй (*со страхом кланяясь*:) Бачылы Найяснэйшая Корона! –

Кручковъ: (: *оборотясь къ протчей шляхтѣ*:) А вы нэ бачылы? –

Все протчіе: Нэ бачылы Найяснэйшая Корона! –

Кручковъ: Добрэ|же, – слидство кончено, – теперъ будэ судъ. – а напэредъ по Указу Всемилостивѣйшей Государыни Елисавэты Петровны 49го[2] Апреля 1895. года и Всемилостивѣйшей Екатерыны великой отъ 23. Сентября 1903. года, а равномѣрно въ смыслѣ Статута Литовскаго, раздѣла 8о, параграфа 193го, коимъ назначается въ пользу Суда отъ тяжущихся грывны. –

---

[1] Апошнія чатыры словы дапісаны пазней: першае змясцілася ў радку, а іншыя змешчаны над радком.

[2] Немагчыма дакладна вызначыць: ці то ***49*** папраўленае на ***19***, ці то наадварот.

Обжалованный Протосовицкій имѣетъ заразъ|же уплотить пошлинъ $20^{ть}$, прогонныхъ $16^{ть}$ и на канцелярію $10^{ть}$ карбованцой[1]. – Жалующійся Липскій въ половинѣ того, – свидки, которые бачили драку, а нэ боронылы, по $9^{ть}$ карбованцыў, а вся протчая Шляхта, що нэ бачила драки, за то що нэ бачила, по $3^{и}$ рубля. – Платитѣ! – (*садится на мѣстѣ и пишетъ*:)

(*Шляхта мѣжъ собою перешептывается, послѣ избранный всеми зборщикомъ Тимохъ Ольпенскій, подходитъ по очереди къ Протосовицкому, Липскому, свидѣтелямъ, и протчей шляхтѣ, собира*|39|*етъ по назначенію отъ всехъ дѣньги и такъ сложенные въ одинъ мешокъ подноситъ со страхомъ къ Становому и кладетъ на столъ*. –)

Тихонъ (*отщитавъ зборщику деньги, когда тотъ пошолъ собирать отъ другихъ*. – :) Е… дывыса ты! – якъ вюнъ, на бэду нашу, всэ указы и законы якъ рыпу грызэ и нэ заикнэтса, – хрынъ ему у вочи! –

Кулина: Чого тутъ дывытыса? – видомо Судовы чоловикъ, – тажъ вюнъ на томъ и зюбы зgroзъ, такая башъ порода. –

Кручковъ: (*какъ Ольпенскій положилъ на столъ деньги*:) А все? –

Ольпенскій: До копэйки Найяснэйшая Корона!

Кручковъ: Ладно! – иды! – заразъ будэ дэкрэтъ. –

Тихонъ: Ухъ Господи! – що се будэ? –

Кулина: А що будэ! – вэдомо юрыста, – обдэрэ всихъ до чиста, дый поидэ съ Богомъ до хаты. –

Тихонъ: Хринъ тоби ў вочи! – щобъ прынаймнэй шкура была цела, а то якъ доберецца до нэй, будэ нэчисты интэрэсъ. –

Кручковъ: (*Вставая и выходя съ бумагою на середину сцены*:) Слушайтэ съ увагою! – (*все кланяются*:) буду читать декретъ. – (*тоже поклоны, Кручковъ читаетъ*:) По Указу Его Императорского Величества, во временномъ при|39об|сутствіи, въ комплетѣ, составленномъ изъ Участкового Засѣдателя и его письмоводителя Слушали дѣло, коего обстоятельства слѣдующіе: Иванъ Тюхай Липскій назвалъ Тихона Протосовицкого мужикомъ, тотъ за такую обиду побилъ Липского, на что сей послѣдній представилъ и Свидѣтелѣй, разслѣдовавъ таковое дѣло Временное Присутствіе, сообразно Указу Всемилостивѣйшаго Государя Петра великого, въ $1988^{мъ}$ году марта 69. дня послѣдовавшаго, и примѣняясь Статуту Литовскому, раздѣла $5^{о}$ параграфа $18^{о}$ Опредѣлило: – а) Тихону Протосовицкому, какъ уголовному преступнику, назначается: – $^{1е)}$[2] $25^{и}$ лозъ на

[1] Так у арыгінале. Трэба: *карбованцоў*.

[2] Дапісанае зверху пазней.

голой землѣ, безъ дывана[1] и 2) штрафа 25. рублѣй въ пользу временного Присутствія. – б) Ивану Тюхаю Липскому, какъ нанешшему личное оскорбленіе Протосовицкому назначается: l) 15[и] лозъ на дыванѣ и 2[е] 15[и] руб: Штрафа въ пользу временного Присутствія. в) Свидѣтелямъ, которые видѣли драку и не разняли дѣрущихся, 1[е] по 10[и] лозъ на дыванѣ, и по 10[и] руб: штрафа въ пользу временнаго|же Присутствія. – |40| и д) всей протчей шляхтѣ, которая не видѣла драки, за то что не видѣла, а тѣмъ самимъ не могла и разнять дѣрущихся, назначается 1[е] по 5[и] лозъ и по 5[и] руб: штрафа въ пользу того|же Присутствія, и напослѣдокъ г) Примѣнясь къ Указу Ея Величества Анны Іоанновны 1764. года октября 45. числа, за не гербовую бумагу употребленную и имѣющуюся употребится по сему дѣлу Протосовицкій 5[и], Липскій 3[и], Свидѣтели по 2[а], а все протчіе по одному рублю уплотятъ. – Кончено! – тэпэръ зборщикъ нэхай собырае гроши, послѣ|же прымэмса за лозу. – (*подходитъ къ столу*.)

Тихонъ: У... у... у... батьки мои родные! – хрынъ ему ў вочи! – 25[и] лозъ да еще и нэ на дыванэ, а на голой зэмли, – давъ|бы сто карбованцыў щобъ дыванъ подослалы. –

(*Кручковъ садитса за столъ и будто|бы углубляется въ чтеніи бумагъ, зборщикъ собираетъ деньги, начиная отъ Протосовицкого, который окончивъ уплату, подкрадывается къ Писулькину, отзываетъ его въ сторону и суѣтъ 25. рублевую бумажку*.)

Тихонъ Добродэю! – ратуй нэщастного, да научи, якбы |40об| отдылатца отъ лозы? –

Писулькинъ (: *въ сторону, посматривая на бумажку*:) Хорошо быть письмоводителемъ у разумного человѣка, малеваные гостики (*указывая бумажку*) сами въ карманъ лезутъ, не надо и рукъ вытягивать. – (*къ Тихону*:) Нэ вэдаю що зробыты? – вюнъ самъ боитса щобъ, зробывши вамъ поблажку, пэрэдъ Судомъ нэ отвэчатъ; – да попробуйтэ: – (*Тутъ подходятъ и протчіе и слушаютъ его совѣта*:) Сложытэ ему добры гостынчикъ, а вось полакомытца? – поговорытѣ съ собою и сложытэ, а я тымъ часомъ попробую угомоныть его. – (*Подходитъ къ Кручкову и шепчетъ, тотъ злостно отвечаетъ*:)

Крючковъ: (*Къ Писулькину въ слухъ*) Нэ могу, нэ могу! – Знаешъ, по Указу Всемилостивѣйшаго нашего Государя 1884. года Сентября 75[го] дня, какой великой отвѣтъ за поблажку сторонамъ въ

[1] На дыванѣ, это на коврѣ: – въ старынные времена когда наказываютъ Шляхтича положивъ его на голой землѣ, безъ подстилки ковра, это большое оскорбленіе. (*Заўвага В. Дуніна-Марцінкевіча*).

уголовномъ преступленіи, – не только мѣсто могу потерать, но и личность подвергается опасности. –

Тихонъ Жинка, о жинка! – хринъ тоби у вочи! – прынэсы шкураны мэшокъ, що лэжытъ у кублэ съ грычкою, тамъ истъ сто карбованцыў, треба выкупыты шкуру, – ох! дорого|же вюна коштуѣ, – хрынъ ей у вочи! –

Кулина: Що? – натэрушыў бэды, а тэпэръ разплачивайса. – |41| (: *уходитъ и въ минуту возвращается съ мешкомъ*:)

Грицько (: *къ отцу*:) А ну батьку! – разсупонько свой мэшокъ, а вынь якихъ съ 50и карбованцыў, може и твоя уцэлеѣ шкура? – (: *къ протчей шляхтѣ*:) и вы разшэвэлытэса: которые бачили драку, по дэсатъ, а которы нэ бачыли по пять карбованцыў сложытэ ў купу, поднэсэмъ Найяснэйшэй Коронэ, тажъ вюнъ умылыстывытса надъ вами и дило кончитъ, вось якъ вюны, Люды Судовые, сумэютъ, такъ що и воўкъ[1] будэ сыты и козы цэлы. – (: *шляхта собираетъ деньги, послѣ, сложенные въ одинъ мѣшокъ, отдаетъ Грыцьку, толкая его къ Становому и уговарывая чтобы принялъ на себя смѣлость поднести ихъ Кручкову и просить помиловенья*:)

Тюхай Липскій Иды ты сынку, положи гостынчикъ на столъ и проси, да молы щобъ вюнъ помыловаў нашу шкуру, да и скасоваў срогы свой декрэтъ. –

Грыцько: Видытэ батько якъ нэ ладно що вы заводытэса съ сосидами; добрэ! – я осмэлюсъ пійты, тюльку щобъ вы погодылыса съ Тихономъ и послалы отъ мэнэ сватоў къ его дочце Марыси. –

|41об| Липскій: Бысъ его побырай! – нэхай тюльку уладытца дило, а я нэ отъ того буду. – Иды, проси! (*Грыцько с одной, а Протосовицкій съ другой*[2] *стороны робко подходятъ къ столу, при которомъ Кручковъ углубленъ будто|бы въ чтеніи бумагъ, и кладутъ мѣшки съ деньгами, Грыцько, кашлянувъ громко и кланяясь низко Становому, говоритъ*:)

Грыцько: Найяснэйшая Корона! – Мы отъ викаў Пынская шляхта и ты шляхтычъ! – нэ глумы|жъ, нэ валяй у болотэ шляхецькой, братнэй тоби, крови! – Скасуй сроги свой декретъ, на стыдъ нашой околыци пысаны, помиры мого батьку съ Тыхономъ, сотворы мое и Марыси щастъѣ, а мы всэ, цылой околыцѣй, викъ за тэбэ будэмъ Бога молыты, викъ тоби дяковать! –

Писулькинъ: И я васъ прошу, ваше благородіе![3] – пусть подадутъ мировую, и концы въ воду! –

---

[1] У слове ***воўкъ*** літара ***ў*** напісная замест выцертае нейкае іншае.
[2] У слове *другой* літара ***у*** напісаная замест нейкае іншае.
[3] Зварот "ваше благородие" належаў да службоўцаў ад 14 да 9 класа, г. зн., Кручкоў мог быць калежскім рэгістратарам (14), губернскім сакратаром (12), калежскім сакратаром (10) ці нават тытулярным саветнікам (9).

Кручковъ (: *къ Писулькину, одначе громко*:) Хорошо! – для вас это здѣлаю, приму грехъ и отвѣтъ на себя. – Тыхонъ Протосовицки и Тюхай Лыпски ходитэ сюда по блыже! – (: *Тѣ подходятъ, за ними Марися и Грыцько*:) Обнымытэса и поцылуйтэса на згоду! – ну щож? – (*Марися своего отца, а Грыцько своего толкаютъ, которые въ послѣдствіи обнимаются и целуются съ собою.*) Тыхонъ! на згоду щобъ буў круп|**41**|никъ[1]. –

Тихонъ Готовы Найяснэйшая Корона! – сходытэка жинку и Марисю, да принэсытэ, хрынъ вамъ у вочи! (: *Кулина и Марися отходятъ въ хату.*)

Кручковъ: Вы думаетэ що мни мыло понэвэрать кроў шляхецькую, – я|жъ самъ шляхтичъ, вамъ родный, – да щожъ робыты? – служба, нэ дружба! – законы милэнкіе! – законы! – Годючы васъ бэду на сэбэ бэру. – Тюльку подъ такою умовою щобы Тыхонъ съ Лыпскимъ на викъ съ собою погодылыса, и щобъ я за васъ нэ влизъ въ ниродъ; – конэчно требую щобъ тутъ|же пры мни дитокъ своихъ сручили, а тамъ и повэнчали. (: *тут Кулина и Марися вносятъ двѣ мисы горячаго крупнику и ставятъ на столъ съ кубками*:) Ну що Тыхонъ! – отдашъ за Грыцька свою Марисю? –

Кулина: (: *входя*:) Горачая! – ой горачая Найяснэйшая Корона! –

Кручковъ: Откуль|же ты вэдаешъ? –

Кулина: Да я|жъ сама ее сладыла. –

Кручковъ: Що? –

Кулина: Да горылку, – тюльку що пэрэгорыла, – гоздыку и разныхъ прыправъ насулила богатько, мэду|же цылу лубку ўкынула. –

|**42об**| Кручковъ: А... ты толкуешъ объ крупнику! –

Тихонъ: Хрынъ тоби ў вочи! – чуешъ що найяснэйшая Корона каже? –

Кулина: Да якъ|же, – абъ прыправэ. –

Тихонъ: Якой прыправэ? – хрынъ тоби ў вочи! – объ Марыси! – чи отдашъ ее за Грыцька Лыпского? –

Кулина: А що будэ съ Куторгою? –

Тихонъ: Хрынъ ему ў вочи! – твой Куторга тюльку хвалытыса умэѣ, тажъ якъ пришло да рычи, чутъ у бэду съ собою разомъ и мэнэ нэ втягъ. –

Кручковъ: Вотъ я тутъ заразъ цылу справу кончу: – налывайтэ кубки! – (: *Кулина съ Тихонамъ разливаютъ Крупникъ и подносятъ Кручкову, Писулькину, и целой собранной Шляхтѣ*:) Грыцько! – любышъ ты Марисю? – Хошъ съ нэю иты пидъ виныцъ? –

Грыцько: Ой хочу! горачо хочу Найяснэйшая Корона! – Богъ мя убей колы ей нэ сотвару щастья у сожытьи. –

[1] Изъ водки и патоки перепаливается съ разными приправами, для питья. – (*Заўвага В. Дуніна-Марцінкевіча*).

Крючковъ: А ты Марыню любышъ Грыцька, хошъ викъ съ нимъ дэлыты щастьѣ и горэ? – (*Марися съ застенчивостью оборачивается къ стѣнѣ и пальцемъ ее царапаетъ*:) ну що, – чого мовчишъ? –

Марися: А вже|жъ колы мовчу...

Кручковъ: Дакъ хочу, – ладно! – Любышъ ты Грыцька? –

Марися: (: *стыдливо*:) Але...

|43| Кручковъ: Крыпко его любышъ? –

**№ 7^е^ Романсъ.**

Марыся: Найяснэйшая Корона!
Трудно мни безъ Грыцька житы; –
Нияка земска прэпона
Нэ въ сылахъ насъ разлучыты! –
Сырцэ мое – его меньѣ,
Его любовъ – моя сыла; –
Безъ Грыцька смэртъ мне спасэньѣ,
Безъ Грыцька мнэ свитъ – могыла! –
Нэхай батьки лаютъ, мучатъ,
Ны с|кимъ другимъ нэ сручуса,
Колы съ нимъ мэнэ разлучатъ,
Я ў Прыпэци утоплюса! –

Кручковъ: Но! – колы такъ крыпко его мылуешъ, то вже нэчего раздумыватъ. – Пановэ батьки! – трэба ихъ случыты, а нэ то новое еще уголовное дило свалитца на ваши головы. – Панэ Лыпски! – чи прынымаешъ ваше мэнэ за свата для свого сына? –

Липскій: Да вже|жъ найяснэйшая Корона! – затіялы дило, то и кончайтэ его съ Богомъ, я радъ буду благословыты. –

Кручковъ: Дайтэ сюды ручныкъ (: *закидаетъ его черезъ плечо*:) Ну вотъ я и сватъ! – що пановэ Протосовицкіе, отдадытэ свою дачку за Грыцька?

|43об| Тихонъ Такого свата трудно нэ уважытъ, – ходы жинка, – ходы панэ Лыпски! – хрынъ тоби ў вочи! – поблагословымъ дэтэй, – а тамъ потымъ сыграемъ вэсыльѣ; – на посагъ дамъ два гарци[1] карбованцыў и шляхецьку худобу, – по смэрты|же нашей самы всэ забэрутъ. –

Кулина: Да и на выправу нэ поскупымса, вюна|жъ у насъ одно дэтыще, що маемъ то всэ ее, – щобъ тюльку Богъ даў имъ щастну долю. – (: *сходятся родители и соединяютъ молодыхъ руки*:)

---

[1] Адна з асноўных адзінак вымярэння сыпкіх і вадкіх рэчываў. Але ў даўнія часы ўжывалася таксама ў значэнні "пасудзіна". Гл. таксама: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы...*, с. 731: "ГА́РНЁЦЪ, -рца, мн. ГА́РЦЫ, с. м. 1) Осьмая часть четверика. *Два гарцы маку цекуну я собрала.* 2) Четвертая часть ведра. *Гарнецъ горелки расчестовавъ. Повъ гарца меду липцу купивъ для насъ*".

Кручковъ: Вотъ такъ ладно! – тэпэръ пановэ батьки, подпишитэ мировую и сложитэ мировыхъ пошлинъ по 3[ы] копэйки. – (*тѣ подписываютъ тремя крестами, а писулькинъ за нихъ расписывается*:)

Ольпенскій: (: *въ сторону*:) Нэ бувъ бы Судовы чоловикъ, – побравъ карбованцы, да еще и по копэйки сэгаѣ, у нихъ вжэ така натура, – безъ копэѣкъ и четвэртэй, **якъ безъ соли у страву**, ни якъ нэ обайдутца; – копэйки да четвэрты до скарбу, а карбованцы соби. –

Кручковъ: Дэсацкій! – (: *тотъ входитъ*:) прывэды сюда Куторгу! – (: *десяцкій выходитъ*:) Ну щожъ! – наливайтэ снова кубки, да выпьѣмъ за здоровьѣ молодой четы. –

|**44**| Все: (: *поднимая въ гору кубки*:) Здоровье молодыхъ, – дай Богъ имъ викъ съ собою щастлыво прожыты! –

## Явленіе послѣднеѣ. –

*Тѣ|же и Куторга.* –

Куторга: Дякуй, дякуй пановэ громада, – буду старатца ущаслывыть Марысю. –

Кручковъ: Мовчи стары хрынъ, нэ объ тоби тутъ идэ дило! – бэры кубокъ, да и выпы за здоровьѣ молодыхъ Грыцька Лыпского съ Марысею, а подякуй Богу що такъ ліогко отдылавса отъ Суда. –

Куторга: Дакъ это нэ я панъ молоды? – нэ за мое пылы здоровьѣ. –

Кручковъ: Покинъ стары хрычъ думатъ объ женыдбэ, а заматай собы на вусъ щобъ крыпко дэржать языкъ за зюбамы. –

Куторга: Ой найяснэйшая Корона! – буду соби часто браты на розумъ философскую прыповэстъ: на то Богъ давъ людямъ языкъ, щобъ сумэли мовчатъ. – (*пьѣтъ изъ кубка*:)

Кручковъ: Дэсяцкій! – (: *тотъ входитъ*:) кони готовы? –

Десяцкій: Запрэгаютъ Найяснэйшая Корона! (*уходитъ*)

Кручковъ: Ну пановэ шляхта братья! – Я вамъ родный, я вамъ братъ! – тожъ на прощаньи выпьемъ |**44об**| еще по кубку крупнику, заспэваемъ нашу родну пэсэнку, да и поскачемъ на заручинахъ. – Панэ Куторга! у тэбэ еще нэ вэльми курыцца чупрына, ты вэды пункты, а мы поскачемъ прыпэваючи. –

Все: Виватъ нашъ братъ, найяснэйшая Корона! –

**№ 8[a]**

Хоръ

Ей чухъ, – чумадра!
Чумадрыха[1] вэсэла! } *bis*

Куторга: Наши Пынски Околыцы
Жыцціо хоть Цару, Царыцы,

[1] У даўніх жартоўных песнях – каханая ці жонка чумака.

Здоволь всэго – подывыса! –
Ешъ, пы, – хоть разпыражыса! –

Хоръ

Ей чух – чумадра и проч:

Куторга: Исть горылка, – ломоть хлиба,
Вьюны, – дый сушона рыба, –
Чого|жъ боли людямъ треба,
Тожъ Пынчуку даў Богъ нэба! –

Хоръ

Ей чухъ, – чумадра! – и проч:

|45| Куторга: Якъ сбэромъ добро до чиста,
Повэземъ на торгъ до миста, –
Тогды квартою червенцы,
Гарцомъ мэрымъ карбовенцы. –

Хоръ

Ей чухъ – чумадра! – и проч:

Куторга: Дывчата наши – се лани!
Краснэйши, якъ ясны пани; –
Зыркнэ котора, – моспанэ! –
Сырца съ подъ жыбра достанэ! –

Хоръ

Ей чухъ – чумадра!
Чумадрыха вэсэла! – (*слышенъ колокольчикъ*)

(*Шляхта опьянелая шатается, разговоръ общый безъ связи, Куторга на переди сцены сидя роняетъ кубокъ и усыпаетъ, Кручковъ беретъ на сторону Ольпенского и говорить ему*:)

Кручковъ: Вэдаешъ що на тэбэ казавъ Статкевичъ? –
Ольпенскій: А що такое? –
Кручковъ: Вюнъ доказуѣ що ты нэ шляхтычъ. –
Ольпенскій: Що! – вюнъ смэѣтъ мэнэ такъ крыўдитъ? – |45об| вось я|жъ ему докажу мое шляхэцьтво! –
Кручковъ: Нэ пры мнэ! – Якъ поиду тогды съ нымъ разправышса. – ( *отходитъ и беретъ въ сторону Статкевича*:) Знаешъ ли? – тэбэ Ольпенскій назвавъ Мужыкомъ. –
Статкевичъ: Вюнъ смевъ мэнэ поругатъ мужикомъ; – Мнэ самъ панъ Еры Кобылынски[1] подпысавъ грамоту. – Тажъ я|жъ на шкурэ его выпышу мое шляхецьтво (: *бросается къ Ольпенскому и начинаютъ драку*:)

---

[1] Гаворка пра Юры Кабылінскага (1778–1858), які паступіў на службу ў Мінскую губернскую шляхецкую зборню яшчэ ў XVIII ст., з 1823 г. шмат разоў (на трохгадовыя тэрміны) абіраўся шляхтаю на пасаду сакратара зборні. Пінскі павет уваходзіў у склад Мінскае губерні.

Липскій: Найяснэйшая Корона! шляхта попылаcа и завэла драку, – бойтэса Бога разнымытэ ихъ, а то и съ васъ штрафъ будэ слэдовать. –

Крючковъ: (: *въ глуби сцены*:) Нэ ко мнэ, – нэ ко мнэ! – бывайтэ здоровы! – нэхай у Судъ подадутъ жалобу, тогды прыиду на слидство **снова**[1]: – бывайтэ здоровы! – (: *Уходить съ Писулькинымъ*:)

Тихонъ: Виватъ Найяснэйшая Корона! –

Все: ( *кромѣ дерущихся*) Виватъ Найяснэйшая Корона! –

( *Занавесь опускается, оставя на переди сцены спящаго Куторгу, – тот просыпается*: )

Куторга: Що! вже разышлыса? – а тамъ чутна и |46| драка? – добрэ прыповэстъ каже: – Пынска шляхта якъ попьетца, то на пэвно подэрецца. – ( *Къ публикѣ*:) Да Вы вже, найяснэйшые Пановэ спать хочэтэ, – а що! – нэ правда? – Тожъ: –

**№ 9**

Найяснэйшая Публика!
Прошу Тэбэ – нэ дывыса, –
Тожъ се бэда нэ вэлыка
Що ми крыху попылыса. –
Нехай|же щасна развязка
Пынской шляхтэ отъ Васъ будэ,
Дайтэ браво, колы ласка, –
Да и съ Богомъ Добры Людэ! –

Конецъ. –

[Brawo, Brawo i Brawo, bardzo sprytnie wykazany charakterek w ogóle wszystkich państwa Kruczkowych, a których dziś spotykamy na każdym kroku po kilku.

Браво Автору даю
И прочесть еще что новаго желаю][2].

[1] Слова дапісанае над радком алоўкам.
[2] Напісана алоўкам і іншым почыркам.

## Некралог Ігнацы Брадоўскага

Істотную ролю ў справе Войцэха Магнушэўскага і парафіяльнае школкі ў Крашыне летам 1828 года адыграла следства па лініі Міністэрства народнай асветы, якое вёў дырэктар школаў Гродзенскае губерні Ігнацы Брадоўскі (1781–1829). Матэрыялы следства дазволілі Ісідару Басу яшчэ ў 1960-я гг. сцвердзіць, што чыноўнікі Міністэрства народнай асветы не былі зацікаўленыя ў раскрыцці сувязі Крашынскае школы з сялянскімі хваляваннямі. На нашую думку, І. Брадоўскі, пішучы 17 ліпеня 1828 г. рапарт свайму непасрэднаму кіраўніку Вянцэславу Пелікану, рэктару Віленскага ўніверсітэта, кіраваўся не жаданнем абараніць гонар мундзіра, а хутчэй краёвай патрыятычнай свядомасцю, імкненнем "зняць" абвінавачванні з ксяндза-плябана В. Магнушэўскага і са школкі як "ініцыятараў" сялянскага бунту, што прагнуў давесці гродзенскі цывільны губернатар Міхайла Бабяцінскі.

Мы ведаем, што атрымаўшы ад сенатара Мікалая Навасільцава заснаванае на рапарце І. Брадоўскага заключэнне рэктара В. Пелікана, М. Бабяцінскі спрабаваў давесці (захаваліся два чарнавікі яго адказу на "предписаніе" з Варшавы) слушнасць свайго пункту гледжання на сутнасць падзеяў у Крашыне[1]. Уласна тое, пра што рапартаваў гродзенскі губернатар 3 чэрвеня 1828 г. цэсарэвічу Канстанціну адразу пасля свае паездкі на месца падзей. Мяркуем, што напрыканцы 1828 г. (лістапад–снежань) адказ на "предписаніе" М. Бабяцінскі ўсё ж выслаў у Варшаву.

Праўда, 23 студзеня 1829 г. цэсарэвіч Канстанцін, прыслухаўшыся да высноваў сенатара М. Навасільцава "о невинности местечка Крошина плебана унитского ксендза Магнушевского в подозрениях, наведенных на него при производстве в местечкке Крошине над крестьянами следствия"[2], нібыта цалкам вызваліў ксяндза ад адказнасці, хоць яго ўжо і не было ў гроне жывых. Але ці не сталі вядомыя ў губерні крытычныя закіды М. Бабяцінскага ў бок дырэктара І. Брадоўскага? Ці не сталі яны прычынаю хваляванняў, а можа, і раптоўнае смерці апошняга?

Друкуецца паводле: *Wiadomości krajowe: Świsłocz*, „Kuryer litewski" 1829, nr 74 (21 czerwca v. s.)

[1] М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, т. V, Warszawa 2019, с. 99–107.

[2] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст...*, с. 210.

## [Звесткі з краю. Свіслач]

У чацвер 16 мая адышоў у вечнасць, раптоўна і неспадзявана, з вялікім жалем і смуткам жонкі і ўсіх сваіх сяброў, пражыўшы сорак восем гадоў, Я[сна] В[яльможны] Ігнацы Брадоўскі, надворны саветнік, дырэктар школ Гродзенскае губерні. Гэта быў чалавек высокае годнасці і незвычайнае маральнае чысціні, чым заслужыў усеагульную павагу і шанаванне пры жыцці і хвалебную памяць пасля смерці. Школьная супольнасць старалася з належнаю пашанаю аддаць апошнюю паслугу астанкам свайго кіраўніка. Цела нябожчыка ў наступную суботу было перанесена ў гімназіяльную капліцу, адкуль назаўтра ўвечары з рэлігійнай урачыстасцю мусіла быць дастаўлена ў парафіяльны касцёл. Пры экспартацыі з гімназіяльных муроў настаўнік расейскае літаратуры Я[сна] В[яльможны] П[ан] Мяшчэрскі, годна да часу і месца, прамовіў да шматлікае публікі і ўсяе школьнае супольнасці. Пасля ўнясення ў Касцёл В[яльможны] Я[гамосць] К[сёндз] Сянькевіч, прапаведнік гродзенскіх дамініканцаў, меў жалобную прамову. У наступны панядзелак, г. зн. 20 мая, было адпраўленае з вялікаю пышнасцю ў прысутнасці ўсяе супольнасці свецкіх і законных святароў урачыстае жалобнае набажэнства. Пасля адпаведных цэрымоній правіў вялікую жалобную імшу часовы заступнік валкавыскага дэкана В[яльможны] Я[гамосць] К[сёндз] Мышкоўскі, пробашч Мсцібоўскі; пасля яе К[сёндз] Станкно, настаўнік рэлігіі, коратка апавядаючы пра жыццё нябожчыка, аддаў заслужаную пахвалу дабрачыннасцям гэтага чалавека; пасля спеву *Castrum doloris*[1] чула выказаў свой жаль з прычыны страты добрага і ўмелага кіраўніка намеснік дырэктара тытулярны саветнік Антоні Юшкевіч. Затым ва ўрачыстым парадку шаноўныя астанкі нябожчыка перанеслі на парафіяльныя могілкі, дзе на астатак настаўнік усеагульнае гісторыі В[яльможны] Я[гамосць] П[ан] Авер’янаў развітальнаю прамоваю выклікаў на вачах усіх прысутных слёзы. Апрача настаўнікаў слова бралі ад імя ўсіх сваіх калегаў два вучні ІІІ класа гімназіі Я[сныя] П[аны] Крашэўскі[2] і Зяліньскі. Школьная супольнасць лічыць сваім абавязкам публічна засведчыць сваю ўдзячнасць і шанаванне В[яльможным] Я[гамосцям] К[сяндзам] гродзенскім дамініканам і В[яльможным] Я[гамосцям] К[сяндзам] лыскаўскім місіянерам за іх ахвотны і ласкавы на просьбу прыезд дзеля надання ўрачыстасці гэтай жалобнае і рэлігійнай паслузе.

---

[1] *Castrum doloris* (лац. месца смутку) – адмысловы катафалк, пры якія адбываліся жаложныя ўрачыстасці. Тут: жалобны спеў.

[2] Гаворка пра Юзафа Ігнацы Крашэўскага (1812–1887), будучага літаратара і грамадскага дзеяча.

# Юльян Ляскоўскі ў Лондане

Гісторыкі літаратуры пачатку XX стагоддзя звярнулі ўвагу на прысутнасць Юльяна Ляскоўскага (1826 – пасля 1888) у беларускім літаратурным працэсе другое паловы XIX стагоддзя. У 1913 г. Вацлаў Ластоўскі пісаў пра яго:

> Аўтор зборніка вершоў *Białoruski Bandurzysta* (Wilno, 1861). Нам казалі бытцым *Białoruski Bandurzysta* сперша быў напісаны па беларуску, а ўжо пасьля пераложэн на польскую мову самім аўторам. З вершаў яго відаць, што ён быў гарачы беларускі патрыот. У адным з сваіх вершоў ён кажэ <…>. На друкаваным экзэмпляру *Biał. Bandurzysty* напісана: "Majej žanie", відаць рукою аўтора. Патрэбна яго біографія, партрэт і творы[1].

Крыніцу інфармацыі Власт не раскрывае, але, праўдападобна, ён выкарыстаў звесткі, атрыманыя ад Рамуальда Зямкевіча. Гэтак жа, як і Яўхім Карскі:

> Наконецъ, называютъ цѣлый рядъ бѣлорусскихъ писателей, о произведеніяхъ которыхъ имѣются только преданія или слухи. Такъ въ "Нашей Нівѣ" за 1913 г., №№ 37–38, въ статьѣ Власта *Памажыця!* указаны еще слѣдующіе писатели (свѣденія о нихъ ниже дополняются Р. Земкевичемъ): е) **Юльянъ Ляскоўскі**, авторъ сборника *Białoruski Bandurysta* (Wilno, 1861). Хотя эта книга вся на польскомъ языкѣ, но есть предположенія, что авторъ писалъ и по-бѣлорусски; между прочимъ онъ переводилъ баллады Мицкевича[2].

Як бачна, і адзін, і другі даследнік не падае, бо, відавочна, не мае, аніякіх біяграфічных звестак пра паэта. Магчыма, такія звесткі былі[3] ў Юзафа Галомбка, які сцвярджаў, што Юльян Ляскоўскі быў на эміграцыі ў Францыі:

> Za najlepszy z tego działu należy uznać zbiorek wierszy Juljana Laskowskiego p. t. *Białoruski bandurzysta*, w którym poeta zamieścił (str. 15–105) poemat liryczno-opowiadający p. t. *W cudzej stronie*. W utworze tym autor całem sercem i duszą pozostaje przy swej rodzinnej Białorusi, którą kocha gorąco i na wygnaniu we Francji

[1] Власт, *Памажыця!* "Наша Ніва" 1913, № 37 (12 верасня).

[2] Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорусскаго племени*, кн. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 76.

[3] З подпісу пад паэмай *W cudzej stronie* можна адно даведацца, што яна была закончаная ў 1855 г. у Лондане. У той жа час, здаецца, у тэксце твора адсутнічаюць усялякія алюзіі пра побыт аўтара/лірычнага героя ў Францыі.

tęskni do niej latami. To właśnie gorące uczucie dodaje utworowi niezmiernie dużo uroku[1].

Доўгі час ніхто з беларускіх даследнікаў не спраўджваў паведамленне Власта пра беларускамоўную творчасць Ю. Ляскоўскага. Прынамсі, у навуковых публікацыях пра гэта няма ані слова. І толькі ў 1970-я гг. Генадзь Кісялёў, каментуючы для зборніка *Пачынальнікі* ліст Аляксандра Рыпінскага да Адама Плуга і артыкул Аляксандра Ельскага *O gwarze białoruskiej*, выявіў шэраг цікавых інфармацый у даўніх бібліяграфічных даведніках. Найважнейшая з іх тая, што ў 1870–1880-я гг. Ю. Ляскоўскі карыстаўся псеўданімамі J. Korabicz і Marcin Mizera[2]. А гэта дало магчымасць гісторыку літаратуры палучыць паэта з апублікаванымі Сцяпанам Александровічам вершамі *Ziemielka maja*... і *Pad dudu*[3], а г. зн. пацвердзіць паведамленне Власта і дадаць яго да почту беларускамоўных літаратараў XIX стагоддзя[4].

Апрача таго, Г. Кісялёў, уважліва прачытаўшы зборнік *Białoruski Bandurzysta*, звярнуў увагу на подпісы пад вершамі і сцвердзіў, што Ю. Ляскоўскі пэўны час быў на эміграцыі (Лондан, Прусія, Аўстра-Венгрыя), але скарыстаўшыся з царскае амністыі 1856 г., вярнуўся на Бацькаўшычну. Пасля Паўстання 1863 г. ён жыў у Польшчы, займаўся журналістыкай, дапамагаў Конраду Прушынскаму выдаваць штотыднёвік “Gazeta Świąteczna” і рэдагаваў “Echo Łomżyńskie” (1882–1884).

На пачатку 1990-х гг. Г. Кісялёў выявіў у архівах дакументы з 1858 г., якія датычылі просьбы Ю. Ляскоўскага пра вяртанне на Бацькаўшчыну. У выніку стала вядома: год і месца нараджэння паэта, яго заняткі і служба ў Вільні, а таксама прычына, чаму ён 11 красавіка 1849 г. мусіў з’ехаць за мяжу[5].

Даследаванні Г. Кісялёва, а таксама пэўныя загадкі і таямніцы лёсу Ю. Ляскоўскага сталіся падставаю ўзнікнення ў сярэдзіне 1990-х гг. гіпотэзы пра датычнасць паэта да напісання славутага верша *Заграй, заграй, хлопчэ малы*..., аўтарам якога доўгі час лічыўся Паўлюк Багрым.

У аснове гіпотэзы – дапушчэнне, што эмігрант Ю. Ляскоўскі пэўны час жыў у Лондане (там у 1855 г. была закончаная ім паэма *W cudzej stronie*), а г. зн. ён быў знаёмы з Аляксандрам Рыпінскім (апошні згадаў аўтара зборніка *Białoruski Bandurzysta* ў знаным лісце да Адама Плуга сярод 55 “польскіх пісьменнікаў, якія або нарадзіліся на Белай Русі, або таксама пісалі пра яе на абедзвух мовах нашай правінцыі, як польскай, так і русінскай”[6]), а таксама Ігнацы Яцкоўскім. У выніку склаўся “своеасаблівы трыумвірат эмігрантаў-беларусаў”, які “рэалізаваў містыфікацыю”: І. Яцкоўскі падаў звесткі пра крашынскія падзеі 1828 г.,

---

[1] J. Gołąbek, *Wincenty Dunin-Marcinkiewicz, poeta polsko-białoruski*, Wilno 1932, s. 19.

[2] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст*..., с. 180, 340.

[3] С. Александровіч, *Два невядомыя вершы*, “ЛіМ” 1965, № 14 (16 лют.).

[4] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1988, с. 309–310, 469.

[5] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва: Каліноўскі – эпоха – наступнікі*, Мінск 1994, с. 148–161.

[6] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст*..., с. 176.

Ю. Ляскоўскі напісаў верш *Заграй, заграй…* (ён жа, уласна, і эміграваў праз страх перад рэкрутчынай), а А. Рыпінскі пераклаў верш на польскую мову.

Аніякіх дакументальных фактаў не падавалася. Замест іх выкарыстоўваліся дапушчэнні гісторыкаў літаратуры. Напрыклад, С. Александровіча: "Магчыма, гэта невядомыя творы Паўлюка Багрыма. У вершы *Пад дуду* адчуваецца пэўная пераклічка з вершам *Заграй, заграй, хлопча малы…*"[1] ці Г. Кісялёва: "У Лондане ён [Ю. Ляскоўскі. – *М. Х.*] павінен быў зблізіцца са сваім земляком Аляксандрам Рыпінскім <…>. У іх шмат агульнага – любоў да літаратуры, да паэзіі, замілаванне беларускім фальклорам, туга па Беларусі. Так што Рыпінскі, трэба думаць, ведаў Ляскоўскага не толькі па зборніку *Беларускі бандурыста*, але і асабіста. Пра іх магчымыя сувязі пісаў і Адам Мальдзіс у сваім *Англійскім дзённіку*"[2].

Гэта значыць: калі С. Аляксандровіч лічыў, што вершы *Ziemielka maja…* і *Pad dudu* належаць, як і верш *Заграй, заграй…*, П. Багрыму, а Г. Кісялёў дапускаў, што гэтыя творы з артыкула *Słówko o pieśni*[3] напісаныя Ю. Ляскоўскім[4], бо "верш *Зямелька мая* можна разглядаць як узнаўленне сродкамі беларускай мовы і народнай паэтыкі першых радкоў паэмы *У чужой старане*"[5], дык можна сцвердзіць, што верш *Заграй, заграй…* таксама напісаў аўтар зборніка *Białoruski Bandurzysta*.

Як бачым, гіпотэза пабудаваная на падставе няпэўных аргументаў: "ланцужкі" паміж гісторыка-літаратурнымі фактамі надзвычай невыразныя, калі не сказаць – іх проста няма. Увогуле, на нашую думку, гіпотэза створаная шляхам падтасоўвання дапушчэнняў і памылковых сцвярджэнняў.

А таму, каб разбурыць дадзеную гіпотэзу дастаткова было выявіць невялічкую абвестку ў адной з эміграцыйных газет таго часу. Вось яна:

> **P. Julian Laskowski, który w styczniu 1854 r. przeniosł się z Francyi do Anglii, proszony jest o zgłoszenie się do majora Karola Szulczewskiego, 10, Duke Street S.-James w Londynie, po list od familii dla niego nadesłany[6].**
>
> *Пераклад*
>
> П. Юльяна Ляскоўскага, які ў студзені 1854 г. пераехаў з Францыі ў Англію, просяць звярнуцца да маёра Караля

[1] С. Александровіч, *Два невядомыя вершы*, "ЛіМ" 1965, № 14 (16 лют.).
[2] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва: Каліноўскі – эпоха – наступнікі…*, с. 154–155.
[3] J. Korabicz, *Słówko o pieśni*, "Nowiny" 1882, nr 287–288 (17 i 18 października).
[4] Пра атрыбуцыю вершаў *Ziemielka maja…* і *Pad dudu*, а таксама пра перыпетыі лёсу Ю. Лякоўскага гл. раздзел дзявятага тома *Даследавання і матэрыялаў* (2023).
[5] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва: Каліноўскі – эпоха – наступнікі…*, с. 158.
[6] *Doniesienia*, „Wiadomiści Polskie" 1858, nr 12 (20 marca).

Шульчэўскага[1], 10, Duke Street S.-James у Лондане, па ліст, дасланы яму ад сям'і.

У ёй, па-першае, пацвярджэнне інфармацыі Ю. Галобка пра побыт Ю. Ляскоўскага ў Францыі; па-другое, падаецца дата пераезду паэта ў Англію.

На падставе абвесткі можна зрабіць выснову, што толькі ў студзені 1854 г. маглі сустрэцца ў Лондане І. Яцкоўскі, А. Рыпінскі і Ю. Ляскоўскі. А гэта азначае, што – нават калі і існаваў "трыумвірат эмігрантаў-беларусаў"[2] – "рэалізаваць" містыфікацыю дзеля рамана І. Яцкоўскага *Powieść z mojego czasu* было немагчыма: кніга ўжо была ў друкарні А. Рыпінскага. Пра гэта сведчыць ліст І. Яцкоўскага ў Парыж Леанарду Нядзвецкаму ад 18 студзеня 1854 г.: "*Powieść z czasu mojego, czyli Przygody Litewskie* ўжо скончана і як толькі будзе вокладка, пашлю вам дзеля продажу, бо прэзентаў, панёсшы такія вялікія выдаткі, рабіць не магу"[3]. Звернем увагу: "кніга скончана" азначае заканчэнне друку тэксту рамана. Засталося толькі надрукаваць у іншай тыпаграфіі вокладку (А. Рыпінскі звыкла замаўляў іх у г. зв. літаграфіях). Пацвярджэнне даты выхаду ў свет кнігі І. Яцкоўскага знаходзім таксама ў карэспандэнцыі Ёахіма Лялевеля (1786–1861): у тым жа студзені 1854 г. славуты гісторык пісаў з Бруселя вядомаму арыенталісту Ігнацы Петрашэўскаму (1796–1869) у Берлін: "Ад Яцкоўскага атрымаў твой каталог. Быў ён, незвычайны гаварун, тут і сам; друкуе ўласным коштам свой двухтомны раман"[4].

Такім чынам, аніяк не мог удзельнічаць Ю. Ляскоўскі ў падрыхтоўцы рамана *Powieść z czasu mojego, czyli Przygody Litewskie*. А таму гіпотэза даследніка – гэта ці то ягоная ўласная свядомая містыфікацыя ў галіне атрыбуцыі верша *312 Заграй, заграй, хлопчэ малы...*, ці то няздольнасць кампетэнтна правесці атрыбуцыйнае даследаванне[5].

[1] Караль Шульчэўскі (1813/1814–1884), удзельнік паўстання, эмігрант, блізкі сябра І. Яцкоўскага. З 1842 г. ён займаў пасаду сакратара Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы (Towarzystwo Literackie Przyjaciół Polski w Anglii). Пададзены адрас: *10, Duke Street S.-James w Londynie* – гэта сядзіба Літаратурнага таварыства, у якім шмат гадоў працаваў скарбнікам І. Яцкоўскі.

[2] Прыехаўшы ў Лондан, Ю. Ляскоўскі мог звярнуцца па дапамогу да Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы, але шансаў атрымаць яе практычна не меў, бо Таварыства свае сродкі размяркоўвала толькі сярод былых удзельнікаў Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гг..

[3] Rps Kórn., sygn. 2405, s. 456 v. *List Ignacy Jackowskiego do Leonarda Niedźwiedzkiego od 18.01.1854.*

[4] *Listy emigracyjne Joachima Lelewela*, t. IV: *1849–1861*, wydała i wstępem poprzediła H. Więckowska, Wrocław – Kraków 1954, s. 182.

[5] Паказальны той факт, што аўтары акадэмічнае *Гісторыі беларускае літаратуры другое паловы XVIII– XIX стагоддзя* не звярнулі ўвагі на тры (згодна з аналізаванаю намі гіпотэзаю) беларускамоўныя вершы Ю. Ляскоўскага. Відаць, і Уладзімір Мархель, і Уладзімір Казбярук мелі іншую думку адносна атрыбуцыі ўсіх гэтых тэкстаў і беларускамоўнай творчасці Ю. Ляскоўскага ўвогуле, дык у працы няма гаворкі пра аўтара зборнік *Białoruski Bandurzysta*.

Выяўленая абвестка можа быць сведчаннем некалькімесячнага побыту паэта ў Англіі, кіруючыся куды, Ю. Ляскоўскі пэўна ж разлічваў на паляпшэнне матэрыяльных умоваў жыцця, а таксама – магчыма – на ажыццяўленне сваіх літаратурных планаў, бо яшчэ ў Парыжы мог даведацца пра выдавецкія справы А. Рыпінскага і ягонае Польскае друкарні. Напісаная (хутчэй – завершаная) у Лондане паэма *W cudzej stronie*, пэўна ж, павінна была ўбачыць свет у сталіцы Англіі, але Ю. Ляскоўскі, хіба, не меў сродкаў, каб выдаць яе сваім коштам. А, як вядома, А. Рыпінскі друкаваў кнігі толькі коштам аўтараў.

Магчыма, у хуткім часе Ю. Ляскоўскі пакінуў Англію, каб шукаць шчасця на былых польскіх землях у Прусіі, а пасля і на Бацькаўшчыне.

---

Гл.: *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII– XIX стагоддзе*, Мінск 2007.

# Пра час прыезду Ялегі Пранціша Вуля ў Варшаву

У рэдакцыйным пасмяротным успаміне пра Элігія Францішка Карафа-Корбута, апублікаваным 10 снежня 1894 г. у "Gazecie Polskiej", паведамлялася, што беларускі паэт амаль дваццаць гадоў працаваў карэктарам у названым выданні. На падставе гэтага мы сцвярджалі, што былы паўстанец выкарыстаў царскую амністыю 1874 года ("Указъ отъ 9 января") і, не атрымаўшы дазволу вярнуцца ў родны Віцебск, у тым жа 1874 ці 1875 г. накіраваўся ў Варшаву[1].

Аднак нядаўна выяўленыя А.Ф. Брылём матэрыялы сведчаць, што зрабіў ён гэта пазней. Варшаўская штодзённая газета "Wiek" у нумары ад 1/13 лютага 1877 г. у адмысловай рубрыцы паведаміла, што днём раней (г. зн. у панядзелак 31.01/12.02) у гатэлі Польскім[2] пасяліўся "жыхар Расеі" Францішак Корбут. Менавіта акрэсленне "жыхар Расеі" паказвае, што беларускі паэт прыехаў у Варшаву ўпершыню. Праўда, з яго не вынікае, што Ф. Корбут толькі ў 1876 г. быў вызвалены з месцінаў адбывання ссылкі[3]: ён мог ужо пэўны час жыць не ў Сібіры (Іркуцку), а ў нейкім горадзе еўрапейскае часткі Расеі. Таксама з інфармацыі ў газеце незразумела: прыехаў ён адзін ці разам з жонкаю.

Пацвярджэннем таго, што Ф. Корбут мае намер на стала пасяліцца ў Варшаве, можа быць службовая перапіска, якая вялася прыкладна ў гэты час – у сакавіку–красавіку 1877 г., паміж канцэлярыямі Варшаўскага генерал-губернатара і Віцебскага губернатара. Відавочна, былы выгнанец у лютым–сакавіку зрабіў пэўныя крокі, каб зарэгістраваць свой побыт у сталіцы "Привислинскаго края". Архівісты Беларускага дзяржаўнага гістарычнага архіва назвалі гэтую перапіску так: *Дело по отношению Канцелярии варшавского ген.-губернатора об уведомлении за какое преступление был сослан в Сибирь участник восстания 1863 г. Корбут. 4 марта – 17 декабря 1877 г.* Праўда, з невядомых сёння прычынаў у справе засталіся толькі два дакументы, якія датычаць беларускага паэта. Увогуле немагчыма нават сказаць, ці былі тут нейкія іншыя паперы, хоць дата канца справы нібыта і сведчыць, што допісам ад 2 красавіка 1877 г. яна не завяршалася.

---

[1] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, т. V, Warszawa 2019, с. 230.

[2] Гатэль знаходзіўся пры вуліцы *Długiej 29*. Працаваў з 1808 года.

[3] Падарожжа выгнаннікаў, у залежнасці ад іх фінансавых магчымасцяў, з Іркуцка ў еўрапейскую частку Расеі звычайна цягнулася ад месяца да паўгода.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле:

№ 1: “Wiek: Gazeta polityczna, literacka i Społeczna” 1877, nr 34 (1/13 lutego).

№ 2–3: БДГА, ф. 1430, воп. 1, спр. 36134.

**№ 1**

**Przyjechali do Warszawy w dniu wczorajszym**

<…> HOTEL POLSKI. Czarnecki Stefan ob[ywatel] z Dobroszyc; Więckowska Honorata ob[ywatelka] z Wójcin; Rychliński Romuald ob[ywatel] z Łubieńska; Suski Piotr ob[ywatel] Giżyc; Anszelzon Antoni kup[ec] z Krementczuga; Borkowski Walery inż. z Życzyna; Bauman Aleksander ob[ywatel] z Rewla; Korbut Franciszek ob[ywatel] z Rosyi; Chmicl ński Adolf lekar z Lidy; Chmielowski Zygmunt jeom[ra] z Łomży; Doliński Stanisław urz[ędnik] z D[rogi] Ż[elaznej] z Terespola; Szalew Władysław ob[ywatel] z Chruślina.

*Пераклад*

**Прыехалі ўчора ў Варшаву**

ГАТЭЛЬ ПОЛЬСКІ. <…> Чарнецкі Стэфан, ж[ыхар] Даброшыц; Вянцкоўская Ганарата, ж[ыхарка] Вуйцін; Рыхлінскі Рамуальд, ж[ыхар] Лубенска; Сускі Пётр, ж[ыхар] Гіжыц; Аншэльзон Антоні, куп[ец] з Крэмянчуга; Баркоўскі Валеры, інж[ынер] з Жычына; Баўман Аляксандар, ж[ыхар] Рэвеля; Корбут Францішак, ж[ыхар] Расеі; Хміцінскі Адольф, лекар з Ліды; Хмялёўскі Зыгмунт, камор[нік] з Ломжы; Далінскі Станіслаў, чын[оўнік] чыгун[кі] з Тэрэспаля; Шалеў Уладзіслаў, ж[ыхар] Хрусліна.

**№ 2**

|7| Канцелярія Варшавскаго Генералъ-Губернатора[1]. 1е Дѣлопроизводство. Варшава. 24 марта 1877 г. № 5503.

Господину начальнику Витебской губерніи[2].

Канцелярія Генералъ-Губернатора имѣетъ честь покорнейше просить Ваше Превосходительство, увѣдомить: за какое именно преступленіе сосланъ былъ въ Сибирь, по послѣднему мятежу, дворянинъ Витебской губерніи, постоянный житель города Витебска, Францъ Корбутъ, а также какъ онъ былъ высланъ, то есть, съ лишеніемъ правъ или безъ лишенія таковыхъ.

Управляющій Канцеляріею [*подпіс нечыт.*].

Завѣдывающій Дѣлопроизводствомъ [*подпіс*:] Полѣновъ.

*Арыгінал. У гары старонкі пазнака*: 976.

---

[1] Варшаўскім генерал-губернатарам у 1874–1880 гг. быў граф Павел Кацэбу (1801–1884).

[2] Віцебскім губернатарам у 1869–1880 гг. быў Павел Растоўцаў (1826–1882).

*Пераклад*

Канцэлярыя Варшаўскага Генерал-Губернатара. 1е Справаводства. Варшава. 24 сакавіка 1877 г. № 5503.

Спадару начальніку Віцебскае губерні.

Канцылярыя Генерал-Губернатара мае гонар пакорліва прасіць Ваша правасхадзіцельства паведаміць: за якое менавіта злачынства сасланы быў у Сібір, па апошнім мецяжу, шляхціц Віцебскае губерні, пастаянны жыхар горада Віцебска Франц Корбут, а таксама як ён быў высланы, гэта значыць, з пазбаўленнем правоў альбо без пазбаўлення іх.

Кіраўнік канцэлярыі [*подпіс нечыт.*].
Загадчык справаводствам [*подпіс*:] Паленаў.

## № 3

|**6**| Въ Канцелярію Господина Варшавскаго Генералъ-Губернатора.

Столъ 1. Апрѣль 2, 1877. № 864.

Вслѣдствіе отношенія Канцеляріи, отъ 24 минувш. Марта за № 5503, имѣю честь уведомить, что дворянинъ Витебскаго уѣзда Эллегій-Францъ Караффа-Корбутъ по конфирмаціи командовавшего войсками Виленскаго военнаго округа Генералъ отъ Инфантеріи Графа Муравьева, отъ 12 Апрѣля 1864 года № 149, былъ сосланъ въ болѣе отдаленныя мѣста Сибири, съ лишеніемъ правъ состоянія, за составленіе, вмѣстѣ съ другими, вооруженной партіи съ цѣлію [при-]|**6v**|соединиться къ шайкѣ мятежниковъ.

*Чарнавік. У гары старонкі пазнакі*: *справа* – 976, *злева* – Номеръ дѣла по перед. 180й. По придной (sic!) описи – 2й стр. 128.

*Пераклад*

У Канцылярыю Спадара Варшаўскага Генерал-Губернатара.

Стол 1. 2 красавіка 1877. № 864.

З прычыны адносіны канцыляры ад 24 мінулага сакавіка за № 5503 маю гонар паведаміць, што шляхціц Віцебскага павета Элігі Франц Карафа-Корбут па канфірмацыі камандзіра войскаў Віленскае вайсковавае акругі генерала ад інфантэрыі графа Мураўёва ад 12 красавіка 1864 года № 149 быў сасланы ў аддаленыя мясціны Сібіры з пазбаўленнем правоў стану за стварэнне, разам з іншымі, узброенай партыі з мэтай далучыцца да банды мяцежнікаў.

# Багдан Жыранік пра свае дачыненні з беларускаю літаратураю



Аўтар аднае з першых польскіх аналітычных працаў па гісторыі беларускае літаратуры Багдан Жыранік (1892–1984) пісаў у 1921 г. пра беларускія вершы Адама М–скага: “З надзвычайнай лёгкасцю адчувае беларускую душу наш паэт Адам М-скі (Зоф’я Тшашчоўская[1]). Яго беларускія песні поўныя свежасці і сапраўднай жаночай (у найбольш узвышаным гэтага слова значэнні) любві да ўсіх, хто пакутуе, каго прыгнятаюць і крыўдзяць. Нягледзячы на бясспрэчную арыгінальнасць твораў М-скага, мы знойдзем у іх рэха паэзіі ўсіх тагачасных паэтаў Белай Русі. (На жаль, беларускія творы М-скага дагэтуль нідзе не друкаваліся)”[2].

На падставе гэтага сцвярджэння мы выказалі думку[3], што малады на той час даследнік і перакладнік мог быць знаёмы з рукапісамі беларускіх твораў Адама М–скага, якія не захаваліся. А таму імкнуліся выявіць матэрыялы, што датычылі тагачаснай дзейнасці Б. Жыраніка. На жаль, пакуль мы адно можам пахваліцца ягоным невялікім інтэрв’ю, якое запісаў карэспандэнт “Нівы” (відаць, Мацей Канапацкі). Як і ў адказах Б. Жыраніка на пытанні Уладзіміра Казберука, тут амаль няма канкрэтыкі, хоць згадка пра Гальяша Леўчыка дае яшчэ адзін след да пасмяротнага архіва Адама М–скага.

Друкуецца паводле: *Інтэрв’ю дае Багдан Жыранік*, “Ніва” 1968, № 18 (5 мая).

---

[1] Так [Adam M-ski (Z. Trzeszczowska)] у тытуле падраздзела і ў тэксце артыкула. Магчыма, памылка друку.

[2] B. Żyranik, *Zarys literatury białoruskiej*, “Przymierze: Czasopismo związku zbliżenia narodów odrodzonych” 1921, nr 9–10, 13 marca.

[3] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, т. VII, Warszawa 2021, с. 148–149.

## Інтэрв'ю дае Багдан Жыранік

Расказвае Багдан Жыранік, вядомы перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову:

"У 1919–1920 гадах, дзякуючы этнаграфічнай вандроўцы па паўночным Палессі[1], пазнаў я частку беларускай зямлі разам з яе жыхарамі. Здаецца мне, што наогул загарэліся мы да сябе шчырай і ўзаемнай сімпатыяй. Гэта быў мой першы кантакт з Беларуссю, яе зямлёй і народам. Аднак жа яшчэ перад тым – у Варшаве – сутыкнуўся я з творчасцю, перад усім, паэтычнай беларускага люду, карыстаючыся перш за ўсё запісамі песень, што знаходзіліся тады найбольш поўна ў фондах бібліятэкі Варшаўскага універсітэта[2].

А з беларускай літаратурай (не народнай) сутыкнуўся я ў пазнейшы час, дзякуючы шчаслівай выпадковасці: пераглядаючы кніжкі і брашуры ў адной з варшаўскіх кнігарняў трапіла мне ў рукі *Жалейка* Янкі Купалы. Зачаравала мяне свежасць гэтай паэзіі: пачаў я па бібліятэках вышукваць твораў беларускіх пісьменнікаў, часамі ўдавалася мне купляць некаторыя з іх у кнігарнях, урэшце наладзіў я сувязі з тагачасным Беларускім Камітэтам ў Варшаве[3], які дапамагаў мне знаходзіць іх, а нават дапамагаў у куплі; такім чынам мог я пазнаць беларускую літаратуру амаль у цэласці, калі не лічыць твораў друкаваных у часопісах і кніжках, што выходзілі ў Савецкім Саюзе.

Калі я задумаў накрэсліць гісторыю беларускай літаратуры, не існавала яшчэ ніякая праца, якая ахоплівала б яе цэласць, рэдка дзе мог я знайсці нейкі невялікі артыкул, прысвечаны гэтай тэме. Тым часам ў 1921 годзе паявілася, менавіта, на беларускай мове ў Мінску кніжка Максіма Гарэцкага *Гісторыя беларускай літаратуры* (аб гэтай кніжцы даведаўся я толькі пасля свайго *Нарысу беларускай літаратуры*, які выйшаў у свет у тым больш-менш часе)[4].

Гэтакая, хаця несумненна няпоўная знаёмасць беларускай літаратуры дазволіла мне скласці анталогію беларускай паэзіі з уласнымі перакладамі і напісаць да яе шырокі ўступ; сваёй анталогіі я не лічыў як закончаную з увагі на вельмі цяжкі доступ да твораў беларускіх паэтаў у Савецкім Саюзе. Гэты ўступ, пад уплывам пэўных акалічнасцей, быў апублікаваны асобна ў якасці таго ж *Нарысу беларускай літаратуры*. Анталогія мая (разам з большасцю рукапісаў) загінула ў час вайны.

---

[1] У гэты час (польска-бальшавіцкая вайна 1919–1920 гг.) беларускія землі ўваходзілі ў склад адроджанае Польскае дзяржавы.

[2] Відавочна, гаворка ідзе пра зборы Міхала Федароўскага.

[3] Маецца на ўвазе беларуская грамадска-палітычная арганізацыя, якая дзейнічала ў Варшаве ў 1919–1927 гг. У склад Камітэта ўваходзілі: Лявон Вітан-Дубейкаўскі (старшыня), Гальяш Леўчык (сакратар), Рамуальд Зямкевіч і інш.

[4] Першае выданне *Гісторыі беларускае літаратуры* Максіма Гарэцкага выйшла ў свет у 1920 г. у Вільні, а ў 1921 г. (зноў жа ў Вільні) з'явілася другое, папраўленае выданне, а таксама "кароткая версія"-пераклад першага выдання на польскую мову.

Беларускіх аўтараў у міжваенны перыяд я асабіста не ведаў, за выключэннем паэта Гальяша Леўчыка (Ляўковіча)[1], сакратара варшаўскага Беларускага Камітэта; толькі ў апошнія гады пазнаёміўся я з некалькімі маладымі беларускімі паэтамі ў ПНР, перш за ўсё, з Алесем Барскім (Баршчэўскім) і Віктарам Шведам, а потым з Максімам Танкам, які прыбыў у Польшчу ў 1964 г.; гэтае знаёмства было надта кароткае, некалькіслоўнае (як заўсёды, перашкаджалі мне цяжкасці з вымаўленнем).

Найчасцей і найбольш ахвотна перакладаю паэзію Янкі Купалы і Якуба Коласа, а з сучасных – Максіма Танка; вельмі ахвотна, хаця нячаста перакладаў я вершы Максіма Багдановіча і Змітрака Бядулі, а з сучасных – Пімена Панчанку. Любіў я таксама перакладаць Францішка Багушэвіча і Цётку (Кейрысіху), асабліва ў пачатковым перыядзе маёй перакладчыцкай працы ў галіне беларускай паэзіі.

Беларусам, пражываючым у Польшчы, зычу ўсялякіх поспехаў і якнайпрыгажэйшых дасягненняў, перш за ўсё, у галіне духоўнай культуры; дасягненняў, якія ўзбагацяць духоўнае жыццё польскіх беларусаў, а тым самым і супольнай нам Айчыны”.

[1] Гальяш Леўчык (1880–1944), паэт і публіцыст, з 1904 г. жыў і працаваў у Варшаве, на лета звычайна перабіраючыся ў Слонім.

## *Пазнаў праўду* паводле друкаванага асобніка

У пятым томе *Даследаванняў і матэрыялаў* (2019) было змешанае вершаванае апавяданне Міншчука (Янкі Мамыша?) *Пазнаў праўду*[1]. Тэкст твора публікаваўся паводле рукапісу Аляксандра Ельскага[2]. Захаваўся, аднак, і друкаваны асобнік 1906 г., які паходзіць з кнігазбору Адама Станкевіча. PDF-копію гэтага рэдкага выдання мы атрымалі ад Вячаслава Мартысюка ўжо пасля выхаду ў свет нашае публікацыі.

Супастаўляючы рукапіс А. Ельскага і друкаваны асобнік вершаванага апавядання *Пазнаў праўду*, мы звярнулі ўвагу на даволі вялікую колькасць арфаграфічных і пунктуацыйных адрозненняў, а таксама на радок у рукапісе (“Ach u kraji hetym mnoha ciarplu hora”), якога няма ў друкаванай кніжачцы. Якраз гэта сведчыць, што рукапіс А. Ельскага не з’яўляецца копіяй друкаванага выдання і што літаратар ды калекцыянер з Замосця атрымаў яго ці то ад аўтара, ці то ад блізкай да аўтара асобы, ці то ад друкара, што рыхтаваў вершаванае апавяданне да друку.

Друкуецца паводле: *Пазнау прауду / Paznau praudu*, Вильня / Wilnia 1906, с. 3+3.

[1] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, т. V, Warszawa 2019, с. 347–351.

[2] Гл.: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 210–217.

## Пазнау прауду

Везъ Пранукъ разъ попа на станцію „Заслауе”.
Енъ гутарку весци начау съ Пранукомъ:
„Прыми, каже, лѣпей наше праваслауе
Самъ видзишъ, тутъ кѣпска быць католикомъ:
Католикамъ дренна такъ жиць у Расеи,
Начальствамъ ніякимъ ня можна вамъ быць,
Хоць пампежды вами шмат ёсць грамацѣяу;
Мусяице вѣру сваю вы змяниць.
Будзе для васъ добра, будзице багаты,
Будзе и начальства зъ вашихъ тады шматъ
Многа хто зъ васъ будзе мѣць добрыя хаты,
Тады усяки будзе для рускихъ насъ братъ,
„Тады”... „Ехъ!” – вышоу съ цярпѣня
Папову такъ мову переняу мужикъ,
Тольки у каталицкой вѣры ёсць збавеня
Даремне мазолишь, попе, свой языкъ.
Хоць многа касцелоу вы намъ адабрали
Католикоу зъ нашихъ многа ище ёсць;
И ксяндзоу вы нимала у Сибиръ саслали,
Бо для васъ ксендзъ добры, якъ у горлѣ косць.
Але ксяндзоу добрыхъ мы нимала маемъ
У насъ низабракне николи такихъ,
Тые съ Бѣларусоу, што цяперъ праслауны
Будуць, Богъ дасць милы, усѣ католики
Пацеръ блудной вѣры нихто|жъ зъ ихъ ни знае
Гаворацъ такія, якъ бацьки, дзяды,
Кажны да касцела ахвотна учащае,
Спавядацца ходзяць, чуць ня усѣ туды;
Многа хто зъ ихъ помняць, якъ вы прымушали
Кабъ блуднаю вѣру прыняу нашъ народъ.
Тады шматъ касцелоу адъ насъ адабрали,
Але праца ваша ни прынясе плодъ.
Помни попе, часы калисци настануць,
Што у краи нашимъ ня будзе папоу:
Дзѣ церквы стаяць, тамъ касцелы станущь,
Будзе католицтво у насъ цвясци зноу”.
Маучау попъ, бо прауда у вочи калола,
Бо знау ёнъ што прауду казау мужычокъ,
Знау што Бѣларусы усѣ идуць да касцела,
Чуу, што праваслаую канецъ нидалекъ.
Якъ сѣу у вагонѣ, задумауся надта
Абъ своемъ попъ жици и вѣры сваей:
„Скора будуць людзи святкавацъ каляды,

## Paznau praudu

Wioz Pranuk raz popa na stancju „Zasłauje”
Jon hutarku wieści naczau z Pranukom:
„Prymi, każe, lepiej nasze prawasłauje.
Sam widzisz, tut kiepska być katolikom
Katolikam drenna tak żyć u Rasiei
Naczalstwam nijakim nia można wam być
Choć pamieżdy wami szmat jość hramaciejau,
Musiajicie wieru swaju wy zmianić;
Budzie dla was dobra, budzicie bahaty,
Budzie i naczalstwa z waszych tady szmat,
Mnoha chto z was budzie mieć dobryja chaty
Tady usiaki budzie dla ruskich nas brat”.
„Tady...” „Ech!” wyszou z ciarpienia,
Papowu tak mowu piereniau mużyk,
„Tolki u katalickaj wiery jość zbawienia
Daremnie mazolisz, popie, swoj jazyk.
Choć mnoha kaściołau wy nam adabrali
Katolikou z naszych mnoha iszcze jość;
I ksiandzou nimała wy u Sibir sasłali
Bo dla was ksiondz dobry, jak u horle kość.
Ale ksiandzou dobrych my nimała majem,
U nas ni zabraknie nikole takich,
Tyje z Biełarusou, szto ciapier prasłauny
Buduć, Boh daść miły, usie kataliki,
Pacier błudnaj wiery nichto|ż z ich ni znaje
Haworać takija, jak baćki dziady;
Każny da kościoła achwotna uczaszczaje
Spawiadacca chodziać czuć nia usie tudij.
Mnoha chto z ich pomniać, jak wy prymuszali,
Kab błudnaju wieru pryniau nasz narod;
Tady szmat kaściołau ad nas adabrali,
Ale praca wasza ni pryniasie płod.
Pomni, popie, czasy kaliści nastanuć,
Szto u krai naszym nia budzie papou:
Dzie cerkwy stajać, tam kaścioły stanuć
Budzie katalictwo u nas ćwiaści znou”.
Mauczau pop, bo prauda u woczy kałoła,
Bo znau jon, szto praudu kazau mużyczok;
Znau szto Biełarusy usie iduć da kaścioła,
Czuu szto prawasłauju kaniec niedalok.
Jak sieu u wahonie zadumausia nadto
Ab swajom pop życi i wiery swajej:
„Skora buduć ludzi światkawać kalady,

А я мушу бѣдны съ сямьею галѣць[1].

И гроши нимаю, ани поукапѣйки;
Можа мнѣ владыка дасць мѣйсца другое,
Бо и нималую|жъ я маю сямейку,
А зъ дзѣтакъ наймнѣйшай пацѣхи ни|маю;
Есць сыначкоу осемъ, алѣ усѣ нещасны:
Два ёсць зъ ихъ калѣки, чатыры гултаи,
Пьяница ёсць семы, осьмы умѣе красци...
Тольки у каталицтвѣ, многа разъ я думау,
Можна быць збауленымъ, ани у праваслауи;
Тольки зъ ихъ духоуныхъ вижу боскихъ слугау.
Якъ ни|дасць владыка мнѣ мѣйсца другога,
Ды ище хвалиць будзе ксяндзоу каталицкихъ
Тады я у Расеи ни пабуду многа
Буду тады у Аустрыи ксяндзомъ хоць уницкимъ.
Доуга такъ абъ сваемъ думау цяжкимъ горы,
Ажъ пакуль прiѣхау у горадъ губерски.
Владыку застау ёнъ на той часъ у дома,
И у вайшоу смутны у палацъ архирейски,
„Будзь ласкау, владыка, дай мѣйсца другое,
Бо у маей парахiи, дзѣ церква съ касцела
Цярплю даремницай, пераношу голадъ,
Бо усѣ парахiяне да касцела ходзяць.
„Мусiшъ ты брацъ прыкладъ съ ксяндзоу каталицкихъ:
Куды|бъ ихъ ни слали туды яны ѣдуць,
И у Сибиръ да людзей паўдзикихъ.
Найсци, кажуць, щасця тольки можна у Небѣ,
А для васъ католикъ кажны ненавидзѣнъ,
Любице съ духоуныхъ ихныхъ шидзиць вы,
А на ихъ для васъ я добры прыкладъ вижу,
Бо аднаму Богу адданы яны".
Такъ руски владыка самъ папу прызнауся,
Што праудзiушай вѣрай личиць каталицтво.
Попъ стау хвалиць вѣру зъ якой насмѣвауся...
Будучи пры сызмѣ Матку Боску чцiу ёнъ,
Дыкъ пазнау ёнъ прауду за яе прычинай,
За яе мадлитвай адрокся ёнъ сызмы
И стауся ёнъ сыномъ той вѣры праудзивай:
Вѣры каталицкай падъ яе апекай
И за народъ руски такъ Бога прасиу ёнъ
И Непокалянай насъ грешныхъ Уцѣчки:
„Найсвентшая Матка! Прачыста Дзявица,

[1] Далей у рукапісе А. Ельскага меўся радок: "Ach u kraji hetym mnoha ciarplu hora".

A ja muszu biedny z siamjoju haleć,

J hroszy nimaju, ani poukapiejki...
Moża mnie władyka daść miejsca druhoje,
Bo i ni małuju|ż ja maju siemiejku,
A z dzietak najmniejszaj paciechy ni maju,
Jość synaczkou osiem, ale usie nieszczasny:
Dwa jość z ich kaleki, czatyry hultai,
Pjanica jość siomy, ośmy umieje kraści...
Tolki u katalictwie, mnoha raz ja dumau,
Można być zbaulonym, ani u prawosławji,
Tolki z ich duchounych widżu boskich słuhau.
Jak ni|daść władyka mnie miejsca druhoha
Dy iszcze chwalić budzie ksiandziou katalickich,
Tady ja u Rasiei ni pabudu mnoha,
Budu tady u Austryi ksiandzom choć unickim".
Douha tak ab swajom dumau ciażkim hory,
Aż pakul pryjechau u horad hubierski.
Władyku zastau jon na toj czas u doma
I u wajszou smutny u pałac archirejski:
„Budź łaskau, władyka, daj miejsca druhoje,
Bo u majej parachii, dzie cerkwa z kaścioła
Ciarplu daremnicaj pieranoszu hoład,
Bo usie parachianie da kościoła chodziać".
„Musisz ty brać prykład z ksiandzou katalickich:
Kudy|b ich ni słali tudy jany jeduć;
I u Sibir nawet, da ludziej paudzikich;
Najści, każuć, szczascie tolki można u niebie.
A dla was katolik każny nienawidzien,
Lubicie z duchounych ichnych szydzić wy,
A na ich dla was ja dobry prykład widżu,
Bo adnamu Bohu addany jany".
Tak ruski władyka sam popu pryznausia
Szto praudziuszaj wieraj liczyć katalictwo.
Pop stau chwalić wieru z jakoj naśmiewausia,
Wyjechau z władykom skora za hranicu.
Buduczy pry syzmie Matku Bosku czciu jon
Dyk paznau jon praudu za Jaje pryczynaj,
Za Jaje madlitwaj adroksia jon syzmy
I stausia jon synom toj wiery praudziwaj,
Wiery katalickaj pad Jaje apiekaj
I za narod ruski tak Boha prasiu jon,
I Niepokalanaj nas hresznych Ucieczki:
„Najświętszaja Matka! Praczystaja Dziawica

Да Цябѣ заношу модлитвы у покоры,
Кабъ уся Расея была каталицкой
Кабъ дзѣ цяперъ церквы, такъ были касцелы
И навярнулися усѣ сызматыки,
За Тваей прычынай, о Непокаляна,
Нехай|же пазнаюць усѣ геретыки,
Што ты патаптала галаву шатана.
Прашу найпакорнѣй Цябе и Святыхъ Паньскихъ,
Кабъ уся Расея сызмы адраклася,
И быу каталицкимъ увѣсь людъ славяньски,
Кабъ на свѣцѣ адна аучарня сталася".
Аменъ.

(Злажыу Минщукъ на Непокалано Пачэнцѣ 1904 року)

Da Ciabie zanoszu madlitwy u pokory,
Kab usia Rasieja była katalickaj,
Kab dzie ciapier cerkwy tam byli kaścioły,
I nawiarnilisie usie syzmatyki,
Za Twajej pryczynaj, o Niepokalana,
Niechaj|że paznajuć usie heretyki,
Szto Ty pataptała haławu szatana.
Praszu najpakorniej Ciabie i światych pańskich,
Kab usia Rasieja syzmy adrakłasia
I byu katalickim uwieś lud sławiański,
Kab adna na świecie auczarnia stałasia".
Ameń.

(Złażyu Minszczuk na Niepokalane Paczęcie 1904 roku)

## Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII –XIX стагоддзяў, том другі (2016)

*Дудар*
с. 247–252

Верш *Дудар*, выяўлены і апублікаваны Янкам Саламевічам[1] у 1967 годзе (у нас памылкова – 1963 г.), быў уключаны ў раздзел *Pieśni różne* VIII тому *Ludu białoruskiego* Міхала Федароўскага[2], які ўбачыў свет у 1981 г.

## Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзяў, том пяты (2019)

*Калядная пісанка*
с. 301–315

Сярод тэкстаў *Каляднае пісанкі на 1904 год* мы звярнулі ўвагу на верш *Мужыцкая доля*, аўтарства якога прыпісваецца Цётцы (Алаізе Пашкевіч) да нашага часу[3]. Не маючы пад рукою выданняў паэткі 1940–1950-х гг., мы меркавалі, што факт публікацыі ў 1956 г. у зборніку *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя* (Мінск 1956, с. 293–294) верша *Мужыцкая доля* ў раздзеле *Ананімныя творы* з пазнакаю: "Друкуецца ўпершыню. Твор у 1904 г. быў змешчаны ў нелегальным гектаграфаваным (sic!) зборніку *Песні*. Захоўваецца ў Гісторыка-археалагічным музеі г. Гродна Беларускай ССР" (с. 348), можа быць сведчаннем таго, што толькі Уладзімір Казбярук далучыў гэты твор да даробку Цёткі[4]. Не надалі мы таксама значэння працам даследнікаў, якія закранапі пытанне атрыбуцыі верша *Мужыцкая доля*. Так, яшчэ ў 1971 г. Рыгор Семашкевіч[5], падаў цытату з кнігі А. Станкевіча *Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення* (Вільня 1935, с. 73–75), дзе аўтарам твора называўся "хлопец з Радашковіч, тады фельчар Калінкінскай бальніцы ў Пецярбурзе". Тое самае паўтарыла Ірына Багдановіч, дадаючы, што "паэтка любіла падпісваць свае творы мужчынскім

---

[1] Гл.: І. Саламевіч, *Верш паўстанца 1863 года*, "ЛіМ" 1967, № 95 (1 снежня).
[2] M. Fedorowski, *Lud białoruski*, t. VIII: *Inedia. Pieśni z archiwum zbieracza*, oprac. M. Czurak, Warszawa 1981, s. 235.
[3] Гл.: *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 6: *Літаратура 1900–1930-х гадоў*, Мінск 2014, с. 31–32, 898.
[4] Гл.: *Выбраныя творы XIX і пачатку XX стагоддзяў*, Мінск 1966, с. 89–90.
[5] Р. Семашкевіч, *Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе*, Мінск 1971, с. 93–94.

прозвішчам. Думаецца, аднак, што Банадысь Асака не з шэрагу яе псеўданімаў”[1].

У выніку мы памылкова прыпісалі У. Казберуку атрыбуцыю Лукаша Бэндэ, які ў другой палове 1940-х гг., не падаючы аніякіх аргументаў, назваў верш *Мужыцкая доля* творам Цёткі і ўключыў яго ў збор твораў паэткі.

На нашую памылку звернута ўвага ў адной з навейшых публікацый, якая датычыць рэцэпцыі творчасці Цёткі ў першай палове XX стагоддзя[2].

## Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя, том сёмы (2021)

*Нязнаныя вершы Альгерда Абуховіча?*
с. 299–309

Публікуючы перакладзеную Альгердам Абуховічам байку Сцяпана Руданськага (1833–1873) *Ліс і Варона* паводле школьнае чытанкі Язэпа Лёсіка *Наша крыніца* (Берлін 1922), мы задаваліся пытаннем: ці ўключаў складальнік гэты твор у аднаіменную “савецкую” чытанку 1919 г. для пачатковае школы? Не маглі мы таксама адказаць на пытанне: ці быў ён у складзе аднае з частак “польскае” *Нашае крыніцы* (Менск 1920)[3]?

Дзякуючы Зміцеру Крымоўскаму і Вячаславу Мартысюку, якія выявілі выданне *Нашае крыніцы* (1919) у адной з бібліятэк Беларусі, цяпер можна ўпэўнена казаць, што пераклад гэтае байкі ўпершыню быў змешчаны ў “савецкай”, ці то “ЛітБелаўскай” чытанцы, у якую Я. Лёсік, дарэчы, унёс дастаткова шмат зменаў, калі рыхтаваў “берлінскае” выданне падручніка.

> [Байка А. Абуховіча], *Ліс і варона* [у:] Я. Лёсік, *Наша крыніца: другое чытаньне для пачатковых беларускіх школ*, Менск: Выдавецтва Камісарыяту Асьветы Літвы і Беларусі, друкарня Камісарыяту Асьветы, 1919, с. 81.

[1] І. Багдановіч, *Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння*, Мінск 2001, с. 119.
[2] Гл.: “Журнал Белорусского государственного университета. Филология” 2020, № 1, с. 37–48.
[3] Выданне ў трох кніжках (чатырох частках) зафіксаванае біябібліяграфічным слоўнікам *Беларускія пісьменнікі* (т. 4, с. 41).

# Abstract

In Volume VIII of *Research and Materials* we tried to reread and comprehend the manuscripts of the two most important dramatic works of the new Belarusian literature – *Comedy* and *Pinsk Nobility,* as well as to analyze research, documents and materials that directly or indirectly concern them.

Despite the fact that scholars have repeatedly referred to these texts, much remains unclear, uncertain and even mysterious. For example, the question of the attribution of *Comedy* has not been raised by literary historians.

Kajatan Marašeŭski, proposed by Uladzimir Pieratc and Jaŭchim Karski as the author of the work without any arguments, continues to be considered as such to this day. In fact, in the twentieth century, no significant attempts were made to study the era when *Comedy* emerged, the history of its writing, or the biography of its compilers.

Our reading of the manuscript allowed us to state that the collection appeared in a monastery scriptorium as a copy of the materials of K. Marašeŭski and M. Ciacierski for classes with students of poetics and rhetoric in Zabel law schools (studium formalne). The text of the *Comedy* was rewritten by two clerics or brothers-monks (?) With differing Belarusian language competencies.

The question of K. Marašeŭski's involvement in writing *Comedy* remains open: probably in the XXI century, only new archival research will be able to solve the problem. As, incidentally, the question of authorship of the tragedy *Freedom in Captivity*. This work – the original and its translation into Belarusian – is being introduced into scientific use for the first time.

In our opinion, studying the history of the Zabielski Dominican monastery and the schools that existed under it can contribute to the attribution of the *Comedy,* as well as provide an opportunity to learn about the peculiarities of educational processes in Belarus in the second half of the XVIII century. To this end, we publish and analyze a number of documents concerning one of the most important cultural centers of the history of Belarus.

Vincent Dunin-Marcinkievič's *Pinsk Nobility* has not only been repeatedly interpreted by literary critics, but also unundergone historical and textological analyses. However, a number of points still remain unclear: both in the reading and interpretation of individual expressions, and in the description of the circumstances of its origins, as well as the functioning of the text for half a century (1866–1918). Hopefully we have been able to fill in some of those blind spots.

In the Appendix, based on these documents, we touch upon certain circumstances of the biographies of Ihnacy Bradoŭski, Jalehi Granciš Vul, Julian Laskoŭski, as well as correct some mistakes we had made in previous volumes of *Research and materials*.

# Streszczenie

W tomie VIII *Studiów i materiałów* staraliśmy się odczytać i przeanalizować rękopisy dwóch najważniejszych dzieł dramatycznych nowej literatury białoruskiej – *Komedii* i *Pińskiej szlachty*, a także przeanalizować stan badań, dokumenty i materiały, które bezpośrednio lub pośrednio ich dotyczą.

Pomimo tego, że uczeni wielokrotnie odwoływali się do tych tekstów, wiele pozostaje w nich wiele niejasności, niepewności co do treści a nawet tajemniczości. Na przykład kwestia atrybucji *Komedii* nie była przedmiotem badań historyków literatury. Do dzisiaj za autora dzieła uważany jest Kajetan Moraszewski. To właśnie jemu autorstwo przypisywali Włodzimierz Peretz i Jefim Karski, nie poparłszy swej tezy żadnymi naukowymi argumentami. W rzeczywistości w XX wieku nie podjęto żadnych znaczących prób zbadania epoki, w której pojawiła się *Komedia*, historii jej powstania, biografii autorów zbioru.

Lektura rękopisu pozwoliła stwierdzić, że zbiór pojawił się w klasztornym skryptorium jako kopia materiałów K. Moraszewskiego i M. Ciecierskiego na zajęcia ze studentami poetyki i retoryki w zabielskich szkołach zakonnych (studium formalne). Tekst *Komedii* został przepisany przez dwóch kleryków lub zakonników (?) o różnym poziomie znajomości języka białoruskiego.

Pytanie o autorstwo K. Moraszewskiego w odniesieniu do *Komedii* w XXI wieku pozostaje otwarte: prawdopodobnie tylko nowe badania archiwalne będą w stanie rozwiązać ten problem. Jest to problem podobny do kwestii autorstwa tragedii *Wolność w niewoli*. Utwór ten – zarówno oryginał jak i tłumaczenie na język białoruski – został po raz pierwszy wprowadzany do obiegu naukowego.

Naszym zdaniem zbadanie historii klasztoru i szkół dominikanów zabielskich może przyczynić się do atrybucji *Komedii*, a także dać możliwość poznania specyfiki procesów edukacyjnych na ziemiach białoruskich w drugiej połowie XVIII wieku. W tym celu publikujemy i analizujemy szereg dokumentów dotyczących jednego z najważniejszych ośrodków kulturalnych dawniej Białorusi.

*Pińska szlachta* Wincentego Dunina-Marcinkiewicza była nie tylko wielokrotnie interpretowana przez krytyków literackich, ale także poddawana analizie historycznej i tekstologicznej. Wiele aspektów pozostaje jednak niejasnych: zarówno w lekturze jak i tłumaczeniu poszczególnych wyrazów, w opisie okoliczności powstania oraz funkcjonowania tekstu przez pół wieku (1866–1918). Mam nadzieję, że udało nam się wypełnić niektóre z tych białych plam.

W *Dodatku*, na podstawie dokumentów, poruszamy niektóre elementy biografii Ignacego Brodowskiego, Eligiusza Franciszka Ula, Juliana Laskowskiego, a także poprawiamy błędy popełnione przez nas w poprzednich tomach *Studiów i materiałów*.




Напалеон Орда, *Валынцы. Касцёл Святога Юрыя*
*і кляштар дамініканцаў*



CONTINUATIO
operis
SCHOLASTICA
Patris Caietani
MORASZEWSKI
Professoris
Rhetorices et Poeseos
In Gimnasijs Zabiall...
Anno Dni 1767

LMAVB, F. 18-201: Тытульная старонка operis scholastica Каятана Марашэўскага



Tragedya
Wolność w Niewoli
Treść Rzeczy

Bellizaryusz Wódz Rzymskich Woysk będąc oskarżony o chęć Samowładztwa fałszywym udaniem Podchlebców Cesarza, a nieprzyjaciół Jego został potępiony na wyłupienie oczu, które straciwszy dla prawdy, którą gromił niechętnych, nie odstąpił jednak Jey.

Osoby

Justynian — Cesarz
Bellizaryusz Wódz 1wszy
Narses — Wódz 2gi
Athanagoras
Philetas } Przyjaciele Cesarscy
Biedoponoski Chłopiec Bellizaryusza

Scena odprawuje się blisko Pałacu

LMAVB, F. 18-201: Тытульная старонка трагедыі *Вольнасць у няволі*

KOMEDYA.

Treść rzeczy

Chłopowi gdy się uprzykrzyła praca, zaczął narzekać na swoy stan, i na pierwszego człeka Adama, ktoremu tak narzekaiącemu, ukazał się Djabeł mowiąc do niego; nie narzekay na Adama, bo byś i ty sam nie wstrzymał od pożywania owocu zakazanego, gdyż ty i teraz już możesz się zachować w milczeniu lecz narzekasz: chłop przyrzeka na jaki czas milczenie zachować, Djabeł idzie z nim w zakład o cenę Duszy, jeżeli nie zachowa, chłop przegrywa.

Osoby

Chłop.
Żyd.
Djabeł.
Niewiniątka.
Trzey Bracia.
Pokutujący.

Scena odprawuje się w polu blisko Lasu

LMAVB, F. 18-201: Тытульная старонка *Камедыі*

# Akt Pierwszy.

## Scena pierwsza.

### Chłop.

Och jak nieszczaśliwoje życio majo! chadziu, ja chadziu pierez
całuteńki dzień, aż nohi aniemieli, tak nieczuwać ad pra-
cy i tapara, a hożż jeszczo ad cepa, małaciłu ad samych
kurey, aż małociło nie dapaudnia jakby sam adzin: praw-
da szto i żonka pamahała, da sztoż jeje za rabota, wie-
dama żanochaja sprawa; ciuknieć kolka razy cepom, aż za
raz jeje licho i bierec, to siadziec, to łażeć, to kolki padaprue,
tolki czort wiśiki jeje dusić, apotym jeszcze z homanam i
klecboju pojdzieć, papytajusia ja tylki jeje kudy? pojdzieksz? aż
zaraz skażeć, dzieciey karmić, strawu waryć, a ja jak paczu-
ju, aż jona upinszysię u karczmie pad łaukaju jak świ-
nia kaczajetca... A ja sam adzyn jak ciuk, tak ciuk, maz
łaczu aż da połu, a jak świet, aż żonka i tut, uszo kareć szto
i drou nada nasiecz, choć ty treśni i prapadzi z taparom, ad
cepa jeszczo nieadaydzić, aż tut ad tapara mało szto nieadsoch-
nuć, heta żart, narubay ypilcz, u asieć, u browar, a usio
jak adzin tak adzin, syna peradom udawiu, nieradzieć, a ch-
rabka nie zaszto namiać; wot i ciepier u les treba jechać, a nie-
skim, heta żart, adnamu sosnu spuscić, paszczapać, i na woz
koły treśni zwalić treba, a pryuioższy da chaty i parubać,
a usio jak ja, tak ja pamachiżo nikamu. Prapadzi jeno,
nieszczaśliwoje życio naszojo, bo usio jak harawać, tak harawać
musim. E.E. dmalnje: Kaho to Adam pierszy nasz Aciec nie-
zahrasznye, tabby i my kołak niepracawalib. Och! Durak ty
Durak, naszto tabie było irwać jabłyk z dzieraua prahlata-
ho! prapadzi jeno, kab mnie nie wieleno było, toby ja ani paru-
chauby a szto horszajo, ani paruchauby: Amyb u Raju, jak ciepier
na ziemli żyli, kłopatu żadnaho nie mielib, ab siermiahu takoj-
y nie kłapacilibyść, i hołyjeb u Raju parachadzilib, a ciepier jak
siermiaszka zdzierecca, choć ty z hoławy wyjdzi, nie adkul uziać,
a horsz szto niezaszto kupić, a tut i zima nadchodzić, i wszyd no.
A ja i szełcha przydusz nie maju, da duszuszy nie maju! ale
adnak na tojo nie hledzić

LMAVB, F. 18-201: Першая старонка *Камедыі*

Явленіе 1.-

Марися (Сама, сидя на скамьи, прядетъ припевая.)

№ 1.

Тяжко жыты мни дивчаты
Съ миленкимъ ў разлуце,-
Ластъ батько, ластъ маты,
Що сердэнко ў скруце.-
Годы сыдытъ надъ прясницей,
Я хочу быть молодыцей.-

Маты каже викъ молоды,
Ой. ты еще мала!-
А вже сама въ эты годы
Съ батькомъ любовала!-
Годы сыдытъ надъ прясницей,
Я хочу быть молодыцей.-

Ой такъ!- нехай ганытъ батько,- нехай [illegible] маты, а я люблю Грицька и любити [illegible] буду.- Ой бэдныеж наши головэнкы!- [illegible] дуръ напавъ на батькоў?- по пьяну завэлы[illegible] побылыся съ собою за шляхецтво, а мы[illegible] комъ грехъ то гордемъ, да унываемъ.- [illegible] подаў на мого у Судъ жалобу и сегодня пры[illegible] ў околицю Найяснейшая Корона на следст[illegible]

(1.) Въ прежніе годы Асесоры, или засъдатели, что нынѣ [illegible] вые пристава, однѣ избираемы были во время Дворян[illegible] выборовъ, другіе назначаемы Правительствомъ, что на[illegible] отъ Короны,- и потому последнихъ Пинская Шляхта [illegible] ренно величала Найяснэйшей Короной.-



LVIA, F. 1135-10-219: Сшытак *Пінскае шляхты*

34 об

ходитъ съ комическою уловкою и целуетъ руку Марисі, та отступаетъ, обтирая руку передникомъ.) Панна Марьянна! вы нэ цетэ, вы нэ вэдастэ якъ я васъ крыпко люблю, якъ по васъ тоскую.—

<u>№ 5. Романсъ</u>

Рвэтса мое сырце до краснэнкой розы,
Каркыса пры колахъ атоса изъ лозы;—
По паннэ Марьяннэ душичка тоскуе,
Бытцемъбы зозуля жалосно кукуе:—
Якъ нэ бачу панны жыццё мнэ могыла,
Голоўцы тяжэнко, утэкае сыла!— ⊕

Марися (:перебивая:) А вэдастэ отъ чого это паны Куторга?— отъ старосты!— Да ты вже порадкомъ старый,— пора объ дывчатахъ пэрэстаты думать, а молытыся Богу, щобъ даў спасэньѣ.—

<u>Куторга:</u> Старый,— старый!—

<u>№ 6. Дуэтъ</u>

Кажешъ що я ладомъ старый,—
Алэ выдны,— алэ ярый!—
Буду тя крыпко любыты,
Викъ тоби вирой служиты.—
Молодыкъ часто нэ щвиры,
Нэ шукай въ нимъ доброй виры,
Ў коханьни тоби клянэтца,
А тамъ съ другою смієтца

<u>Марыся:</u> Да що мни съ мужа старого,
Я хочу мого мылого;—

⊕ Ой высохъ я высохъ, якъ лапэть на пэчи,
Тыркаръ моя доля,— яторъ мэнэ улечи;—
~~Мое сырце рвэтса, якъ тая отоса~~,
~~Колы ей тармошатъ поганы колиса~~;—
Якъ цетрэў ў лесочку жалостно болбоче,
такъ и мое сырце до панны сокоче:—
Не верэщаки, коўбасы, дэлянка,
Ништа нэ смакуе безъ тэбэ,— коханка!—
Дамъ тоби зегарокъ, ремыки, якъ репа,
Нехай вiнъ при сырцы крипко твоимъ кнепа,
И напоминае якъ богатыко пою,—
Жаръ и вэдзенъ и въ ночи нэ маю спокою.—

LVIA, F. 1135-10-219: Старонка *Пінскае шляхты*
з аўтарскімі праўкамі

# Імянны паказальнік

**Д**



**Е**



**Ж**



**З**



**І**



**К**



**Л**



**М**

### Н



### О



### П



### Р



### С



### У



### Ф



### Х



### Ц